## *ЗМЕСТ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



**Уладзімір СКАРЫНКІН**

# АЎТАБІЯГРАФІЯ ДУШЫ

* * *

Ляжыць і дагэтуль мой бацька на схіле
Ў краіне далёкай у брацкай магіле.
Былы палітрук з ім ляжыць у абдымку
І той, хто пісаў на яго ананімку.
Іх смерць напаткала раптоўна, знянацку.
Грузін з армянінам абняўся па-брацку.
Даверліва брат прытуліўся да брата,
За спадчыну больш не ваююць зацята.
Адзін абеліск над хлапцамі-арламі,
Што вёскай на вёску хадзілі з納 каламі.
Залесцы, загорцы, заборцы, замошцы
Ляжаць, як ахвяры і як пераможцы
Ў жарстве пераплаўленай, спечанай гліне,
У брацкай магіле і ў мірнай краіне.
Няўжо не навучацца людзі братацца
Без брацкіх магіл — у каго запытацца?

Амаль нічога не баюся я —
Ні смерці злой, ні старасці пахілай.
Я аднаго баюся, каб зямля

---

*__Скарынкін Уладзімір Максімавіч__ нарадзіўся 7 чэрвеня 1939 года ў Віцебску. Скончыў Рыжскі інстытут інжынераў грамадзянскай авіяцыі (1961). Працаваў у Мінскім аэрапорце і ў Беларускім упраўленні грамадзянскай авіяцыі. У 1982—1987 гг. — намеснік дырэктара Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар дзесяці зборнікаў арыгінальнай паэзіі. Пераклаў і выдаў асобнымі кнігамі творы Мікалая Рубцова «Рускі агеньчык» (1986), Міколы Вінграноўскага «Украінскі прэлюд» (1999), Дантэ Аліг’еры «Боская камедыя» (1997), Джорджа Байрана «Дон Жуан» і «Прароцтва Дантэ» (2004), а таксама пераклаў «Кнігу песень» Франчэска Петраркі.*

*Лаўрэат Нацыянальнай прэміі Італіі за пераклады (1999) і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (2001).*

Не стала раптам брацкаю магілай.
Усё часцей на ўзлётнай паласе
Раз’юшана равуць ракетапланы.
Няўмольна адыходзяць пакрысе
Ў свае палкі і роты ветэраны.
І мы — вайны крывавай хлапчукі, —
Жывём, нібы выконваем заданне
Край апраўдаць, што пралілі бацькі,
Каб нашы жыцці мелі апраўданне!

* * *

Ніхто той ночы не развее змрок,
Калі ў пустой, асірацелай хаце,
Дзвярэй не зачыніўшы на замок,
Да раніцы мы гутарылі з маці.

Да дзён апошніх у канцы вясны
Мне будзе ноч успамінацца тая.
Спакойна ў арэоле сівізны
Ляжала маці родная, святая.

Не многім я душу сваю адкрыў,
Хоць іншы раз яна крычма крычала.
Упершыню, відаць, я гаварыў,
А маці ўсё маўчала і маўчала.

Прыйшла пара — і давялося мне
Даведацца з журбой у час разлукі,
Што ў маці роднай нават у труне
Мякчэйшыя за ўсе другія рукі.

Каго, скажыце, гэта не кране?
Ва ўсіх аднойчы абарвецца сцежка.
У маці роднай нават у труне
Дабрэйшая за ўсе другія ўсмешка.

* * *

***В. С.***

Відаць, Вярхоўны розум дасканалы
Мне загадаў тады цябе спыніць.
Дагэтуль у вушах маіх звініць
Расказ пра нарачанскія прывалы.

Я, сарамлівы, духам заняпалы,
Не мог ніколі нават уявіць,
Што лёс мяне наважыцца зрадніць
З траюраднай пляменніцай Купалы.

Заўсёды — праз гады і праз вякі
Пра гэты лёсавызначальны дзень
Мяне азорваць будуць успаміны.

Я рад, што ў жылах сына і дачкі
Цячэ крыві купалаўскай струмень,
А мо і кропелька крыві Скарыны.

* * *

Ад нараджэння тым крыніцам
Я нізкія паклоны біў,
З якіх калісьці Вераніцын
Натхнення вільгаць прагна піў.

Я пуцявінамі Тараса
Блукаў ля Гарадка свайго.
Караскаўся на схіл Парнаса
Пад пільным позіркам яго.

Натхнення вільгаць п’ю пажадна
Не першы год і не другі.
І ведаю цяпер дакладна,
Што п’юць парнаскія багі.

* * *

Калі я памру, а памру
Я некалі абавязкова,
Радню і сяброў я збяру,
Але не скажу ім ні слова.

Быў і пры жыцці я такі ж
Зацяты і негаварлівы.
І нёс да магілы свой крыж,
Нялёгкаю доляй шчаслівы.

З-пад веек увыш я зірну —
І так, як належыць паэту,
Бы ў рэчку маленства нырну,
З абрыва пяшчанага ў Лету.

Патомны прыдзвінскі крывіч,
Сваёй праматою адметны,
Я знікну, як знічка, як Зніч,
Пакінуўшы след непрыкметны.

Не ўсё, што ў мяне з-пад пяра
Выходзіла, людзі любілі.
Затое зрабіў я дабра
Не меней, чым зла мне зрабілі.



Уладзімір САЛАМАХА

# НЕ ЦУРАЙСЯ ВЕРЫ САВАЁЙ...*

*Аповесць*

## Частка 2

### 1

За гэты час, як Іосіф знік з Гуды, ён вельмі змяніўся — прыкметна пастарэў, быццам усох, скрывеў.

У яго даўно ўжо адрасла доўгая сівая барада, якая пачыналася амаль ад вачэй і хавала глыбокія маршчыны на твары, на галаве на самым цемені пракінулася лысіна, падобная на нейкі прадаўгаваты след. Лоб стаў настолькі маршчыністы, што, здавалася, амярцвеў — маршчыны не рухаліся і не ламаліся… Словам, ад таго Іосіфа Кучынскага, якога памяталі гуднянцы — не па гадах прамога, высокага дзядка з акуратнай сівенькай барадзёнкай — зараз мала што засталося… Хіба што душа. А яна (хто зможа заглянуць у чужую душу, калі сам сваю не бачыш і нават не адчуваеш, калі не баліць) па-ранейшаму пакутавала ад крыўды на сваіх былых аднавяскоўцаў.

Крыўда тая з часам не прытуплялася, таму і боль таксама не прытупляўся, не мог знікнуць. А з болем можна жыць толькі тады, калі звыкнешся з ім, як з нечым быццам бы абавязковым.

Але крыўдаваў Іосіф толькі на Яўхіма, Міколу і Міхея. На жанчын і дзяцей якая крыўда?.. Наадварот, думаў, калі б жанчыны ведалі, што ён прыплыў да пагорка, каб чулі, як і аб чым перагаворваўся з Яўхімам, то развялі б іх. А потым, як крыху ахалонілі, прымусілі б іх прымірыцца, а не — дык ва ўсякім разе не далі б Іосіфа ў крыўду (Яўхім бывае надта ж гарачы), сказалі б: «Заставайся, з намі, дзядзька!..» І ён застаўся б. А так…

А дзеці і ёсць дзеці, што яны пакуль разумеюць? Вось вырастуць, тады паразумнеюць. Калі не забудуць, што быў такі Іосіф, самі ва ўсім разбяруцца і, можа, нават па-чалавечы будуць шкадаваць яго.

Яны пасля таго, як Каця насварылася на Валіка за тое, што той кідаў яму ў спіну ледзяшы, прысмірэлі. Заўважаў, ужо не паглядалі на яго скоса і не адбягаліся, калі раптам дзе сустракаліся, хаця і не віталіся, не адказвалі на ягонае: «Добры дзень».

Часта разважаючы так, ведаючы, што моцна змяніўся, Іосіф, хоць і зрэдку бываў у горадзе, а ўсё адно апасаўся сустрэць каго з гуднянцаў: раптам пазнаюць, тады зноў пачнецца непрыязь, агіда, нянавісць.

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 5, 2014 г. (Часопісны варыянт).

Не, з яго хопіць! Не таму сышоў ад людзей, каб паўтаралася тое, што мінулася. Мінуцца мінулася, а быллём не зарасло…

Не хацеў сустракацца з мужчынамі. А вось з Кацяй сустрэцца трэба было б: рана або позна яны павінны пагаварыць… А з Надзяй? Надзя таксама вельмі добрая жанчына. Адна ў вайну гадавала дваіх дзетак, дапамогі ёй не было адкуль чакаць — і яе, і Іванавы родныя загінулі. А Іван з вайны вярнуўся ці не? Але з ёю, як адчувае Іосіф, асаблівай гаворкі не атрымалася б. Чаму? Не ведае. Адчувае так — і ўсё тут…

Думаў пра сустрэчу з Кацяй, а не ўяўляў, што яна будзе такой нечаканай і ў такі нязручны для Іосіфа час, як цяпер… Сустрэча тая, як гром з яснага неба: Каця!..

Яна, напэўна, пазнала яго адразу, як толькі глянула. Пазнала і адразу ж залямантавала: «Дзядзька Іосіф!..»

І ён пазнаў яе. Спачатку яшчэ не ўбачыўшы, па голасе зразумеў: яна… А потым ужо і па абліччы.

Што па голасе, дык пачуўшы яго, Іосіф ледзь на самлеў ад нечаканасці, ажно падкасіліся ногі, пахіснуўся, але ўстаяў, мацней абапёрся на кавялу. Каця закрычала і, здалося, што ў спустошаную выстылую душу імгненна хлынула нешта хоць і напаўзабытае, але вельмі блізкае і дарагое яму. Што гэта было, адным словам немагчыма выказаць, хіба што так: павеў ці ўсплёск святла пасля халоднай цёмнай ночы. А можа, і подых цяпла, таго ранне-веснавога, якое здараецца на згоне зімы — раптам дакранецца да цябе і адразу ж знікне…

Кацін голас ён пазнаў, не задумваючыся праз нейкія канкрэтныя ягоныя асаблівасці. Якія асаблівасці ў мяккім жаночым голасе, калі яна хоць і крычыць, а адчуваеш зычлівасць і спагаду, як і ў спакойнай гаворцы?

Як толькі пачуў яго, імгненна ўнутры ўсё сціснулася, быццам спружына, сціснулася да той кропкі, калі ад болю не прадыхнуць. І чамусьці адразу перад вачамі пранеслася затопленая паводкай Гуда… Уявіўся суровы і непрыветны Яўхім, які стаяў на пагорку і махаў у цемры ліхтаром. Уявілася палаючая хата, асветлены водбліскамі пажару клін бору… Да яго ад пагорка плыў Іосіф. Плыў ён па-ранейшаму на спіне, час ад часу прыўзнімаў галаву і пазіраў у кірунку хлява, дзе людзі знайшлі сабе выратаванне, і не бачыў там Каці.

Уявілася ўсё гэта і знікла, прамільгнула перад вачамі, і вось яна, Каця, перад ім наяве, ды не адна, а з сыночкам, які як дзве кроплі вады падобны на Пятра…

Іосіф, глянуўшы на Кацю з сыночкам, спалохаўся: а раптам іх убачаць тыя, за кім ён «палюе», ды падумаюць, што і маці, і дзіця ягоныя родзічы. Тады быць бядзе.

Ён перасіліў хваляванне, на яе крык: «Гэта ты, ты!..» адказаў холадна: «Абазналіся, грамадзяначка», ды: «Хлопчыка не палохайце…»

Сказаў, быццам узвёў паміж сабой і ёй каменную сцяну, нібы паставіў своеасаблівы абярэг для маці і яе дзіцяці — чужыя мне, невядомыя, не чапайце іх…

Убачыў, што Каця пасля ягоных слоў як абвяла, але тут жа спахапілася, пачала супакойваць сыночка, Іосіф і ўлучыў момант, каб сысці, заспяшаўся прэч з базару, далей ад іх.

Узрушаны, перапалоханы, ён хутка, як толькі мог, аддаляўся ад базара, грукацеў мыліцай па брукаванцы, паглядаў па баках — ці не гоніцца хто. І заўважыўшы, што зараз нікому няма да яго справы — звычайны жабрак, якіх нямала, пайшоў цішэй.

І яшчэ аднаго баяўся Іосіф: што Каця апамятаецца і пабяжыць следам, але і яе не бачыў на вуліцы.

Ён адышоўся ад базару на цэлы квартал, спыніўся толькі тады, калі ў канцы вуліцы ўпёрся ў вялікі цагляны будынак. Глянуў: мабыць, нейкая важная ўстанова. Каля ганка шмат людзей, па абодва бакі вуліцы стаяць легкавікі і недалёка ад іх узад-уперад ходзіць міліцыянер.

Аддыхаўшыся, Іосіф асцярожна перайшоў на другі бок вуліцы, спыніўся ў засені старых ліп, агледзеўся, ледзь не застагнаў: «Эх, Каця, Каця, бяры малога, ды бяжы хутчэй адсюль, бо той, хто прыглядаўся да мяне, можа да цябе прычапіцца, каб выведаць, хто я і адкуль. І цябе напалохае, і дзіця — такія людзі ні перад чым не спыняцца, калі ўбачаць сваю выгоду».

Тое, што за Іосіфам сочыць нейкі мацак (а яму трэба было, каб сачылі, каб узялі ды павалаклі да той, з якой хацеў сустрэцца і расквітацца за Тэклюшку), ён заўважыў адразу, як стаў каля варот.

Як толькі заўважыў таго, усяго нібы токам працяло. Яшчэ б!.. Вельмі падобны на мужчыну, з якім некалі зімой сутыкнуўся тут жа на базары, калі працаваў у горадзе. Гэты, як і той, такі ж кругленькі. І твар у мацачка такі ж — маска, на ім не заўважыш ніякіх пачуццяў. Але вочы бегаюць па баках, так і свідруюць…

Той тады ў галодную зіму, калі фронт адкаціўся на захад, патрабаваў, каб Іосіф аддаў яму за кавалак каніны свой даволі такі новы кажух. Але Іосіф, зразумеўшы, што перад ім самы звычайны прыстасаванец, спекулянт, шкурнік уедліва спытаў: «Ты што, адваяваўся?..» Спытаў і спалохаўся, калі той пры-гразіў паклікаць міліцыянера, маўляў, ён табе пакажа, хто адваяваўся. Ды: «…хто ты такі?..»

Іосіфу было жудасна: мужчыны ваявалі. Хто вярнуўся паранены — працавалі. Да знямогі працавалі жанчыны, дзеці, падлеткі. Столькі людзей галадала, а на базары верхаводзіў здаровы, гадоў сарака вірла.

І вось зараз перад Іосіфам быў мацачок, падобны да таго шкурніка. Можа, сын? Можа, малодшы брат? А можа, проста падобны? Хто ведае… Толькі ў любым выпадку выходзіць, што жывучае іх, гэтых людзей, семя. А хто тады тая «камандзірша», якая верхаводзіла тымі, да каго Тэкля трапіла ў абцугі?.. Хаця, галоўнае, што Іосіф выйшаў на іх след, што яны ім зацікавіліся. А перад гэтым ён думаў, як знайсці тую жанчыну, якая з ягонай Тэклюшкі здзекавалася. Нарэшце надумаў: стаць жабраваць на яе месца. І стаў. Працягнуў руку: «Падайце…»

Побач ходзяць людзі — гараджане і вяскоўцы. Хто падасць якую капейчыну, а хто і не звяртае на цябе ўвагі. Ды і ні ў кожнага ёсць, што табе даць.

Сорам спальваў Іосіфа, кожная капейка — як варам у твар! Трываў як мог. І вось неўзабаве насупраць спыніўся нейкі мацак. Зіркнуў з-пад ілба, з-пад чорных густых, як вусы, броваў, здаецца, прасвідраваў нутро — ажно халадок ўсяго працяў і, нічога не кажучы, некуды пайшоў.

Зразумеў Іосіф, што «клюнуў» на яго, як шчупак на нажыўку, але адразу не хапае, «прыцэньваецца», каб потым схапіць. Ну што ж, прыглядайся, хто асмеліўся самавольна стаць на ваша хлебнае, як казала Тэкля, месца. І ў пацвярджэнне, што «клюнуў», мацак праз нейкі час зноў з'явіўся, паволі прайшоў каля Іосіфа, доўга глядзеў яму ў твар, мабыць, каб добра запомніць. А потым зноў — зірк з-пад ілба…

Цяпер халадка Іосіф не адчуў, зрабіў выгляд, што не прыкмячае яго, але запомніў, які ён, гэты мацачок: лоб шырокі, на такім цвікі раўняць, вочы цёмныя, не вочы, а вірлы, зубы рэдкія, жоўтыя, пасярод, у верхнім радзе металічны ўстаўны.

Іосіф стаяў далей, нібы нічога не здарылася, мацак знік. Разумеў, ненадоўга, напэўна, пайшоў да той, што Тэклю ўтрымлівала, да сваёй «камандзіршы», каб спытаць, што з жабраком рабіць. Ну што ж, у такім разе трэба чакаць, ды прасіць міласціну, нічога, сорам вытрымае, вось толькі б хто з гуднянскіх мужчын не з’явіўся — тыя жабраку апошняе пададуць. А як падасць хто, вядома ж, гляне ў твар…

Ну што ж, пазнаць не павінны, вось толькі б сам тады Іосіф сябе не выдаў, не здрыгануўся, не адвёў бы вочы, не разгубіўся. Не вытрымае, выдасць чым сябе, адчуе, ці нават пачуе: «Да чаго ж ты дажыўся, Іосіф…»

Гэта будзе жахліва. Не будзеш жа тлумачыць, чаму стаў жабраком, хаця наўрад ці хто з табой загаворыць: паківае галавой і, скрывіўшы грэбліва вусны, адыдзе. Не таму, што нібыта жабракамі грэбуе, наадварот, спачувае кожнаму абяздоленаму, але толькі не Іосіфу.

І раптам жахнуўся: там жа засталася яна з малым!..

Ён моцна сціснуў кавялу, рашуча сарваўся з месца і заскакаў назад да базару.

Доўгай, бясконца доўгай здалася яму гэтая з паўвярсты вуліца, пакуль дабег да патрэбнага месца. А калі дабег, там ужо не было ні Каці з сынам, ні мацака, які з-пад базарнай паветкі цікаваў за ім з першай хвіліны, як Іосіф стаў жабраваць.

Іосіф кінуўся на вуліцу, але ўжо ў супрацьлеглы бок, туды, дзе яна вядзе да шашы. Прабег, можа, хвілін дзесяць, спыніўся: вунь яна, Каця з сыночкам! Ідзе ўніз па вуліцы, за горад, да шашы. Па паходцы, па спіне, па вопратцы пазнаў, галоўнае, па хлопчыку ў кароткіх штоніках з адной шлейкай наўскасяк праз спінку. Трымае адной рукой яго за ручку, а ў другой у яе кошык. А побач з хлопчыкам, трымаючы яго за другую ручку, крочыць гадоў шаснаццаці—сямнаццаці дзяўчына, каля яе — жанчына. Дык гэта ж Надзя з дачкой Светкай!..

Ён пайшоў следам, гатовы калі што кінуцца абараняць іх. Ішоў і пільна глядзеў па баках, аглядваўся і не заўважаў нічога падазронага: ходзяць людзі туды-сюды, Каця, Надзя і іх дзеці нікога не цікавяць, і мацака нідзе не бачна. «Не памірсцілася ж, — падумаў ён, — цікаваў жа за мной. Але ж дзе ён? Можа, пакуль вернецца, яны ўжо з’едуць?.. Ды мяне яму трэба браць, мяне! Не сёння, дык потым… Ну што ж, калі так, дык я сам знайду вас і расквітаюся за Тэклюшку, чаго б гэта мне ні каштавала…»

Іосіф праводзіў іх ажно да канца горада, да апошніх хат, і калі жанчыны з дзецьмі падышлі да моста праз раку, спыніўся. Па-першае, далей ісці за імі сэнсу не было, адсюль яны бачны, як на далоні, ды і выдаваць сябе не трэба. Па-другое, калі мацак, што неверагодна, пойдзе за імі, дык Іосіф убачыць. Значыць, яму трэба пабыць недзе тут.

Думаючы так, адчуў, што вельмі стаміўся, што ўсё цела калоціцца — перахваляваўся. Агледзеўся, заўважыў, што стаіць каля невысокага палісадніка, да якога прыстаўлена лаўка. За палісаднікам хата з двума вокнамі на вуліцу.

Ён падышоў да лаўкі. Асцярожна сеў на яе. Затым прыхінуўся спінаю да плота, павалі выпрастаў неслухмяную левую нагу, яна зусім амярцвела. Вырашыў крыху адпачыць. Падумаў, каб быў Архіп, вядома ж, пайшоў бы да яго, пераначаваў. Ёсць яшчэ ў горадзе знаёмы — Рыгор, Архіпаў сябра. Не, да таго не пойдзе, як не сышліся адразу, калі пазнаёміліся, дык што ўжо можа быць праз час.

Зараз пасядзіць ды пойдзе. Ён да ўсяго прывык, летам яму любы куст дасць прытулак, любая капа сена, стажок. Пра сябе асабліва клапаціцца не трэба — галоўнае, што Каця і Надзя з дзецьмі ўжо даўно дома. Што гэта так,

ён не сумняваўся. Ведаў, што першая парожняя спадарожная машына падбярэ жанчын з дзецьмі, а там каля гуднянскай дарогі іх абавязкова сустрэне хто з мужчын. Можа, нават Яўхім. Мабыць, Яўхім яшчэ ў сіле, на сваіх нагах, ні кіёк, ні кавялу ў помач не бярэ, ён жа заўсёды быў мацнейшы за Іосіфа.

Цікава, скажа яму Каця, што мяне бачыла, ці не скажа?

Нават калі скажа, дык наўрад ці паверыць ёй Яўхім. Па-першае, ён жа ёй не прызнаўся. А па-другое, і гэта галоўнае, гуднянцы, напэўна, даўно ўжо пахавалі Іосіфа: у тую ноч, як разгулялася паводка, ён цудам выжыў. І тое, што ён перажыў тады, не кожны малады вытрымае.

Так Іосіф сядзеў невядома колькі, а на зямлю спакваля апускаўся халаднаваты вечар. Навокал пацішэла, на вуліцы не было ні людзей, ні машын — ускраіна горада, звычайная вёска, ды толькі.

У небе высыпалі першыя зоркі, у рэдкіх хмарках коўзаўся палазок бляклага месяца. У хаце не запальвалі святла, інакш ягоныя водбліскі праліліся б на вуліцу.

Іосіф адчуваў, як халадок кранае цела: ягоны стары, тонкі картовы пінжачок не грэе.

Ён паварушыў нагой — адпусціла, можна ісці. Але пачала востра балець спіна, ды так, што цяжка трываць…

Зноў падумаў, дзе б скаратаць ноч… Вядома ж, на лузе. Праўда, там у нізіне, каля ракі, халадней, чым у горадзе. Але гэта не палохала — дачакаецца раніцы, не замерзне. А як толькі пачне світаць, пойдзе на шашу. Спыніць спадарожную машыну, вернецца на хутар. Пакуль не сыдзе ягадная пара, з Кашары ні кроку: жанчыны ездзяць прадаваць ягады, пападацца ім на вочы ні ў якім разе нельга! Усё сапсуюць. Горш таго, яшчэ наклічуць на сябе бяду. А бліжэй да зімы, калі ні ягаднікаў, ні грыбнікоў на базары няма, зноў паедзе ў горад, стане жабраком на Тэкліна месца. Ён павінен здзейсніць тое, што задумаў… А задумаў расквітацца з пачварамі, якія здзекаваліся не толькі з Тэклі, а і з іншых такіх жа безабаронных, абяздоленых, як яна.

Як расквітаецца, Іосіф дакладна не ведаў. Але так, каб зразумелі, хто яны такія, каб усвядомілі, што нічога беспакаранага няма. Ды ён згодны зажыва згарэць, памерці ад страшных пакут, але знішчыць тую прыватную турму, інакш не скажаш, у якой нелюдзі ўпотай здзекуюцца з гаротных людзей.

Іосіф быццам нехаця падняўся з лавы, крыху пачакаў, пакуль ногі акрэпнуць, пажвавеюць, ужо наважыўся ісці, як з двара, лёгенька рыпнуўшы, адчыніліся веснічкі і да яго ціха падышла жанчына. Спынілася, пачала ўглядацца ў твар. Ён сумеўся. Нечакана жанчына сказала:

— Добры вечар, дзядзька. Табе, мабыць, блага?

Ён зусім разгубіўся, адразу не зразумеўшы, шчыра пытае ці хоча прагнаць ад сваёй хаты, перасохлымі вуснамі адказаў:

— Добры вечар. Не, гэта я так на вашу лаўку прысеў. Вы ўжо выбачайце. Крыху прытаміўся. Не падумайце нічога кепскага.

— А я і не думаю, — сказала жанчына. — Я цябе, дзядзька, праз акно ўбачыла. Думаю, аднекуль здалёк, не наш. Нашых усіх ведаю, горад жа невялікі, і я тут даўно жыву.

— Не, не ваш, — прызнаўся Іосіф. — Не так ужо і здалёку. Усяго вам добрага, пайду.

Ён сабраўся ісці. Жанчына заўважыла гэта, спыніла:

— Куды ж ты, чалавеча, супроць ночы пойдзеш? Пайшлі ў хату. Пераначуеш, а раніцой пойдзеш.

— Не, не! — замахаў рукамі Іосіф, — як-небудзь пераб’юся. Не першы раз.

— Перабіцца можна, — сказала жанчына. — Але ці трэба, калі ёсць дзе пераначаваць? Мабыць, адзін ты, дзядзька.

Іосіф маўчаў. Што ёй сказаць? Што адзін? Роспыты пачнуцца: што, дзе як… Яшчэ пачне шкадаваць… Не, не трэба. Хацеў схлусіць: «Чаму ж адзін? Ёсць хадзяйка, ёсць…»

Не дадумаў, хто яшчэ ў яго ёсць, як жанчына паведаміла:

— А да мяне ўнукі зараз прыйдуць. Дачка прывядзе. Яна працуе на заводзе ў начную змену, няма з кім іх пакінуць. Сядзем разам за стол, павячэраем, пагаворым, можа, якую казку дзецям раскажаш. У іх жа свайго дзядулі няма, загінуў, а малодшанькая ўсё дзядулю пытае. Скажам, вось і дзядуля нейчы ў нас гасцюе, і ўсім будзе радасць. Толькі не падумай, дзядзька, што з-за гэтага цябе заву: нельга чалавека адпускаць невядома куды на ноч гледзячы.

— Ды якая гэта ноч? Лета. Кожны куст… — Іосіф зразумеў, што агаварыўся, паправіўся: — Мяне спадарожная будзе чакаць. Знаёмы шафёр…

— Ніякага ў цябе знаёмага шафёра няма, — перапыніла яго жанчына.

— Дальбог, ёсць! — ледзь не зазлаваў Іосіф. — Як гэта няма? Ды я з адным чалавекам толькі і езджу ў горад!

— Значыць, ёсць, — ледзь усміхнулася жанчына, мабыць, зразумеўшы, што ён пакрыўдзіўся: «Чаму ў мяне не павінен быць знаёмы шафёр? Таму, што жабрак?..» — Ну то глядзі сам.

Яна змоўкла. Маўчаў і Іосіф. Напэўна, каб жанчына не сказала пра ўнукаў, ён згадзіўся б пайсці ў хату і пра знаёмага шафёра не казаў бы. А то атрымалася зусім па-дзіцячы. Маўляў, ёсць знаёмы, быццам пахваліўся гэтым. Але пачуўшы пра малых, уявіў, які незвычайны дух чалавечага жытла пануе ў гэтай хаце. Уявіў і яму стала вельмі зайздросна: ягоная ж хата не ведала такога духу. Калі Стас быў малым, ніхто з аднагодкаў не хадзіў да яго гуляць — баяліся Марыі, не вельмі ветлай да чужых дзяцей. І наогул Іосіф даўно ўжо забыў дух добрага чалавечага жытла. Вядома, жыў у чужой хаце, з якой гаспадар, гаспадыня і іхнія дзеці і ўнукі сыходзілі са слязамі — не па сваёй ахвоце кіраваліся ў далёкі невядомы шлях. А які можа быць дух ад крыўды, ад горкіх слёз, ад разумення таго, што наўрад ці вернешся калі да роднага парога, калі невядома, выжывеш ці не там, куды вымушаны ехаць?

І калі, здаралася, Іосіф задумваўся пра лёс гаспадара Кашары, пра якога ведаў ад Яўхіма, яму здавалася, што чуе ў хаце дзіцячы плач. І гэта не той плач, калі дзеці плачуць, як іх пакрыўдзіць бацька ці маці — паплача ды супакоіцца, нібы нічога і не было. Гэта плач быў жудасны: дзіця бачыць, як крыўдзяць ягоных бацькоў (а бацькі для дзяцей — усё, што звязана з паняццем жыцця) — што ж будзе…

Безумоўна, шмат чаго добрага ведала гэтая хата: не можа быць кепскім чалавечае жытло, калі ў ім многа дзяцей. І ўсё гэтае добрае належала Антонавай сямі. А ён, Іосіф, аднойчы прыйшоў у чужое жытло, без дазволу пераступіў чужы парог… Дык што ён скажа гаспадару, калі раптам той вернецца?

Нямала пра гэта разважаў Іосіф і нічога прыдумаць не мог. Сапраўды, што ты скажаш, акрамя аднаго: «Даруй, чалавек, за самавольства, але каб не твая хата, напэўна, мяне даўно ўжо не было б на свеце. Яна прыняла мяне, выратавала ад холаду, а зямля, якую ты некалі паліў сваім потам, кожную глышачку якой перамацаў сваімі рукамі, не дала счаўрэць ад голаду. Дзякуй табе, тваёй хаце, тваёй зямлі! Не парушыў я ні хаты тваёй, ні тваёй зямлі, і над тым духам, які пасля тваёй сям'і застаўся ў тваім жытле, не здзекаваўся. Не крануў ні палацяў, на якіх спаў ты і твае сямейнікі, не ўзяў нічога з той вопраткі, якая засталася ад цябе — усё сам прыдбаў, і палаці зладзіў у сенцах. Праўда, печ

тваю прапальваў — бо калі хата доўга не ацяпляецца, калі не адчувае чалавека, дык памірае».

Думаў, калі гаспадар скажа, каб ішоў адсюль, пойдзе. І нават калі скажа, каб застаўся, усё адно сыдзе — каб не замінаць… Выкапае сабе зямлянку дзенебудзь на высокім беразе, каб была бачна рака. І пакуль будуць сілы, будзе жыць там. А калі зусім занядужыць, выпаўзе з зямлянкі, хай зімой, хай летам, ляжа на снег, на зямлю тварам да неба і спакойна будзе чакаць сваёй апошняй хвіліны на гэтай гаротнай зямлі…

Іосіф яшчэ раз падзякаваў жанчыне, сказаў, што ўсё ж пойдзе да шашы ды паедзе дадому. Гэта калі ўжо не атрымаецца, дык вернецца, тут недалёка.

— Глядзі, чалавеча, — строга сказала жанчына, — сілай я цябе не пацягну. Але зайдзі хоць, павячэрай.

— Дзякуй, я ўжо вячэраў, — схлусіў ён.

— Дужа ж ты нейкі сарамлівы, — сказала жанчына. — Ну што ж, ідзі, лёгкай табе дарогі. Толькі калі што — вяртайся. Веснічкі я не буду зачыняць, хату таксама, пачую, як прыйдзеш, сустрэну.

Іосіф пайшоў. Ну не мог ён ісці ў хату. Не хацеў бударажыць душу такім жаданым духам чалавечага жытла, які адчуваў і помніў толькі ў дзяцінстве. Было гэта ў тую пару, калі жыў у бацькоўскай хаце. Там тады гаспадарыла добрая, спагадлівая мачаха-мама. Было ў яе трое сваіх дзяцей, меншых за Іосіфа ягоных чужых-родных двух брацікаў і сястрычкі, а яна і яго, як свайго, гарнула да сябе.

Але памёр бацька. Неўзабаве памерла і мачаха-мама. Прыехалі з яе вёскі родзічы (што за вёска, дзе яна ён не ведае і па сёння), пасадзілі на калёсы мачашыных сірот, назад рушылі, а ён застаўся адзін. Ладны ўжо быў хлопец, жыў самастойна. З таго часу назаўсёды разышлася ягоная сцежка і сцежкі мачашыных дзяцей…

Ён ішоў за горад па слаба асветленай месяцам пустыннай калдобістай дарозе. Ішоў і час ад часу спатыкаўся, але не падаў, ішоў далей і горкім здаваўся яму лёгкі вечаровы пылок, які ўзнімаўся з-пад кавялы, з-пад ног.

У яго вушах стаяў голас гэтай жанчыны, напэўна, ненамнога маладзейшай за яго, па ўсім бачна добрай і шчырай, клапатлівай — і яму ўспаміналася ягоная мачаха-мама, твару якой ён даўно ўжо не помніў. І здавалася яму, што голасам жанчыны гаварыла з ім яго мачаха-мама — у ім было столькі дабрыні, колькі было ў яе голасе, хоць, безумоўна, і голасу яе ён не помніў.

Ён ішоў, а жанчына стаяла каля сваёй хаты і пазірала яму ўслед да той пары, пакуль ягоная постаць не растварылася ў начной цемры. Яна ведала, адчувала, што гэты чалавек не вернецца, што схлусіў ёй, што ён адзінокі і нікому не патрэбны. У такіх людзей адзінота забірае права некаму перашкаджаць…

…Не ведала яна, што гэта быў яе зводны брат. Не ведаў ён, што жанчына, якая нагадала яму мачаху, была яе дачкой…

**2**

Як і меркаваў Іосіф, ён пераначаваў у стозе сена на лузе каля ракі. Дакладней, пад стогам. Стагі тут, на заліўных лугах, ставілі высокія. Пад іх клалі два-тры вянцы з добрых жэрдак — лагі, потым з дошак рабілі пляцоўку, а затым ужо скідвалі на яе стог. Такім чынам сена знізу не замакала, не гніло, пад стогам заўсёды было свежа.

Іосіф, як кажуць, селянін да мозга касцей, нават калі б стог стаяў на зямлі, не палез бы ў яго, не парушаў бы пласты — залье дождж, пачне гнісці — гаспадару такую шкоду зробіш, што толькі рукі паадбіваць!..

Ён проста лёг бы пад стог ад таго боку, дзе няма ветру, прыціснуўся б спінаю да духмянага сена, якое за дзень набрала столькі цяпла, што хопіць на ўсю ноч.

Іосіф з цяжкасцю залез пад стог. Лёг на спіну. Асцярожна знізу па ўсёй плошчы стога па жвяльку са шчылін між дошак наскуб крыху сена — тут страшнага нічога няма, не замокне, падаткнуў пад бакі і, хоць быў стомлены, знерваваны, усю ноч так і не заплюшчыў вачэй.

Ляжаў у адносным цяпле — волкі вецярок усё ж забіраўся сюды, і з нецярпеннем чакаў раніцы, каб, калі крыху развіднее, пайсці на шашу. Яму б толькі хутчэй дабрацца да хутара, ды застацца там сам-насам. Там ён супакоіцца, адыдзе ад тых хваляванняў, якія нахлынулі на яго пасля таго, як сустрэў Кацю з сыночкам. Ды і ў горад пакуль што ехаць не трэба — паказаў мацаку, што ёсць такі жабрак, які сам па сабе, ні ад каго не залежыць і знік на нейкі час… А потым восенню, бліжэй да зімы, зноў з'явіцца на базары, стане на Тэкліна месца. Вось тады ўсё і пачнецца! Іосіф расквітаецца з імі, хоць Тэкля, калі расказала, як яны здзекаваліся з яе і іншых абяздоленых, прасіла яго не помсціць. Казала, як заўсёды кажуць людзі, якія прайшлі праз пакуты: «Ім іхняе і будзе…»

Казаць можна. Толькі ці будзе? Ды і калі? І хто пакарае нелюдзяў? Яны ж дзейнічаюць так, што іх не выкрыць. Дык што, хай і далей здзекуюцца над людзьмі?

Гэтага ён тады Тэклі не сказаў. Наогул нічога ёй не адказаў. Нібы стаіўся, у сябе ўсё зацiснуў. Падумаў, што яна за яго баіцца. Што ён супраць сілы? Як муху расціснуць.

Падумаў, а ўсё адно вырашыў, што так гэтага не пакіне. Зробіць, што задумаў. Але стрымлівала: а раптам заб'юць… Тады што будзе з Тэкляй?.. Ды і не пусціць яна аднаго яго ў горад, а ён не можа нават на хвіліну пакінуць яе адну… Дык як быць? Адказу не было.

Хоць і не гаварыў Тэклі пра гэта, яна нейкім сваім жаночым чуццём разумела, што яго гняце, часам казала: «Глядзі, Восіпка, як і памру, у горад не ідзі. Калі што — у Гуду вяртайся. Не распнуць яны цябе там. Не прымуць, асобна жыць будзеш, нешта ж для цябе знойдзецца. А не — курэнь які зладзіш».

— Не кажы так, — прасіў ён яе. — Не думай пра гэта.

А думаць, безумоўна, трэба было: рана або позна, а з некім такое першым здарыцца. І здарылася: не стала Тэклі. Толькі ён у вёску не вернецца. А вось у горад яшчэ сходзіць. Толькі не жыць — не любіць ён горад. Як зімой сорак трэцяга ў ім працаваў і жыў, шмат чаго нядобрага нагледзеўся. Ды і пасля, як атабарыўся на хутары, калі зрэдку прыплываў сюды — таксама.

Нелюбіў, а разумеў, што без горада наўрад ці выжыў бы: вопратку, соль, запалкі, газу, ды тое-сёе з прадуктаў можна было набыць толькі тут. Але, каб усё гэта прыдбаць, трэба мець грошы ці што на абмен.

Грошай у яго не было. Значыць, іх можна было зарабіць, збыўшы рыбу, грыбы, арэхі, заечыя шкуркі, а то і зайчаціну.

Усяго гэтага вакол хутара хапала. І калі грыбы і арэхі збіраў, а рыбу лавіў, ставячы вяршы, дык на зайцоў яшчэ ў першы год свайго жыцця тут нарабіў петляў — дрот на сядзібе быў.

Раней у горад Іосіф дабіраўся на чоўне, які сам зрабіў: у кладоўцы гаспадара меўся ўсялякі інструмент, без якога селяніну і палясоўшчыку нельга.

Гэты інструмент, як Антона раскулачвалі, не забралі. Мабыць, палічылі, што нікому ён не патрэбны.

Тады, дабраўшыся сюды пехатою (Іосіф запомніў, што расказваў Яўхім пра гаспадара хутара, ведаў, як туды трапіць, і імя яго не забыў — Антон), агледзеў пакінутую асірацелую сядзібу і пабудовы, якія за гэты час без чалавечага клопату прыйшлі ў заняпад, і стаў паціху абжывацца.

А пачаў ён з таго, што асцярожна, невядома каго апасаючыся, сарваў з дзвярэй хаты нейкі сатлелы матузок. Націснуў на клямку, таўхнуў шырокія, ад парога парослыя мохам, шэрыя патрэсканыя дзверы. Яны на дзіва лёгка адчыніліся, суха рыпнулі — дрэва аб дрэва.

З цёмных сянец патыхнула нежылым, прэлым, ажно адшаснуўся. Крыху пастаяў, раздумваючы, ісці або не, потым шырэй адчыніў дзверы, з-за спіны ў сенцы ўпала палоска сонечнага святла, на якой закурыўся пыл.

Святло рассунула цемру па кутах, Іосіф не спяшаючыся пераступіў парог і заўважыў наперадзе, што дзверы ў хату прачынены, рушыў туды. Падышоў да дзвярэй і жахнуўся: сярод хаты на шэрай падлозе ў паўзмроку ляжалі два доўгія, ад сцяны да сцяны, чорныя крыжы — цень ад дошак, якімі былі забіты вокны... Нялёгка яму было пераступіць парог хаты. Калі ж пераступіў, зразумеў, што дошкі з вокнаў адрываць не стане, не будзе жыць у хаце, спыніцца ў сенцах, а ў хату будзе заходзіць толькі каб выпаліць печ. Зразумеў, што не для яго гэтае жытло — крыжы не ягоныя, іх некалі павінен зняць той, хто забіваў вокны — гаспадар. А што дошкі прыбіваў ён, Іосіф не сумняваўся: у Заброддзі, у Дубасне, у іншых вёсках вакол Гуды вокны забівалі самі тыя, каго высылалі. (У Гудзе раскулачваць не было каго, жылі бядней, ды і вёска не такая вялікая, як тыя.)

Калі стаў жыць на хутары, дык ад першага дня і па сёння нічога гаспадарова не браў і не рушыў. А вось інструментам карыстаўся: без яго не абысціся, да ўсяго інструмент любіць адчуваць спрактыкаваныя ў працы рукі.

Ён у першы ж дзень агледзеў, што ў бакоўцы ў сенцах ёсць некалькі сякер, піла, безліч стамесак, малаткі, рубанкі, фуганак, напільнікі, нажы — і ўсё гэта з добрай нержавеючай сталі.

Агледзеў іх, патрымаў у руках — як яны засумавалі па працы!..

Пераначаваў на шырокай лаўцы у сенцах, а назаўтра пачаў абжывацца: нікому гэты кавалачак зямлі сярод балот не патрэбны… Зрабіў у сенях палаці. Падладзіў вароты ў кашару, у хлявы, пуню. Затым пайшоў да крынічкі на мяжы паміж лесам і полем. Ачысціў яе ад апалага больш чым за дзясятак гадоў лісця — забруілася, пацякла да ракі празрыстая сцюдзёная вада. Спачатку шнурочкам, а потым ручайком. На беразе Дубасны паваліў ладную асіну, змайстраваў даўблёнку. І, вядома ж, сплёў вяршы — без іх каля ракі нельга.

Першы час жыў і чакаў, што не сёння-заўтра вернецца гаспадар. Але міналі гады, на хутар ніхто не прыходзіў — ні гаспадар, ні чужыя. Было нават дзіўна: няўжо пра Кашару ніхто не ведае? Ды такога не можа быць. Ёсць жа леснікі, улада. Як трэба было сагнаць з нажытага месца Антона, і дарогу знайшлі. Значыць, цяпер нікому не трэба гэтае забытае людзьмі і Богам месца. Толькі ці доўга так будзе? А пакуль Іосіф жыў, і ніхто яму не перашкаджаў. Але ў гэтым адзінокім жыцці даволі хутка з’явілася нешта асабліва шчымлівае, што неўзабаве пачало палохаць — а як жа без людскіх галасоў, без людской говоркі?.. Адчуванне было такое, што неўзабаве анямее: у галаве праносяцца словы, але адразу іх вымавіць не можа. Вось глядзіць на лес, на раку, на трысцё, ведае, што гэта такое, а каб сказаць сам сабе «лес», або «рака», ці тое ж «трысцё», яшчэ трэба падумаць, як гэтыя словы вымавіць. Наогул наўкола столькі самых

розных непаўторных гукаў — ад зменлівага пошуму лесу, птушынага разнагалосся, плёскату вады ў круты бераг да шолаху ссохлай травы і рыпу старога, аджыўшага сваё, дрэва, а вось людскіх галасоў не хапае. І не проста не хапае, а нестае, як нестае ў спякоту на сенажаці ўсяго толькі адзінага глытка сцюдзёнай вады: махаеш касой у ахвотку, адчуваеш, што асмяг, трываеш і раптам... Дык там жа людзі, як скончылася свая, дадуць чым змачыць вусны.

І ў Гудзе ён быў адзін. Але ж чалавечыя галасы чуў то са свайго двара, стаіўшыся там, то з хаты, калі з-за фіранкі ўкрадне наглядаў, як Яўхім, Мікола і Міхей возяць бёрны Каці на зруб, або калі жанчыны ішлі вуліцай да ракі мыць бялізну.

Чуў і раскацістыя дзіцячыя галасы, калі Валік і Светка гойсалі па наваколлі і крычалі, смяяліся ці проста гаварылі недалёка ад ягонай сядзібы. Чуў ён людскія галасы і ў горадзе, калі працаваў там. І не проста чуў, а перагаворваўся з тым-сім, перакідваўся словамі, хоць і скупымі, затое такімі патрэбнымі. І не задумваўся самотны, што гэта значыць чуць людскую мову і размаўляць на ёй.

А тут нібы абрэзаны канцы той нябачнай жыватворнай повязі, якая своеасаблівай пупавінай злучала яго з людзьмі, хацелі яны таго або не хацелі. І повязь тая непрыкметна сплыла, растварылася — нават знаку ад яе не засталося, хіба што думкі пра людзей, успаміны пра іх… Дык яны з кожным разам усё больш і больш вярэдзяць — няма ніякай сувязі з тым, без чаго чалавеку немагчыма жыць. Ды ці толькі чалавеку нельга без повязі з тым асяродкам, у якім нарадзіўся, гадаваўся, жыў?..

Без повязі адно з адным наогул няма жыцця не толькі чалавеку, а і птушцы, зверу, дрэвам, рацэ, воблакам, зорам... Ды ўсяму на зямлі. Гэта ж бачна, варта толькі як след прыгледзецца навокал.

Разумеў Іосіф, што адзін не выжыве. Нягледзячы нават на тое, што ў яго ёсць страха над галавой, пад якой цёпла, што ёсць нешта з’есці — пакуль ходзіць па зямлі, пакуль стаіць на ёй на сваіх нагах, дык здабудзе што пакласці ў рот.

А вось хоць без якой, але повязі з людзьмі, найперш праз мову, хай хоць і праз адно адзінае слова наўрад ці вытрымаеш і з ежай, і з цяплом — счаўрэеш ад скрухі.

Ён гэта ведаў. Ведаў, чаго можа быць варта нават адно слова, якога ад цябе хтосьці чакае, а ты так і не скажаш яму яго — твайго лёсу. А калі дакладней, дык ягонага і Тэклінага.

Свой лёс, дык гэта свой. Ён як на далоні. А вось пра Тэклюшчын яму нічога не было вядома. Хаця часам здавалася Іосіфу, што яна нябачна, як нейкі бясплотны дух прысутнічае каля яго.

Ён некуды ідзе, а яна побач. Глядзіць на яго і пытаецца: «Чаму ж ты, Восіпка, як я прасіла, не сказаў аднаго слова — застанься?.. І я засталася б з табой і нічога б таго, што зараз ёсць, не было б у тваім жыцці...»

Помніць ён і яшчэ адно слова, якое, напэўна, крута змяніла лёс незнаёмых яму людзей, двух братоў-воінаў, сведкам нечаканай сустрэчы якіх быў аднойчы ў горадзе на вакзале, калі працаваў на чыгуначнай станцыі.

Але пакінуўшы на нейкі час свой дом, сваю хату, занудзіўшыся па ёй, нават апастылелай, разгублены, нібы непрыкаяны, ён бачыў гэтую сустрэчу братоў, адзін з якіх, малады і здаровы, кіраваўся на фронт, а другі, знявечаны, з абпаленым тварам — ехаў з фронту. І сотні людзей з двух эшалонаў, якія спыніліся на станцыі — адзін кіраваўся на захад, другі на ўсход — глядзелі на

гэтых воінаў, хто як на сваіх братоў, хто як на сыноў, а хто нават як на ўнукаў. А яны ж воінаў зусім не ведалі і ніяк — ні кроўна, ні роднасна — з імі не звязаны. Але ўсё адно сувязь між імі існавала, было нейкае іншае адчуванне еднасці, якое і зараз не зразумела Іосіфу. Хаця вядома адно: слова яднае, як дух. І лёс мяняе. Дом было тое слова. «Ваня, дамоў! — крычаў знявечанаму брату той, які ехаў на фронт. (Напэўна, ён ведаў, што ягоны брат з такім абліччам не хоча туды вяртацца.) — Чуеш?.. Дамоў!..»

І адказ быў выпакутаваны: «…Бі гада!.. А я — дамоў!..»

Тое, што калека пасля сустрэчы з братам паехаў дадому, Іосіф не сумняваўся. Нават калі і дома ў яго ўжо не было — жудасная вайна пракацілася па зямлі. А можа, і бацькоў ужо не было, але ж былі людзі, якія ведалі і памяталі яго з дзяцінства — вось ягоны дом…

Дамоў, у Гуду, вярнуўся тады Іосіф пад уражаннем менавіта ад гэтай сустрэчы братоў, сведкам якой стаў. Толькі і дом быў, і не было яго — жыў ён у ім у адзіноце. І ў горадзе пры чужых людзях быў адзінокі. Вось такі разлом, такое раздваенне. І, напэўна, перш за ўсё, каб пачуць людзей, выбраўся ён з Кашары ў горад, калі сустрэўся з Архіпам…

Увогуле ў горадзе Іосіф бываў разоў пяць-шэсць за год. І толькі цёплай парою, з канца вясны да канца верасня. І заўсёды добра рыхтаваўся да паездкі — з пустымі рукамі там няма чаго рабіць. Таму выпраўляўся ў дарогу толькі тады, калі меў што прадаць-абмяняць — добрую торбу свежай рыбы, перакладзенай крапівой, некалькі вязанак сушаных баравікоў, з вядро арэхаў ды дзве-тры заечыя шкуркі.

Яшчэ амаль зацемна ўсё гэта пераносіў у човен, які хаваў у затоцы з левага берага Дубасны. А як пачынала світаць, ціха выплываў да ракі. Там скіроўваў сваё лёгкае судна на самы струмень і пускаў па цячэнні, час ад часу злёгку кіруючы вяслом — шост ляжаў на дне чоўна, ім арудаваў, як дабіраўся назад.

Плысці па цячэнні — а Дубасна рака хуткая — любата. Звычайна такою парою над ракой клубіўся лёгкі туман. Праз яго на ваду цадзіліся залатыя сонечныя прамяні, ламаліся на хвальках, адскоквалі ад чоўна ў розныя бакі. Паўсюль у траве, у кустах, у лесе чулася птушынае шматгалоссе. Прыбярэжныя дрэвы, а гэта ў асноўным бярозы, асіны, дубы і толькі зрэдку сосны, моўчкі глядзеліся ў ваду, суправаджалі Іосіфа ажно да самага прыгарада, да якога было пару дзясяткаў вёрст.

Рака ўвесь час цякла па лесе. Ні справа, ні злева блізка ад яе вёсак не было. Рыбакі сустракаліся рэдка. Звычайна, закінуўшы вуды ў ваду, яны сядзелі на беразе, цікавалі за паплаўкамі. Занятыя сваім, на чалавека ў чоўне асаблівай увагі не звярталі — плыве куды яму трэба…

Іосіф ім не перашкаджаў, вяслом, шастом не боўтаў, плыў ціха, рыбу не палохаў. А такіх сапраўдныя рыбакі паважаюць — уважлівы да занятку іншага…

Сталася так, што Іосіфу пашанцавала з першага разу, як прыплыў у горад. Там ён нечакана сышоўся з адным мясцовым мужчынам прыкладна яго ж узросту — хата таго стаяла недалёка ад ракі, агарод амаль спускаўся да вады.

Тады, выплыўшы з лесу на луг, Іосіф пачаў уважліва аглядаць правы бераг ракі, за якім пачынаўся горад, выбіраў месца, дзе можна прычаліць.

Вядома, човен трэба пакінуць там, дзе мясцовыя мужчыны прывязваюць свае лодкі: існуе няпісанае правіла між іх гаспадарамі — сваё не аддавай, але і чужое не бяры. Правіла гэта Іосіф ведаў, яно аднолькавае паўсюль. Таму, як толькі заўважыў плёс і з дзясятак лодак на ім, скіраваў туды. Месца для чоўна знайшоў пад вялікай старой вольхай, якая расла каля самай вады. Падплыў

да яе, уз’ехаў на пясок, затым вылез з даўблёнкі, ступіў у ваду — вераб’ю па калена, усцягнуў човен вышэй і прывязаў вяроўкай да дрэва.

Пакуль упраўляўся, не заўважыў, як да яго падышоў дзядок прыкладна ягоных гадоў.

— На базар? — спытаў той, напэўна, разгледзеўшы ў чоўне Іосіфаву паклажу.

Заспеты знянацку, Іосіф не адразу адказаў. Голас нібы аглушыў: да яго звяртаецца чалавек! О, колькі часу Іосіф не чуў звычайнай людской гаворкі!.. Без надрыву, без агіды, без здзеклівых кпінаў — звычайнай побытавай, калі нехта ў цябе пра нешта пытае, як і павінна быць у звычайным жыцці. Ён жа апошні раз чалавечы голас чуў са здзекам: «…Ну, ну…» А тут… І перш чым адказаць Іосіф пачаў падбіраць словы, а яны нібы сціраліся ў ягонай памяці. Спачатку хацеў, як заведзена, павітацца: «Добры дзень», потым ужо меўся сказаць, што прыехаў тое-сёе прадаць, але з грудзей з хрыпам вырвалася адно:

— Але...

— Во, асіп, прастудзіўся?

— Не-е…

— А чаго не гаваркі? — спытаў мужчына, узіраючыся Іосіфу ў твар.

— Ды так… Нешта запяршыла, — Іосіф знарок пракашляўся.

— Адкуль?

— Здалёк, — ухіліўся ад прамога адказу Іосіф і паказаў рукой у лес. Сказаў адно слова і адчуў, што яно нібы выкацілася з яго, значыць, усё ж не развучыўся гаварыць.

— А што ты хочаш прадаць? — спытаў мужчына.

— Глядзі, — Іосіф разгарнуў торбу, якая ляжала на дне чоўна.

— Рэчы не хадавыя. Рыбы на базары і без тваёй хапае, рака ж побач. І ўсё астатняе таксама там ёсць. Баюся, што ўтаргуеш ты мала, калі наогул хто што ў цябе купіць. Хіба што за бясцэнак, — сказаў заклапочана мужчына. — Кажу табе праўду, ведаю. Я ж тутэйшы. Вунь мая хата на пагорку (ён паказаў на невялікі драўляны домік, ад якога ўніз да ракі спускаўся доўгі вузкі агарод). А на базар я хаджу кожны дзень. Прывык да людзей, інакш не магу. Да вайны ў лаўцы гандляваў. Людзі прыходзяць, аднаму гэта дай, другому тое, трэцяму яшчэ што… І даеш, калі няма — дастаеш, і чалавеку прыемна, і табе.

— А як жа мне быць? — Іосіф пачухаў патыліцу.

— Што ты ўжо так перапалохаўся? — нібы здзівіўся мужчына. — Як быць… Калі хочаш, забяру твой тавар. Канешне, на табе я не разжывуся, ды і не хачу ні на кім разжывацца. Што ўнукам аднясу, што на базар. Хаця арэх, мабыць, яшчэ не лузанчык, а баравік — жытнік. Ды і футра…

—Але, — разгубіўся Іосіф. — А я ж думаў…

— Не журыся. Як цябе клічуць?

— Антонам, — разгублена адказаў Іосіф, упершыню назваўшыся іменем гаспадара хутара. Чаму ён гэтак зрабіў, і сам зараз не мог бы растлумачыць: назваўся і ўсё. (Пазней зразумеў — Іосіфа ж няма…)

— А я — Архіп, — сказаў мужчына і падаў Іосіфу руку. Для чалавека такога ўзросту рука была яшчэ моцная, учэпістая. Пацiснуў яе Іосіф асцярожна — не памятаў, калі хто падаваў яму руку. — Значыць, будзем знаёмыя, — працягваў мужчына. — Дык вось што, Антон, бачыў я, як ты вяслом правіў. Лоўка! На рацэ вырас?

— На рацэ.

— Горада не ведаеш.

— Не.

— Тады і не лезь ў яго. Са мной справу май, не прападзеш. І мне лягчэй будзе. А то…

Ён замоўк, напэўна. Зразумеў, што сказаў лішняе.

— Што такое? — спытаў Іосіф, быццам даўно ведаў Архіпа.

— І дом ёсць, і дома не жыву.

— Пасварыўся са сваімі?

— Горш, не будзем пра гэта. А ты мне чымсьці спадабаўся. Бачу, зладзім.

— А чаму б і не? — сказаў Іосіф, радуючыся, што так атрымалася. Прадаваць ён не ўмеў, і хоць ведаў, што човен не павінны ўкрасці, а ўсё ж апасаўся гэтага. А тут сустрэў чалавека, які згодны забраць ягоны тавар ды нешта даць за яго. Толькі што?

— Ты кажы, што табе трэба за тваё дабро, — мовіў мужчына, мабыць, зразумеўшы, пра што задумаўся Іосіф.

Іосіф сказаў: крыху солі, якіх круп, запалак, калі ёсць пры хаце, дык хоць якога паўбохана хлеба.

— Дам, — сказаў мужчына і дадаў: — Пайшлі са мной.

Яны ўзялі ўсё, што прывёз Іосіф, выйшлі на вузкі лужок. На ім паўсюль цвілі мацярдушкі. Па лужку, па вілюжыстай сцежцы, што вяла ад лодачнай прыстані да вуліцы, дайшлі да лазні. Іосіфа здзівіла, што Архіп не павёў да хаты, а да лазні, якая стаяла на высокім беразе воддаль ад агарода, але амаль пры самай вадзе.

— Тут я і жыву, — патлумачыў Архіп. — А ў доме (махнуў рукой уверх) хай маладыя жывуць.

Ён адчыніў дзверы, прыгнуўшыся, ступіў у прылазнік. Іосіф зайшоў следам.

Прылазнік быў цесны, але ў ім злева ад дзвярэй пры маленькім акенцы месціўся вузкі адкідны столік, засланы даматканым абрусам. На століку ў слоіку стаяў букецік лілова-ружовых мацярдушак.

Архіп заўважыў, што Іосіф недаўменна паглядзеў на кветкі, усміхнуўся:

— Унучачка прыносіць. Я ёй неяк сказаў, як яны называюцца, дык ёй запала ў душу. Кажа: «Дзеда, як прыгожа іх называюць: мацiна душа». І сапраўды прыгожа. Во, стаяць...

Пад столікам быў табурэт і больш нічога.

Справа ад дзвярэй грувасціліся нейкія картонныя скрынкі. Аказалася, што ў іх Архіп трымае ўсё сваё ядомае багацце…

Адчальваў Іосіф адсюль недзе праз гадзіну. За гэты час яны бліжэй пазнаёміліся, нават разам перакусілі, але не ў прылазніку, а на беразе ў цяні пад вольхай.

Іосіф упершыню за той час, як працаваў у горадзе на чыгуначнай станцыі, еў сапраўдны хлеб. Еў смакуючы, доўга разжоўваючы, незаўважна для сябе прыцмокваючы, быццам высмоктваў сок. Архіп, напэўна, гэта заўважыў, таму, калі праводзіў Іосіфа, у дадатак да дзясятка карабкоў запалак, добрага вузялка солі, ладнага кулька круп, брусочка сала і бохана хлеба падаў накроеныя і недаедзеныя лусты.

Іосіф узяў.

Дамовіліся, што Іосіф будзе прыплываць да Архіпа, калі захоча. Архіп звычайна, калі не на базары, хаця там ён доўга не бавіцца, дык у сваёй лазеньцы. А не будзе яго, то Антон (Іосіф) хай заходзіць у будынінку, адпачне, яна ж зачыняецца толькі на палачку, на клямку.

Калі Іосіф, сеўшы у човен, папрасіў Архіпа адштурхнуць яго, той неяк дзіўна засмяяўся:

— Сам!.. Я вады баюся, хоць каля ракі вырас. І плаваць не ўмею.

— Ну, тады сам, — сказаў Іосіф і, узяўшы шост, адпіхнуўся ад берага.

Назад Іосіф плыў супраць цячэння, арудуючы шастом. Трымаўся бліжэй да берага, там, дзе цячэння або зусім няма, або яно слабое. Хоць і старому, але спрактыкаванаму чалавеку з лёгкім вузкім чоўнам спраўляцца з шастом не складана. Вядома, калі шлях далёкі, стамляешся, але заўсёды можна знайсці якую затоку і крыху адпачыць.

Як плыў у горад, добра запомніў раку. Помніў, дзе ў яе ўпала дрэва, дзе вываратні, а дзе зусім плытка. Мясціны з перашкодамі мінаў з лёгкасцю і да вечара ўжо быў каля хутара. Там схаваў у завадзі човен, лёгкім прыцемкам па прытопленых кладках дабраўся да сухога і, адчуваючы, як стаміўся, прысеў на мяжы.

Была якраз пара вечаровай цішы. Дзённыя птушкі змоўклі, а начныя яшчэ не падавалі голасу. Паветра, здавалася, можна было пакратаць рукамі, як нешта крохкае, адначасова залацістае і сіняватае, яшчэ цёплае, але якое пачынала ўжо астываць.

Адсюль, з мяжы паміж лесам і доўгай вузкай палоскай утравелай, некалі ворыўнай зямлі, добра бачылася хата з забітымі крыж-накрыж вокнамі. Была яна чорная, быццам абгарэлая, дашчатая страха пасярэдзіне прагнулася ладнай седлавінай. Кашара і пуня воддаль яе таксама здаваліся чорнымі, хаця зблізку яны былі шэрыя, як усе старыя будынкі.

Іосіф раптам злавіў сябе на думцы, што нездарма людзі крыж-накрыж забіваюць вокны свайго жытла, калі не па сваёй волі пакідаюць яго… Такім чынам яны падсвядома ці свядома ставяць крыж на ўсім, з чым там жылі: над сваімі радасцямі і горасцямі, над смехам і плачам дзяцей, над усімі прамоўленымі там словамі, у якіх чалавечы дух. А ён такі складаны і кволы, такі моцны і безабаронны, што калі ён памірае, памірае і дом…

Іосіфу не хацелася, каб памёр дом нейкага невядомага яму Антона, каб памерла гэтая хата, якая дала яму прытулак. Разам з тым ён нічога не мог зрабіць, каб удыхнуць у чужое жытло сваё дыханне: чужое і ёсць чужое.

І свой дом, сваю хату, сваё жытло, у якое ён не мог удыхнуць свой дух, напэўна, з гэтай прычыны і спаліў. Спаліў ненаўмысна, але спаліў… Хацеў ачысціць ад чужой брыдоты, а там жа і ягоная агіда жыла. Хіба ж і ён без яе?.. Гэта ён, а не нехта іншы, некалі адрокся ад свайго кахання, ад веры ў яго… Таму, напэўна, і пакутуе. Хаця, здаецца, калі б не пакутаваў, то, напэўна, і не жыў бы, не зразумеў бы, што такое жыццё.

А яно складанае, і толькі аднаму табе не належыць, хоць і тваё. І як пераплятаюцца чалавечыя сцежкі, карані дрэў, як зліваюцца рэкі, так пераплятаюцца і зліваюцца і чалавечыя жыцці і лёсы.

І вось аднойчы ягоны лёс пераплёўся з лёсам нейкага Архіпа. Добры ён чалавек. Але таксама па-свойму гаротны. Іосіф гэта адчуў. Адчуў, што нягледзячы на тое, што ў Архіпа ёсць дзеці, унукі, жытло, ёсць яшчэ нешта такое, чаго не хапае ў жыцці. Ці не таму і на Іосіфа выйшаў, як той прыплыў у горад, на свежага для сябе чалавека, з якім, як зразумеў, хоча зблізіцца, ды выказаць нешта асабістае, што далей трымаць у сабе немагчыма...

### 3

...Вядома, калі б жывы быў Архіп, Іосіфу не давялося б начаваць пад стогам. І наогул, Архіп, які вельмі добра ведаў горад, базар, у якога там было нямала знаёмых, спадцішка дапамог бы яму знайсці тую жанчыну, не знайсці якую, як лічыў Іосіф, ён не меў права. І, канечне ж, стаяць жабраком каля ўваходу на базар яму не прыйшлося б.

Іосіф жа за некалькі гадоў вельмі зблізіўся з Архіпам, хаця так і не адкрыў таму свайго сапраўднага імя. Не адкрыў па той простай прычыне, што сам звыкся з ім, зжыўся так, што часам здавалася — ён заўсёды быў Антонам…

І зараз раніцою (ноччу так і не самкнуўшы вачэй не ад холаду: пад стогам было цёпла, ад розных, нібы не звязаных між сабой думак, якія між тым поўнасцю тычыліся яго), як толькі пачало світаць, сказаў сам сабе: «Пара, Антоне…»

Ён асцярожна выпаўз са свайго сховішча на скошаны луг, адчуў рукамі халодную расу, сцепануўся ад волкай свежасці, падняўся.

Ногі не слухаліся, былі нібы ватныя. Так з ім раніцою заўсёды, пакуль крыху не пастаіць, не паварушыць ступнямі — разамне іх. А потым, як разамне, як крыху паходзіць — нічога страшнага — цэлы дзень, з кавялой, вядома, можа быць на нагах і нават не падумае прысесці, каб адпачыць.

Праз нейкі час адчуўшы, што можа ісці, Іосіф рушыў да шашы, якая праходзіла каля дарогі на Кашару.

Світала ўсё яшчэ па-летняму хутка, хоць лета ўжо хілілася да восені. І сонца было не такое жоўтае, як яшчэ тыдзень таму, а ўжо не па-летняму чырвонае. Яно здавалася цяжкім, быццам набрынялым. Ягоныя касматыя промні ўжо не сляпілі, як напачатку або ў сярэдзіне лета, і на сонца можна было смела глядзець. Раса пад імі адлівала не мірыядамі рознакаляровых каменьчыкаў, як было нядаўна, а нейкай цьмянай жаўцізной.

Ён ішоў па лузе, даўно скошаным, на якім крыху адрасла мяккая атава, і ягоныя сляды нагадвалі сляды ад двух палазоў.

Іосіф не спяшаючыся выйшаў з лугу на мост праз Дубасну. Мост быў высокі, з яго добра праглядалася ўскраіна горада. Дайшоўшы да сярэдзіны, спыніўся, павярнуўся, пагледзеў туды, дзе на беразе ракі, можа, з паўкіламетра адсюль не так даўно чарнела Архіпава лазня, ягонае жытло.

Лазні не было. На яе месцы грувасціліся ці то бярвенні, ці то яшчэ што. Мабыць, Архіпаў сын збіраўся ўзводзіць там які новы будынак.

Добра было Іосіфу з Архіпам. Колькі разоў сустракаліся, колькі часу разам сядзелі то ў прылазніку за столікам, то на беразе ў цяні вольхі, гаворачы пра горад, ягоных людзей, пра базар, з якога, як сам Архіп казаў, жыве, а ў душу Іосіфу не лез, пра асабістае не распытваў.

Але аднойчы нібы ні з таго ні з сяго сказаў:

— Мы з табой, Антоне, ужо даўно знаемся. То тое ты ў мяне сабе замаўляеш, то гэта. Але чамусьці ні разу не папрасіў, каб я прынёс табе што-небудзь для дзяцей, для жанчыны. Ты адзін?

— Адзін, — хоць і роспачна, але як пра нешта даўно звыклае сказаў Іосіф і махнуў рукой. — Усё жыццё адзін.

— Здараецца, — разважліва сказаў Архіп. — І я адзін. Хоць і хата ў мяне ёсць, і унук з унучкай ды сын з нявесткай.

Тое, што на пагорку, дзе пачынаецца агарод, які спускаецца сюды, стаіць Архіпава хата, Іосіф ведаў яшчэ з першай іхняй сустрэчы.

— А чаму ты тады ў лазні жывеш? — спытаў Іосіф.

— Таму і жыву, што не хачу сынавай сям'і перашкаджаць. Усю вайну я жыў у сваёй хаце з нявесткай і ўнукамі. Адкрыюся табе, што быў з ёй пад адной страхой з-за ўнукаў. Нявестка мая, скажу па сакрэце, з немцамі ўціхую круцілася. У прыполе не прынесла, але… Можа, таму і хата мая ацалела, і ўнукі не галадалі. Яна ў немцаў працавала. Многія ў немцаў рабілі, інакш выжыць было немагчыма, але каб жа толькі працавала.

— Можа, брахня? — насцярожыўся Іосіф.

— Ні якая табе ні брахня! Калі кажу, то ведаю. А сын вярнуўся, яна яму на шыю: «Родненькі, дарагі, як жа я цябе чакала!.. Як жа мне адной з дзеткамі цяжка было. Помачы — ні ад каго».

А я стаю, маўчу. Ён — на мяне:

— Што ж ты, бацька, не дапамагаў ім…

Вось так. А я ж усё, што толькі мог, аддаваў ім. Ды асцерагаў, каб ніхто пальцам малым не тыцнуў: «Ваша маці — такая-сякая…»

Паглядзеў я, як ён да яе хіліцца, і ціха сюды сышоў. Думаю, калі ім добра, дык мне ўдвайне, хай жывуць, як знаюць. Адно суцяшае, што старая мая гэтага нічога не бачыла, памерла ў пачатку вайны. А то не ведаю, што б з ёй было б…

— А ўнукі? — спытаў Іосіф.

— А што ўнукі? Як прачнуцца, так і бягуць да мяне: «Дзеда, дзеда…» Ладныя ўжо, меншанькай адзінаццаць, старэйшаму трынаццаць.

— Ну, тады мацуйся, — сказаў Іосіф. — Ёсць унукі, што яшчэ трэба?

— Тым і жыву. Страюся дзеля іх. І вельмі баюся, каб калі хто сыну не ляпнуў, маўляў, жывеш з нямецкай выцеркай… Тады ж сям’я рассыпецца.

— Не скажуць. Ды хто пра гэта ведае? Сам кажаш, што ў тайне трымалася.

— Казаць кажу, а на душы — камень. Так і цягне на дно, што нават супраціўляцца не хочацца: тапі!..

— Выкінь дурное з галавы! — сказаў Яўхім. — І ў мяне, можа, нямала было такога, што — у пролабку! А як падумаеш, дык нельга. Трэба пражыць так, як пазначана. Трэба ж некаму і папакутаваць, не ўсім жа быць шчаслівымі.

Апошняе Іосіф казаў ужо не столькі Архіпу, як сам сабе. Яму хацелася расказаць таварышу, а можа, і сябру, чаму ён адзінокі, але нешта стрымлівала. Тады ўспаміналася Тэклюшка. Здавалася, што яна зноў побач з ім, але бязмоўная, бесцялесная, не хоча з ім гаварыць. Ён ужо слаба ўяўляў рысы яе твару, вобраз хутчэй адчуваўся, чым бачыўся, але што гэта яна — памылкі не магло быць.

Аднойчы, калі каторы раз гаварылі пра Архіпа і яго ўнукаў, пра сына і нявестку, пра жонку, якую, як было зразумела, той вельмі шанаваў, Іосіф не стрымаўся, сказаў:

— Ты неяк пытаў, чаму не прашу, каб прынёс што жанчыне. Той, што была за жонку, нават не папрасіў бы нешта ёй прынесці: чужая душа. І я ёй быў чужы. А той, якой усё аддаў бы, каб меў — няма. Была такая ў мяне ў маладыя гады, ды разышліся нашы сцежкі. Мая тут, на гэтай зямлі бур’яном парасла, а яе ў калектывізацыю пацягнулася некуды далёка-далёка...

— Перасяленка?

— Не, раскулачылі. З мужам. І вытраўліваў я яе з сэрца, і выпальваў рознымі думкамі — ні ў якую! Было, у маладыя гады маё адчуванне яе быццам сняжком прысыпалася, але толькі на нейкі час. Здаецца, забудзецца, а потым ўспыхне перад вачамі, нібы маланка — і сняжок той імгненна растае. І тады я на ўсё гляджу яе вачамі, ва ўсім яе бачу… І цяпер, ну якія мае гады, ужо да зямлі гнуся, а задумаюся — яна перада мной. Стаіць пакрыўджаная, зняважаная, зганьбаваная — я ж перад ёй так вінаваты, што і ў труне ад той віны спакою не знайду.

— Ты што, зганьбаваў яе дзеўкай, а потым кінуў? — спытаў Архіп.

Іосіф недаўменна паглядзеў на Архіпа: твар шэры, маршчыністы, можа, з тыдзень няголены — шчэцце ў перамежку сівое і рудое, вочы глядзяць строга — нібы дарослы на шкодніка.

— Ты што?! — ажно ўзвіўся Іосіф. — Я яе дзеўкай страціў. Казалі, іншы зганьбаваў. Людзі бачылі.

— Людзі, людзі, — перадражніў яго Архіп. — А ты што?

— А што я? Адвярнуўся ад яе. Балюча было мне і крыўдна, хоць лажыся ды памірай.

— Балюча, крыўдна… А ты ў яе хоць што пытаў? Можа, плёткі?

— Навошта пытаць было? Якія плёткі? Толькі, калі б не хацела, не была б ім. Значыць, схацела… А потым ужо як з тым вянчацца ехала, казала мне, што са мной хоча быць.

— Ну і дурань ты, Антон!.. Тут нешта не тое…

— Тое не тое, хто цяпер скажа… А калі б і сказаў, дык хіба лягчэй стала б? Яна ж прасіла мяне, маўляў, толькі скажы, з табой застануся. Казала, што не любы ён ёй.

— А ты не сказаў патрэбнага ёй і табе слова. І ёй не паверыў, і сабе. Як гэта так, калі любіў?

— Не, не сказаў… Не ведаю як. Можа, ад крыўды аслеп, ад знявагі. І па сёння, як падумаю, сляпым жыву.

— Значыць, з вялікім цяжарам па зямлі ходзіш.

— З вялікім. Іншы раз здаецца, што пад нагамі зямля прасядае… Але, каб жа толькі адзін такі цяжар на мне ляжаў. Ёсць яшчэ і іншы.

Іосіф замоўк, доўга маўчаў. Маўчаў і Архіп. Потым, уздыхнуўшы, сказаў:

— Я ж не думаю, што ты каго забіў.

— Аксціся, Архіпе! — пачуўшы гэта, ажно здрыгануўся Іосіф. — Я — не…

Зноў змоўк.

— Ну тады больш не кажы пра сябе нічога. Лягчэй будзе, — мовіў Архіп. — А то бывае выкажашся, а табе яшчэ горш.

Іосіф і так не сказаў бы ні пра сына, ні пра Марыю: навошта? Даўно ўжо няма Марыі. Магчыма, і Стаса ўжо няма. Арыштавалі ж яго, ведалі, што тварыў у вайну, хто ж такое даруе?

— Ведаеш што, — раптам прамовіў Архіп, — каб не ўнукі, дык сышоў бы я адсюль куды вочы глядзяць. Іншы раз так сэрца сцісне, калі гляджу на нявестку, што трываць немагчыма.

— Сысці можна, — сказаў Іосіф. — Можна і ў мех завязацца, каб нічога не чуць і не бачыць, а што з таго? Вочы не бачаць, вушы не чуюць, а думкі куды падзенеш? Душа ж, пакуль жывы — у целе. Ад сябе нідзе не схаваешся.

— Знаць, па сабе ведаеш…

— Можа, і па сабе, — няпэўна адказаў Іосіф.

Спачатку, як пачалася гаворка, Іосіф, разумеючы, што Архіп шукае ў яго спагады і як яму нялёгка, парываўся сказаць: «Паплылі да мяне. Пажывеш колькі захочаш. Можа, крыўда твая падзабудзецца, потым вернешся. Рыбу навучу цябе лавіць, грыбоў на зіму насушыш, унукам арэхаў назбіраеш».

Парываўся, але не сказаў, падумаў, што гэта было б глупствам. Не, не таму, што паказаў бы Архіпу таемныя шляхі да хутара, а таму, што паказаўшы, дзе знайшоў прыстанішча, быў бы вымушаны многае расказаць пра сябе. Можа, калі раскажа, у сабе насіць усё гэта цяжка. Іншы раз цяжар той хочацца выплеснуць. Не хацеў, каб Архіп у сваім горы хоць у думках па ягонай сцежцы пайшоў, можа, яшчэ больш пакручастай. Іосіф жа сышоў хоць і ад блізкіх людзей, але ад чужых, кроўна з ім не звязаных. А ён, Архіп, родных

пакіне. Ганьба на сыне будзе — бацьку зусім выгнаў, унукаў адцураўся. А што Архіп, калі сыдзе, назад ужо не вернецца, Іосіф не сумняваўся: сваім дараваць цяжэй, чым чужым. Крыўда на сваіх глыбока ўядаецца ў душу. Вытравіць яе цяжка.

Крыўдаваў Іосіф на гуднянцаў, але час ад часу адтаваў, думаў, як яны зараз жывуць… Напэўна, не ўсе з вайны вярнуліся. А хто вярнуўся, сваіх у жывых не заспеў, дык ці асеў на бацькоўскім або сваім котлішчы… А Надзін Іван?.. Не дай бог што, як яна з двума дзецьмі?..

Але вайна скончылася, людзям далей жыць трэба. Зразумела, што ўжо неяк адбудаваліся. Можа, яшчэ не ўсім хаты паставілі, дапамогі няма адкуль чакаць — рэзрух паўсюль быў. Але Каці хату пабудавалі, як і трэба. Удава, дзіцё нарадзіла. Затым, вядома, зладзілі жытло і Надзі. Потым ужо — Міколу, Міхею, а ў апошнюю чаргу Яўхіму. Той, які б жорсткі ні быў, а ў такой сітуацыі пра сябе ў апошнюю чаргу падумае. Хаця, калі вярнуліся ягоныя Нікадзім з Іванам, дык сваю хату павінны былі ставіць не марудзячы. Мужыкі, ім жаніцца трэба, ствараць сем'і. Вось толькі ў Гудзе дзевак няма, не самі звяліся, гэта, не раўнуючы, птушыны вывадак можа звесціся, а род чалавека калі і знікае, дык не па ягонай волі.

Да вайны былі дзяўчаты ў Гудзе, не столькі, як у Заброддзі, але былі. У Заброддзі хат было разы ў тры больш, чым у Гудзе. Вечарам забродзінскай вуліцай ідзеш, што ні лаўка — пад акном сядзяць нявесты. І паднявестачкі побач таўкуцца.

Ведаў, Яўхімавы хлопцы, як і большасць гуднянскіх, ад сваіх дзяўчат насы адварочвалі, да забродзенскіх бегалі, быццам яны прыгажэйшыя, а тыя хлопцы — да гэтых…

І Стас ягоны ў суседнюю вёску заглядваў. Каля Кечыкавай дзяўчыны таптаўся. Фарсісты, да носа без хвігі не лезь!.. Толькі тая ад яго адварочвалася. А ў вайну знікла. Напэўна, пайшла з бацькам у партызаны. Пасля пра яе не чутно было, хаця ў каго Іосіф мог спытаць, што з ёй здарылася.

Помніцца, неяк крычаў п'яны Стас, што калі зловіць дзе Кечыкаву Варку, дык накіне ёй на шыю вяроўку, прывядзе ў гарнізон, як тую цялушку, сябрукам на глум аддасць… Плявузгаў, але не злавіў…

Было, часта думаў Іосіф і пра сваю хату. Але каб не згарэла, напэўна, вяскоўцы, як паводка адкацілася, паглядзелі б, што яго і следу няма, зайшлі б у яе ды жылі, пакуль свае адбудавалі. Ён жа крычаў Яўхіму, як плыў да пагорка, што хата ягоная яшчэ цёплая, запрашаў у яе. Каб паслухалі ды адразу паплылі да яе, паспелі б патушыць — толькі агонь займаўся. Хаця не для іх яна, але нейкі час перабіцца ў ёй можна было б.

Не спатрэбілася ім хата. А вось лодка, безумоўна, спатрэбілася аднавяскоўцам. І зерне, і харч, што пакінуў у лодцы, вядома ж, не прапалі. І абраз ім пакінуў. Чаму абраз — ён і зараз не ведаў, дужа набожных там не было, а пакінуў. Не хацеў з ім у брудную ваду лезці? Дык у той міг ён яшчэ не ведаў, што ў ваду кінецца. Хаця помніцца адно, нібы з грудзей выштурхнулася, нібы хто падказаў: «Аддай ім…»

Аддаў. А сам, перад тым, як у ваду лезці, перахрысціўся — быццам хто нябачны ягонай рукой вадзіў.

Вада прыняла яго, не акалеў, хоць і холадна было, але даплыў да бору, выкараскаўся на сухое. Зняў з сябе цяжкую мокрую вопратку, выкруціў, апрануў, падаўся вышэй.

Ішоў і бачыў, што сярод цёмнага разліву палае ягоная хата, кідае трапяткія водсветы ў кірунку пагорка — вецер туды цягнуў. Бачыў у зарыве тры чала-

вечыя постаці каля хлява. Спачатку, як іх заўважыў, кідаліся ўзад-уперад па лапіку сушы, нібы ў пастцы, а потым сышліся разам, спыніліся, застылі на месцы.

Ён колькі часу стаяў, наглядаючы за тым, як гарыць ягоная хата, хлеў, паветка і, мабыць, стары збуцвелы куст бэзу — усё, што нажыў за сваё жыццё, больш у Іосіфа нічога не было. Наглядаў спакойна, разумеючы, што да таго моманту, пакуль не плюхнуўся ў ваду, ягоная сядзіба неяк усё ж трымала на гэтай зямлі. На той зямлі, на якой дзіцём праліў нямала і звычайных, і горкіх слёз (усялякае было нават пры добрай мачасе — чужыя крыўдзілі). На той зямлі, на якой пакахаў (а потым сам кахання свайго адцураўся, пасля чаго ўсё далейшае ягонае жыццё пайшло рыкашэтам). На той, якую потам паліваў, як хлебароб, якую разам з былым сябруком Яўхімам упрыгожваў чужымі хатамі, а сваёй так і не ўпрыгожыў, на зямлі, на якой павінен быў жыць у людской свядомасці звычайным чалавекам, а не тым, кім лічаць яго зараз…

Пакуль дагарыць, Іосіф глядзець не стаў. Зноў адышоў далей, туды, дзе было вышэй, дзе пачынаўся гушчар. Адсюль не было бачна ні пагорка, ні ягонай сядзібы, ахопленай полымем — толькі сполахі агню на небе…

Іосіф зноў спыніўся. Патрымаў на ветры рукі, каб высахлі. Затым у мігатлівай, падсвечанай месяцам цемры — дрэвы і дрэўцы можна было разлічыць — наламаў добрае бярэмя яловага сушняку, паставіў у зацішку шалашыкам. Потым развязаў сырычку, якой былі перацiснуты боты, дастаў з іх сухія анучы, а таксама сухія запалкі і крэмень і неўзабаве развёў невялікі касцёр.

Сушняк узяўся полымем добра, хутка ў яго можна было падкідваць трухлявыя карчы, якіх тут хапала, нават сырое голле. І яловыя лапкі, і голле бярозак, як толькі кідаў у касцёр, адразу ўспыхвалі, адкідваючы на тры-чатыры крокі ад агню цемру, асвятляючы каля Іосіфа мяккі мох.

Ён надраў моху, разаслаў каля кастра на такой адлегласці, каб не вельмі пякло. Затым кінуў наверх бярэмя беразняку — чым не пасцель!.. Але ўсё гэта добра, трэба было высушыць вопратку, бо пачыналі біць дрыжыкі, а захварэць зараз — пішы прапала… Хуценька ўваткнуў у зямлю ральцы, кінуў на іх перакладзіну, распрануўся, павесіў сушыць вопратку.

Вопратка высахла хутка, нідзе яе не прапаліў. Памацаў: гарачая, але апрануцца можна. Апрануўся, цела сціснула, адчуў у сярэдзіне пустату, стала лёгкалёгка, захацелася спаць…

Падкінуў у касцёр шыгалля, лёг на пасцель з моху і голля і імгненна заснуў…

Прачнуўся ён тады, здаецца, такою ж ранняй парою, як зараз, калі выбраўся з-пад стога. Толькі ў гэтую ноч не заснуў, а тады ўсяго за некалькі гадзін добра выспаўся каля кастра ў лесе.

Першае пра што падумаў, а што далей… У горад? А там куды? Зноў на станцыю? А што там?.. Той жа пыльны брудны вугальны склад, гэта ў тым выпадку, калі яму дадуць там катушок, а калі не?.. Дзе прыткнешся?.. А ўвогуле, ці не пустое думае? Яшчэ не вядома, ці возьмуць яго на працу, зараз шмат маладых, хоць і параненых, але здаравейшых вярнулася з фронту.

Успомніў, што некалі зімой, пакідаючы Гуду, каб сысці куды далей ад сваіх аднавяскоўцаў, меркаваў спыніцца або ў горадзе, або нават дзе ў якой лясной глухамані. У такой, каб недалёка была рэчка: змайструе які куранёк, рукі яшчэ моцна трымаюць сякеру, ды застанецца там — адзінота ўдалечыні ад людзей і будзе выратаваннем ад пакут…

«Ёсць такое месца! — успыхнула ў свядомасці. — Кашара! Пра яе некалі гаварыў Яўхім. Хутар без гаспадара… Туды, туды, гэтым берагам ракі… За

пару дзён зойдзе. І ведае, як перабрацца праз дрыгву. А раптам хутар сапраўды выратуе…»

І зараз Іосіф спяшаўся да хутара, на якім добра-такі прыжыўся за гэтыя гады як да таго месца, якое даўно ўжо схавала яго ад людзей. Сёння яму трэба было ратавацца і ад людзей, дакладней, ад тых успамінаў, якія выклікалі сустрэчы з імі, і адначасова ад сябе самога. Але не ад такога, якім быў яшчэ ўчора ранкам, да сустрэчы з Кацяй: рашучага, настроенага на бойку з Тэклінымі крыўдзіцелямі, можа, нават на смяротную, а быццам расціснутага ўспамінамі пра Гуду, яе людзей, пра Архіпа, які так нечакана пайшоў з жыцця…

У Кашару Іосіф дабраўся толькі вечарам. Чамусьці яго доўга ніхто не падбіраў. Давялося пракавыляць некалькі кіламетраў, перш чым спынілася спадарожная. Шафёр, малады хлопец, амаль зацягнуў яго знясіленага ў кабіну, давёз да патрэбнай дарогі. Там спыніўся, дапамог Іосіфу вылезці з машыны, а калі ён прызнаўся, што плаціць няма чым, шафёр раптам торкнуў яму ў руку некалькі рублёў: «Бяры, дзядзька, і ні пра што не думай».

Узяў машынальна. Вымавіў глуха: «Дзякуй за ўсё». Атрымалася, быццам прахрыпеў, быццам перасціснула горла. Павярнуўся, ткнуў пад левую паху мыліцу, цяжка затупаў па яшчэ цупкай тут каля шашы дарозе, што вяла да балота. Адышоў з дзясятак крокаў, як пачуў ззаду:

— Пачакайце, падвязу куды трэба!

Спыніўся, крутнуўся на месцы, ледзь не ўпаў, але ўтрымаўся, паглядзеў на шафёра. Малады, з-пад шапкі фарсіста выбіваецца непаслухмяны аўсяны чуб, а глядзіць на Іосіфа разгублена, пракашляўся, адказаў:

— Дзякуй, хлопча. Дабра табе і ўсім, хто ў цябе ёсць. Сам яшчэ не зломак дайсці. А дарога тут хутка канчаецца, ні праехаць ні прайсці. Толькі я яе ведаю. Сам праклаў. Праз балота, праз твань, праз багну. Дурнап'яну, багульніку там шмат…

Чаму сказаў пра багульнік, ад якога п'яніць галаву, ад якога, калі доўга знаходзішся сярод яго, быццам дурнееш, не ведаў. А тое, што сам праклаў тут свой шлях, праўда. Гэта раней, каб сплаваць у горад да Архіпа і назад, хадзіў да чоўна тым шляхам, які некалі праклаў гаспадар хутара і які потым Іосіфу падказаў Яўхім. Доўга хадзіў, звыкся з ім, ды так, што часам здавалася, што шлях гэты заўсёды быў ягоным. А калі пастарэў, калі адчуў, што сіл нестае плысці супраць цячэння, вырашыў пракласці сцежку да шашы праз гэтае, яшчэ больш гіблае балота. Раздумваў, як гэта зрабіць. І дадумаўся… А можа, успомніў некалі кімсьці са старых гуднянцаў сказанае: «Каб сцежкі тваёй для некага іншага не было, збі крок на крок дзве пляцовачкі, якія толькі цябе трымаць могуць. Збі хай з дошчачак, хай з жэрдачак, прынясі іх да багны, кінь на яе адну, другую ў руках трымай, ступі крок. Вытрымлівае цябе? Падзугайся крыху на ёй, пераканайся ў гэтым. Усё, як мае быць? Тады кідай наперад тую, што трымаеш, стань на яе. Стаіш? Падцягні заднюю, ды такім жа чынам наперад».

Здаецца, хітрага тут нічога няма. Але такая мясцовая «бясхітраснасць» аказваецца вякамі ратавала ад чужынцаў людзей, якія жылі каля балот і на балотах.

Даўно ўжо хадзіў Іосіф гэтым шляхам з Кашары да шашы і ад яе назад, хаваў у твані, прытоплівау дзве звязаныя між сабой пляцоўкі з жэрдачак, і заўсёды яны яго выручалі. Мала таго, як выцягнеш, след іх заплывае вадой, дык яшчэ, калі стомішся, пастаяць на іх можна, а то і пасядзець, паклаўшы адна на адну.

І зараз Іосіф ішоў гэтым сваім шляхам. Толькі цяпер ён быў вельмі цяжкі, адпачываць даводзілася часта і падоўгу. Пад канец ці то ад багульніку, ці то ад бяссоння і стомы моцна закружылася галава. Ледзь дайшоў да сухога. А дайшоўшы, нават не стаў як след хаваць пляцовачкі (хто сюды зойдзе?), пацягнуўся да хутара. Прыйшоўшы на хутар, паваліўся пластом на зямлю каля парога чужой хаты: «Што ж гэта за жыццё такое?!. Што ж гэта за лёс… Хутчэй бы сканаць, ды каб адразу, каб не валяцца, як палка, калі і вады ніхто не падасць…»

Доўга ляжаў на зямлі тварам да яшчэ высокага неба, у якім да захаду хілілася касматае сонца. Унутры ўсё кіпела. Незайздросны ад прыроды, зайздросціў Архіпу, якога так і не змог убачыць мёртвага, каб назаўжды развітацца з ім. Зайздросціў, што той ужо не пакутуе на гэтай зямлі, на якой пакутуе ён.

Зайздросціў і Тэклюшцы: памерла, так і не зразумеўшы, што памерла. Мне б так… Але трэба яшчэ пачакаць, ёсць у яго справа на гэтым свеце, ёсць!.. Злосная яна, жахлівая, але ён павінен яе здзейсніць. Тэклі гэта ўжо не трэба, ды і прасіла не помсціць. Не, помсціць ён не будзе. Па сабе ведае, што такое помста — апошняя рэч… Ён проста зробіць усё, што зможа, каб іншыя гаротныя людзі не траплялі ў тую пастку, у якую трапіла Тэкля ўжо ў горадзе.

Не, у міліцыю ён не пойдзе, каб расказаць пра хеўру, якая прыгнятае жабракоў. Наўрад ці павераць, што такое можа быць. Спытаюць, хто такі, адкуль такія звесткі, ды пакажы дакументы…

Дакументаў няма, а ўсё адно дазнаюцца, што Іосіф Кучынскі з вёскі Гуда, бацька здрадніка. Зноў жа, дзе ты хаваешся столькі гадоў?.. Што робіш?.. На якія сродкі жывеш?..

Што ён на гэта скажа? Усё як ёсць, ды што беглую хаваў?

Не, міліцыя яму не патрэбна. Яшчэ арыштуюць, прыпішуць паклёп на сумленную грамадзянку — а раптам у яе з кім з міліцыянераў хаўрус?

А калі арыштуюць, тады ён задуманае не здзейсніць. І нават калі выпусцяць, дык прасочаць, куды пойдзе, заявяцца ў Кашару, учыняць вобыск, чаго добрага, можа, нават знішчаць хутар па ягонай віне. А гэта ж не Іосіфава сядзіба і не яго там жытло — яшчэ адзін грэх ляжа на Іосіфаву душу. Не, яму трэба дзейнічаць самому. Ён сам павінен знішчыць тое логава, у якое тут, на сваёй зямлі, трапіла Тэкля, прайшоўшы паўсвету.

…А трапіла Тэкля ў гэтую пастку ў першы ж дзень, як дабралася да горада. А за некалькі дзён да гэтага яе надта ж знясіленую, з распухлымі, пабітымі болькамі нагамі падабрала адна жанчына. Было гэта недзе ў Расіі, бліжэй да Беларусі, калі прайшла большую частку шляху, на які патраціла амаль год.

Стан у Тэклі быў ужо такі, што хацелася легчы пад які куст ці яшчэ куды, заснуць і не прачнуцца…

Вечар заспеў яе недалёка ад нейкай вёскі, якая месцілася пры чыгунцы, пры невялікай станцыі. Перад гэтым ішла яна ўздоўж чыгункі на захад, ведаючы, што зямля яе там, дзе садзіцца сонца, і ўбачыўшы вёску, збочыла, зайшла ў пералесачак, павалілася пад куст. Тут яе і знайшла нейкая старая, якая вяла з пашы казу.

Падняла, нічога не пытаючы, падтрымліваючы пад паху павяла да сябе ў хацінку на ўскраіне селішча. А прывёўшы, таксама нічога не пытаючы, спачатку накарміла, потым прымусіла скінуць лахманы, пасадзіла, як малую, у драўляныя начоўкі, вымыла, змазала нейкай маззю струпы на нагах, апранула ў чыстую, мабыць, сваю бялізну ды выправіла спаць на ложак пры печы. А побач на лаўку паклала сукенку, лапленую плюшаўку, цяжкую вязаную

хустку, паставіла на падлогу буркі ў чунях. Падала ў маленькім шкляным слоіку тую мазь, мовіла:

— Калі ідзеш, то дойдзеш. Гэтай маззю ногі будзеш мазаць ранкам і вечарам. Яна з травы маладзіла і свінога сала. Калі там, куды ідзеш, трава гэта ёсць, бяры яе свежую, разатры свіным салам і змазвай раны. Калі не — прыкладвай трыпутнік. Але, я думаю, маёй мазі хопіць раны твае зажывіць, — памаўчала і дадала. — У дарозе пор года няма — усё халоднае прадвесне…

Што гэтыя словы азначалі, Тэкля пасля зразумела: ідзеш, а ўсё холадна, пакуль не дойдзеш туды, куды трэба.

Казала Тэкля, што лежачы ў ложку на мяккай пуховай падушцы, накрытая чыстай даматканай посцілкай, яна ўпершыню з таго часу, як выслалі, адчула чужую хату як сваю.

Ляжала ў ложку і бачыла, як пры агарку свечкі з усіх куткоў гэтай нізенькай хаткі глядзяць на яе абразы. І былі яны не такія, як у нас (у нас намаляваныя на паперы), а тут — на нечым груваcткім, напэўна, на дошках, у цёмных металічных акладах. Бачыла, што перад імі стаіць на каленях старая і бязгучна моліцца на нейкай невядомай Тэклі мове.

І раптам старая павярнулася да яе, спытала, як завуць. Адказала Тэкля, а далей чула, што сярод незразумелых ёй слоў гаспадыня хаткі час ад часу паўтарала яе імя…

Калі старая скончыла маліцца, Тэкля не ўтрымалася, прамовіла:

— Вы маліліся і за мяне, але ж я, мусіць, не вашай веры. Я не бачыла, як вы хрысціліся, у нас справа налева і трыма пальцамі. Можа, вам нельга мне дапамагаць…

Тэкля думала, што бабулька будзе пытаць, а якая ж вера ў яе, але пачула зусім іншае:

— Даўно я жыву на гэтым свеце. Усякае бачыла. І людзей рознай веры бачыла. Толькі няма такой веры, якая забараняла б дапамагчы чалавеку. Вера ж праз людзей трымаецца. Так што, мая ты жанчынка, трымайся той веры, якая ў цябе ёсць. А калі не прыйшла да яе, веры сваёй, у чалавека вер і праз яго веру сваю знайдзі.

— Цётка, — сказала Тэкля, — а як можна ў чалавека верыць, калі ў іншым столькі злосці, што незразумела, як яго зямля трымае? Як распазнаць у ім веру?

— Пытаеш, як распазнаць… Адкажу, як ведаю.Той, у каго твая ці мая вера жыве, ці яшчэ якая, але трывалая, зла рабіць не будзе. Можна хрысціцца, маліцца, а веры не мець. Вера там, дзе дабро. Дабро і ёсць вера, я так разумею, мяне так бацькі вучылі. Мы чужымі сюды прыйшлі, я маленькая была, не помню. Бяда нейкая нас сюды прывяла. А бацькі казалі, што туташнія людзі нас, чужаверцаў, прынялі як сваіх. Чужаверка ты тут ці не, мяне не цікавіць. Пакутніца ты.

— Чаму? — спытала Тэкля.

— Ногі аб чужую зямлю толькі пакутнікі стоптваюць. І гаворка ў цябе не тутэйшая, як і ў мяне. Словы па туташняму быццам добра мовіш, але ад іх нібы аскабалачкі адлятаюць.

Прызналася тады Тэкля старой, хто яна, адкуль ідзе, куды…

— Не з цяжкім сэрцам да людзей пайшла, — сказала старая.

— Скуль ведаеце, цётка? — здзівілася Тэкля. — Пайшла, ні на каго зла не трымала — лёс мой такі, але дужа баялася, што і муж дагоніць, як муху прыхлопне, і хто-небудзь выдасць, верне. У нас жа на высылцы казалі, што таму, хто пакажа, дзе беглы, грошы даюць. А ёсць такія людзі, што за грошы чалавека не тое што выдадуць, а знішчаць.

— Было, ёсць і будзе, — сказала старая. — Колькі род людскі будзе. Толькі тут трэба ведаць, што не лёс гэта — чалавека прадаць, і не вера, а душэўная чарната і нявер'е. А ты са страхам, але з дабром ішла, нікога ні ў чым не дакарала.

— Але, — сказала Тэкля. — І нідзе нічога чужога не брала. Жывілася тым, што людзі давалі, як вы зараз. Калі прасіла, калі самі давалі, мабыць, разумеючы, што мне нялёгка. А было, адпрэчвалі, з апаскай глядзелі. Не злавала за гэта: хто я ім…

— Усе мы браты і сёстры, — сказала старая. — Як супастат прыйшоў, дык той, хто і цябе ад тваёй зямлі адарваў, хто, крый божа, сколькі людзей змардаваў, знішчыў, сагнаў з гнёздаў сваіх да ўсіх звярнуўся гэтымі словамі: «Братья и сестры…» Не думаю, што апомніўся за грахі свае. Думаю, што зразумеў, чым з'яднаць людзей з рознымі верамі, з рознымі мовамі перад антыхрыстам, які на род людскі пасягнуў, на землі іхнія. І не дзеля яго, грэшніка, ядналіся, а дзеля жыцця.

Сказала Тэкля, што дужа мудрона ўсё гэта для яе, многае тут незразумела. Адказала старая, што спярша трэба нешта душой адчуць, а разуменне потым прыйдзе…

Больш старая ёй нічога не гаварыла. І Тэкля ў яе ні аб чым не пытала. Адно помніла: з дабром ідзеш… З дабром то з дабром, толькі Тэкля на гэтым сваім шляху ні ў чым нікому не дапамагла. Адно, дадуць нешта, пакажуць дарогу на захад, дзе зямля яе родная, паклоніцца, падзякуе. Не дадуць, таксама не злуе, пойдзе далей ды падумае, як некалі маці вучыла: «Скажы моўчкі, калі ад чалавека ідзеш: дабра табе…» І казала, у думках, і тады лягчэй крыўду было трываць… А як трывала, дык думала: крыўдаваць на каго і за што?.. Тваё жыццё, ты сама яго і ладзіла. А што саслалі, дык гэта ж не людзі рабілі, улада, а людзі толькі выконвалі тое, што яна патрабавала...

Праз некалькі дзён, адчуўшы сябе лепш, Тэкля сказала, што ёй трэба ісці. Старая не адгаворвала, сабрала ёй хатулёк, узяла за абразамі нейкі вузельчык ды адвяла Тэклю на станцыю. Знайшла нейкі таварняк, які ішоў у Беларусь. Знайшла і ягонага начальніка. Гэта быў кругленькі мужчынка. Паважны. Апрануты ў дыяганалевае вайсковае афіцэрскае велікаватае для яго галіфэ, у дабротны чорны суконны пінжак. На галаве — форменная фуражка, на нагах — блішчастыя, халявы «гармонікам» — хромавыя боты.

Паглядзела на яго старая, моўчкі адвяла ўбок, доўга яму нешта казала, потым паківала галавой, развязала ражок хусткі і торкнула ў папульхную руку тое, што ўзяла з-за іконы.

А праз двое сутак давёз таварняк Тэклю, яна ехала адна ў нейкай будцы на платформе, у Беларусь, у патрэбны ёй горад, які яна назвала мужчынку, калі ён пасля размовы са старой падышоў да яе і спытаў, куды трэба ехаць…

Вось тут на сваёй зямлі, у гэтым горадзе, недалёка ад роднай вёскі — у маладыя гады за дзень з сяброўкамі спраўлялася схадзіць сюды і назад — пачаліся новыя Тэкліны пакуты. Сышла з цягніка, агледзелася, здаецца, з гэтай і не гэтай станцыі ў высылку везлі. Па назве — з гэтай. Вунь яна, над дзвярамі ў той жа нізенькі шэры цагляны будынак з двума вузенькімі акенцамі з аднаго боку і з двума з другога: «Дубасна», як раку яе родную завуць…

А далей — гарадскія будынкі. Усё цагляныя, чырвоныя, у некалькі павер-хаў. Раней тут былі звычайныя драўляныя хаты з невялікімі агародзікамі за дашчатымі платамі, дзе высокімі, у рост чалавека, шчыльнымі, а дзе нізенькімі, як для прыліку.

Людзей шмат, снуюць туды-сюды, падводы, машыны, легкавыя, а больш грузавікі, на пуцях паравозы, вагоны, платформы.

Зашчымела сэрца ў Тэклі: куды ж мне падацца? Дамоў нельга. Адразу ў сельсавет пацягнуць, пачнуць распытваць, пытаць дакументы. А што яна ім пакажа?.. Ды і дома яе бацькоўскага, старэнькага, у засені ліпняку, напэўна, даўно ўжо няма. І бацькі, мабыць, памерлі — перад высылкай ледзь хадзілі, старыя былі, нямоглыя, і сувязі з імі ў яе не было ніякай.

А Аўдзеевага дома, што ў Дубасне купіў? Дык жа яго забралі. Ды і вайна…

Не, дадому Тэклі ходу не было. Тады чаму ўцякала, на што разлічвала?..

Уцякала, бо жыць на чужыне не магла, ды Аўдзей забіваў. Хацелася на сваёй зямлі памерці, а перад гэтым Іосіфа ўбачыць… Навошта? Ды шмат што перадумала пра сябе і яго і ў ссылцы, і як сюды ішла.

Успомніла, што яшчэ задоўга да высылкі ў горадзе жыла яе сяброўка па маладосці Варка. Разам у дзеўках гулялі. Разам у горад хадзілі. Смелая, адчайная была дзяўчына. Аднойчы ў горадзе і засталася. Прыляпілася да нейкіх людзей у найміткі. Пабыла без году тыдзень, прыехала ў вёску ў туфлях-лодачках, у сукенцы да калень, вусны нафарбаваныя і вейкі — таксама. Прыйшла на вячоркі, на хлопцаў не глядзіць, гаворыць на гарадскі капыл ды ўсё: «Ой, дзевачкі…» Ойкала-войкала, ды нарэшце і выдала: «Ой, дзевачкі, як села я з ім на лошаць, так і папёрлася кабыла…»

Хлопцы ў рогат, нехта даў гарманісту грошы, той зайграў нейкі марш, пад які вывелі сяброўку з хаты, у якой былі вячоркі.

Усе смяяліся з Варкі, а Тэкля супакойвала, сама з вячорак пайшла, не пакінула адну сяброўку…

А потым Варка замуж выйшла за таго, з якім села на «лошадзь» і «папёрлася кабыла». Харошы ён быў чалавек, намнога старэйшы за Варку, але даражыў ёй, Тэкля гэта бачыла, была колькі разоў у яго хаце каля базару. Абыходлівы, з Тэкляй на «вы», а да Варкі: «Дарагая…»

Рашыла да базару пайсці, можа, Варку ўбачыць, ведала, дзе яе хата. А што? Будзе хадзіць па вуліцы каля двара, раптам заўважыць Варку і тая пазнае яе, дапаможа. А не, дык не… Тады будзе бачна, што далей рабіць…

Прыйшла да базару. Базар пазнала, а хаты Варчынай няма. Наогул, няма вакол яго, як раней было, хат — усё цагляныя пабудовы.

Патапталася па базары, яшчэ больш людным, як у тыя часы, калі бывала тут, есці хочацца. Хатулёк з хлебам, брусочкам сала, некалькімі яйкамі і маззю, які старая дала ў дарогу, на нейкай станцыі, і паўдня не праехалі, той чалавечак, што на поезд садзіў, забраў. Забраў, знік, калі яна апамяталася: «А як жа без мазі?» Поезд крануўся, дзе ты яго шукаць будзеш... Стала каля варот як жабрачка, чакаючы, што нешта ж людзі пададуць — шмат дзе гэтым ратавалася. Нядоўга стаяла, нешта далі, падышоў да яе гэткі мацачок чарнявы, бліснуў вачыма, нядобра спытаў:

— Хто ты такая? Цябе хто сюды паставіў?

Ледзь не абмерла Тэкля: усё, скончыўся мой шлях, сыскалі, назад павяжуць…

Здаецца, прастагнала:

— Ніхто, сама стала.

— Тады пайшлі са мной. Ідзі ціха, не крычы, а то зяпу мігам заткну!.. Адкуль будзеш? Даведка ёсць?

Пайшла моўчкі. Няма ў яе даведкі, што вызвалілі, чула, такія даюць тым, хто турэмны тэрмін адбыў, а якую даюць раскулачаным і ці даюць, не ведала. А што беглая, мабыць, бачна: пачатак лета, а ў яе на нагах буркі ў чунях, вопратка хоць і чыстая, але лапленая, сама ледзь пляцецца.

Ішла побач з мацаком, моўчкі слязьмі аблівалася, не баялася, што біць будуць, дапытваючыся, хто дапамагаў: хай бюць, стогну не пачуюць… Крыўдна было: столькі прайсці, амаль дадому дабрацца і — назад…

Хацела пад якую машыну кінуцца, пра грэх самагубцы не думала, баялася, што з-за яе пакутаваць будзе якісьці невінаваты чалавек. Вось каб праз рэчку вёў, тады яна з моста — уніз галавой: прымай, родная рака-рэчанька…

А ён і вёў яе ўніз, на ўскраіну горада, туды, дзе Дубасна.

Не суджана ёй было кінуцца ў цёмныя воды, мабыць, суджана было іншае — далей пакутаваць…

І яна пакутавала амаль два месяцы, пакуль яе і не ўбачыў Іосіф. Яна трапіла ў рукі нейкіх злых людзей. Тыя ведалі, што Тэкля ва ўлад рады шукаць не будзе — беглая. Яны трымалі яе ў нейкім хляве на ўскраіне горада, на ноч давалі кавалак хлеба, раніцой адпраўлялі на базар жабраваць, а потым забіралі сабе ўсё, што ёй давалі людзі.

Тэкля заўсёды стаяла на адным і тым жа месцы і, як разумела, жабракі каля базару, а гэта былі двое мужчын, таксама «працуюць» на тых, хто яе паланіў. Здагадалася аднойчы, калі праз шчыліны ў хляве ўбачыла, як у двор зайшла разам з мацаком нейкая мажная жанчына і як ён ліслліва таптаўся каля яе. Пачула, як сказала: «Спытай, ці ёсць у яе знаёмыя ў горадзе, ды настрага забарані сустракацца з астатнімі». Таксама зразумела, што жанчына гэтая не простая, што яна ўсім верхаводзіць...

## 4

Тады, два гады таму, як гэта здарылася, Іосіфу снілася вада. Не тая вялікая, брудная, якая да таго, пакуль зладзілі дамбу кожную вясну залівала Гуду і якую прыносіла Дубасна, а такая вялікая, якую ён ніколі не бачыў у жыцці — канца краю не відаць…

Снілася, быццам стаіць ён на беражку ці нейкім адрэзку сушы, глядзіць удалячынь, а там вада сыходзіцца з небам. Значыць, перад ім мора, якога ён ніколі не бачыў, але пра якое некалі чуў ад бывалых вяскоўцаў, маўляў, бяскрайняе яно…

Увогуле вада часта снілася Іосіфу. Ведаў, што гэта азначае, калі сніцца вада. У сне бачыш яе чыстую, дык як казалі даўней, чакай дабра. Калі ж брудную — бяды, у лепшым выпадку непрыемнасці. Калі ж вада празрыстая ды ручаёвая — нечаканая радасная сустрэча.

Якая была вада, чыстая ці брудная, Іосіф, як прачнуўся, не помніў. Але, здаецца, сярод гэтай вады ён бачыў Архіпа, які бег па ёй усё далей і далей ад таго беражка, на якім стаяў Іосіф. Адкуль ён тут з'явіўся, як прашмыгнуў паўз яго, Іосіф не памятаў. Але заўважыўшы Архіпа, крычаў яму, каб вяртаўся назад, ведаючы, што той не ўмее плаваць і не чуў свайго голасу.

Іосіф махаў яму рукамі, але Архіп не бачыў яго і ўсё бег і бег туды, дзе вада сыходзілася з небам. І калі Архіп ужо быў амаль ля самага далягляду, адтуль, дзе цёмна-сіняя вада сыходзілася з залацістым нябесным мроівам, выплыла нейкая постаць. Яна плыла над вадой, кіравалася да Іосіфа.

Здаля постаць была падобна на вялікую птушку, толькі замест крылаў — рукі…

Іосіф ужо не бачыў Архіпа, уважліва сачыў за постаццю, што набліжалася да яго… І вось яна ўжо зусім блізка: заўважыў, што гэта дзяўчына, маладая, прыгожая, але чамусьці не мог разлічыць рысаў яе твару. І тады ён раптам

адчуў сябе маладым, узмахнуў рукамі, узвіўся над вадой насустрач дзяўчыне і… прачнуўся.

Прадчуванне было нядобрае: няўжо Архіп захварэў? У апошні час ён скардзіўся на сэрца.

Іосіф, не чакаючы, калі развіднее, нічога не прыхапіўшы з сабой, выйшаў з сенцаў і накіраваўся да таго месца ў затоцы каля ракі, дзе хаваў човен.

Сеў у яго, выплыў на рачны струмень. Развіднела. Струмень сярод ракі быў падобны на вялізную жоўта-белую касу. Перад доўгім носам чоўна яна, здавалася, бязладна перапляталася, далёка цягнулася наперад. Трымаючыся на стрыжні, Іосіф скіраваў човен па цячэнні — да горада!

Ён плыў і, як заўсёды, калі спяшаешся, здаецца, час цягнуўся марудна. Можа, не столькі час, як доўгім здаваўся шлях.

Іосіф думаў толькі аб адным: што ж магло здарыцца з Архіпам, калі ён так прысніўся?.. Захварэў, хто яго пакрыўдзіў, ці не дай бог…

Дапускаць можна было ўсё, акрамя апошняга…

Калі занядужаў, дык хоць і жыве асобна ад сына, нявесткі і ўнукаў, а на дапамогу прыйдуць. Як ведаў Іосіф, Архіп, перабраўшыся жыць у лазню, з сынавай сям’ёй не пасварыўся — вырашыў чалавек жыць асобна, каб нікому не перашкаджаць, ды толькі.

Успаміналася, як неяк Архіп казаў Іосіфу: «Прыплывеш раптам да мяне, калі не дамаўляліся, не заспееш на месцы, дык ці чакай, ці на ідзі на базар. Там мяне ўсе ведаюць. Спытаеш, дзе Архіпа-гандляра знайсці, пакажуць. Бывае, я там забаўлюся. А ісці трэба вуліцай паўз мой двор (паказваў рукой у кірунку сядзібы на пагорку) і нідзе не зварочваць. Вуліца цябе і давядзе да варот на базар. Не зблудзіш. Калі што — у людзей спытай».

Прыплыў Іосіф да прыгарада. Скіраваў човен да вольхі. Прывязаў яго, заспяшаўся да лазні — на дзвярах замок. Раней жа замка не было — драўляны штырок на клямцы.

Ледзь стрымаўся Іосіф, каб не застагнаць: няўжо адсюль вытурылі?.. Няўжо нехта пазарыўся на гэтае Архіпава прыстанішча?.. У каго спытаць, хто адкажа?..

Вырашыў ісці на базар, а раптам Архіп там. Можа, сам замок начапіў, каб ніхто староннi не лез…

Мяжою падняўся Іосіф да Архіпавага падворка і раптам спыніўся, як укапаны: насупраць варот стаптана зямля. А на ёй ад варот па вуліцы праз крок — яловыя лапкі ды ашмоткі дзеразы…

Усё, няма Архіпа… Няма таго адзінага чалавека, які хоць як звязваў Іосіфа з людскім светам… Няма таго, з вуснаў якога чуў чалавечую мову і да якога сам звяртаўся на ёй, а так, напэўна, забыў бы, як словы наогул гучаць… Няма сябра ягонай, Іосіфавай старасці. Як жа адзінока зараз на зямлі… І як жа горка — свайго сапраўднага імя Архіпу Іосіф так і не сказаў…

Іосіф не помніў, колькі часу стаяў нічога не бачачы і не чуючы вакол сябе. Апамятаўся, як пагляд слізгануў далей па зямлі, спыніўся на расціснутым нейчымі ботамі завялым букецiку лугавых кветак: лілова-ружовыя мацярдушкі на шэрым. Ён падняў паламаны букецік. Заўважыў, што на сцяблінкі і кветкачкі наліплі камячкі зямлі. Не атрасаючы, асцярожна паклаў кветкі за пазуху і рушыў да базара. Прайшоў колькі крокаў, пачуў:

— Бачу, Архіпа шукаў.

Спыніўся. Да яго падыходзіў пажылы мужчына.

— Яго. А што? — не зразумеў Іосіф.

— Я яго сусед, — сказаў той і падаў руку.

Іосіф пацiснуў. Моцная.

— Я пры Архіпе быў, як ён паміраў. А мог жа яшчэ жыць ды жыць!..

— А што здарылася? — ажно жахнуўся Іосіф, пачуўшы такое. — Сам?..

— Лічы, што так. Хлопцы, гэтакія вісусы, з дзеўкамі на лодцы каталіся. Жартавалі, дзяўчат палохалі — лодку разгайдалі, а яна і перакулілася. Дзеўкі — у ваду, гвалт паднялі: «Топімся!.. Ратуйце!..»

Архіп тым часам з унучачкай быў на беразе, бачыў гэта і чуў, у ваду кінуўся.

— Дык ён жа не ўмеў плаваць! — амаль закрычаў Іосіф.

— Не ўмеў, — пацвердзіў мужчына. — А вады там — па горла. Мабыць, жарабцы тыя гэта ведалі, усё рагаталі, пакуль дзяўчаты самаго Архіпа на бераг не выцягнулі. А на беразе ўнучачка ад страху за дзядулю ажно заходзілася ў плачы.

Паклалі Архіпа на зямлю, а ён за сэрца схапіўся: «Паміраю…»

Унучачка ў крык: «Дзеда, дзеда…»

Нявестка прыбегла, у хату Архіпа панеслі, потым нехта з хлопцаў па доктара кінуўся, а гэта ажно за базар. Там паліклініка. Пакуль туды-сюды, Архіп папрасіў, каб я прыйшоў. Унучачка мяне пазвала, якраз дома быў. Прыбягаю, думаў, што ж Архіп мне такое скажа?.. А ён прасіў, каб я падпільнаваў, як прыйдзеш, ды сказаў табе, каб ты бярогся, што дужа за цябе баіцца: як адзін будзеш… Прасіў, каб я трымаў з табой сувязь. Мы ж з Архіпам змалку жывём па-суседску. Дужа не сябравалі, але жылі ладам.

— Нешта ж раней я цябе каля яго не бачыў, — сказаў Іосіф.

— Затое я цябе з ім бачыў. У вас з ім сваё было, у мяне сваё. Таму і не бачыў. А ўвогуле, я да яго ў лазню, дзе ён жыў, не хадзіў. Тут я яго не падтрымліваў — навошта было ісці са сваёй хаты?

— Ну, гэта я не ведаю.

— Ты на базар?

— На базар, — сказаў Іосіф, хоць на базары яму не было чаго рабіць. Вырашыў, пайду далей ад гэтага чалавека. Хоць і руку падаў, але нейкі чужы, не сыдземся з ім, розныя мы.

— Ну то ідзі. А потым, калі хочаш, заходзь да мяне. Вунь мая хата, — мужчына паказаў на невялікую хатку, дамы праз тры ад Архіпавай. — Словам, заходзь, як будзеш мець патрэбу, сёння дык сёння. А не — калі хочаш. Бачу, табе зараз не да мяне.

Іосіф няпэўна кіўнуў галавой, быццам згаджаючыся, што яму сапраўды не да гэтага незнаёмца, які, калі яму верыць, блізка знаўся з Архіпам. Хацеў пайсці, але незнаёмец затрымаў яго:

— Мяне Рыгорам завуць, а то…

Іосіф кіўнуў галавой: Рыгорам, дык Рыгорам. І запрашае, маўляў, калі хочаш — заходзь…

Ды не хачу!.. І як мог Архіп сябраваць з такім? Яны ж вельмі розныя. Але, бач, паміраючы, пра Іосіфа думаў, перажываў, як яму без яго будзе.

Іосіф не памятае, як прыйшоў на базар — вуліца прывяла. Была яна не вельмі шумная, звычайная вуліца невялікага горада. Па яе бруку час ад часу тарабанілі фурманкі, ехалі грузавікі, ішлі людзі… Здаецца, ногі самі прынеслі яго да варот на базар, высокіх, металічных, наверсе якіх паўкругам было напісана: «КОЛХОЗНЫЙ РЫНОК».

Іосіф зайшоў у вароты і скалануўся: прама перад ім, за два крокі, не больш, стаяла жабрачка. Была яна босая. Ступні ног распухлыя, быццам рас-

таптаныя лапці, пальцы скурчаныя. Каля ног — палатняны мяшэчак, у якім ляжала колькі капеек.

Малюнак быў жудасны: жанчына-жабрачка… Апранутая ў лахманы, якія добры гаспадар кідае ў сабачую будку…

Іосіф падняў вочы, каб глянуць бедалазе ў твар, і скалануўся: васільковыя, нявыцвілыя вочы, тыя вочы, якія, здаецца, даўно ўжо забыў, з’явіліся перад ім… І воблік, некалі самы дарагі на свеце, успыхнуў перад ім з-за глыбокіх маршчын абветранага твару — яе, малады светлы Тэклін твар…

— Тэкля! — прастагнаў ён і кінуўся да жабрачкі.

— Я, я, Восіпка, — сасмяглымі вуснамі ледзь вымавіла яна і, не ўтрымаўшыся на нагах, пачала асядаць на зямлю.

Ён тады яшчэ не такі слабы, як цяпер, падхапіў яе пад пахі, утрымаў на нагах, уткнуўся тварам ёй у плячо, зашаптаў:

— Колькі ж я гадоў цябе чакаў, Тэклюшка…

— І я таксама, — прастагнала яна, затым, быццам апомніўшыся выдыхнула: — Ратуй, беглая я…

**5**

У той жа дзень, калі ўжо добра звечарэла, Іосіф прывёз Тэклю ў Кашару…

А ў той міг на базары, калі яна мовіла: «Ратуй, беглая я…», Іосіф раптам адчуў у сабе, старым, такую ўспышку сілы, якой, здаецца, не адчуваў нават у маладыя гады. І не тое, што не адчуваў, а нават не ведаў, не падазраваў, што такая можа быць.

Іосіф падтрымліваў Тэклю, паклаўшы галаву ёй на плячо. Ён быў настолькі ўпэўнены ў сабе, што калі б зараз нейкі волат паспрабаваў бы адарваць яе ад яго, то нічога ў таго не атрымалася б. І ўвогуле, хай бы толькі хто пасягнуў на ягоную Тэклю, дык Іосіф, які ніколі, нават хлопчыкам, юнаком, мужчынам не біўся (што са Стасам тузаўся, у разлік не бяром), накінуўся б на таго коршакам, учапіўся ў глотку, пераціснуў яе і не адпусціў бы да таго часу, пакуль не сканалі б абое.

Напэўна Тэкля, калі ён трымаў яе на руках, адчула гэта, яна авалодала сабой, больш-менш упэўнена стала на ногі, папрасіла:

— Пайшлі адсюль. Вядзі мяне пад руку. Моцна трымай і не аглядвайся. Потым скажу, потым.

Нічога не пытаючы, моцна трымаючы Тэклю пад руку, павёў яе з базару. Тэкля нават не ўзяла мяшэчак з медзякамі, ціха паўтарала: «Хутчэй, хутчэй…»

Спачатку яны ішлі па цупкім, убітым мноствам чалавечых ног, гладкім, што ток, тратуары. Ішлі ўніз да ракі, туды, дзе ён пакінуў свой човен. Потым гладкае скончылася. Выйшлі на брук і Тэкля, ступаючы па ім, з кожным крокам уздрыгвала, быццам ступала на тоўчанае шкло. Ішлі, і хоць яна казала, каб не аглядваўся, Іосіф час ад часу паглядаў назад — нічога падазронага там не было бачна: ходзяць па вуліцы звычайныя людзі. (Ведаў, калі яна беглая, то трэба апасацца міліцыі, а міліцыі тут не было.)

Іосіф паспакайнеў, сказаў, што трэба спыніцца, што ён здыме свае боты, у яго там анучы, абуе яе.

— Не трэба, потым, потым, — казала яна, — хутчэй, хутчэй…

Яны і так ішлі як маглі хутка і праз нейкі час ужо мінулі Архіпаву лазню, спусціліся ярка-зялёнай лугавінкай у лілова-чырвоных мацярдушках да Іосіфавага чоўна.

— Хутчэй! — раптам амаль закрычала Тэкля, паказваючы рукой на пагорак.

Іосіф пасадзіў яе ў човен, адарваў старую, напалову перацёртую вяроўчыну, якой ён быў прывязаны да вольхі, адпіхнуўся шастом ад берага, заўважыў, што там, куды паказвала Тэкля, стаяў мужчына і пазіраў сюды.

— Не бойся, гэта Рыгор, — паспрабаваў супакоіць яе Іосіф. — Ён сябраваў з Архіпам, маім добрым знаёмым, які жыў у гэтай лазні і нядаўна памёр.

— А… — прастагнала Тэкля, — а я ўжо думала, што за мной гоняцца.

Ужо як заплылі ў лес, у чоўне (добра, што не паленаваўся выдзеўбці доўгі), Тэкля сказала, што да горада дабралася пад канец вясны. А як дабралася, прайшоўшы, можа, больш чым паўсвету, стаптаўшы ногі, знясілеўшы, пабаялася ісці дадому, у вёску — як раскулачвалі, ніхто за яе не заступіўся. Дык ці мала што можа быць?..

Ішла па свеце, таксама баялася, што затрымаюць або хто выдасць міліцыі. Апасалася, што вернуць на высылку, пачнуць дапытваць, як магла без дазволу пакінуць пасяленне, хто дапамагаў… Баялася, а ўсё адно ішла. А як да сваёй зямлі дайшла, дык яшчэ больш стала баяцца. Думала, калі схопяць, дык навошта былі ўсе тыя пакуты, праз якія прайшла?

— Хапіла табе, — сказаў ён.

— Хапіла. Адна не выжыла б. Дзе ішла там людзі і дапамагалі. Нават там, дзе за беглых плацілі, калі выдасі.

— А Аўдзей як? — раптам спытаў ён.

— Аўдзей? — нібы здзівілася яна. — Аўдзей там застаўся. Я ўцякла і ад яго. Ноччу выйшла. Тайгой прабіралася, берагам ракі. А тайга, гэта такі лес, дзе чалавека рэдка сустрэнеш, часцей звера. Толькі звера я не так баялася, як іншага чалавека. Звер што, яго не чапай, абыходзь, не бяжы, ды як раптам выйдзе на цябе, не кране. Ён за табой, асабліва летам, калі сыты, паляваць не будзе. А іншы чалавек, калі што ўдумае, калі яму за гэта яшчэ грошы хто паабяцае, ні перад чым не ўтрымаецца, а сваё зробіць. Не паглядзіць, жанчына ты ці дзіця… Аўдзей жа, калі аднойчы я заікнулася, што сыду, прыгразіў: «З-пад зямлі дастану! Жывой не пакіну. У тайзе стрэльба далёка цэліць…» Ну я і стаілася. Доўга трывала. А аднойчы рашылася: вырвуся адтуль, дык вырвуся. А не — дык не… І пайшла. Не магла я дажыцца да такога, каб у чужую зямлю легчы — свая ж ёсць. І не магла я памерці, цябе не ўбачыўшы, ды не сказаць, што сілай мяне зганьбаваў Аўдзей. Я ж цябе, Восіпка, дужа любіла. Таму і пакуты мае. Але скажу табе, што самі па сабе пакуты не страшныя. Любое сцярпець можна. Страшныя яна тады, калі ад крыўды…

— Я гэта таксама ведаю…

— Але… Біў дужа мяне Аўдзей. Колькі жылі, столькі і біў. Усё тыцкаў табой. Усё ўспамінаў, як я, калі пад вянец вёз, прасіла цябе, каб забраў ад яго. Не мог дараваць… Добра, што не забраў. Цяжарная я была… Нутро ён мне адбіў, так і не нарадзіла.

— Дурань, што не забраў, — сказаў Іосіф. — Выгадавалі б.

— Не тваё ж, чужое,— сказала Тэкля.

— Але ж тваё. Я б яго ў крыўду не даў …

— Можа і так. Толькі не ад кахання яно было, а ўсё адно, як ты кажаш, маё… Я ж не сама пайшла ў снапы, Аўдзей туды зацягнуў. Спачатку макавым адварам апаіў, я не ведала, што гэта такое, піць папрасіла, калі рабіла ў пуні ў ягонага бацькі, свёкра майго, дык Аўдзей і даў. Кажа, на, выпі, дужа асвяжае квас. Выпіла, усё памуцілася. Нічога не помніла. А як апомнілася — голая ў снапах і бабы пальцамі тыкаюць…

— Чаго тады ты не сказала мне пра гэта? — глуха мовіў Іосіф.

— А ты і не слухаў бы, ты плёткам паверыў. Ды што цяпер казаць? З табой я, Восіпка, хоць на дзень, на два, а з табой. Колькі з ім жыла, столькі цябе і ўспамінала. Вочы заплюшчу — ты… Вочы расплюшчу — ты… І крыўда ўва мне на цябе была такая, што не выказаць. І на сябе крыўда: ведала ж, што Аўдзей на мяне зіркае, а карэц з квасам тым з яго рук узяла.

— Нічога, Тэклюшка, — уздыхнуў ён з нейкай палёгкай, якую, здаецца, ніколі ў жыцці не адчуваў, — хоць на астачу дзён, а сустрэліся мы. Зараз я цябе нікому не аддам. Не дай бог што, за цябе на чалавека руку падыму, а на глум не аддам.

— Я і сама зараз не дамся,— сказала Тэкля. — Трэба будзе ў пролабку — у пролабку. А не атрымаецца, сама сябе задушу.

— Перахрысціся, — сказаў Іосіф. — Не трэба так.

— Цяпер не трэба. А было ж, ледзь рукі на сябе не налажыла. Бацькі са свету зжывалі: «Асароміла на ўвесь свет! Ці ў пельку лезь, ці за Аўдзея ідзі». Доўга думала, але, у пельку — і канец! Тады вінаватай перад табой са свету пайду. А калі за Аўдзея выйду, дык жыць буду. Наступіць час, некалі перакрыжуюцца нашы сцежкі-дарожкі, праўду табе скажу, можа, паверыш.

— Сказала ж… Дурны я быў. Не табе, сабе не паверыў. Бяда мая ў гэтым.

— І іншую праўду скажу: сцежкі нашы сапраўды перакрыжаваліся, твая і мая — адзін зараз у нас крыж… Кажу табе, нялёгка мне было з Аўдзеем.

— Адзін, Тэклюшка, адзін. І я нялёгка жыў з Марыяй. Мацвеевай палавінай яна была. Можа, таму і рымставала са мной, бог ёй суддзя. А крыж у нас аказаўся адзін. Выходзіць, нам з табой яго разам да скону несці.

— Што праўда, то праўда, Восіпка. Мяне цяпер ад цябе толькі смерць адарве... Усяго баюся, а яе — не. Толькі каб не позняя.

Апошняе загадкава сказала Тэкля, мабыць, маючы на ўвазе нешта сваё, што не хацела чамусьці адкрываць Іосіфу. А ён і не пытаў, неўзабаве зразумеўшы: баіцца, што раптам ён памрэ раней, чым яна. Што тады з ёй будзе?

Разгадаў, але сказаў іншае:

— Не пытаеш, куды плывём.

— Не пытаю. Я ж з табой.

— Месца ў мяне ёсць адно, дзе нас ніхто не знойдзе.

— Дай ты бог, — сказала яна і змоўкла, заплюшчыла вочы, асцярожна адкінулася на востры нос чоўна.

Іосіф пасунуўся на карму, сказаў:

— Прыляж на дно. Засні. Нам яшчэ доўга плысці.

— Прылягу, дарагі мой Восіпка, — сказала яна, і ён убачыў у глыбокіх барознах пад вачамі слёзы…

Ён зняў з сябе старую, патрапаную ватоўку, разаслаў на шурпатым дне чоўна. Потым дастаў з-за пазухі расціснуты букецік мацярдушак, паклаў збоку, зняў праз галаву мультанавую сарочку, накрыў ёй ватоўку, сказаў Тэклі, каб прылегла, паспрабавала заснуць — шлях у іх далёкі, а яна вельмі стамілася.

Тэкля букецік заўважыла, моўчкі ўладкоўвалася, Іосіф узяў кветкі, апусціў руку за борт чоўна, расціснуў яе. Цячэнне падхапіла мацярдушкі, панесла назад, туды, дзе застаўся горад.

— У горадзе ў мяне быў сябра, — сказаў Іосіф. — Я сніў сон, прачнуўся і зразумеў, што нешта з ім здарылася. Прыплыў у горад, а яго пахавалі ўжо. Каля Архіпавага двара, так яго звалі, я знайшоў утаптаны ў зямлю гэты букецік.

Я падняў кветкі, пайшоў на базар і там сустрэў цябе… Хай кветкі вяртаюцца туды, дзе застаўся мой сябра. Я ведаю, хто прынёс яму мацярдушкі — унукі. Ведаю, ён любіў унукаў, а яны яго…

Ён гаварыў ціха, апошнія словы ўжо сам сабе, Тэкля адразу ж як лягла, заснула.

Плынь несла кветкі, разбэрсала букецік, расцягнула ў розныя бакі і ён, глянуўшы на іх апошні раз, падумаў, што ў сне тая постаць, якая з'явілася з-за гарызонту, дзе знік Архіп, была Тэкля.

Іосіф паглядзеў на яе. Тэкля ляжала на дне чоўна на ягонай сарамяжнай вопратцы. Вочы яе былі заплюшчаны, выцвілыя вейкі, некалі чорныя і доўгія, ледзь уздрыгвалі.

Іосіф лоўка арудаваў шастом, мінаў каля берага вываратні, карчы, валуны, якія трапляліся час ад часу, і човен усё далей і далей адплываў ад горада.

І тады, працуючы шастом і паглядаючы на сонную Тэклю, Іосіф адчуваў, што і ў яго, і ў яе пачынаецца новае жыццё. Ён не думаў, колькі яму і ёй гадоў, не думаў аб тым, мала ці багата ім наканавана жыць на гэтым свеце, у галаве было адно: «Божа, якая ж яна родная і праз столькі часу…» Падумаў і спаймаў сябе на думцы, што ўсё — ад расстання да цяперашняга часу — прамільгнула, як адзін дзень.

## 6

...Тым часам, калі на наступны дзень пасля сустрэчы з Кацяй на базары, абяссілены Іосіф, вярнуўшыся на хутар паваліўся на зямлю, пакутліва думаючы, як быць далей, ад Гуды ў Кашару выплыла лодка. Гэта была ягоная, Іосіфава лодка. Шмат гадоў таму ў паводку, якая захліснула Гуду пасля таго, як узарвалася дамба ён пакінуў яе сваім аднавяскоўцам.

Лодку несла цячэнне, а кіраваў ёю, седзячы на карме, юнак. Наперадзе на папярочным сядзенні прымасціўся стары. Ён пільна ўглядаўся ўдалечыню, баючыся прапусціць тую паваротку ракі, ад якой праз балота павінен ляжаць шлях на хутар, на якім не быў вельмі даўно…



## Алег САЛТУК



### ТУГА

Не выказаць словам тугу,
Якая нясцерпнай бывае...
Бягу, а дагнаць не магу
Усё, што ўвесь час даганяю.

Спяшаю ў святло зараніц,
У добрую казку на ўзвесні,
У звон першародных крыніц,
У вечную матчыну песню.

Сваю даганяю любоў,
Надзеям вярнуцца жадаю.
Паверыць у цуды гатоў,
Ды цудаў, на жаль, не бывае.

Прайшло, адквітнела, сплыло,
Сцяжынкаю стала дарога...
Высока-высока святло,
Далёка-далёка да Бога.

---

*__Салтук Алег Уладзіміравіч__ нарадзіўся 25 жніўня 1946 года ў вёсцы Рыжэнькі Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута (1967). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў адказным сакратаром ушацкай раённай газеты «Патрыёт», уласным карэспандэнтам абласной газеты «Віцебскі рабочы», сакратаром Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, рэдактарам аддзела па пытаннях культуры «Віцебскага рабочага».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Пачатак дня» (1974), «Працяг» (1977), «Святло зямлі» (1982), «На далонях жыцця» (1988), «Трывога лёсу» (1996), «Не разлюбі...» (2003), «На вейцы веку» (2006), «Дзве зары» (2011) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2007), Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча (2000) і прэміі«Залаты Купідон» (2012).*

## ДАРОГА

Пайду, пакуль вочы глядзяць
І хочацца яшчэ крочыць,
Каб слова знайсці і сказаць
Усім, хто паслухаць ахвочы.

Не трапяцца людзі, дык не,
Знайду субяседнікаў іншых:
Лясных галубоў на сасне,
Драздоў на павысахлых вішнях.

Сустрэнуць прыветна яны
І будуць са мною дзяліцца,
Чаму з векавечнай сасны
Дарэмна сцякае жывіца,

Дзе вішняў сухіх гаспадар,
Куды ён падаўся, нябога...
Які неабдымны абшар,
Якая крутая дарога!

Да ўсё ж я пайду-пабрыду,
Пакуль яшчэ сэрца штурхае.
І слова такое знайду,
Што плача само і спявае.

## УДЗЯЧНАСЦЬ

Паклон усім, хто за мяне маліўся,
Падзяка ўсім за тое, што аджыў,
На свет, нібыта зноўку, нарадзіўся,
Хваробаю распяты на крыжы.

Віншую ўсіх і сам сябе з вясною,
Хоць ведаю, што недзе ёсць зіма...
Блакітам ззяе неба маладое,
І смутку ані кропелькі няма.

На поўнач адляцела завіруха,
Мароз за ёю напрасткі пабег.
Задыхаў знепрытомнена і глуха
Ужо амаль увесь падталы снег.

Гай засмяяўся белымі стваламі.
Няспынна йдзе жыцця кругазварот…
На падаконні ўселіся сябрамі
Вясёлы зайчык сонечны і кот.



Віктар КАРАМАЗАЎ

# НАВЕЛЫ

## Каралеўскія пацеркі

Малая, з ногаць мезенца, жамчужынка ляжала на старонцы майго новага рукапісу. Яна ўжо колькі разоў падманвалася са мною, то знікаючы, хаваючыся ад мяне, то зноў, калі яе не шукаў, нават не думаў пра яе, аб'яўляючыся недзе ў шуфлядзе стала альбо на кніжнай паліцы, у нейкай скрыначцы альбо кішэні. Адкуль, з якіх сваіх вандровак цяпер з'явілася?

Асцярожна, нібы жывую, я пацерку ўзяў на далонь. Яна ў адно імгненне сагнала з сябе перламутрава-сонечную, ад акна, плямку, зрабілася ружовай, як і далонь, і я адчуў яе са мною згоду. Нібыта ад яе пачуў слоўка: «Мерула», з тым слоўкам песеньку: «Ой ты, Мерула, Мерула, Мерула, кветка Мерула — радасць мая», а з песенькай, на незнаёмай мне мове, убачыў далёкую ў часе і геаграфічна раніцу.

Я ляжаў, прачнуўшыся, на шырокім ложку і гадаў, хто тут, блізка, можа спяваць мяккім мужчынскім тэнарам. Песня аціхла — я падхапіўся. У прасторным, як на аднаго, пакоі былі вялікае, залітае сонечным святлом акно і зашклёныя, таксама ў сонечным ззянні, дзверы на балкон. Я выйшаў на сонейка.

У садку за балконам стаялі высозныя стромыя пальмы. Іх залаціста-васковыя ствалы, загорнутыя ў драцяны ворс, нібыта ў скуры невядомых мне

---

*__Карамазаў Віктар Філімонавіч__ нарадзіўся 27 чэрвеня 1934 года ў Чэрыкаве. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1958). Працаваў у раённым друку, уласным карэспандэнтам абласной газеты «Магілёўская праўда», а таксама ў газетах «Звязда» і «Літаратура і мастацтва», у часопісе «Полымя». Быў загадчыкам аддзела мастацкіх фільмаў Галоўнай рэдакцыі «Тэлефільм», сябрам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі Беларускага тэлебачання, кансультантам Саюза пісьменікаў БССР.*

*Аўтар кніг «Падранак» (1968), «Па талым снезе» (1973), «Спіраль», «Пушча» (1979), «Дзень Барыса і Глеба» (1981), «Дома» (1984), «Глядзіце ў вочы лемуру» (1989), «Крыж на зямлі і поўня ў небе» (1991), «Антон» (2006), «Брама» (2006), «Краса і воля» (2008), «Мастак і парабкі» (2011) і многіх іншых. А таксама аўтар сцэнарыяў мастацкага тэлевізійнага фільма «Зялёныя фрэгаты» (пастаўлены ў 1974) і шэрагу дакументальных кінастужак.*

*Па рамане «Пушча» ў 1987 годзе на кінастудыі «Беларусьфільм» зняты двухсерыйны мастацкі фільм.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя К. Каліноўскага за кнігу «Проста ўспомніў я цябе...» (1990). Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны».*

звяроў, падобныя і на святочна-велічныя свечкі дыхалі яшчэ зварушлівым блакітам свежай духмянай раніцы. За пальмамі ў вочы кінуліся светлы, пад сонейкам жаўтлявы дамок, вакол яго чыста прыбраны двор і там вазкі, кожны на двух высокіх колах, размаляваныя яркімі фарбамі, чырвонымі і кантраснымі з імі сінімі, зялёнымі, жоўтымі. Каля вазкоў пахаджаў рухавы малады, у доўгай чырвонай кашулі, мужчына з вядзерцам у руцэ і пэндзлем, спяваючы, падмалёўваў то кола, то аглабельку, то вазок.

Усё гэта адбывалася на востраве Мадагаскар у Анцэрабэ, гарадку правінцыйна ціхім, хоць быў ён некалі, гадоў таму мо дзвесце, сталіцаю піратаў у рэгіёне Індыйскага акіяна.

Выпіўшы ранішнюю каву ў рэстаране гатэля, я выйшаў на высокі ганак. Мяне заўважыў метрдатэль, з рукі якога я надоечы, прыехаўшы з Антананарыву, атрымаў ключ ад нумара. Ён далікатна пацікавіўся, як спалася на новым месцы, магчыма, штo-небудзь непакоіла. Я падзякаваў за клопат і на прыблізна-ангельскай мове адказаў, што спаў цудоўна, прачнуўся пазней, як звычайна, ды і то ці не таму, што праз адчыненыя на балкон дзверы пачуў незнаёмую мне песню. Ён насцярожыўся, але я паспяшаўся супакоіць тым, што песня мне спадабалася і што спяваў малады чалавек за садам ля светлага дамочка. Метрдатэль адразу кінуў позірк у бок за ганкам, дзе стаялі рыкшы з вазкамі. Адзін з іх, той самы спявак у чырвонай, як агонь, кашулі, падбег да нас. На яго моцна загарэлых грудзях ззялі, нібы зоркі на цёмным начным небе, пацеркі. Пакланіўшыся абодвум, ён штосьці па-свойму прамовіў і паказаў рукою на вазок ля ганка. Метрдатэль мне патлумачыў, што рыкша прапануе правезці госця па горадзе. Я разгубіўся: сесці ў вазок, каб чалавек вазіў мяне, як у нас, у беларусаў, кажуць, на сваім гарбе? О не, не, не!..

Але пазней, калі я ўжо вяртаўся з пешае, сваім парам, вандроўкі вакол гатэля, мяне на ганку зноў сустрэў метрдатэль, непрымусова падвёў да століка, на якім стаялі бутэлькі з вадою, адну адкаркаваў, наліў у два фужэры празрыста-чыстай, з бурбулкамі, шыпучкі і распавёў даволі цікавую гісторыйку пра рыкшу ў чырвонай кашулі.

Маладога чалавека звалі Ману. Гэта быў звычайны рыкша, якіх у Анцэрабэ можна бачыць усюды, у кожным завулку. І вось аднойчы ў гэты горад, вядомы шырэйшаму свету хіба толькі сваімі, у мінулым, піратамі, мінеральнай лекавай вадою, крыніцамі ды лазнямі на тых водах, наведаліся кароль і каралева Іспаніі, магчыма, успомніўшы, што некалі Мадагаскар быў іх каланіяльным востравам. Сціпла, звычайнымі турыстамі спыніўшыся ў гатэлі, дзе жыў цяпер і я, яны кожную раніцу сыходзілі з ганка да даўгаватага, падобнага на трамвайчык, белага аўто і ехалі ў ім да гаючых крыніц. Пад ганкам у зацені ад калматых пальмаў амаль заўсёды стаялі рыкшы з вазкамі, маўкліва пазіралі на высокіх гасцей, не спадзеючыся на тое, што санавітыя госці могуць пакарыстацца іх паслугамі. Але аднойчы, калі кароль з каралевай з’явіліся на ганку і чакалі белы трамвайчык, да іх смела падышоў рыкша ў чырвонай, як агонь, кашулі, нізка пакланіўся і прапанаваў свой вазок. Зніякавелы кароль толькі развёў рукамі, слоў не знайшоўшы, але адразу знайшлася каралева. Яна перавяла позірк з рыкшы на караля і сказала, што не супраць праехаць у вазку, у якім ездзяць усе жыхары Анцэрабэ. Кароль не мог не пагадзіцца з каралевай, бо абое, як сапраўдныя еўрапейцы, былі настрояў дэмакратычных. Ён пад руку звёў яе з ганка і пасобіў сесці ў вазок. Рыкша паспяшаўся стаць у аглабелькі, весела адмалаціў падэшвамі сандаляў рытуальны рытмічны танец, падобны на пошчак капытоў стаенніка, і вазок з каралевай выкаціў на заліты мяккім сонечным

святлом пляц перад гатэлем. Зрабіўшы круг вакол гатэля, каралева вярнулася пад ганак, каля якога ўжо стаяў белы трамвайчык. Кароль галантна падаў каралеве руку, але тая не паднялася з мяккага дыванка і папрасіла караля суправаджаць яе на аўто. Яны абое мусілі ехаць у знакамітыя лазні, і кароль быў вымушаны зноў дагадзіць свавольнай каралеве.

Малымі глыткамі адпіваючы з фужэра, хаваючы за празрыстым шклом усмешку, метрдатэль пазіраў на мяне, як сачыў за маім настроем. Аповедам ён частаваў з большай ахвотай, як вадою, і я падумаў, ці не адказвае гэтак на маю адмову сесці ў вазок рыкшы, паслугамі якога не пагрэбавала каралева краіны рыцараў Іспаніі?

Паставіўшы фужэр на столік, я зрабіў выгляд, што мне трэба ісці, але адміністратар даў зразумець, што не ўсё сказаў.

— Самае цікавае...

І прадоўжыў.

Кароль з каралевай пражылі ў гатэлі тры дні. На чацвёрты раніцай іх прыслуга, два маладыя мальгашы і немаладая жанчына еўрапейскага выгляду, вынесла з нумароў чамаданы і саквояжы да чорнага «мерседэса», што стаяў каля ганка, селі і самі ў машыну. Пад'ехаў да ганка, спыніўся паперадзе «мерседэса» і белы трамвайчык. З гатэля выйшлі каралева і кароль. Не спяшаючыся ў аўто, яны агледзеліся і заўважылі Ману, які стаяў воддаль каля вазка, глядзеў на іх. Кароль падышоў да рыкшы, дастаў з кішэні партманет, пэўна жадаючы аддзячыць доларамі за ранейшыя паслугі, але якраз падышла і каралева. Яна зняла са свае шыі жамчужныя каралі і надзела іх на рыкшу.

Я спытаў у метрдатэля:

— І вы бачылі тыя пацеркі ў Ману?

Ён адказаў стрэчным пытаннем:

— А хіба вы не бачылі іх у яго на грудзях?

— Бачыў. Дзве пустыя срэбныя жылкі і на трэцяй усяго некалькі пацерак.

Мой суразмоўца ўсміхнуўся і адпіў глыток з фужэра.

— Мальгаш калі што-небудзь дорыць іншаму чалавеку, дык толькі тое, што люба-дорага самому. Ману не багацей. Яго ўвесь скарб — Мерула ды пацеркі ад каралевы Іспаніі. Мерулу не аддасць нікому, а каралеўскія пацеркі раздарыў людзям, якіх упадабаў вазіць у сваім вазку.

Я ўглядаўся ў жамчужынку і думаў: чаму яна так доўга са мной падманвалася?

Ці не прасілася ў мой рукапіс?

## Сэрца рыцара, вока снайпера

Гуляе паміж мастакоў думка, што літаратура псуе жывапіс. А я, калі бачу пейзажы Бялыніцкага-Бірулі альбо чытаю яго па-чэхаўску лаканічныя, у кожным слове дакладныя і такія каларытныя эцюды, апавяданні ў прозе, ведаючы, як ён любіў мастацтва словам, як сябраваў з Якубам Коласам, як слова адчуваў народнае, жывое, іначай думаю: жывапіс і літаратура — адной маці дзеці, кроўныя. Ды і лёс у іх адзін. Там, дзе паэту цяжка, цяжка і мастаку, дзе крылы вырастаюць у паэта, там акрылёны і мастак. Пра гэта думаю і зараз, чытаючы вершы генія жавапісу і скульптуры Мікеланджэла Буанароці, нават не на яго італійскай мове і не на маёй беларускай:

Я получил за труд лишь зоб, хворобу,
Да подбородком вклинился в утробу.
Грудь — как у гарпий, череп — мне на злобу
Полез к горбу и дымом борода,
А с кисти на лицо течет бурда,
Рядя меня в парчу, подобной гробу.
Сместились бедра вверх, в живот,
А зад, противовес, раздался в бочку,
Ступни земли бояться стали вдруг.
Свисает с меня кожа, как сорочка,
А сзади складка выточена строчкой,
И весь я выгнут, как сирийский лук.

Тут і далей — глыбы-метафары, глыбы-вобразы. А моц якая, думаеш, у арыгінале? Дык хто гэта ўсё мог пісаць? Паэт ці жывапісец, скульптар? І паэт, і жывапісец, і скульптар. Хто дужы быў гуляць і з глыбамі граніту, і з глыбай-вобразам, з мастацкім словам. Хто выявіць з граніту мог і Галіяфа, і Давіда, намаляваўшы словам.

Аднойчы Ігар Бархаткоў, мастак, прынёс мне рукапісныя старонкі Яўгена Красоўскага. Пра аўтара, як майстра пэндзля, я раней чуў, ды мала яго ведаў. Памятаў прыгожа выпісаныя ім яхты пад ветразямі ўсялякіх колераў па-над блакітным возерам. Яны, тыя незамутнёныя часам у вачах, пад ветрам, ветразі выклікалі цікавасць і да рукапісу. Старонкі былі засеяныя літарамі драбнюсенькімі, і мне давялося ўзброіцца лупаю. Пачаў чытаць.

«Рознымі дарогамі прыходзяць людзі ў мастацтва. Адны выпадкова, другія праз упартую працу, трэціх сюды вядуць глыбокія пачуцці, кагосьці прыводзяць душэўныя траўмы, пошукі спакою і раўнавагі, жыццёвай гармоніі, а бывае, што і багаты дзядзька, мецэнат. Цяпер мецэнатаў няма, усе багатыя скнары ды снобы, нашмат больш жабракоў. На што ж мне спадзявацца? Гэтак я разважаў, бадзяючыся ўначы па Мінску.

Было цёмна, халодна, няўтульна. Пад маімі дзіравымі галёшамі пялёхала вясновая вада, распаўзаліся мокры снег ды гразь. З калюжыны я ўзышоў на брук і тут мяне спыніў нечаканы блік ці то ад вулічнага ліхтара, ці то ад ліхтара нябеснага, ад сціплага месячыка. Так, блік здаўся зусім нечаканым. Я нагнуўся над ім і падняў белы чарапок ад міскі, на ім разгледзеў малюнак, які мяне зачараваў. З чарапочкам прыйшоў дадому. Уключыў лямпу, узяў талерку, сеў за стол, расклаў перад сабою акварэльныя фарбы, туш, алоўкі, пэндзлікі. Па крузе талеркі зрабіў малюнак. Спрыяла працы ноч — усё дала: натхненне, смеласць у пошуках малюнка, кампаноўцы дэкору, у раскладцы фарбаў, падборы колераў. Раніцай я знайшоў ганчара, і ён зрабіў мне талерку з чырвонай гліны. Я распісаў яе, сырую, і ў сваёй радасці не выпускаў з рук, доўга дзівіўся.

Той ноччу я зразумеў, што такое сапраўднае шчасце, як яно прыходзіць да чалавека. Я адчуў, што ў мяне сваё вока, што яно — маё золатка, што з ім ніякі мецэнат мне не патрэбны».

Сваю навелу мастак пісаў не гэтак думкаю ды словам, як вокам і святлом, той радасцю, якую яму прынесла вока.

Прызнаўся ў гэтым і ён сам:

«Дык хто сказаў мне першы, што я мастак? Сказала вока».

Не сумна было чытаць і далей:

«Вока мастака — ад Бога. Гэта вока Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла, Рафаэля, Сезана, Маціса, Пекаса, Ван Гога, Урубеля, Сярова. Яно ўсё бачыць, усё працінае наскрозь, гіпнатызуе, паліць агнём і ўсё прадбачыць».

Мне падалося, што я чытаю даследаванне працы пісьменніка: Талстога, Дастаеўскага, Буніна, Чорнага, Брыля, Караткевіча, Стральцова. Пра тую асаблівасць пісьменніцкага майстэрства, якой да мастака Красоўскага амаль ніхто яшчэ не заўважаў.

«А хто першы і адчувае на сабе вока мастака? Маладыя закаханыя. Яны перад ім бянтэжацца. У маім жыцці здаралася, быў я без алоўка, без альбома, без малюнка, але чуў — мяне спынялі: «Вы — мастак?..» І пыталіся, і сцвярджалі, што гэта так, у тым перакананыя.

Неяк спыніла маладая літоўка:

«Як вы на мяне глядзіце? Гэтак могуць глядзець толькі сам Бог і мастак».

І тое альбо амаль тое мне даводзілася чуць пра сваё вока ў Эстоніі, Расіі, Парыжы, Рыме, Лондане, Варшаве».

Быццам закончыўшы навелу пра вока мастака, Красоўскі раптам, усё роўна як пад нябачнай рысай, выказвае на новай хвалі роздуму абагульняльную думку, якую наўрад ці можна прывязваць да навелы, але якая сама па сабе цікавая, нават і ў адносінах да літаратуры:

«Жывапіс — не сачыніцельства і не фантазіі. Гэта строга натурны, навукова дакладны аналіз. Жывапіс фіксуе зрухі ў душы мастака. Ён, як сейсмограф, дакладна ловіць вібрацыю думак аўтара, жыве ў часе і кандэнсуе час».

Спрэчныя думкі? Магчыма. Але тым цікавыя, што даюць прастору для пошукаў не толькі ў жывапісе, але і ў мастацкай прозе. Ці ні палягае тут, у навукова ўзважанай формуле жывапісца, сакрэт адметнасці прозы мастака, якая так прываблівае, калі чытаем прозу Рэпіна, Пятрова-Водкіна, Бялыніцкага-Бірулі, Каровіна ды і паэзію Мікеланджэла ці лісты Ван Гога і Жукоўскага?

Ці не пануе і ў мастацкай прозе ды паэзіі «ўлада вока, што ад Бога?»

На маім стале — альбом. Дакладней — макет, вёрстка, тое, што праз колькі дзён адбудзецца альбомам Яўгена Красоўскага. Тут няма яго буйнафарматных работ, падобных на «Зямлю», «Белавежскую пушчу», тут усё эцюды, камерныя экспромты, імпрэсіі, абразкі, прывезеныя з падарожжаў па сваёй і чужых, блізкіх і далёкіх, краінах. Яны з прыватных збораў, сабраныя пад адной вокладкай як быццам выпадкова, і, калі б я раней не прачытаў напісаныя ў 1957 годзе старонкі пра вока жывапісца, то, магчыма, пагартаўшы альбом, адклаў і пра яго цяпер не ўспомніў. Але і маё вока ўглядалася ў кожную работу, шукала ў кожнай прысутнасць і адметнасць вока мастака, у іх формах, каларыце, у рытмах і настроях лавіла адпаведную пульсацыю думак і эмоцый аўтара.

Ля шэрага берага на шэрай вадзе стаялі шэрыя, пад шэрым небам, яхты, пазвешваўшы на тонкіх, нібыта голкі, мачтах ветразі, падобныя на шэрыя анучы. Мастак ведаў, у якую прыгажосць усё гэта ператворыцца, калі сплывуць у небе хмары, засвеціць сонейка, ад берага адчаляць яхты, разгорнуць ветразі на мачтах і шэрая вада ўспыхне сонечным блакітам, сінню. Мог пачакаць той прыгажосці і ўжо тады пісаць эцюд або карціну. Але, чакаючы той прыгажосці, ён пісаў і шэры бераг, шэрую ваду, шэрае неба, шэрыя анучы яхт. Ён быў мастак прадбачлівы, упарты і дачакаўся сонца ў небе, пад сонейкам сіняй вады, напятых магутным ветрам ветразяў на мачтах — бялюткіх, жоўтых, памаранчавых, чырвоных, — і напісаў, захоплены той прыгажосцю, якую прадчуваў, выдатную карціну, але маленькія эцюды з тымі яхтамі і той вадою, напісаныя шэрай фарбай, у шэрым, як было ў натуры, тоне, знайшлі таксама сваё месца ў альбоме і мне цяпер казалі, як да сваёй выдатнай карціны

«Спаборніцтва яхт» ішоў мастак праз пошукі ў малых эцюдах, як ужо тут шукаў і прадчуваў, і што такое для яго быў «строга натурны жывапіс», «не сачыніцельства і не фантазіі», які «жыве ў часе і кандэнсуе час».

Красоўскі не любіў шматпланавых эцюдаў. Тое, што ўражвала з першага погляду, што вока мастака адразу бачыла ў натуры, садзіў на ўвесь, ад берага да берага, памер кардонкі. Адсюль была свая і форма, і эстэтыка эцюда, але яго прастору, нават самую малую, яднаў святлом, яго гульнёю з колерам і гукам. Гук дзе мажорна-ўзнёслы, дзе мінорна-ціхі, інтымна-камерны, але скразны заўсёды, у поўнай адпаведнасці з «жывапісам строга натурным». Шмат часу аддаваў стварэнню афортаў, называючы іх «роздумам на жыццёвым шляху». Мастак і разам з тым філосаф, ён працаваў амаль у бязмежным мастацкім полі, абжываў «няўдобіцу», якую называў «сваёй тайгою», шукаў у розных школах і накірунках, меў мужнасць быць з мастакамі, якіх афіцыйная ідэалогія называла ідэйна заганнымі, касмапалітамі, фармалістамі, браў урокі ў «агентаў буржуазіі» Сезана і Маціса, сам, як роўны ім, даваў «урокі фармалізму» маладым мастакам сваімі нацюрмортамі з сінімі яблыкамі, чырвонай рыбай, блакітнымі шкарпэткамі. Яго мастак сядзеў на бруку ў акружэнні сваіх «фармалістычных» вопытаў, пад зад падклаўшы афіцыйную газету, нічым не падобны на мастака сацыялістычнага рэалізму, які ў той час быў для ўсіх абавязковы, з аднаго боку ад яго ляжала палітра, з другога — капялюш, у які ані капейчыны не кідалі ні прыхільнікі сацрэалізму, ні апалагеты буржуяў. На шыі ў мастака звісаў жаўтлява-футурыстычны шалік, пад караткаватымі калашынамі на схуднелых нагах свяціліся блакітныя шкарпэткі, хоць Красоўскі добра ведаў — пра гэта яму ўжо заўважалі і газеты, — што нават за адну плямку з палітры Сезана ці Маціса мог разгавецца на казённым харчы.

Ці быў прыгнечаны альбо расчараваны няўдзячным да сябе жыццём мастак? Той, які на эцюдзе ў Красоўскага, не. Ён сядзеў спакойны, годны, увесь у думках пра сваё мастацтва.

А сам Красоўскі?

На старонках, дзе ён пісаў пра вока мастака, ёсць радкі:

«Жывапіс — мастацтва цяжкое і для гледача, і для мастака. Адразу не разгледзіш глыбока схаванае змаганне гармоніі, пластыкі, колеру з формай, са зместам. Толькі вопытны мастак бачыць глыбінную красу жыцця, прыроды, чалавека, іх малюнак, формы, фарбы ў еднасці. Гэтае бачанне і ёсць багацце, шчасце мастака. Яно даецца самой прыродаю, як дар Гасподні, дар найвышэйшы, і таму, валодаючы ім, мастаку не трэба ні славы, ні матэрыяльнага багацця. Большага багацця ў яго вачах не існуе. Таму ён годны, шчодры і шчаслівы нават калі голы і галодны».

Гэткім быў і сам Яўген Яўстафавіч. Як рэаліст у жыцці і творчасці, ён вучыўся ў Талстога і Салаўёва, Дастаеўскага і Кафкі, прыняў лагічнай думкаю і сэрцам мастацтва імпрэсіяністаў і стаў адным з першых беларускіх постімпрэсіяністаў.

На апошняй старонцы згаданага альбома ёсць малюнак: Дон Кіхот на Расінанце. Рыцар з кап'ём, шчытом, у латах і шлёме спыніўся перад млынамветраком, які ў яго вачах падобны на агромністага асілка з чатырма вялізнымі рукамі. На тых руках, на матавілах млына, павіслі мерцвякі, якія да яго кідаліся на штурм пачвары, іншыя пад ёю ляжалі на зямлі абрынутыя, нежывыя, адзін нагамі дагары тырчэў з-пад купіны, як паля. Але гэтае сумнае поле бойкі не спыняе адважнага Дон Кіхота, ён поўны рашучасці кінуцца на пачвару, адпомсціць за пакрыўджаных. Сілы няроўныя? Яго сіла і мудрасць у сэрцы, якое заўсёды за праўду і справядлівасць.

Наш мастак не Дон Кіхот, не саламяны рыцар, але яго вока, як і вока Дон Кіхота, у звычайным заезным двары магло ўбачыць велічны замак, крыты срэбрам-золатам, чаго ніхто іншы не бачыў, а на млын, падобны да крэпасці, мог з пэндзлем, як з пікай Дон Кіхот, кінуцца ў бойку, калі ад гэтага залежала, быць ці не быць, жыць ці не жыць прыгажосці і праўдзе — ім кіравала рыцарскае сэрца.

## Застаўся тачыльшчык

Сяргей Каўроўскі жыў і працаваў у Гомелі. Жыло там у дваццатыя, — трыццатыя гады нямала добрых мастакоў — багема. Але ён быў не проста добрым мастаком, ён быў магнітам, мастацкім цэнтрам, школай. Гэтага высокага, вельмі прыгожага мужчыну з вялікімі карымі вачыма, якія бянтэжылі прыгажунь, рабілі іх пакорлівымі, у Гомелі ведалі ці не ўсе рыбакі, матросы, рабочыя рачных партоў, бармены і наведвальнікі кабачкоў, буфетчыцы і афіцыянткі рэстаранаў, вулічныя музыкі і цыганы, свае і заезджыя, паэты і артысты, тым больш усе тыя, хто ў руках трымаў палітру з фарбамі, студэнты, хлапчукі. Ён любіў усё гучнае, яркае, сакаўное, прыгожае, а наймацней — жывапіс, сяброўскую чарку і жанчын. Жывапіс, сябры, жанчыны тым і яму плацілі.

Любіў раніцу. Зімовую — снежную, мяккую, летнюю — любую. Любіў яе пісаць і баяўся праспаць, нават калі ў ложку была прыгожая жанчына. На ўзыходзе сонца стаяў на беразе Сажа, над кручаю, ля графскага палаца, углядаўся ў рачныя краявіды. З гары сыходзіў да вады, паціху ішоў берагам, усё заўважаючы навокал, спыняўся зноў ды зноў, на нечым вока засяроджваў, ішоў далей. У час гэтай праходкі запыніць маглі цікавы жывапісны матыў, што нечакана адкрываўся, новы настрой у прыродзе, выпадковая каляровая плямка, сугучча прыгожых тонаў. Садзіўся на камень ці на лавачку і назіраў, як паляўнічы, чуючы ахвяру. Увагі ў гэты момант не звяртаў на тое, што хтосьці іншы, яго пазнаўшы, сочыць за ім.

Аднойчы, калі мастак стаяў на беразе, глядзеў, як ад дэбаркадэра адчальваў цеплаход на Кіеў, з ім побач прыпыніўся хлопчык з вудачкай, паклаў яе ля ног, пачаў глядзець у той бок, куды глядзеў мастак. Параход, адчаліўшы ад берага, пастаяў на адным месцы, папыхкаў у трубу дымам-парай, пачаў раскручваць вялізнае, ля правага борта, кола. І паплыў. Кола круцілася ўсё шыбчэй, усё мацней пялёхала па вадзе клацамі, з іх лілася і пырскала ва ўсе бакі вада, у вадзяных пырсках запальвалася вясёлка, і ўжо кола рабілася падобнае на вясёлку, на сонейка ў небе. Хлопчык весела заскакаў, ад радасці закрычаў звонкім, на ўсю раку, голасам:

— Сонца!.. У Сажы сонца-а!..

З ім побач аказаўся сябра:

— Дзе ты там бачыш сонца? Там кола, як у маёй тачцы.

— Сонца!.. — радаваўся меншы хлопчык.

Як параход адплыў далёка, пагасла вясёлка ў яго за бортам, мастак падышоў да хлопчыка, што ў вадзяным коле заўважыў сонца, спытаў:

— Як цябе зваць?

— Мікола, — той вымавіў зусім спакойна.

— Ты хочаш навучыцца маляваць?.. Будзем знаёмыя, — падаў, як роўнаму, руку.

— А я вас ведаю. Вы ў нашым горадзе галоўны мастак.

— І ведаеш, дзе клуб чыгуначнікаў?

— Ён там, дзе мая школа.

— У клубе ёсць мастацкая студыя. Там такіх, як ты, вучаць прыгожа маляваць. Заўтра буду цябе чакаць. Маё прозвішча — Каўроўскі.

Пазней, ужо прафесійным мастаком, Мікола Тарасікаў з удзячнасцю згадае тое, на Сажы, знаёмства з Каўроўскім, вучобу ў ягонай студыі: «Сяргей Аляксандравіч сам набіраў вучняў, вышукваў іх па ўсім горадзе. Ён адразу даваў адчуванне кампазіцыі, формы, прапорцый, каларыту, перспектывы, хутка рабіў усіх творцамі. Ён захапляў вучняў кожным словам, кожным мазочкам свайго пэндзля, распальваў у маладых сэрцах любоў да колеру, да каларыту».

Мастак любіў жыццё, востра адчуваў, як яно і ўсё ў ім мяняецца, адчуваў час, у якім жыў, меў унікальны талент бачыць яго ў новых формах, рытмах, каларыце і жывапісных вобразах. Любіў пленэр, жывое паветра. Ён вёў студыйцаў на Сож, за Навабеліцу, там вучыў пісаць рухомую прыроду. У кожным вучні шукаў сваё, арганічнае, даваў таленту форму, адточваў грані, як гэта робіць ювелір.

«Быў ён выдатны педагог, — дадасць да сказанага вышэй Тарасікаў, — бо быў выдатны жывапісец. Ён забараняў капіраваць, і я ніколі копій не рабіў. Ён ува мне выхаваў агіду да копій, асабліва да копій класікі. Я навучыўся ад яго прызнаваць толькі арыгінальнае і пісаў заўсёды з натуры, пазбягаў лжывага, блакітненькага ды ружовенькага. Любіў строгае, праўдзівае, самабытнае».

Сам Каўроўскі прайшоў у Маскве школу вядомага мастака Келіна, дзе ў той час браў урокі і паэт Уладзімір Маякоўскі. Яны пасябравалі. Калі ўжо Каўроўскі жыў у Гомелі, ён ездзіў у Маскву да паэта на падзарадку, як казаў, сваіх творчых акумулятараў. Вяртаўся адтуль бадзёры, з новымі вершамі любімага паэта заходзіў у студыю і абвяшчаў: «Жизнь прекрасна и удивительна!..»

Яшчэ ён ад прыроды валодаў талентам акцёра, вершы Маякоўскага чытаў узнёсла, з пачуццём, як свае, перажытыя і вынашаныя сэрцам. І з тым самым артыстызмам сыпаў анекдотамі. Слухаць яго можна было бясконца.

Але свой палымяны тэмперамент мастак укладаў найперш у жывапіс. У карцінах, эцюдах ён быў той самы, што ў жыцці: эмацыянальны, каларытны, звонкі. Ад тэмпераменту былі і яркі сакавіты колер, і выразны пластычны малюнак, і арыгінальныя кампазіцыі. У самым будзённым бачыў і чуў высокае, сімвалічнае, вечнае.

Той жа Тарасікаў, мастак назіральны, чэпкі на штрых, дэталь, з прыемнасцю ўспамінаў:

«Я бачыў, як ён пісаў свайго тачыльшчыка».

Старога з тачыльным станком у той час ведалі ў кожным двары горада. Ён хадзіў у пошуках няхітрага заробку з вуліцы на вуліцу, ад дома да дома, спыняўся пад вокнамі, каля пад’ездаў і гукаў-пытаўся: «Каму нажы тачыць? Каму тачыць сякеры, пілы? Каму нажы тачыць?..»

Мастак не адзін дзень прыглядаўся да старога. Спачатку нічога новага, цікавага ў ім як быццам не знаходзіў. Ні ў абсунутай паставе пад цяжарам станка, калі нёс на плячы, ні ў твары, ні ў вопратцы. Звычайны люмпен, з тых, што валакліся, стамлёныя, з работы, апранутыя ў бруднае зрэб’е, прыгнутыя пад нейкай жалязякай ці дзеравякай. Сунецца гэтакі чалавечык, увабраўшы галаву ў плечы, глядзіць сабе пад ногі, як што згубіў ці сам, ці нехта іншы, каб падняць, твар паказаць баіцца. А без вачэй, без твару, чым можа іншым зацікавіць? І ўсё ж аднойчы Каўроўскі падышоў да люмпена з тачылам бліжэй, калі той на сваім тачыле трымаў крывы нож, нагой у стаптаным башмаку

рытмічна націскаў на дошчачку, прывадным пасам злучаную з колам, што раскручвала наждак. Хацеў са старым пагаварыць, але загледзеўся на яго рукі, змаўчаў. Яны былі вялізныя, шырокія, пляскатыя, як той наждачны камень, як лапы ў мядзведзя, хавалі пад сабой і нож, і камень, з-пад якога ляцелі вогненныя іскры. Мастак доўга сачыў, як працаваў стары, а ўжо назаўтра стаяў перад эцюднікам з палітрай і пісаў. Пісаў другі дзень, трэці, на тым жа месцы ў двары. Работа ішла нялёгка. То стары аб'яўляўся без тачыла, блукаў дварамі, нібы яго згубіў, шукаў, то не было кліентаў, сядзеў на лаўцы і да тачыла не падыходзіў, то проста запіваў пасля заробку ў кліентаў або палучкі, як мадэль, у мастака, на колькі дзён знікаў, а то псавалася надвор'е, настрой мяняўся ў мастака. Калі ж нарэшце Каўроўскі прынёс сваю работу на паказ у студыю, паставіў перад вучнямі, яе адразу ніхто не зразумеў. На палатне было ўсё ўсім знаёмае: стары, якога ўсе ведалі, тачыла, тупарылыя башмакі з насамі, падобнымі на морды ў бульдогаў, мехам абвіслыя штаны, прыгнутыя над тачылам плечы, блін-кепка рабацягі з вялікім зламаным казырком, насунутым на лоб, на вочы, сівыя валасы тырчком з-пад кепкі, нібы вяночак лісця вакол сланечніка, — але дзе твар, калі там чалавек? Было ўсё: тачыла, рукі, ногі, галава, а замест твару абвіслы казырок? Вучні разгублена маўчалі. Настаўнік чакаў, што яны скажуць.

— Вы доўга пісалі?

Ён разумеў, што гэтае пытанне было не з тых, якія варушыліся ў маладых галовах, але спакойна адказаў:

— Хутка ў мастацтве нішто не робіцца. Патрэбны пошук, а на яго патрэбны час. Я доўга шукаў твар чалавека.

І тут прарвалася галоўнае:

— Дык дзе ён, твар? Пра які твар размова?

Тады настаўнік пачаў чытаць па памяці: «Кто там шагает правой? Левой! Левой! Левой!..» І далей сказаў:

— Крочыць новы час. Усе мы павінны быць левымі. Марш паэта рэвалюцыі — наш марш. Што такое левы марш? Гэта новая эпоха: марш рук, ног, новай думкі. Вінтоўку трымаюць рукі пралетарыя. Аруць зямлю і вырошчваюць хлеб рукі селяніна. Рукі рабочага падымаюць з шахтаў вугаль і руду, будуюць заводы і машыны. Працоўныя рукі — твар эпохі.

Вучні ўглядаліся ў рукі тачыльшчыка. Яны ўражвалі мацней за самы незвычайны твар.

Але ці толькі рэвалюцыя вызначала мастацкія пошукі Каўроўскага? Не, не адна яна. У яго ад прыроды была моцная інтуіцыя на ўсё новае, што адбывалася ў жыцці і што патрэбна было мастацтву, была пастаянная духоўная патрэба новага. Усёй сваёй натурай ён быў скіраваны на пошукі адпаведных часу выяўленчых сродкаў і вобразаў. Калі з'яўляўся ў Мінску і выстаўляў свае новыя работы, яны заўсёды вылучаліся на агульным натуралістычна-шэрым фоне тагачаснага жывапісу смелым колерам, багаццем святла, жывым пластычным малюнкам. Трапіўшы ў Маскву, ён кожны раз ішоў у музей Шчукіна, дзе знаходзіліся карціны еўрапейскага авангарда: Маціса, Клода Манэ, Рэнуара, Пікасо, Ван Гога. Па арыгіналах вывучаў іх творчыя метады, тэхніку. У гомельскай студыі імя Урубеля ён стварыў асяродак мастакоў, улюбёных у імпрэсіяністаў. Казаў і паўтараў: пленэры французаў, а не дамарошчаныя рэалісты, вучаць непасрэднасці пачуццяў, раскаванасці форм, адчуванню жывога паветра, святла, каларыту.

У Гомель прыйшоў НЭП. На пероне побач з чыгуначным вакзалам адчыніўся яшчэ адзін шынок. Каўроўскі яго адразу заўважыў. Па горадзе пака-

цілася чутка, што ў мастака з’явілася новая каханка — нэпманша. Ёю была гаспадыня шынка Дуся.

Маладая, жывая, гаваркая, вясёлая, з высокімі грудзямі і смуглявацыганаватым тварам, заўсёды чыста і ярка апранутая, яна не магла не заўважыць прыгожага мужчыну, аднойчы смела падышла да яго і спытала, за які столік ён жадае сесці. Мастак паглядзеў у акно, што выходзіла на чыгуначныя пуці, і выбраў месца, з якога відаць была панарама чыгуначных рэек, дэпо, паравозаў, як на карціне Клода Манэ. Там не было століка для кліентаў, стаялі ў вазонах кветкі, але гаспадыня прыбрала кветкі, паставіла стол і крэсла для Каўроўскага і сказала, што гэта месца заўсёды будзе ягоным. Ён сеў і папрасіў куфаль піва, але яна да піва падала гарэлку і закуску. Ён не адмовіўся, але разлічыцца мог толькі за піва. Узяў маладзіцу за плечы, прыгарнуў да сябе, пацалаваў і сказаў, што доўга вінаватым ёй не будзе. Яна адказала, што ён з ёю ўжо разлічыўся. З таго часу сябры, шукаючы Каўроўскага, першым чынам ішлі ў шынок да Дусі. Там ён сядзеў за кілішкам ці куфлем піва і глядзеў у акно на паязды, што праходзілі міма шынка, спыняліся і ад’язджалі, на людзей за акном, сярод якіх можна было заўважыць самых нечаканых па каларыце, ад шулераў, басатвы, галоты да рэспектабельных буржуінаў і нэпманаў. Паміж куфляў ды кілішкаў на століку звычайна ляжалі альбом мастака для замалёвак, алоўкі. У альбом ён паміж глыткоў піўка заносіў у рысах і штрыхах малюнкі жыцця, якое бачыў перад вачыма. Калі за акном не было ні паяздоў, ні пасажыраў, за бліскучымі сталёвымі рэйкамі адкрывалася дэпо, праз праёмы якога марудна пыхкаючы клубамі светлай пары, стомлена заязджалі паравозы або выязджалі з рамонту, і ён маляваў тыя паравозы. У кожным з іх мастак адчуваў магутную жывую істоту рэвалюцыі.

На адных і тых жа старонках альбома ён маляваў і паравозы, і Дусю. Шмат якія малюнкі, калі пакідаў шынок, заставаліся на століку ў Дусі. Сябрам прызнаваўся, што паміж паравозамі і Дусяй бачыць штосьці блізкае, гістарычна значнае, эпахальнае, што гэта — сказаць яшчэ не можа, не вызначыўся, але іх адзінства яму падкажа малюнак, які ён шукае.

Аднойчы, заседзеўшыся ў шынку, мастак прачнуўся на мяккай падушцы, якая пахла ўсім у той час знаёмымі духамі «Кармэн». За акном пад ранішнім сонцам блішчэлі сталёвыя рэйкі, а на сцяне віселі малюнкі, на кожным з якіх былі паравозы і Дуся. Галава была на дзіва светлая, і ён зразумеў, нарэшце, што іх, паравозы і Дусю, яднае. Узяў тоўсты чырвоны аловак і праз увесь аркуш, што вісеў на сцяне, напісаў: «Паравозы + Дуся — рухавікі новай эпохі!»

Але жыццё крута мянялася.

Па горадзе пачалі зачыняць рэстараны і шынкі, крамы і таргсіны. На дзвярах Дусінага шынка з’явіўся цяжкі замок з рэвалюцыйна-чырвонай пломбай. Знікла і Дуся, нават для Каўроўскага нечакана.

Шмат хто знікаў нечакана і бясследна. Зніклі мастакі, паэты, артысты. Знікалі і нэпманы. Іншыя некуды беглі самі, каб не знікнуць па чужой злой волі. Бліжэйшы сябра і аднадумца Каўроўскага мастак-авангардыст Бразер апынуўся ў Парыжы. Іншыя ўсплывалі ў Варшаве, Празе, Маскве. Каўроўскі заставаўся ў Гомелі, хоць і яго студыя, і сам ён былі нікому ўжо не патрэбныя. Меў думку пераехаць у Маскву, да больш моцнага мастацкага асяроддзя. Але там ужо не было Маякоўскага, смерць паэта папярэджвала, што і ў сталіцы не будзе ратунку. Рэвалюцыя, якая абвясціла свабоду, роўнасць, брацтва, новае жыццё, сканала. Каўроўскі гэта адчуў востра.

Палітра выпала з рук мастака.

Калі адгрымела вайна, Тарасікаў вярнуўся з франтавых акопаў у Гомель. Адразу кінуўся шукаць любімага настаўніка, але знайшоў толькі чутку пра яго смерць у час вайны. Шукаў сыноў мастака, ведаючы, што яны ў яго былі. Не знайшоў. І не знайшоў нават яго магілы. Застаўся толькі тачыльшчык са сваім тачылам. Адна карціна.

## Што нас яднае

А цяпер прызнаюся табе, чытач, у сваіх сумненнях, якія колькі дзён не дазвалялі мне аднесці ў рэдакцыю часопіса ўсе гэтыя старонкі. Думалася, ці ёсць у тым логіка, што звёў у адну нізку навелы пра рыкшу, мальгаша і нашых мастакоў? Бяды, сябе я суцяшаў, няма, што ў адной вокладцы, у кулінарыі нашай, літаратурнай, гурманам аж залішне быць не трэба, наш страўнік не супраць няўдобіцы, кантрастаў, і ўсё ж, усё ж муляла: якая паміж імі сувязь? І раптам знайшоў у старым сшытку занатоўку:

«Раніцай стаяў перад станком, дапісваў пейзажык. Не чуў ні званкоў, ні галасоў. Але нечакана пачуў голас зусім блізкі, за спінай, побач:

— Быў я ў Вільні.

Азірнуўся — Янка Брыль. Глядзіць не на мяне, а на пейзажык, усміхаецца, мне падае руку, здароўкаецца.

Пытаюся:

— Дык што там, у Вільні?

Ён адразу працягвае думку:

— Зайшоў да мастака Пётры Сергіевіча. Прыселі. Пагаманілі. Кажу, што хачу набыць яго карціну. Ён кажа: выбірайце, якая вам тут па сэрцы. Я выбраў пейзаж. Ноч з месяцам, зіма, праз лес дарога, па ёй бяжыць конь з вазком, а ў вазку пад агромністым зорным, з поўняю, небам сядзіць, некуды едзе, чалавек. Мне, як убачыў, адразу павеяла сваім, родным, быццам гэта я еду, вяртаюся ў сваю вёску. Мастак загарнуў карціну ў паперу, перавязаў шпагатам. Я дастаю з кішэні грошы, а ён мне кажа: вы ўжо мне заплацілі. Гляджу яму ў вочы, не разумею. Вы, кажа, заплацілі тым, што мая карціна будзе вісець у вашым пакоі. І грошы не ўзяў. А я цяпер жыву і думаю: як гэта зразумець? Мастак душу і сэрца ўкладае ў сваю карціну, гадамі, можа, пішучы, над ёй пакутуе, а потым аддае ці мне, ці каму іншаму. Сабе што пакідае? Успамін пра твор, якім пакутаваў? А маці, бацька ці аддадуць сваё дзіця ў чужыя рукі назаўсёды?..

Тады я ў Брыля спытаў:

— Вы каму пішаце?.. Вам вашы кнігі людзі хіба назад, іх прачытаўшы, вяртаюць?

І тут Янка ўсклікнуў:

— Дык у мяне ж тыраж! — як ухапіўся за саломіну, ратунак. — Па людзях разыходзіцца, але і застаецца. Бывае, з паліцы кнігу возьмеш, даўно напісаную, пагартаеш, зачэпішся ў ёй за радок, за слоўка, якое з нейкім чалавекам цябе звязвае, успомніш і парадуешся, што ўсё гэта было, ты зведаў, перажыў і людзям, свету паведаў, не змарнаваў у сваёй памяці, у жыццё вярнуў. А што ў мастака?.. Другой такой карціны ў яго няма?.. Не разумею я — што гэта?.. Ахвяра альбо шчодрасць? Ці, можа, гэта ёсць талент?..»

Цяпер, углядаючыся ў жамчужынку на сваёй далоні, я пачынаю разумець, навошта яна са мной падманвалася. У рыкшы далёкага ад нас Мадагаскара быў талент, што і ў нашых мастакоў, у Красоўскага ды Каўроўскага. Іх аб'ядноўваў талент.

Жамчужынка Ману прасілася ў мой рукапіс.



Таццяна СІВЕЦ

# «ГЭТА МЫ ВЫШЫВАЛІ, БОЖУХНА, ТВАЕ СНЫ!..»

## ШТРАФБАТ

Нам у спіны крычалі весела: «Вы смяротнікі!»
Нас употай жагналі, у неба сляпое гледзячы…
А шляхі нашы, ведама, незваротныя,
Бо мы самі сабе і суддзі цяпер, і следчыя…
Тут разумееш, што «заўтра» не будзе ў прынцыпе!
(Ну, якое можа быць «заўтра» з хрыбтом раструшчаным?)
Калі б ведалі, то ўяўлялі б сябе не прынцамі
У дзіцячых казачках, а кашчэямі неўмiручымі!
Гэтыя, дзесьці ззаду, пакуль што цэлыя…
Ім урэшце і будзе належаць жыццё і праўда ўся.
Мне падалося, што Бог глядзіць на мяне ў прыцэл, і я
Не спавядаюся... Праўда, і не апраўдваюся.

* * *

Што б ні здарылася, мы выходзім у сеціва.
Гэта як пачысціць зубы ўранку і ўвечары,
Як для нашых продкаў — пайсці на веча ці…
Як да воску прыкласці стары сігнет.
Так, я ведаю, там, дзе ты абыходзішся без мяне,
Там, дзе партрэты ейныя на сцяне,
Калі там згасае святло, то гэта і сапраўды канец…
Там цяперака лепшае ў свеце месца —
Яго можна чырвоным крыжам на мапе меціць.

---

***Сівец Таццяна Мікалаеўна*** *нарадзілася 23 чэрвеня 1982 года ў Мінску. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Працавала на радыёстанцыі «Беларусь», галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць». Цяпер — галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», вядучая праграмы «Дыя@блог. Пра літаратуру» на тэлеканале «Беларусь 3». Паэт, драматург, перакладчык.*

*Аўтар кніг «Праляцець па вясёлцы» (2002), «Ліпеньская навальніца» (2003), «Таму, хто знойдзе» (2009), «Брык і Шуся шукаюць лета» (2012), «Куды прапала малпа Маня?» (2013), «Самы лепшы падарунак» (2014).*

Ведаеш, калі некага Бог і месіць,
Дык вы з ёю вылепленыя не з цеста, а
З самага крохкага крышталя.
Толькі калі палац у вас там, і вежы, і кашталян,
То ў мяне хіба персанальнае капішча і шталаг.
Ты ж не дурань, канечне, — твая страла
Паляцела не ў твань, а ў самы прыгожы твар.
І каго ты вучыш тут усміхацца, маўчаць, трываць?
У мяне ж пад нагамі курчыцца і гарыць трава.
Значыць, кажаш, хутка чакаць Раства?..
Божачка, ну чаму ты дагэтуль не навучыў мяне забываць!

* * *

У гэтай дзяўчынкі вочы,
бы ў мёртвай рыбіны…
Чорныя рэкі плывуць і плывуць
углыб яе,
І хвалі палынныя яе запавольваюць,
закалыхваюць…
Ціха так
ёй сваё пяюць:
«Не плыві, дзяўчыначка,
ты ад берага,
бо ад берага —
плыні-верады.
Тут няма зямлі —
толькі сінь вады…»
І сняцца дзяўчынцы рыбы ды
падводныя гарады,
дзе ніхто не будзе ні плакаць,
ні папракаць,
дзе зачакаліся ўжо,
дзе рыхтуюцца сустракаць…
…І вочы такія добрыя
ў рыбака.

* * *

Холадна, Божухна, чуеш? Чаму так холадна?
Чаму іх гэтулькі, Божа, а я адна?..
Ну, чаму ты ніяк не скажаш мне, Госпадзі, што далей?
Колькі мне яшчэ засынаць — шчакою на бітым шкле?..

Раскажы мне пра ўсіх, хто побач — штодня на канцы іглы…
Раскажы пра тых, што не верылі, ды маглі…
Як заўсёды, паэтаў паставяць першымі — да сцяны…
Толькі помні, што гэта мы вышывалі, Божухна, твае сны!..

* * *

Вецер здзяйсняе вячэрні рэйс па маршруце «Парыж — Берлін».
Мы засталіся ў верасні, мы чакаем сваёй плацкарты…
Слухай, любы, ты праўда думаеш, што мы вартыя,
Каб нехта нас памятаў, каб за нас маліў?..

Мы пасталелі, канечне, мы болей не там, дзе боль, —
Мы цяпер адчуваем здалёк гэты горкі водар.
Не падыходзім блізка, стаім наводдаль…
Але цемра, як фельчар, схіляецца нада мною і над табой.

Так бывае, калі разбіваецца сподак, яшчэ на адлегласці ад зямлі.
Калі засынаеш — восень, а ранкам — ужо зіма.
Калі вецер здзяйсняе рэйс па маршруце «Парыж — Берлін»…
…А нас няма.

* * *

Каханне — гэта такі кручок, што тырчыць з твайго жывата:
Хтосьці кране — і ты ледзь трымаешся, каб не скавытаць.
Трэба ж, каб так глыбока, каб нават дыхаць — нязносны боль…
Але нехта прывязвае да яго канат і цягне цябе, знявечанага, за сабой.
Спачатку спрабуеш вызваліцца — вырываеш яго з сябе,
Ды той, хто наперадзе, паскарае крок, пераходзіць пасля на бег.
І ты ўжо клапоцішся толькі пра тое, каб не адстаць:
Вы разам бяжыце ці да Варшавы, ці да Пастаў…
Гэта было б так весела, калі б гэта была гульня,
Але ты не здольны тут аніякіх правілаў памяняць.
Гэта магло б стаць Евангеллем, але з вуснаў — суцэльны енк.
І здаецца, няма болей сэрца: яго, бы камунію, аддаеш.
Ты падаеш, ты гукаеш: «Госпадзі! Выбаў мяне, забяры ты маю бяду!»
І голас чуецца спераду: «Як жа тады цябе павяду?»





Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА

# ТРЫ АПАВЯДАННІ

## Вужыная каралеўна

*Міфалагічна-легендарнае*

Высока ляціць начная бліскавіца, абрынецца дзесьці цяжкім пажарам. Вялікім, спапяляльным, гнеўным. Страшным для ўсяго жывога. І толькі я, Вужыная каралеўна, ведаю, што панёс той злы нябесны агонь імклівы цмок-лятавец. Не, ён не жорсткі, не хцівы. Ні золата, ні срэбра не трэба яму, а шукае цмок нешта больш дарагое. Шукае ды не можа знайсці. Каму як не мне, Вужынай каралеўне, пра гэта ведаць…

Абрываецца долу начная бліскавіца, б'ецца ў зямлю. Ты не страшны мне, водгалас нябеснага гневу. Лёгка схавацца ў топкіх балотах, высокіх трысьнягах, мяккіх імхах. Лёгка схавацца ды нялёгка забыцца… Падае цмок-лятавец долу каменем. Трымае адплату за тое, што абрынуў на зямлю пажар. Боль ды роспач. Шкадаванне, шкадаванне. І яшчэ адзін валун на зямлі, на якой іх і так многа… Абраная, ведная зямля. Прыгожая і самотная. Пра гэта ведаю я, Вужыная каралеўна.

Ды і як мне не ведаць, калі шэпчуць знаёмае вітанне цёмныя балоты, шэрыя, бліскучыя. Іх столькі ж многа, колькі і лясоў, высокіх ды цяністых. І лясы, і балоты, і палеткі, і азёры гэтай зямлі — жывыя… Лесуны, балотнікі, палевікі, вадзянікі… Лесавічкі, балацянкі, палявічкі, русалкі-азярніцы… Гэту зямлю любяць чары. Не крыўдзіць яе ўсюдыісны Сварог. Па гэтай зямлі ходзіць Бялун-Белабог, жадае доўгага веку ўсім годным… І не было б аніводнага няшчасця, калі б не страчаная залатая карона.

Я памятаю пра тую карону кожную гадзіну новага дня і кожную хвіліну новай начы. Што і казаць, магла тая карона ператвараць ноч у дзень, а зіму ў лета. Магла дапамагаць тады, калі далёкім станавілася міласэрнае Сонейка. Толькі… спрачалася карона з самім высокім Сонцам. Зайздросціла яснае, ды не магло саперніцу сваю знайсці. Схавана яна была, і ніхто пра таемную схову

---

***Навасельцава Ганна Віктараўна*** *нарадзілася 11 мая 1983 года ў горадзе Віцебску. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры ВДУ імя П. М. Машэрава (2006) і аспірантуру пры ім (2009). Кандыдат філалагічных навук, працуе на кафедры беларускай літаратуры ВДУ імя П. М. Машэрава.*

*Аўтар міфалагічнай аповесці «Святло зямлі Неўрыда» (2011), друкавалася ў часопісе «Маладосць», абласных перыядычных выданнях.*

не ведаў. Але спрадвеку любілі чары азёрна-лясны край, любілі, як дзень любіць Сонца…

Мне, Вужынай каралеўне, нялюбае Сонца, нежаданы дзень. Я жыву пад зорным небам, красуюся ўначы, дзіўлю свет на змярканні. І заўсёды з нецярпеннем чакаю, пакуль знікне гарачае ды агністае за небакрай. Пад святлом месіка насустрач выходзіць той, дзеля каго я б даравала Сонцу яго пякучыя промні. Патанаю ў ягоных вачах, як у начным лесе патанае цень. Мой любы, мой каралевіч… Не магу не думаць пра залатую карону, калі гляджу на яго. Гэтая карона — твой лёс, мой абраны…

І чаму мне, Вужынай каралеўне, чуецца тады незразумелым чарадзейным водгуллем: «Заранка-Заранiца, люблю цябе, мая ясная. Прасвятлі бяззорную ноч, пабудзі яснае Сонейка, дай мне надзею… Бегчы мне далёка-далёка, шэрымі балотамі, колкімі імхамі, бегчы мне ад зямлі прыгожай, як ты, яснай. Бегчы наўздагон за родным братам сваім, прасіць у яго даравання. Толькі ты, Заранка-Заранiца, пра мяне памятаеш. Толькі ты мяне прабачыш. Прасвятлі маю доўгую ноч, спагадлівая… Заранка-Заранiца…» Усміхаецца мне мой каралевіч, і мінае трывога.

— Люблю цябе. Ты ж ясная мая заранiца.

Я ведаю. Я не бачу свету без цябе, мой чарадзейны каралевіч. Ты — яго мудрасць і спагада, яго веднасць і цярпенне. Раскажы мне зноў пра двух родных братоў… Раскажы пра таго, малодшага, ціхмянага ды лагоднага, што цягнуўся да ўсяго незвычайнага, як цягнуцца чары да гэтай зямлі. Успомні і пра старэйшага, моцнага духам ды слаўнага, гатовага дапамагчы кожнаму, хто пра гэта папросіць… Самыя лепшыя браты. Добрыя сябры…

Маўчыш, мой любы каралевіч, хаваеш ціхі смутак. Я ж цябе ведаю. Не хочаш мне адкрыць сваё расчараванне. Толькі я не магу проста памятаць. Трымаў ты за рукі двух харошых хлопчыкаў, вёў іх у дарослаць і сталасць. Вучыў дабрыні, вучыў любові да сваёй зямлі, дарыў ім магутныя чары. Як жа так зрабілася, што сталі яны ворагамі? Як жа так учынілася, што ты стаў для іх чужым?

Маўчыш, каралевіч, як закляты маўчаць. Іду за табою няроўным шляхам туды, дзе чараў многа. Бяжыць балотамі-імхамі рака, лагодная, чуллівая, цікаўная да ўсяго новага на сваім шляху. Бяжыць далёка-далёка, нібы спяшаецца за некім наўздагон. Толькі не спыняешся тут доўга. Ідзеш узгоркамі ды палеткамі туды, дзе многа чалавечых мар і жаданняў. Бяжыць між хат ды жытоў магутная, шырокая рака. І славяць яе людзі за дапамогу…

І здаецца мне, што чую такое блізкае: «Заранка-Заранiца, ясная Сонцава сястра, бегчы мне ў сіняе-сіняе мора, бегчы і ніколі не вярнуцца назад… Шукаць свайго роднага брата, прасіць у яго даравання. Пачуй мяне, любая. Дапамажы вярнуцца да роднай зямлі, да бацькоўскага пасаду. Не пакінь мяне, Заранка-Заранiца, люблю цябе, мая ясная…»

— Ратуй іх, ратуй мяне, мая каралеўна.

— Заўсёды, мой каралевіч.

Я ж бачу, як нясе цмок злы нябесны агонь. Нясе буры, маланкі ды навальніцы. Карае яго Пярун, гневаецца зямля. Гневаецца на яго, асуджанага прынесці пажар, працятага Перуновым стрэлам, заклятага скамянець. Гневаецца, не спачувае. Толькі хіба мае віну закляты… За што яму пракляцце… За што яму небыццё… За што яму няпамяць… Я, Вужыная каралеўна, ведаю, што, хоць і знікла залатая карона, але засталіся чары. Неўладныя над сабою, асуджаныя шукаць страчанае. Шукаць і не знаходзіць… Асуджаныя пакутаваць, зноў і зноў праходзячы зачараванае кола.

Лёгка ўлавіць Перуновы гнеў і перастаць быць сабой, і забыцца на ўсё, што было… Адбірае нябесны гнеў памяць… І навошта тады ідзе насустрач той, каго ніколі б не хацела бачыць. Той, хто вечна ходзіць над зямлёй высокімі промнямі. Пякучыя промні, пранікліві позірк, неміласэрная пагарда:

— Нарэшце ты вярнулася, сястра мая, Заранка-Зараніца. Доўга ж ты хадзіла па зямлі.

Я ведаю… Але не даўжэй за вечнасць, а Сонца вечна ходзіць над зямлёй.

Яно, Сонца, саграве ды лашчыць свет. Ад Сонцавай дабрыні цвітуць краскі-кветкі, ад Сонцавай сілы вызваляюцца з ледзянога палону сінія рэкі. І славяць людзі яго і мяне, Заранку-Зараніцу, малодшую Сонцаву сястру. Сястру, якая ідзе наперадзе Сонца, але ніколі не будзе роўнай яму. Гэта я першай усміхаюся зямлі. Але так нядоўга… Сонца ж доўга-доўга глядзіць на зямлю. І няма нічога, што б схавалася ад высокіх усюдыісных промняў. І толькі Сонца ведае ўсю праўду пра двух родных братоў…

— Раскажу табе, сястра, што зрабіў з тымі братамі твой любы, твой абраны, Вужыны каралевіч.

Правальваюся ў нетры Сонцавай памяці, іскрыстай і выразнай да самай маленькай драбніцы. І бачу пранікліўымі Сонцавымі вачыма, як знікаюць пераможаныя вужы ў багнах ды балотах. Яны паўсталі супраць яго, Сонца, і яны пакараны. Скамянелі на зямлі цмокі-волаты, забіты спапяляльным Перуновым гневам Вужыны кароль, і толькі таямнічы каралевіч вужоў паспеў некуды схавацца. Не знаходзяць яго пасланыя наўздагон маланкі-бліскавіцы, дарма падае на зямлю Перуновы гнеў, доўга няма ані слыху, ані следу. Толькі не зніклі зусім вужыныя чары…

— Цяпер ты ведаеш, сястра, як усё пачыналася. І як усё хутка скончылася, не паспеўшы пачацца.

І не толькі Сонцава памяць, з якой не згубілася яшчэ нічога, расказвае мне, што ж адбылося далей. Павялі над зямлёй зоркі ясны карагод і ўбачылі, як падараваў Вужыны каралевіч свае чары двум маленькім хлопчыкам, сынам старога сівавалосага Рыдана, уладара вялікай і слаўнай зямлі. І не магло болей Сонца пакараць каралевіча вужоў. Сталі падрастаць хлопчыкі-абраннікі, у ладзе і згодзе квітнела самая прыгожая зямля… І тады ўбачыў празрысты месік, падслухалі шэрыя хмурынкі, пра што шэпчуцца простыя людзі. Маўляў, ёсць у Рыдана-валадара старэйшы за двух малодшых сыноў Каралевіч-чарадзей. Думае ён пра тое, як заняць бацькоўскі пасад, і не шануе ані роднага бацькі, ані клапоціцца пра малодшых баратоў. Хаваецца з чорнымі думкамі няведама дзе. Нездарма ж ніхто яго не бачыць. Ні зоркі, ні месік, ні хмаркі тады напраўду не бачылі майго каралевіча…

Цягне да мяне рукі сястра мая, Вячэрніца, старэйшая за Сонца. Што ж, мы ніколі не маглі дацягнуцца адна да адной, хоць вельмі хацелі. Гаворыць мне, каб не слухала Сонца, каб не баялася яго нялітасці. І яшчэ гаворыць мне, што добры і слаўны мой Вужыны каралевіч. У той час, калі змярканне ахінала зямлю, калі Сонца ўжо хавалася, але не наступала яшчэ цемрадзь ночы, нібы ў чаканні некага з’яўляўся ён на ростанях дарог. Гналі трывожныя вятры лёгкія хмары, шапталі свае замовы чараўнікі, шукалі пярэваратні свайго новага аблічча, а ён цярпліва чакаў некага аж да самай ночы. Ці дакачаўся толькі…

Ходзіш ты на змярканні, сястра мая Вячэрніца. Любіш хадзіці па зямлі. І я памятаю, што ты аднойчы сказала мне:

— Лёгка ты ляціш, сястра, наперадзе Сонца. Але ці паспець табе за тую кароткую хвіліну наглядзецца на такую прыгожую зямлю. Доўга я хаджу па зямлі ды пакутліва саступаю месца ночы. Зноў і зноў перамагае мяне ноч,

смяецца, што слабая сястра ў вялікага Сонца, толькі кожнае імгненне тых пакут вартае…

І я памятаю, сястра, што захацела пабачыць-пахадзіць па такой прыгожай зямлі. Доўга прасіла Сонца-брата адпусціць мяне, доўга не хацеў ён таго ўчыніць, але ж хіба можна было ўтрымаць імклівую Заранку-Зараніцу… «Ляці, сястра, што ж мне з табою рабіць», — прагучалі братавы словы, і я пайшла за табою…

Што ж, пабачыла ростань вячэрніх дарог. Пабачыла яго, каралевіча чарадзейнага вужынага народа. Чарадзея-пярэваратня. Ці ж сапраўдным толькі было ягонае чалавечае аблічча?..

Ці гэта мне прыснілася-прымроілася, ці гэта некалі было?.. Няма ж у чараў памяці…

Знікаюць ростані дарог у празрыстай смузе. Высокае, нязвыкла высокае неба. Спавівае вялікі свет сваімі цягуча-сінімі чарамі сястра мая, Вячэрніца. Толькі не адны яе чары разлітыя па-над светам… Кліча і зачароўвае такая прыгожая зямля.

На змярканні выходзіш мне насустрач, Вужыны каралевіч. Закрываеш сабой такія зазыўныя ростані дарог. Ад чаго мяне засланяеш, як засланяюць людзей ад чорных закляццяў мудрыя вужы? Што ад мяне хаваеш?

А ты назваў мяне светлай Сонцавай сястрою. І нічога не хацеў ад мяне хаваць. Ні таго, што шукае цябе мой брат ды адшукаць не можа, ні таго, што ніколі не забудзецца вужыны народ пра страшную Сонцаву кару. І яшчэ ты спытаў, калі ж паклічу я свайго брата, паклічу вялікае Сонца…

— Не буду Сонца клікаць, Вужыны каралевіч. Не хачу цябе караць, а хачу табе верыць…

А што б сталася, калі б спаліў цябе мой брат… Не хацела я, Зараніца, рабіцца нечым змярканнем. Ведаць бы, што і ты быў шчырым… Толькі стала я Вужынай каралеўнай. Стала Зараніца цямнейшай за Вячэрніцу.

— І дзе ж карона, сястра? — пытаецца Сонца. — Дзе ж залатая карона, роўная мне?

— Я не адкажу табе, брат. Хопіць ужо гневу, хопіць скамянелых сэрцаў. Няхай бы і ты забыўся пра тое, што паліць цябе…

Але Сонца заўсёды было агнём. Агонь жа не мог забыцца…

А я ніколі не змагу забыцца пра твой вялікі давер, Вужыны каралевіч, чарадзейнае спадзяванне гэтай зямлі…

І што ж такое сталася, што Сонца сказала мне:

— Змяніць свет гнеў на літасць, сястра. Вяртайся да свайго Вужынага каралевіча.

І яшчэ пачула я апошнія словы, моўленыя адвечным Сонцам:

— Але не перастану я шукаць самую чарадзейную залатую карону…

Што ж, брат, хто б смяротны ці несмяротны табе не паверыў… Не пераставай яе шукаць. Прыветна ахінаюць мяне вужыныя чары, самыя надзейныя чары прыгожай зямлі. Яны могуць вярнуць мінулае, могуць прадказаць будучае. Трэба толькі адно — пажадаць…

І я вяртаю наша мінулае. Толькі наша з табою, Вужыны каралевіч, каб зноў яго перажыць… Я хачу зразумець, што павінна змяніць, каб адвесці бяду… Хачу ратаваць тваіх хлопчыкаў, хачу ратаваць цябе, гонар вужынага народа.

Бачу, як беражэш ты двух братоў. Становяцца дарослымі хлопчыкі, якія шануюць звычай сваёй зямлі. Ты можаш ганарыцца, мой каралевіч. Яны чуйныя да ўсяго, што адбываецца на свеце. Цябе ж нішто так не выяўляе,

як спагада. І зноў чую, як дзівяцца простыя людзі з каралевіча-чарадзея. Перастаў ты хавацца немаведама дзе і часта з'яўляешся побач з ужо вялікімі Рыданавымі сынамі. І тыя, хто памятаюць, што насіў ты іх некалі на руках, не заўважаюць ані сівых валасоў, ані зморшчынак на тваім чале. Выраслі браты, але ты не пастарэў ані кроплі. Не ведаюць яны, самыя простыя, што такое вужыная кроў. Зайздросцяць. Баяцца. Але я ведаю, што даражэйшы ты Рыдану за родных сыноў. Можа, з гэтага ўсё пачалося…

— Вужыч, — чую тваё чалавечае імя з вуснаў братоў. — Раскажы нам пра свайго бацьку…

— Якім быў кароль твайго народа? — пытаецца старэйшы.

— Якія чарадзействы ён мог тварыць? — не маўчыць і малодшы.

— Ён быў слаўным? — гэта старэйшы.

— Ведаў усё пра чары і чарадзеяў? — гэта малодшы.

Хочуць быць падобнымі да цябе, і смяецца з сыноў стары Рыдан:

— Хтосьці жадае браць з цябе прыклад, Вужыч. Ці здолее толькі…

А ты, мой каралевіч, не быў бы тым, хто мне спадабаўся, калі б не адказваў:

— Здолеюць. І будуць слаўнымі валадарамі, і будуць спагадлівымі чарадзеямі. І будуць любіць свой народ, сваю зямлю.

Але нічога не расказваў ты пра свайго бацьку, пра вялікага Вужынага караля, каму проста было пахіліць майго брата — трысветлае Сонца. Нічога не расказваў, але ж хіба не думаў, не ўспамінаў пра яго, кроўнага, кожны раз, калі глядзеў ва ўсмешлівыя Рыданавы вочы…

Кароткія мае імгненні перад узыходам Сонца, але здолела я ўбачыць, як бясконцы смутак поўніць чалавечае Рыданава сэрца. Поўніць кожны раз, як ён глядзіць на цябе, Вужыч… Пра што ж ты смуткуеш, бацька харошых сыноў… Не ведаю пра тое. І чамусьці маруджу паклікаць чары.

— Вужыч, раскажы… Вужыч, навучы… — не адпускаюць цябе тыя, кімі ты болей за ўсіх ганарышся.

А я хачу дазнацца пра таямніцу, якую хавае стары Рыдан. Хто ж стане глядзець табе ў вочы, праніклівы чалавеча, калі не могуць людзі надзівіцца з каралевіча вужынага народа… Угадае ён запаветныя мары і жаданні, слаўна парадзіць ды падкажа. І людзі болей вераць яму, Вужычу, чым самому Рыдану. Але і яны, каму не дадзены чары, нібыта ўведалі, што слухаюць яго слова азёры і крыніцы, палеткі і лясы. І пачасту ты знікаеш, Вужыч, у цёмных балотах… Куды? Навошта?

Што ж, заўсёды вужы збіралі па драбніцах веды цэлага свету. Мабыць, ад таго і слухаюцца іх чары, і жывуць яны доўга-доўга, і будзе шчаслівым абраны імі народ. Мігціць жа недзе схаваная залатая карона, множыць сілы азёрна-ляснога краю. І здарыцца такая часіна, калі засвеціцца залатая карона ясна-ясна… Не тое важна, што ноч стане днём, а зіма — летам… Будуць чары ў людскіх хацінах, будуць сябраваць мудрыя вужы з імі, самымі простымі. Трэба толькі дачакацца, але бясконца доўжыцца вужынае цярпенне. Вужы ўмеюць чакаць, пакуль вырастуць тыя, каму наканавана насіць залатую карону. Вужы разумеюць, што яна цяжэйшая, чым здаецца…

Я чакаю гэтага поруч з табою, Вужыны каралевіч. Захінаю заранкавым святлом Рыданавых сыноў. Не ператварыцца ім у рэкі. Разарвуць веднасць і цярпенне зачараванае кола, і не скамянее ад гора аніводнае сэрца…

Толькі за тое, што з'яўляюся я побач з табою, усё часцей называюць мяне Вужынай каралеўнай. Тады, калі не ўстаў яшчэ мой брат, гляджу я на азёрна-лясную зямлю. Не крануць яе буры, маланкі ды навальніцы. Вялікая сіла

ў маіх чарах. Ты ж мяне так лёгка носіш, зямля майго каралевіча. Абраная, ласкавая, вартая залатых карон з усімі цудамі свету.

— Хлопчыкі, — кліча Вужыч за сабою Рыданавых сыноў.

— Мы не хлопчыкі, — адказваюць у адзін голас браты. — Мы дарослыя і табе роўныя…

Цешыцца стары Рыдан з сыноў, пазірае на Вужыча, сціскае трывога маё сэрца. Вядзе трывога за сабою прымройлівы сон, дзе з'яўляецца мне сам Светавіт — ясны дзень. Гаворыць мне, каб не большала моцы чараў, бо не змяніць прызначанага лёсу… Кліча мяне дзень, кліча мяне святло, а Рыданавы сыны называюць мяне Вужынаю каралеўнаю. У захапленні ловяць кожны мой позірк.

— Усміхніся нам, каралеўна. Твая ўсмешка — ясная зараніца, — ходзяць за мной родныя браты.

А я ўсміхаюся аднаму Вужычу. Яму, які шэпчацца з зямлёй, прыходзіць са змрокам, знікае на золку. Што ж, хутка надыдзе час, калі найярчэй заіскрыцца самая чарадзейная карона.

Мне падалося, што зніклі з белага свету ўсе чары, што парвалася безупыннае кола часу, калі ты нарэшце сказаў Рыдану:

— Назаві імя годнага сына. Будзе яму залатая карона, будзе яму бацькоўскі пасад.

— А што будзе другому? — не змаўчалі браты.

— Другому будуць чары. Ад іх спазнае ён веднасць і хараство. І прымуць яго зямля і неба, і стане ўвесь вялікі свет яго домам…

Заспрачаліся браты, бо кожны хацеў атрымаць залатую карону. Зажурыўся стары Рыдан.

Але ты, Вужыч, не быў бы тым, з кім я стала поруч, каб не мовіў:

— Не сварыцеся, браты, не смуткуй, бацька. Не страціш ты другога сына, якому наканавана пайсці ў свет, а будзеш горды за абодвух. Не мною і не табою, а толькі выпрабаваннем няхай будзе абраны годны…

— Што гэта будзе за выпрабаванне? — спытаў стары Рыдан.

І ты, Вужыны каралевіч, замовіў чалавечым сынам выпрабаванне:

— Той, хто прынясе залатую карону да слаўнага бацькоўскага пасаду, і атрымае з ёю ў валадарства азёрна-лясны край…

Навыперадкі кінуліся бегчы Рыданавы сыны, зноў засмуціўшы свайго старога бацьку. І тады спытаў стары Рыдан цябе, каралевіч:

— Чаму адмовіўся ты ад таго, што было ад нараджэння тваім?

Я не забуду тваіх загадкавых слоў у адказ:

— Не магу адмовіцца ад таго, што маё ад нараджэння, але і не магу ўладаць тым, што мне ўжо не належыць. Пайду за тваімі сынамі, Рыдане, стану іх надзеяй і пакараннем. Буду глядзець, каб не абмінулі яны кароны. Буду слухаць іх крокі. Буду спадзяваннем твайго краю. Памятай пра мяне, калі стане зусім цяжка…

Толькі стары Рыдан, пачуўшы такія словы, яшчэ болей зажурыўся. Які бацька мог выхаваць такога сына… Якім жа быў ты, Вужыны кароль, што не пабаяўся кінуць выклік самому Сонцу… Стаўся каралём лепшы з Вужынага народа. Народа заступнікаў, народа абаронцаў… Але гэта вужы ценямі ідуць за тымі, хто задумаў учыніць нядобрае. За тымі, якія павінны стаць героямі і абраннікамі, ды воляй лёсу становяцца ўсяго толькі здраднікамі. Вужы — іх боль і пакуты, апошняя кропля сумлення, апошні дарунак лёсу вярнуцца і вярнуць… Відушчыя, відушчыя нават болей, чымсьці неўры-чарадзеі, якія таксама не абмінулі азёрна-лясной зямлі. Замірае ў

ціхім прадчуванні сэрца. Чакае не чараў, не таямніц, нават не радасных сноў. Чакае нечаго большага…

А ты, мой каралевіч, знік у раняшняй смузе. Сказаў мне:

— Не забывай мяне, мая каралеўна. Я ніколі не пакіну цябе… Прашу, не перастань мяне чакаць.

Сказаў так ды доўга-доўга няма цябе, доўга-доўга няма братоў. Ані слыху, ані следу. Ужо не вераць людзі, што вернуцца жывымі Рыданавы сыны. А яны ж абаронцы краю, нашыя абаронцы… Уведаўшы пра тое, прыйшоў бязлітасны вораг. Нішчыць ды рабуе зямлю. Стуткам ды галашэннем пацягнуліся раней вясёлыя песні. Дзе ж ты, Вужыны каралевіч? Няўжо не вернешся, няўжо не прагоніш ворагаў?

Калі заранiцамі пылаюць пажары, сняцца трывожныя сны. Нібыта разліваюцца з гора тры вялікія ракі, якія нясуць у далёкія землі ўсю прыгожосць і магутнасць азёрна-лясного краю. Сніцца яшчэ, што як быццам бягуць тыя рэкі з бацькоўскага гора ды сыноўняй віны, з горкіх людскіх слёз ад кроўнай здрады… І мовіць мне ў тых снах прагневаны Светавіт, што не толькі слабыя чалавечыя сэрцы, але і мае чары таму віною: «Глядзі цяпер на тыя рэкі, Заранка-Зараніца. Забралі яны ўсе чары тваёй улюбёнай зямлі, і ўжо ніхто нічога не верне». Толькі не збывайцеся, сны… Вярніся, Вужыны каралевіч, знайдзі шлях да паратунку. Ты адзін можаш зрабіць такое дзіва…

Цябе няма, Вужыны каралевіч. Нясцерпнымі робяцца страты. Не аддамо самай белай на свеце зямлі. Дзе вы, лесуны, балотнікі, палевікі, вадзянікі, русалкі? Давайце будзем бараніцца разам… Зашумелі лясы-бары, праганяючы чужынцаў, топкімі сталі для іх балоты, пацягнулі іх у непраходныя нетры русалкі. Стала для іх разлівацца зараніца чырвонай-чырвонай крывёю… Толькі мала ўсяго гэтага, каб ратаваць цэлы край.

Сплываюць сілы азёрна-лясного краю ў няроўным змаганні, прыходзіць адчай у самыя мужныя сэрцы. І ўжо тады, калі няма надзеі некага чакаць, з’яўляецеся вы, сыны Рыдана, нашыя няспраўджаныя абаронцы. Ды каб жа з радасцю…

Жорсткасць і ўладалюбства ў такіх некалі прыгожых вачах таго, старэйшага. Бязмежная апантанасць чарамі і нецярплівасць — у позірку малодшага. Доўга ж вандравалі вы на чужыне, мілыя браты… Ой жа не ласкава азваліся вам тыя шляхі-падарожжы.

І мовіць старэйшы брат роднаму бацьку:

— Прабач, што доўга нас не было. Не ведалі мы, што трэба было вярнуцца. Але мусім дадаць жаль да жалю і смутак да смутку твайго. Хоць і знайшлі мы залатую карону, але скралі яе ў нас тваё злыя ворагі. Тыя, што цяпер ваююць наш край… Скралі ды панеслі за скалістыя горы.

І мовіў сыну ў адказ сівавалосы валадар:

— Што ж, дарагі сыне, відаць, лёсам мне наканавана смуткаваць ды журыцца… Бяры хутчэй меч сталёвы, зброю гартаваную. Бяжы да скалістых гор за ворагамі нашымі наўздагон. Можа, і дагоніш іх, цікунцоў з каронай.

Якім не быў уладалюбным старэйшы Рыданаў сын, але мусіў паслухацца бацьку. Пабег наўздагон за тымі, хто скраў такую доўгачаканую залатую карону. Стаіўшы дыханне, чакаў увесь край, як скончыцца тая пагоня. Але не вяртаецца старэйшы сын — і зноў ліецца многа слёз. І мовіць тады Рыдан свайму малодшаму сыну:

— Пакліч свае чары, сыне. Даведайся, што з тваім братам. Ці не трэба яму падмога?

Прыклаў малодшы сын вуха да зямлі, паслухаў ды адказаў:

— Лёгка бяжыць мой брат за цікунцамі з каронай. Хутка мінае чужыя землі. Не выбіўся яшчэ з сіл…

Уздыхнуў стары Рыдан, усё яшчэ спадзеючыся прычакаць сына. І толькі я, Вужыная каралеўна, толькі я адна здагадалася, што ўсё непапраўна змянілася. Ведаю, што не дапамогуць болей чары, хоць ізноў мовіць стары Рыдан малодшаму сыну:

— Пакліч свае чары, мой сыне. Даведайся пра свайго брата. Ці не трэба паслаць яму падмогу?

Прыкладае малодшы сын вуха да зямлі, пільна слухае ды ціха гаворыць:

— Лёгка бегчы брату майму. Не кранучца яго сэрца чужыя землі… І, хоць не выбіўся ён яшчэ з сіл, усё далей і далей ад яго цікунцы з каронай.

Нічога не адказаў стары валадар малодшаму сыну. Адно загадаў клікаць людзей з усіх куткоў зямлі. Хутка паляцелі ганцы, панеслі загаднае Рыданава слова. Не прамінулі людзі з’явіцца перад высокім Рыданавым пасадам, і мовіў ім, самым простым, сівавалосы валадар:

— Доўга трымаў я ўладны пасад над гэтым краем. Зазналі вы славу і радасць, але зазналі і гора. Цешыць мяне тое, што радасці было болей. І адчуваю сваю віну за вашыя слёзы і кроў. Думаў я, што зойме мой пасад самы лепшы з сыноў, толькі не суджана таму адбыцца. Хопіць мне глядзець на цяжкія пакуты, аддамо свой пасад не старэйшаму сыну, не малодшаму сыну, а Вужынаму каралевічу…

І яны, самыя простыя, паверылі ў Рыданаву мудрасць. Спакутаваныя, яны ўбачылі ў ім, дзіўным каралевічы, сваё ратаванне. Яны ўсё яшчэ памяталі яго. Яны не маглі паверыць, што цуду ўжо не будзе, што ніколі не вернецца каралевіч вужоў…

Не змаўчаў малодшы сын на бацькавы словы. Крыкнуў гнеўна:

— А дзе ён, дзе ён цяпер, ваш чаканы Вужыны каралевіч? Чаму не спяшаецца вас ратаваць? Чаму з тае часіны, як пайшлі мы з братам па залатую карону, ніхто не бачыў яго? Я — лепшы з Рыданавых сыноў. Мне наканавана трымаць пасад. Я — варты, бо валодаю чарамі. Я дазнаюся, што з маім братам…

З гэтымі словамі прыклаў малодшы брат вуха да зямлі, пільна-пільна паслухаў ды мовіў:

— Цяжка бегчы майму брату. Точыць ягоныя сілы чужына, шум зямлёю ідзе. Усё далей ад яго цікунцы з каронай…

І мовіў Рыдан малодшаму сыну:

— Што ж, сыне, бяжы наўздагон за цікунцамі з каронай. Дапамажы брату, бо не праб’ецца ён адзін праз скалістыя горы…

І паімчаў малодшы брат наўздагон за старэйшым. Паляцеў, толькі яго і бачылі. Няўжо ж так прагнеш залатой кароны, малодшы… Ці гэтаму вучыў цябе Вужыч? Дзе ж ты сам, мой каралевіч? І чаму я болей не веру ў тваю дабрыню і мудрасць… Зноў нягоды апанавалі самы прыгожы край, і я болей не чакаю цябе. Ізноў шле мне Светавіт самы трывожны вяшчунны сон…

Сплываюць слязамі тры вялікія ракі. І чамусьці я ўпэўнена, што б’юцца ў іх тры вялікія чалавечыя сэрцы. Гаворыць мне чалавечым голасам першае з сэрцаў:

— Ён хацеў, каб стаў я вялікім валадаром. Я толькі здзейсніў тое, чаму ён мяне вучыў.

— Што ж ты зрабіў?

— Я забіў Вужынага каралевіча.

Гаворыць мне чалавечым голасам другое з сэрцаў:

— Ён хацеў, каб стаў я вялікім чарадзеем. Я толькі здзейсніў тое, чаму ён мяне вучыў.

— Што ж ты зрабіў?

— Я забіў Вужынага каралевіча.

Заплакала трэцяе сэрца:

— Каб жа вы ведалі, каго вы забілі. Бадай нам, дзеткі, слязамі разліцца… Я хацеў, каб ён заўсёды быў побач. Але не суджана лёсам трымаць за руку ад маленства і да юнацтва яго, свайго сына… Няўжо ён ніколі не падаруе мне…

Бурляць вялікія рэкі. Мовіць мне Светавіт, што вужы заўсёды помсцілі за здраду. А я гляджу ў мінулае, дзе мяне няма. Бачу маладым таго, хто даўно ўжо сівавалосы. Ён абуджае чары, якімі нікому не заўладаць. З нетраў зямлі падымаецца той, каго ўсім нам трэба баяцца…

Пытаецца ў Рыдана Вужыны кароль, несмяротны кароль цмокаў:

— Чаго ты прагнеш, чалавеча?

— Каб заўсёды быў слаўным мой край…

— Што ж, аддай мне свайго першароднага сына…

І ты, Рыдане, не спытаў пра славу месіяў, не спытаў пра славу адкупіцеляў, але аддаў свайго першынца Вужынаму каралю. Так стаў твой сын Вужыным каралевічам… Каралевічам, які вярнуўся да свайго народа. Вужыным каралевічам з чалавечым сэрцам.

— За што ж вы забілі яго? — пытаюся ў іх, у каго, спадзяюся, некалі былі чалавечыя сэрцы.

— За тое, што ведаў, дзе залатая карона, але нам не сказаў. А мы не маглі знайсці тую карону без яго, Вужыча…

Бурляць слязамі вялікія рэкі. Гнеўна ўсміхаецца мне Сонца. Не дарue і Светавіт, што не пакінула я чарадзеіць. Толькі цябе няма, мой каралевіч. Зоркі, месік і хмаркі даўно згубілі твае сляды. Не азваўся ты мне, Вужыч. Не азавешся мне ніколі. Нестае змогі цябе клікаць, нестае волі чакаць…

Глянуў мне ў вочы вялікі Светавіт. Мне, ужо не светлай, мне, яшчэ не цёмнай. І спраўдзіўся вяшчунны сон.

Пабеглі далёка-далёка тры вялікія ракі. Пабеглі сінія-сінія, спадзеючыся сплысці туды, дзе меней пакут і адчаю. Толькі хіба можна збегчы ад свайго сумлення, ад братняй здрады… Не хачу і я пазбаўляцца памяці… Хочацца пайсці ўсед за вамі, сінія-сінія. Але не пайду. Каб і магла вярнуцца ў вечна паўтаральнае кола часу, каб і магла знайсці цябе, мой каралевіч, каб і магла быць з табою… Вяртае кола расчараванні і страты. Вяртае кола нас саміх да пачатку. Вяртае, але нам не можа вярнуць…

Першым пабег магутны Дняпро. Пабег у сіняе мора, далёка ад бацькоўскага пасаду. Ты ж хацеў быць валадаром сваёй зямлі. Ніколі табе назад не вярнуцца. Можа, чужыя землі будуць табе мілейшымі, можа, здабудзеш там сабе чаканую карону?..

Другім пабег цікаўны Сож. Ты заўсёды хацеў уладарыць чарамі. Што ж, шукай іх балотамі, шукай імхамі. Балоты хаваюць многа таямніц. Можа, падораць літасць схаваць тваё чорнае сэрца…

За імі павольна паплыла сцішна-самотная Дзвіна. Плысці табе шукаць роднага сына. Плакаў ты, Рыдане, усё жыццё, плакаць табе і цяпер, пакуль не знойдзеш яго, першароднага… Не мінецца слава твайго і майго краю. Не змагчы мне волю Вужынага караля, не зрабіць нясказанымі яго словы. Але ніколі не пакіну самай прыгожай белай зямлі. Тут маё наканаванне. Зачарую азёрналясны край я, Вужыная каралеўна, каб ніколі не мінулася яго надзея. Як ніколі не мінешся ты, Вужыч, маё зямное каханне, мая нябесная радасць.

З таго імгнення, як мовіў памятаць і чакаць, не бачыла цябе. Ты бясследна знік у сваім народзе. То, здасца мне, мільгнеш сярод абаронцаў горада, калі той бяруць прыступам чужынскія раці. Той горад застанецца няскораным… То суцешыш пакінутае дзіця, калі яно не можа дачакацца маці. І па тым, што дзіця вырастае спагадным і цярплівым, я здагадаюся, што гэта твой след… І гэта ты, Вужыч, ідзеш залатой восенню ў свой змяіны вырай. Скідаеш залаты ражок на белы абрус, калі ўкленчыць перад табою ён, самы просты. Даруеш яму цуды залатой вужынай кароны, як дараваў і мне. Нездарма ж шануюць вужоў людзі азёрна-лясной зямлі, шануюць тых, хто цябе выхаваў. Толькі шкадую я пра тое, што не дазнаешся ты, як спяваюць слаўныя песні пра магутны Дняпро. Як ласкава шэпчуць замовы імкліваму Сожу, як клянуцца роднай зямлі ў сыноўняй вернасці самым дарагім — Рубонам — шырокай Дзвіной… А цябе памятаць толькі мне адной, мне, Вужынай каралеўне.

Ляціць зараніца над азёрна-лясным краем. Успыхвае імгненна і ясна сярод глухіх пушчаў, цёмных бароў. Змяняе ноч на дзень, змяняе зіму на лета. Але што мне да гэтага… Ведама ж мне, што спяць у лясных нетрах скамянелыя ў валунах цмокі-волаты. Водзяць карагоды русалкі-азярніцы, смяюцца зманлівым рэхам лесуны. У вячэрняй тоні, у начной смузе сярод топкіх балот, можа быць, што хаваецца яшчэ іскрынка святла. Хаваецца маё скамянелае сэрца, сэрца цёмнай Вужынай каралеўны.

## З сон-травою…

*Міфалагічна-легендарнае*

Я заўсёды ведала, што самая зманлівая ва ўсім белым свеце — сон-трава. Сасніць яна табе тое, што хочаш убачыць, сасніць — і ты паверыш у гэта. Як у сапраўднасць… Не бяры ў рукі сон-травы, не пускай да сябе зманлівых сноў. Не трэба яны, чарадзейныя, падобныя да забытай мары. Я аніколі не брала ў рукі сон-травы, хоць верыла і чарадзеіла, марыла і сніла. І заўсёды хацела пабачыць тое, у што проста не змагу паверыць. Як жа можна паверыць у тое, чаго няма? Як можна?

Але аднойчы не маёй воляй сон-трава апынулася ў маіх руках. І здзейснілася маё жаданне. Здзейснілася, каб паказаць мне, што сон-трава — моцная… Вельмі моцная. Шмат мацнейшая, чым здаецца. Я доўга, доўга сніла…

…Так слаўна жыць у сінім чарадзейным лесе. Мовяць табе дрэвы і птушкі. Мовяць і самі разумеюць цябе, не чужую для іх, чаканую. Тут — суладдзе, якога нішто не зможа парушыць. Адно не сябруй з сон-травою, якой у сінім лесе так многа… Куды ні кінь вокам, усюды — яна. Шэпча табе начнымі зорамі: «Думаеш, гэты лес завецца сінім ад таго, што ясна-срэбны ў водблісках зор?» Ад чаго ж яшчэ… «Сарві мяне, раскажу табе праўду…» Ды якую праўду? І так ясна ўсё… Раніцай узіраешся ў плыткае крынічнае люстэрка, а сон-трава зноў сваё: «Думаеш, гэта адзінае люстэрка, якое не даецца ў рукі? Ведала я аднаго чарадзея, які з бяздонных вод і сінечы неба адліў самае дзівоснае люстэрка на свеце». Не веру табе, ты — мройлівая… «Мне ж не вер… Павер беламу свету. Сарві мяне — і дазнаешся пра ўсё…» А вечарам, калі так ціха шэпчуць пра жаданы сон іскрыстыя росы, зноў не маўчыць сон-трава: «Выпі расы, што сабрала ў мяне. Аддам табе ўсе свае чары. Свае і сястры маёй — пералёт-травы… І зможаш стаць веднай ды шчаслівай, зможаш выйсці з зачараванага сіняга лесу».

Ды нашто слухаць жахі, якія шэпча табе сон-трава… Шкодная яна, злая. Так лёгка тварыць чары ў сінім лесе, які, здаецца, дыхае імі. І чаму ж тады зноў і зноў мне сніцца вартаўніцкі позірк векавых дубоў, маўляў, мы не супраць вашага бесклапотнага жыцця, але, калі здарыцца, што мы ўбачым, мы дапаможам… Сіні маладзічок заплывае ў іх галіны, моцныя, дужыя… Заплывае і заве за сабою. Здаецца, ухапі адной рукою за востры ражок, а другой за вузлаватае вецце — і станеш мудрай, дужай, смелай… Не стомішся глядзець на свет маладым позіркам, але і ніколі не забудзеш падараванага мінулым… «Ніколі не стомішся шукаць новага. Ніколі не пакінеш сваёй спадчыны», — угадае твае думкі пералёт-трава. І як здолее толькі… «Бо ўсе твае думкі — мае. Мае». Не хачу цябе слухаць… «Не слухай. Проста вазьмі ў рукі колькі маіх сцяблінак». Навошта? Падманеш, прысніш… «Як жа я стамілася вырывацца з вечнага палону. Пачуй мяне, дапамажы. Моцна трымае мяне праклядце, але тваёй дабрынёй стану я за яго мацнейшай… Сарві мяне, знішчы праклядце».

Я б сама аніколі не ўзяла б у рукі зманлівай сон-травы. Проста ў адну цёмную хвіліну сарваліся колькі лісцікаў сон-травы ды лісцікаў пералёт-травы зусім незнарок… Заплакаў з жалю сіні лес, а мне адкрыўся новы свет, якога раней не бачыла, пра які раней не чула…

Адкрыліся чары таго свету, адкуль і з’явілася сон-трава. Не здзяйсняліся там твае спадзяванні, як у сінім лесе. Не гаварыла з табою зямля, не глядзела ў душу сіняе неба. Спявалі людзі песні, марылі і чакалі, але не суджана было гэтаму збыцца. Забываліся светлыя мары ў цяжкай працы за кавалак хлеба. Толькі і гэта было яшчэ не ўсё… Гневаліся людскія ўладары, не за свае землі, не за сваіх людзей. Проста загадвалі і гневаліся. Чорнымі балючымі хвалямі каціліся войны ды страты. Роспач. Роспач. І я, чужая гэтаму свету, убачыла, што няма гэтаму канца… Я не змагу жыць у такім свеце. І тады папрасіла: «Сон-трава, пакажы мне пачатак… Пакажы, з чаго ўсё так сумна сталася…» «Пэўная ў тым?» — «Як аніколі…»

«Глядзі…» — сказала мне сон-трава. «Спі-засні», — мовіла мне сон-трава. Адкрыла не сон, адкрыла яву, дзе я пабачыла… Пабачыла сябе…

…Дзе кажа мне той, з кім я вырашыла расстацца:

— Беражы люстэрка маё. Беражы, не разбі… Адліў яго з тоняў цёмных азёр…

— А з чаго яшчэ?

— З лепшых чараў тваёй зямлі, мая дарагая.

— Такое дзівоснае люстэрка... мне? Мне…

— Вазьмі яго, каб заўсёды памятаць пра нас… І каб заўсёды пабачыць свой лёс.

— Ведаць свой лёс? Гэта страшна…

— Не ведаць. Прадбачыць, прадказваць. Не ўчыніць таго, пра што будзе шкода.

— І якія ж чары могуць адкрыць такое?

— Чары кахання… Чары славы… Чары летуцення… Усё — у тваім люстэрку. У ім ёсць усё… Але не проста ў яго глядзецца. Пакажа табе маё люстэрка і страты, і горыч, і роспач. Усё, пра што забылася. Усё, пра што б хацела забыцца… Выбірай, лесавічка з сіняга лесу.

— Я зазірну ў люстрэка…

Зазірнула. І паказала мне люстэрка, як радасна свеціць яснае сонца. Як цягнецца да яго нейкі незнаёмы, раней не бачаны сіні лес. І гнецца ад ветру, бязгучна кліча некага сон-трава. Але не ідзе да яе аніхто. Аніхто чаканы,

жаданы, шчаслівы. Мне падалося, што гэта не сон-трава з люстранога бяздоння, гэта я прамовіла:

— За што ты гэтак са мною?

Адказаў той, хто падараваў такое дзівоснае люстэрка:

— За тое, каб успомніла ўсё, пра што забылася… Сустрэнемся ў вечнасці, лесавічка…

І першым знікае той, каго я вырашыла пакінуць. Прабачальна ззяе, нібы жывое, чароўнае люстэрка. Нібы разумее, як цяжка стрымаць адчай, калі навокал — весялосць і радасць… «Каханне… Слава… Мара… Падумай пра светлае…» — бязгучна шэпча мне люстэрка. За што і ты з мяне здзекуешся, жывое? «Не здзекуюся. Спачуваю». Як можаш спачуваць ты, стварэнне чараў? Ды яшчэ і стварэнне ягоных чараў… «Я невінаватае, — шэпча мне ў адказ люстэрка, — што зрабіў мяне той спадарожнік часу. Але і ён не заўсёды быў такім. Я ж маю сваю ўласную волю і таму скажу табе: калі зараз жа разаб'еш мяне, то назаўжды пазбавішся прадказанага лёсу… І ніколі не сустрэнеш болей самага веднага чарадзея — спадарожніка часу…» Я не разаб'ю цябе, чароўнае… Не магу я разбіць тваю мару. Не магу я разбіць тваю славу. «А каханне?» — зноў бязгучна шэпча жывое. Не кажы, што ўспамінаеш пра гэта дзеля яго… «Не скажу. Навошта казаць, калі ты і сама гэта ведаеш. Як і тое, што аддаў мне спадарожнік часу іскрынку сваёй душы…» Я не веру, што ён хоць хвіліну быў закаханым у мяне, чароўнае люстэрка. Пакажы мне пачатак. Пачатак усяго… Пакажы спадарожніка часу, калі ён быў лепшым… «Глядзі ж…»

І паказала чароўнае люстэрка ўспаміны спадарожніка часу. Мінулае…

…Калі стаў князь Бой легендай майго азёрна-ляснога краю, тады захацелі пераўзысці бацькоўскую славу старэйшыя сыны. Яны доўга гэтага чакалі. Сталі збіраць верныя раці… А пра гэта нічога не ведаў, пайшоўшы ў далёкія лясы, яшчэ па-дзіцячы легкадумны княжыч Белаполь. І яму трэба было хутка стаць дарослым…

Белаполь вярнуўся снежнай зімою, нікім не кліканы, не чаканы. І вырашылі пасмяяцца з яго браты. Ведалі, што не любіў яго бацька, што анічога не пакінуў…

Мовілі малодшаму Боеву сыну:

— Дзе ж ты ходзіш, княжа? Чакае цябе твой край…

Сумеўся ад гэтых слоў Белаполь:

— Мой край? Я не ведаў пра гэта…

І яшчэ зусім сур'ёзна мовілі яму браты:

— Вунь яны, Стаўры ды Гаўры, табе твой край пакажуць. Даведайся ад іх пра сваю зямлю.

Сказалі так не таму, што хацелі ўшанаваць нялёгкі звычай. Колькі змогуць аббегчы яны, верныя старой гаспадарскай волі, столькі абшараў і дастанецца маладому князю. Сказалі так, бо пэўныя былі як ніколі: нікуды не пабягуць Стаўры і Гаўры. Толькі адзін Белаполь і не ведаў, што не могуць верныя абаронцы пазбыцца смутку пасля гаспадарскай смерці. Не чапаюць іх, баяцца. А Стаўры і Гаўры вартуюць Боеву зброю, не дазваляюць да яе дакрануцца анікому. І не з чыіх рук не бяруць ежы… Не, не прызнаюць яны новага гаспадара.

Мовілі так Белаполю браты ды чакаюць, што ж той рабіць будзе. Калі не зможа ўшанаваць звычай, значыць, назаўсёды адмовіцца ад зямлі…

Паклікаў Белаполь Стаўры і Гаўры як быццам сваіх старых сяброў. Паклікаў, і пайшлі яны за малодшым княжычам, пакінуўшы вартаваць княскую

зброю. Выйшаў Белаполь на чысты прастор, злавіў дзве птушкі. Злавіў ды пусціў адну на захад, другую — на ўсход. Пабег Стаўры за той, што паляцела на захад, паімчаў Гаўры за той, што кінулася на ўсход. Так абабеглі Стаўры і Гаўры ледзьве не ўсю Боеву зямлю, хопіць на добрае княства.

Віталі людзі Белаполя, убачыўшы ў ім спадкаемца князя. Злавалі на яго старэйшыя браты, хавалі свой гнеў за лагоднымі ўсмешкамі. А ён сам не разумеў таго, што толькі што зрабіў. Смяяўся шчыра, быў задаволены людской радасцю вакол сябе. Смяяўся ды не мог прадбачыць, што ж будзе далей…

Ведаю тую легенду, чароўнае люстэрка. Легенду пра незвычайнага князя, які праславіў сваё імя… «Ведаеш… Ды ці ўсю…» Ды яшчэ мовіш мне, жывое, каб не заблукала я ў легендзе. Не згубілася ў ёй… Я не згублюся, я хачу зразумець… Я хачу паглядзець на ўсё вачыма спадарожніка часу. Пакажы яго мінулае, пакажы…

…Паляцела белая сарока, панесла ў дзюбе княжацкі пярсцёнак. Кінуліся за ёю наўздагон Стаўры і Гаўры, кінуліся, але не злавілі… І тады на яе шляху паўстаў ты, які называеш сябе спадарожнікам часу:

— Навошта радасна стракочаш? Мне зусім не весела з тваёй радасці. Аддай лепей тое, што скрала.

— Не аддам, мой, мой пярсцёнак.

— Чаму гэта твой?

— Бо я так хачу, так хачу.

— Не быць табе княгіняй, белабокая. Злая ты ды сквапная. Аддай пярсцёнак, не табе ён наканаваны, не цябе чакае.

— Не аддам. Не аддам. Не аддам. Скрала я нешта большае, чым пярсцёнак. Скрала княжацкую долю. Не стаць яму слаўным. Не стаць…

— Стане слаўным князь Белаполь. А княства яго будзе моцным. Нават не сумнявайся, злая ты птушка.

— Не стане. Не будзе… Гэта я, легкакрылая, табе абяцаю. Не, не, не…

Скаланулася жывое люстэрка ад гневу спадарожніка часу:

— Вяшчуеш адно нядобрае, чорная варажбітка. Будзь жа адусюль гнанай, будзь нежаданай. І не змяніць табе гэтага ніколі…

Злосна ўскінулася сарока:

— Пракляў… Пракляў… Пракляў… Але вось гэтага пярсцёнка, які ты шчыра вярнуць жадаеш, я табе не аддам. З чаго ж так стараешся, га? Не ты адзін ідзеш праз час. То я ў іншы час пярсцёнак закіну, каб ніколі ты яго не знайшоў. Не знайшоў, не знайшоў…

Мовіла так ды пырхнула, толькі яе і бачылі. І ты, спадарожнік часу, не змог яе супыніць… Шэпча мне тваё жывое люстэрка, што болей за ўсё хацеў ты зберагчы долю… І яшчэ дадае, што няма анічога на свеце, чаго б ты дзеля гэтага не зрабіў…

Размаўляе са мной чароўнае люстэрка. Гаворыць, што можаш ты вяртацца праз час. Мяняюцца незнаёмыя краявіды, мільгаюць людскія твары. І ўжо не тваімі вачыма, спадарожнік, гляджу я на час… А гляджу табе ў вочы, гляджу і бачу, як адляцела злая белая сарока. Знікла… Але ты не збіраешся знікаць. Кажаш мне праз час:

— Я знайду цябе. Знайду, дзе б ні кінула тваю долю белабокая. Знайду і ў мінулым, і ў будучым… І прашу, прашу, прабач мяне…

— За што ты просіш у мяне прабачэння? — пытаюся, але не даклікацца цябе.

Маўчыш, самы ведны… За што прасіў прабачэння? Што ты мог зрабіць тады? Як мне пра гэта дазнацца? Я чула журлівыя, як плёскат азёрнай хвалі,

легенды свайго краю. Жыў князь Белаполь так даўно, што ўжо імя яго пачало знікаць з людской памяці. Яго імя, яго ўчынкі… Там цяжка дайсці праўды. Але што ж мог ты, спадарожнік часу, зрабіць тады, калі яшчэ я не нарадзілася…

Маўчыць тваё жывоё люстэрка, напэўна не ведаючы адказу. Не даклікацца цябе з майго часу, не спытаць. Але ўспамінаю пра пералёт-траву — сястру сон-травы. Трымаю ў руках яе маленькія лісточкі. І, напэўна, ад іх ведаю, што аніколі не вярнуся ў сіні лес. Але я хачу патрапіць у свой сапраўдны час. Хачу быць там, дзе мяне чакаюць. Свяціся ж, чарадзейнае люстэрка. Нясі мяне далёка-далёка, пералёт-трава. Мы проста сустрэнемся там, дзе анічога не паўстане між намі… Сустрэнемся там, адкуль выгнала мяне злая сарока. Нясе мяне пералёт-трава. Лёгка нясе пералёт-трава…

…І адкрываецца глухая адвечная пушча. Прашумела мне, што заўсёды тут была, што моцна стаіць і заўсёды будзе. І яшчэ сказала, што ўведала людскія думкі. Дык вось пра што думаюць людзі гэтага краю…

Ведалі ўсе, што князь Бой не любіў свайго малодшага сына. Але ж ніхто не здагадваўся, чаму. Ён жа, кемлівы ды спагадлівы, быў першым сярод княжевых сыноў. Звалі юнака Белаполь. За тое, мабыць, што з дзяцінства ўпадабаў чысты бялюткі колер… Сам белатвары, сінявокі, русявы. І песні пяе, што заслухаешся, і зброю ў руках трымаць умее. Заўсёды — усмешлівы, радасна і лёгка з ім. Можа, таму і не ладзіць з ім пануры і маўклівы бацька. Не скажа лагоднага слоўка, адно папрокі ды папрокі. Як быццам вінаваты перад ім сын, але віны не прызнае. Ды, відаць, князю лепей тое ведаць. Хто ж будзе гнеў выклікаць, хто ж будзе заступацца…

Стары ўжо князь Бой. Трэба спадчыннікам запавет пакінуць, землі ўсе на княжанне перадаць. Многа ў князя зямель, многа і сыноў. І усе яны жадаюць атрымаць лепшыя, вялікія… Асабліва старэйшыя сыны, такія ж уладарныя, як і бацька. Не страціла б княства сваёй славы, не праліцца б людской чырвонай крыві, не сустрэцца б родным братам у лютай сечы… Не княжыць ім у ладзе ды згодзе, не стаяць плячом да пляча, баронячы родную зямлю. Не быў іх бацька ніколі зайздросным, а яны — не па роднай крыві… Няўжо ты не бачыш гэтага, князь Бой? За што не шкадуеш свайго княства… Ёсць жа ў цябе яшчэ і малодшы сын… А пра яго ты забыўся…

Бавіцца малодшы князеў сын на ловах. Весела і міла Белаполю ў лясах. Не трэба яму, як братам, вялікага людскога тлуму… Цешыцца Белаполь, радуецца волі ды не ведае таго, што не пакіне яму бацька аніякай спадчыны. Усё падараваў князь Бой сваім старэйшым сынам…

Кажаш, ва ўсім адмовіў князь Бой свайму малодшаму сыну… Я памятаю легенды сваёй зямлі. Той самай, пра якую шуміш мне, цёмная пушча. Апавядаюць легенды пра Белаполя-князя, але маўчаць пра ягоных братоў. Няўжо, вярнуўшыся сюды праз час, я змяніла тую сапраўднасць? Падкажы, чароўнае люстэрка, што мне рабіць… Маўчыць жывое, ды я не магу марудзіць. Вярну накаваны лёс, дапамагу табе, Белаполь, каб праўдай сталася легенда. І цяпер, калі так блізка мінулае, не магу не ўспамінаць цябе, спадарожнік часу. Для цябе ж даўніна была сапраўднасцю…

…Я спытала ў цябе тады, не хаваючы свайго захаплення:

— Ты несмяротны?

— Я проста ў кожным часе пражываю нанова жыццё, — прагучаў нечакана звычайны адказ.

— І колькі жыццяў ты пражыў?

— Шмат, — неяк сумна і ціха прамовіў. — Ды аніводнага — да канца…

— Чаму? Ты не народзішся ў новым часе, калі памрэш?

І чую твой бесклапотны смех, як быццам і не было ані кроплі смутку. Мне хочацца раззлавацца. Я ж пытаюся пра такія сур'ёзныя справы… А ты гэта бачыш і смяешся яшчэ весялей. Мовіш проста:

— Мне так лёгка з табою…

— Ты не адказаў…

— Няма чаго адказваць. Душа чалавечая, калі хоча вярнуцца назад, то абавязкова вяртаецца. З іншым лёсам… Але я не з такіх, — зноў смутак у тваім голасе. Смутак і шкадаванне. — Зусім не з такіх. Я ўчыніў тое, пра што думаю ўсе часы кожнага жыцця. Вяртаюся, каб змяніцца і змяніць…

— З іншым лёсам? З новым? А цяжка вярнуцца да былога?

— Лёгка вярнуцца. Цяжка — змяніць. Можна спрабаваць. Спрабаваць зноў. І зноў. Ды незаўважна страціць лёс новы…

— Страшна…

— Сапраўды страшна… Я не прашу цябе абяцаць не ісці праз час. Але ўсё ж абяцай мне, што ніколі не станеш шукаць свайго былога лёсу.

І тады я табе абяцала. А цяпер думаю толькі пра тое, што павінна ўбачыць, як спраўдзіцца легенда. Можа, я анічога і не змяніла. Ты ж казаў, што цяжка — змяніць. Але не хачу зрабіць горш, чым было… Толькі не я, лесавічка з сіняга лесу. Толькі не тут, у мінулым, пра якое чула адно з легенд… Толькі не цяпер…

І, нібы мала пакутлівага роздуму і ваганняў, з самых нетраў адвечнай пушчы выходзіць мне насустрач невядомы. Ясны, што белы дзень, прыгожы. Пытаецца проста, зусім як ты, спадарожнік часу:

— Адкуль ты, дзівосная лесавічка?

Хацела сказаць, што ніякая не лесавічка, што не была і не буду ёю ніколі, але мовіла:

— З цёмнай пушчы. Няма межаў лясному валадарству… Усе лясы — мой дом…

Зрабіў выгляд, што паверыў. І ад таго мне чамусьці захацелася ўсміхнуцца…

— А ты сапраўдная лесавічка?

— Можа, і сапраўдная…

— І чараваць умееш?

— Можа, і ўмею…

— І прадказваць умееш?

— Што прадказваць? Навошта?

— Вось ты і адкрыла сябе, вяшчунніца. Прызналася, не хацеўшы гэтага.

— І што табе з таго?

— Дапамогі тваёй прашу. Толькі ты мне дапамагчы і можаш…

Ужо адчуўшы, якое няпростае гэта спатканне, усё адно здзівілася:

— Чым жа я табе магу дапамагчы?

— Прадкажы мой лёс, — спакойна папрасіў невядомы. — Я ведаю, што ты гэта можаш. Прадкажы…

Зірнуў у вочы і болей не слухаў мяне. Ані пра тое, што нікому лёс ягоны яшчэ не прадказвала, ані пра тое, што ведаць свой лёс — гэта як праклясце… Навошта табе быць праклятым? Чаму не хочаш жыць, як усе? А ты зацяўся і казаў, што ўжо праклятым ад самага свайго нараджэння, што не церпіць цябе родны бацька, што скоса глядзяць самыя простыя. І толькі адзін стары чарадзей абяцаў табе, што сустрэнеш аднойчы невядомую лесавічку, якая змовіць твой лёс…

— І чаму ты пэўны, што яна — гэта я?

— А я няпэўны. Я проста спадзяюся… Скажы… Чаго табе варта…

Зірну ў жывое люстэрка. Чаго мне варта… Ды не пакажа яно таго, чаго не зможа. Чуеш, добрае, чароўнае? «Глядзі, лесавічка, з сіняга лесу, глядзі». І паказала і мне, і яму... як радасна пяюць званы над горадам, як шчыра ўсміхаюцца нам людзі. Шмат людзей… А мы трымаемся за рукі. Мы разам. Мне падаецца, што не можа ўтрымаць люстэрка светлыні… Мы — у цэлым свеце… «Глядзі, лесавічка, гэта ваш лёс. Навошта ты яго хацела ўведаць раней часу… Навошта…»

Папракае мяне чароўнае люстэрка, нямее сэрца. А ты кажаш, што ўсё так і будзе, што ты ўсё зробіш, каб так было, адно трэба нам на кароткі час расстацца… Кажаш, што хутка вернешся… А я і не баюся. Чаго мне баяцца? Што непатрэбныя паклікала чары? Што страціла свой новы лёс? Як жа змагу табе пра гэта сказаць… Як жа ты зможаш мне паверыць… Я так і не спытала твайго імя. Скажы мне яго імя, чароўнае люстэрка. Скажы імя таго, хто быў маім новым лёсам і каго я болей не змагу пабачыць…

«Глядзі, — зноў мовіла мне жывое. — А калі не зможаш згледзець — успомні. А калі не зможаш успомніць — здагадайся». Здагадацца пра што… Нічога не мовіла чарадзейнае, але адбілася ў чыстай роўнядзі, як быццам перажыла тое я сама…

…Непрыкмечаны анікім, я зайшоў у княжацкі харам. Усё ў ім так, як я памятаю. Не запыніла мяне варта, не заўважылі мяне людзі. І аніколі не думаў я, што калі-небудзь так учыню. Той, да каго я прыйшоў, не пазнаў мяне. Вялікі жаль, што ты не ўведаў мяне такім… Але сцінае падарожжа ў часе і радасць сустрэчы, і горыч расстання. Гляджу на яго, сівога, якога буду памятаць маладым, і ўпэўнены як аніколі, што ісці праз час — гэта пракляцце… А я не магу не ісці…

Князь Бой… Не спалохаўся мяне, нават і не падумаў паклікаць варту. Ужо сварацца за спадчыну твае сыны, бо кожны палічыў сябе абдзеленым… Ужо палохаюцца і ўцякаюць у далёкія пушчы яны, самыя простыя, каб толькі не праліць братняй крыві… А ты не баішся, а ты не чакаеш сыноў… І змог я сказаць табе толькі адно:

— Я прыйшоў забраць таго, пра каго ты не ведаў…

Пра каго не ведаў, баронячы свой край, пра каго не мог здагадацца, хоць і за яго таксама біўся ў лютай сечы. Пра каго не мог нават падумаць, калі паміраў ад ран. І на каго з неразуменнем пагадзіўся, калі я сказаў табе, палкаму, маладому: «Калі аддасі мне таго, пра каго не ведаеш, ратую табе жыццё». І ты пакляўся, пакляўся мне аддаць таго, пра каго не ведаў… А цяпер ты мне кажаш:

— Хто ты такі, чарадзей, каб забраць у мяне сына?

Скажу табе праўду. Я ж твой нашчадак…

— Твой далёкі нашчадак, які любіць свой край…

— Навошта табе мой сын?

— Не мне… Твайму і майму краю.

Доўга марудзіў князь Бой. Я ўжо хацеў папракнуць яго, што нягожа парушаць клятвы… Але змаўчаў, калі ты мне мовіў:

— Я заўсёды ведаў, што ты за ім прыйдзеш. І не толькі таму, што гэта сын абяцаны. Занадта добры, занадта смелы, занадта прыгожы… Але і нялюбага сына хацеў я абараніць…

Не хачу паказаць табе, што мне балюча ад тваіх слоў. Не цяпер, калі ты пільна ўглядаешся ў мой твар. Я добра ведаю гэты позірк… І ўсё ж не магу не спытаць:

— Аддаляючы ад сябе і зневажаючы перад людзьмі?

І чамусьці так прыкра ад тваёй ціхай мудрай усмешкі:

— Аддаючы яму сваю легенду… Толькі яго і паслухаюцца Стаўры і Гаўры. Не ўтрымаць зброяй княства, не зберагчы яго сілай. Мінуць братнія сваркі, і будзе Белаполь княжыць над усёй маёй зямлёй. Каб жа толькі быў ён вартым… Ці будзе такім? Скажы мне, чарадзей…

І адкуль ты так упэўнены, што я ведаю гэта… І чаму, прайшоўшы вялікі час, тут, ля цябе, я зноў баюся памыліцца…

— Не бойся памыліцца. Адкажы мне…

— Я спадзяюся, што ў легендах ты яшчэ сустрэнешся са сваім сынам…

— Я веру ў гэта, як і ў свой край…

— Я веру ў гэта…

…Гасне адбітак у жывым люстэрку. Знікае аблічча чарадзея часу. Ці спадарожніка? Ці ўсё ж чарадзея? Каб жа я ведала, хто ты такі і як цябе назваць… Ой ты, дзіва маё, сіні лес. Не беражэш скрухі, не лашчыш гневу… Адно дабрыню ды спагаду. Што ж пазбавіў ты мяне памяці?.. Што можа быць горай за гэта?..

Калі, прагнучы вярнуць свае ўспаміны, углядаюся ў жывое люстэрка, чую стракатлівую птушку. Адкуль толькі прыляцела… Чорныя пёры, белыя пёры, прагныя вочы… Нядоўга ля мяне паскакала ды пытаецца:

— Пра што сумуеш, русявая?

— Не зможаш ты мне дапамагчы…

— Не табе пра гэта ведаць. А мне, мне, мне…

— Ляці ад мяне прэч…

— Не палячу, не палячу, не палячу!!! Не памятаеш таго, што з табою адбылося. Хто табе раскажа, як не я, як не я, як не я?

— Я памятаю цябе. Гэта ты скрала долю Белаполя-князя…

— Скрала. Скрала. Скрала. І тваю скрала. Скрала. Скрала. Чаго не папракаеш мяне за сваю долю? Ці не мілы табе суджоны-нарачоны?

— Скуль табе, злой птушцы, гэта ўведаць?

— Бо памятаю, памятаю, памятаю… Упадабала ты не суджанага, не нарачонага. Вырашыла лёс змяніць, узяць іншую долю. Але не магла ты сама пайсці ў будучыню. Я ж, белая, хутка лятаю, бяду разношу, якая нават вялікі час наскрозь працінае… Я ўсюды патрапіць магу. Усюды. Усюды. І гэта ты сама мне пярсцёнак князеў даверыла… Даверыла. Даверыла.

— Не магла я такога зрабіць… Не магла прасіць цябе, злую птушку, занесці мой лёс далёка…

— Прасіла. Прасіла. Прасіла ратаваць. Занесці далёка і схаваць… І за тое, што табе дапамагу, ты мне абяцала, абяцала, абацяла…

— Ды што я магла табе абяцаць?

— Сваю душу, душу.

— Не! Ляці ад мяне прэч, белабокая!

— Слова таго парушыць не можаш, не можаш, не можаш…

— Не было аніякага слова…

— Я вярнуся, вярнуся, вярнуся… Не дазволю табе зведаць шчасця.

Лёгка пырхнула белая сарока. Знікла з вачэй. Але яе думкі засталіся са мною. «Абяцала, абяцала, абяцала», — не магла я пазбыцца пачутага. «Душу, душу, душу», — слухала, нібы задыхаючыся. Як я магла такое ўчыніць? Я не веру. Я не магу паверыць… Але ж не памятаю…

Падкажы, жывое люстэрка, ты ўсё ведаеш… Доўга маўчала чароўнае, люструючы адно смугу. А пасля зазвінела лёгка ды паказала лясы і рэкі, вёскі

і гарады, вялікія абшары найпрыгажэйшага краю. Ізноў прасіла я люстэрка паказаць мінулае, не пакінуць мяне ў бядзе… Можа, я спадзявалася ўбачыць, як ты, спадарожнік часу, мовіш княжычу Белаполю: «Мінуць сваркі, мінуць звадкі, будзеш ты князем. Дачакайся свайго часу». І яшчэ дадаеш, што проста пасябраваць з вернымі абаронцамі — Стаўры ды Гаўры. Трэба быць адно шчырым… Ды адкрываеш Белаполю нейкае таемнае слова, якое і ведаеш толькі ты, ты адзіны… Але не ўбачыла таго. Зазвінела цяжка жывое ды паказала мне забытыя сцежкі ды пахіленыя хаціны, ясныя ад чырвані каліны ў асенніх лясах, цёмныя пушчанскія нетры… І глыбокі смутак у чалавечых вачах, і магутныя валуны на высокіх узгорках… «Падкажы, чароўнае», — трэцім разам папрасіла я. «Не прасі мяне, не кажы. Не здужаю, разаб’юся…» Павінна ўспомніць я сама. Усё ўспомніць. Усё здолець…

Я ведаю для гэтага толькі адзін шлях. Нясі мяне далей, пералёт-трава. Нясі мяне далёка-далёка… Нясі ў мінулае, якога я не памятаю. Нясі ў мінулае, якога я не бачыла. Не гляджуся ў цябе болей, жывое люстэрка, дарунак спадарожніка часу. Шапаціць пералёт-трава. Цяжка ў цёмным часе…

…Цяжка. Але я не згубілася. Я прыйшла да цябе праз гады і стагоддзі. Іскрылася, нібы чароўнае люстэрка, яснавокае возера. Вілася ля яго нябачная простаму воку празрыста-блакітная стужка. Чакала, пакуль нехта пацягне за яе і зматае ўсё чыста возера ў невялікі мяккі клубочак…

Ужо ўсе пра мяне забыліся, а ты стаміўся мяне чакаць. Але я не пакінула верыць у легенду… І ўчула, што казалі… Казалі, быццам некалі быў на месцы возера прыгожы і вялікі горад, у якім мудра княжыў і добры, і слаўны… Квітнеў горад, радаваўся люд. Пакуль аднойчы не паплылі чорнымі хмарамі да горада незлічоныя чужынскія раці… І змаладушнічаў тады слаўны, не рашыўся біцца з ворагам. Паклікаў чарадзеяў ды вешчуноў, папрасіў у іх ратунку. Мовілі тыя абазнаныя: «Ёсць чарадзейства вялікае, княжа. Яно і стане тваім ратаваннем. Тваім і твайго горада, тваіх людзей… Ператворым мы горад у возера, а ўсіх чыста людзей — у лілеі. Пабачыць вораг не горад з людзьмі, а возера з лілеямі. Змушаны будзе вярнуцца ні з чым…» І ўзрадаваўся князь такому цуду, бо не верыў у моц гартаваных мячоў сваёй дружыны, не спадзяваўся на абаронцаў горада…

«Што ж ты нарабіў, Белаполь!» — хочацца закрычаць праз час, але сцінаецца ў часе мой голас. Сцінаецца ў часе маё сэрца…

— А чаго ж ты чакала, прыгожая, мілая… Смеласці ды рашучасці? — гаворыць мне жывое люстэрка голасам спадарожніка часу. — Не быў ён аніколі палахліўцам, але так баяўся… Так баяўся не дачакацца цябе… Ці памятаеш вашую сустрэчу? Ці памятаеш, што ён табе абяцаў?

Гляджу на возера, усё у самотных лілеях. Я не ведала тады твайго імя, Белаполь, але ўжо даўно зразумела, што гэта быў ты… Цягнуцца лелеі да сонца, нібы жывыя, нібы сапраўдныя людзі. Раз на стагоддзе даецца выкупленне… Калі знойдзецца нехта, які пацягне за блакітную стужку ды зматае ўсё возера ў клубочак, тады вернецца горад, ператворацца лілеі зноў у людзей. Я прыйшла ў шчасную хвіліну, Белаполь. Пацягну за гэтую блакітную стужку…

Пацягну за яе лёгкую, мяккую, хоць так балюча яна рэжа рукі. Мне не хочацца думаць, што гэта з-за маёй віны сталася возера, сталіся лілеі… Я не думаю, што гэта з-за мяне. Ды жывое люстэрка дадае жалю. Тваёй воляй, спадарожнік часу:

— А з-за каго ж яшчэ, мілая? Здзівіўся вораг, пабачыўшы возера з лілеямі, пакінуў наш край… Але не вярнуліся людзі, не вярнуўся горад… Глядзі сама, ты спазнілася на стагоддзі…

Магутнае ўчыненае чарадзейства. Вернуцца ўсе, радасныя ды жывыя. Матаецца блакітная стужка. Паказаліся ўжо з вады высокія званіцы. Я ніколі не ўспаміналa пра цябе, Белаполь. Я не думала пра тваё абяцанне… Знікае возера, адмяняюцца чары, адкрываецца новы свет… І ты, князь Белаполь, выходзіш сустрэць мяне. Выходзіш сустрэць першым…

— Прабач мне, што ішла занадта доўга. Але цяпер адмоўлю ўчыненае чараўніцтва, ратую твой горад і тваіх людзей…

— Я рады бачыць цябе, як рады зноў бачыць сонца. Я столькі часу глядзеў на свет з азёрнага скрозьдоння… Ды мушу засмуціць цябе ў гэтае радаснае імгненне… Не так сабе ператварыўся горад у возера. Вялікі цуд вядзе за сабою вялікую страту… Абяцалі мне чарадзеі ды вешчуны ратаваць мой горад, але толькі тады, калі пакіну я сваё каханне — свой лёс…

І чаму ж мне мроіцца ў тваіх словах, князь Белаполь, стракаценне белай сарокі. Абяцала вярнуцца, абяцала мяне дагнаць… Ці не ад яе, яе адной, я столькі ўцякала праз час…

— Пакінуў я сваё каханне да цябе — свой лёс. Толькі не хачу без яго жыць на белым свеце. Вяртацца мне назад, у празрыстую тонь, дзе быць не жывым і не мёртвым. Бачыць белы свет, але быць пазбаўленым яго… Прабач мяне… Скажы, што я для цябе быў хоць нечым, скажы, што будзеш мяне памятаць…

Я не хачу пра цябе памятаць, Белаполь, не хачу памятаць цяпер, калі ўведала праўду. Не застанецца імя твайго ў легендах. Ты не жаданы, ты не варты…

І тады, калі глядзіш у вочы, калі чакаеш адказу, парушае маё маўчанне белая сарока:

— Не зможа прабачыць, не зможа, не зможа…

Як вада ў возеры, цямнее твой позірк. Цяжэе ў маіх руках сіні клубочак. Такі маленькі, яшчэ не зматаны… Балюча ўпіваецца яго сіняя стужка…

— Скажы мне, што будзеш мяне памятаць…

— Я не хачу пра цябе памятаць, Белаполь… Мы не светлыя, мы не шчаслівыя, мы не вечныя…

Радасна пырхнула белая сарока. Вырваўся клубочак з рук… Знікаюць у азёрнай вадзе званіцы, як і раней было. Трымняць ды рассыпаюцца лісцікі пералёт-травы. Не панясеш ты мяне болей далёка-далёка… Не панясеш мяне лёгка-лёгка… Не знікнуць мне з гэтага часу, не патрапіць у іншы. А ты вяртаешся да возера, князь Белаполь. Азіраешся на мяне. І бачу я, бачу ў тваім аблічы спадарожніка часу…

Князь Белаполь… Спадарожнік часу… Пачакай, не ідзі туды, не ідзі… А ты ідзеш ды кажаш:

— Раз на стагоддзе дадзена выкупленне… Раз на стагоддзе той, хто добры ды шчыры, зможа ўзяць у рукі стужку, зможа зматаць клубочак… Вярнуць горад, вызваліць людзей…

Ты так спадзяваўся, што я гэта зраблю. Ты вяртаўся ў часе, каб змяніцца і змяніць… Дзеля свайго горада, дзеля сваіх людзей ты зноў і зноў вяртаўся ў часе. І чаму я адразу не зразумела гэта… А ты так хацеў, каб я ўспомніла… Успомніла ўсё…

— Я так хацеў, каб ты ўспомніла… Мы б былі разам, не забяры я тваю памяць. Ды не змог бы я інакш вяртацца. Не змог бы ісці праз час…

Гэты лес завецца сінім не ад таго, што ясна-срэбны ў водбліcках зор… Ты сказала мне і гэта, сон-трава. Ведала я аднаго чарадзея, які адліў самае дзівоснае люстэрка на свеце… Зможаш стаць веднай ды шчаслівай, зможаш

выйсці з зачараванага сіняга лесу. Тваімі чарамі, спадарожнік часу… Я не верыла табе, сон-трава, а ты прасіла мяне ратаваць ад пракляцця… Вечнага пракляцця… Вечнага палону…

— Вечна пракляты найлепшы абраннік… Але і ў іншым часе мы сустрэліся. Суджана зноў быць разам… А ты паклікала белую сароку. Ты абяцала ёй сваю душу!

І шэпча мне сон-трава, што не зможа бяда працяці наканаванага, не заваладаць злой птушцы душою… Адкуль ты ведаеш гэта? «Проста ведаю, як сіні лес — чары… Жыцці паўтараюцца… Але ты лепшая за мяне, лепшая…» Ведала ты мае думкі, магла ўгадаць спадзяванні. Я — гэта ты… Зачараванае кола лёсу…

— Зачараванае кола нашага лёсу. Нам суджана сустракацца, нам суджана пачынаць нанова… Я ніколі не адпушчу цябе з вечнасці. І гэтым разам падарыў табе незвычайнае люстэрка, каб дазнацца твае пачуцці, каб ведаць, што ты далей учыніш…

Што мне ўчыніць, як не заплакаць з жалю… Сустракацца нам суджана ў розных часах, ды толькі ні ў адным часе разам не застацца… Стаўся горад возерам з лілеямі. Вялікае чараўніцтва. Вялікая адплата. Мне так балюча ад яе… Мне балюча, чуеш, жывое чароўнае люстэрка…

— Застанецца чакаць жывое чароўнае возера сваёй хвіліны… Праміне вечнасць, але не згубіцца ў ёй легенда. Я, ведны спадарожнік часу, у тым клянуся…

Беражы люстэрка маё. Беражы, не разбі. Адліў яго з лепшых чараў тваёй зямлі… Маю сваю ўласную волю. Калі разаб'еш мяне, то назаўжды пазбавішся прадказанага лёсу… Я не разаб'ю цябе, чароўнае, жывое. Не магу я разбіць тваю мару… Не магу я разбіць тваю славу…

Падае люстэрка з маіх рук. Падае ды разбіваецца на маленькія друзачкі. І тады кажу яму, жывому, зноў кажу, што ніколі не адмоўлюся ад свайго лёсу… Не прысніць мне яго, калі ў разбітых люстрынках бачу неабсяжную азёрную просінь. І, здаецца, плыве ад глыбокіх азёрных вачэй такі знаёмы, такі мілы пераліўны звон…

Пераліўны звон… Як сон… Звон…

…Я бачыў, што не было зямлі. Я бачыў, што не было і неба. Толькі вада… Не сіне-крынічная, не празрыста-азёрная, не якая іншая, на якую мне хапіла часу нагледзецца за трыццаць год майго жыцця. Гэтых вод не было, як і нічога з таго, што я памятаў, што я любіў… Не было і мяне. Я не быў яшчэ... і я... ужо не быў… Далёка ж ты мяне занесла, злая паралёт-трава. Не знайсці мне зваротнай дарогі…

Вада, толькі вада. Вялікая вада, колькі хапае вачэй. І цягне твой позірк, забірае тваю душу халодны сіні валун, які гайдаецца на бязмежных хвалях. У ім — чары, у ім — жыццё. І у ім — канец усяго, на што я спадзяваўся…

«Не глядзі на валун, не глядзі. Ты чужы тут, ён забярэ тваё жыццё», — загучаў у маёй свядомасці ўладны голас. Выклікаў горыч, і новае перажыванне старой страты і ганьбы, з-за якой хочацца праваліцца ў скрозьдонне… І… нагадаў, што я пакуль жывы, што мне, пакуль жывому, няма куды правальвацца. Таму што няма зямлі, таму няма і скрозьдоння.

«Пачакай, хутка будзе. Нядоўга засталося чакаць…» Я хацеў спытаць, скуль ён такое ведае, але не паспеў. Скалануўся валун, як жывы. Хацеў даць нырца ў ваду, калі яго нагнала найвялізная бліскуча-чырвоная, балючая нават здалёку, маланка.

«Вось і ўсё. Цяпер табе будзе лягчэй…» Не веру. Яму, гэтаму жывому валуну, не лягчэй, а цяжэй. Курчыцца і выгінаецца, як працяты перуном цмок. Заходзіцца ад болю…

«Ды што ты кажаш… Пашкадуй, пашкадуй яшчэ». Няўжо? Сапраўдны цмок. Зноў не веру. Падманваеш занадта часта.

Але мой кат, без якога, трэба прызнацца, я б даўно сканаў на гэтай вадзе, нечакана стаў сур'ёзным. «Не, не сапраўдны. Першы». Што, першы? «Самы першы…»

На некалькі імгненняў я страціў здольнасць думаць і размаўляць. А пакуль я знерухомеў, то паплылі ад валуна, адколатыя маланкай, тры маленькія яскаркі. Нібы таксама былі жывымі. На бясколерна-бязмежнай вадзе яны здаліся мне найпрыгажэйшымі, таму што кожная з іх была непадобная на другую. Першая — белая, як снег, першы снег маёй зямлі, чысты і свежы… Другая — жоўтая, як пясок на высокім адхоне бруістых рэк, радасных рэк майго краю. Трэцяя была, як кроў, пралітая ў бітвах за абарону таго, што найдаражэй на свеце. Я многа іх бачыў, я зведаў многа перамог, пакуль не зазнаў астатнюю страту…

«Глядзі, смяротны, ты бачыш тое, што не павінен… За што многія, лепшыя за цябе, прадалі б душу. Успомні самае радаснае, самае шчаслівае ў тваім кароткім жыцці. І глядзі з самай вялікай спагадай, на якую толькі здольны. Чакаюць яны благаславення чалавечага сэрца…»

І я ўспомніў… Дараванне, ты самае найвялікшае ў свеце. Цябе можна чакаць бясконца. І няма нічога мацнейшага за цябе… За цябе можна ўзяць у рукі пералёт-траву і згадзіцца падарожнічаць у свеце. У вялікім, бясконцым часе… Хоць бясконцы час злы і страшны…

Толькі я не хачу думаць пра тое. Адзін раз на стагоддзе можа быць дадзена выкупленне. Выкупленне горада, ператворанага ў возера, выкупленне людзей, ператвораных у лілеі. Майго горада і маіх людзей. Некалі маіх… Чыстыя вочы ўбачаць, што віецца каля ператворанага возера прыгожая сіняя стужка. І калі за гэту стужку доўга цягнуць, то можна зматаць усё чыста возера ў невялікі мяккі клубочак… І тады вернецца горад, вернуцца яго людзі, нібы і ніколі не ператвараліся невядомай воляй…

Не, зусім не такой невядомай… Маёй воляй. Не хачу пра тое думаць, не хачу…

Многа стагоддзяў чакаў я даравання і выкуплення. А са мною — мой горад. І доўгімі стагоддзямі ніхто не ішоў, быццам звяліся ва ўсім свеце чыстыя вочы, шчырыя сэрцы. Ніхто не бачыў сіняй стужкі, якая б падказала, што створана возера чарамі. Ніхто не спрабаваў зматаць з яе клубок…

Але нарэшце мне пашчасціла. Пацягнулася стужка, і адкрыліся небу высокія званіцы, схаваныя ў азёрных хвалях, і дахі найвышэйшых дамоў… І ператварыўся я ў чалавека першым, вярнуўся да жыцця.

Толькі нядоўгай была мая радасць…

Выслізнула сіняя стужка з рук дзяўчыны, якая яе трымала. Трымала моцна, але стужка аказалася мацнейшай… І зніклі дахі дамоў у вадзе, нырнулі ў яе і званіцы. І стала, як было раней. Усё, акрамя мяне. Невядома за што, але я, здраднік, стаўся чалавекам. І наканавана было шукаць свой горад у тым, што мінулася. Шукаць, пакутаваць і не знаходзіць. Імклівая, як мудрая думка, пералёт-трава. Ды не панясе цябе туды, куды захочаш.

Падплывае да мяне белая яскарка. І ўпэўнены я, што пазнаю ў ёй несмяротную душу зімы і лета, якія бываюць толькі на маёй зямлі. Яна такая… белая, як і тыя крылы, што адкрываюць мне маё высокае неба. Хто ж ты? Што ты?

«Не чакай адказу. I... гэта добра, што ты ёй спадабаўся. З яе будзе ўтворана твая зямля…» Мая зямля… Як? Я хачу ведаць… Чуеш, маё пракляцце?

Маўчыць маё пракляцце. Я даўно ўжо зразумеў, што, калі не схоча адказаць, то клікаць яго марна. Са страхам бачу, як закружыліся ў карагодзе ўсе тры яскаркі. Белая, жоўтая, чырвоная. Белая, чырвоная, жоўтая… Чырвоная, жоўтая, белая… Падсвядомае адчуванне, што нешта не так… Але маўчыць маё пракляцце…

Круціцца кола яскарак хутчэй і хутчэй. Немажліва ўгледзець за імі. I нібыта патанаю ў бязмежнай вадзе, іскрыстым карагодзе, усім чыста свеце. Знікае свет і адкрываецца свет. Многа вады, многа зямлі, толькі немагчыма на іх надзівіцца…

«Дзівіся. Дзівіся. Адно цяпер можна шчыра дзівіцца…» Толькі цяпер? «Толькі цяпер, калі нараджаецца той свет, які ты памятаеш…» Няўжо так далёка занесла мяне пералёт-трава? «Павер, што далей немагчыма». Веру… Толькі навошта я тут? Нараджаецца мой свет, толькі нараджаецца… Няма яшчэ кроўных страт і найвялікшых з усіх на зямлі людскіх расчараванняў… Можа быць, што яшчэ вельмі далёка да іх. Дык чаго ж прынесла мяне сюды травіца, якой вядома без абмылкі, дзе я патрэбны?

«Не ведаю. Але ты мовіў правільнае запытанне…» I тады мне становіцца страшна. Так страшна, як было адзіны раз у жыцці. Тады да майго горада плылі хмарамі чужынскія раці… Цёмнымі, грознымі і такімі бясконцымі, быццам вада, у якой плаваў сіні валун. Плылі хмарамі, і не бачыў я збавення… Што мне было рабіць?..

«Не тое, што ты зрабіў тады. Толькі не тое, маладушны». Я не паўтару сваёй вялікай памылкі, не трэба здзеку і напаміну. Але што мне рабіць цяпер? Зноў маўчыш… Маўчанне… Яно дае зразумець, што мне болей падабаюцца твае кпіны.

«Дзякуй. Але не трэба іх... напачатку. Не трэба іх чыстаму свету». I я з табою згодны. Такі прыгожы гэты чысты свет. Вялікая зямля з раўнюткімі палеткамі, са стройнымі лясамі. Урачыста. Чынна. У злагадзе. Такая і мая зямля. Цяпер хіба ж не пазнаеш…

«Глядзі ўважліва. Ты, які не памятаеш свайго імя. Пранясу цябе праз час, змяню твой лёс. Гэта і належала зрабіць даўным-даўно». Калі ж даўно? Толькі нараджаецца мая зямля. Пра што ты кажаш…

«Пра цябе. Пра тваё мінулае. Пра тое, чаго ты не ўспомніш. Забірае тваю памяць новы свет». Забірае мяне самога? «А як жа ты думаў? Не так сабе ты ёсць тут, на самым пачатку». Я не буду спрачацца з гэтым. Толькі не цяпер, калі адкрываецца з белай яскаркі мая белая зямля. Такая знаёмая белая зямля… Дзіва маё, дзіва…

Сніцца мне дзіўны сон. Сніцца прыгожая лесавічка… Мовіць мне, што самая сапраўдная, што ўмее чараваць. Бярэцца за сінюю стужку, матае мяккі клубочак, і адкрываецца горад, які даўно не бачыў сонца. Дакранаюцца дна возера-горада лілеі, ператвараюцца ў людзей. Радуюцца людзі вяртанню, а я радуюся табе, дзівосная лесавічка. Я столькі цябе чакаў у вялікім часе… Мы трымаемся за рукі. Мы — разам… Мы — у цэлым свеце…

…Знікае белы свет. Белы свет… Увесь свет…

— Што мне сказаць табе, мой абраннік… — пазнаю голас таго, каго звыкся называць сваім пракляццем. — Што мне сказаць табе цяпер… — запытальна мовіў не свет, а старэйшы за яго.

Шмат старэйшы за яго. Стваральнік дзівосаў белага свету?.. Ведны Дзіў. Становіцца мне цяжка, бо не ведаю, ці гэта чары сон-травы, ці гэта сапраўднасць…

— Здзівіў мяне… Радуйся жыццю.

Знікае ведны Дзіў. Чую галасы званоў.

Бом… Бом… Бом… Сон… Сон… Сон… Толькі я не сплю ў азёрнай цішы, якая паўстала з твайго разбітага люстэрка, мая лесавічка. Ахінае тваё непрыкметнае возера лес, як і многія азёры самай прыгожай на свеце белай зямлі. Ды толькі гэтае возера — толькі яно адно — незвычайнае…

«Спі. Спі. Спі», — закалыхвае мяне звон, азываецца гадамі і стагоддзямі, якія зноў плывуць над празрыстымі хвалямі. Памятаюць гэтыя хвалі погляд тваіх вачэй, бо некалі былі іскрынкамі твайго люстэрка. Бом… Бом… Бом… Я хачу прачнуцца і не магу, хоць і ведаю, што гаворыць пра мяне легенда шчырую праўду. Вераць усе, хто хоць аднойчы ўглядаўся ў бяздонную азёрную сінеч, што спачывае на дне возера смелы князь з вернай дружынаю. Спіць ды слухае свой край… Калі надарыцца бядзе, калі прыйдзе вораг да самай белай, тады паўстану я, пабуджу дружыну ды вярнуся бараніць зямлю, дзе калісьці княжыў, за якую калісьці змагаўся… І тады сустрэнешся мне ты, дзівосная лесавічка. Ты, што чакаеш мяне, скінуўшыся сон-травою. Дзіўная сон-трава. Неўладны над ёю час. І можа чакаць мяне так доўга, так доўга… Доўгі сон.

Сон… Сон… Сон… Звон… Звон… Звон… Сон… Сон… Сон…

## Русалчына песня

*Міфалагічнае*

Явар і Каліна стаялі над глыбокім ярам. Шапталіся, калі вярталіся марозныя зімовыя чары, халадзілі вялікі свет. Цешыліся пад ясным маладым сонейкам. Звінелі лістамі тужлівай восенню, нібы жаліліся пра нешта яе дажджам. Явар і Каліна спявалі сваю лебядзіную песню. Ніхто яе не чуў, ніхто не прыходзіў у забытую даліну, дзе хаваўся той глыбокі яр. Падалі светлыя росы, ляцелі імклівыя вятры, змяняліся зімы і леты. Адно не ведалі Явар з Калінаю, што такі раўнадушны свет іх не пакінуў…

Тады русалкі сцягнулі месік-маладзічок. Падхапілі ды панеслі яго ў цёмныя-цёмныя нетры, не азёрныя, лясныя. Засвяціўся вялікі змрочны лес, весела загукаў магутным пошчакам лясун-уладар. І непраглядныя лясы зрабіліся чуйнымі ды ласкавымі, як ніколі таго не было. Ці мала, ці многа мінулася часу, але з іх, шчырых ды трывожных лясоў, нечуваным цудам-дзівам паляцела над светам русалчына песня: «Хочам, хочам закахацца, чалавечы лёс знайсці, і з каханымі застацца, і з людзьмі ў свет пайсці…»

Азывалася тая песня ад возера да возера, ад лесу да лесу. Панесла яе над жытнёвымі палеткамі вялікая русалчына спакуса. Дзівіліся той песні золкі ды туманы, вясёлыя яркія кветкі ды сцішныя ростані дарог. Не чакалі ад іх, ціхмяных русалак, лясных, азёрных ды палявых, такой чалавечай прагі. Толькі чым не ўсцешаць свет русалкі. Клічуць яны цёплыя дажджы, ад якіх наліваецца сілай жыта, вясёлае, густое, па якім хочацца бегчы, трымаючыся за рукі. Гукаюць яны вясну ў лясах. Мабыць, ад іх гукання з тых самых цёмных нетраў і прыходзіць яна, вясна, а з ёю радасць і чаканне новай сустрэчы. Гэта іх прыгажосцю чаруюць свет такія ціхія, такія ласкавыя сінія азёры… Слухалі іх песню жыты ды валуны, ласкава ўсміхалася сонейка над маладымі зялёнымі пагоркамі. Слухалі ўсе, а як не чулі.

Доўга ляцела русалчына песня над светам. Доўга ніхто не хапіўся іскрыстага маладзіка. Нібы зачараваная, песцілася зямля ў водблісках ласкавых зорак. А русалчына песня ляцела, чакала, шукала. І, нібы знайшоўшы нека-

га дарагога, супынілася над тым глыбокім ярам… Пачуўшы яе, трывожна затрымцелі лістамі Явар з Калінаю, як узгадалі важнае… Штосьці забытае, але не страчанае.

Пачуў чароўную песню белы, нібы снег, дзядок, які з'яўляецца на ростанях далёкіх дарог. У купальскі вечар сам апавядае нечуваныя показкі, страхоцці ды цуды. Толькі далёка не кожны можа ўбачыць яго з'яўленне, а тым болей яго паслухаць.

…Купальскім вечарам на захадзе сонца, калі не баішся ты нячыстай сілы, якая рыхтуецца спраўляць сваё любімае баляванне, проста ідзі па дарозе да трэціх ростаняў на тваім шляху. Прыйшоўшы, пакланіся нізка, да самай зямлі пакланіся, і тады здасца табе цень не цень, а нейкае белае мроіва. Не палохайся ж, смела падыходзь бліжэй. Убачыш старога з вялізнай белай барадой і добрымі задуменнымі вачыма, які сядзіць каля цяпельца, злёгку абапершыся на кій, і ўглядаецца ў іскрынкі агню. Сядай з ім побач, але не гавары першым, чакай, калі дзядок пакладзе табе руку на плячо і спытае, чаго ты хочаш...

Многія ў пошуках шчасця не збаяліся ісці купальскім вечарам да трэціх ростаняў, многія бачылі белага дзядка і сядалі да яго цяпельца, многія з ціхім заміраннем сэрца чакалі ягоных слоў, але мала каму ён тыя словы сказаў, мала каму абяцаў сваёй чарадзейнай міласцю шчаслівы і доўгі век…

Тады, калі сцягнулі хцівыя русалкі нябесны маладзічок, ён, казачны стары, быў адзіным, хто заўважыў гэта. Не пайшоў да ростаняў дарог, не расклаў свайго чарадзейнага цяпельца. А пайшоў проста да белай гары, шлях да якой быў яму добра вядомы.

А ў белую гару штовечар хавалася сонца. Яго чырвоныя вуголлі апалілі вяршыню, дзе не расло ніводнага дрэўца, ніводнай травінкі, а быў толькі белы гарачы пясочак. Вусцішна рабілася тут на змярканні. Ляцелі да гары празрыста-сінія сцені. Плылі, нябачныя, у цемных аблоках, што апоўначы захіналі голую вяршыню. Краліся ў густым тумане, што парай узнімаўся з непраглядных, чорных глыбінь возера. Мабыць, ад таго і разносіла няўрымслівая людская пагалоска, што спачывае ў гары нейкі страшны ваяўнік, які памёр жахлівай смерцю. Імя яго за даўнасцю часоў назаўсёды забыта. Толькі ніяк не можа супакоіцца гэты ваяр нават пасля сваёй гібелі. Збірае сваё цёмнае войска, бо жадае кінуць выклік самому вялікаму Сварогу…

І яшчэ казалі пра белую гару, што лётаюць над ёй жахлівыя цмокі. У купальскую ноч коцяцца высока ў небе бліскучыя колы, па-свойму вітаючы вялікі час Агню і Вады. Абазнаныя старыя вучылі, што прымусіў цмокаў да такога кружляння бацька свету Сварог, каб уславіць сваю непазбыўную перамогу над паганымі. Іншыя казалі, што прымусіў цмокаў не Сварог, а Пярун, які заўсёды паліць іх сваімі агнёвымі стрэламі. Нельга доўга ўглядацца ў купальскага цмока, бо чуйна ловяць гэтыя пачвары шчыры чалавечы позірк. Так і чакае, так і цікуе цмок, каб глянуць якому чалавеку ў вочы. І таму знарок лётае марудна, валюхаецца ў паветры, нібы вялізны чырвоны камяк. Зірне такое стварэнне табе, маладому ці старому, добраму ці дрэннаму, адчайнаму ці палахліваму, проста ў вочы, і адразу станеш ты іншым.

Назавеш яго, паганага, сваім родным братам, а яго цёмных братоў сваімі братамі. Адразу забудзеш пра сваю хату, пра сваіх блізкіх ды сваякоў. Штодзённыя клопаты не будуць турбаваць цябе, як раней. З гэтай хвіліны будзеш толькі шукаць чараў, варажыць ды тварыць чарадзействы, і несупынны шлях спазнання неспазнанага будзе кожнае імгненне клікаць цябе. Не зможаш

гэтага голасу пазбыцца. І пойдзеш на гэты покліч, як бы ні хацеў застацца, пакінеш усё, чым жыў раней. І ніхто са смяротных ці несмяротных не зможа дапамагчы табе. Самому ж насмешкай здасца ўсё ранейшае жыццё…

Пашкадуй сваіх родных, не шукай агнёвых колаў у купальскую ноч. Не ўглядайся пільна ў купальскае неба. Адно чакай сустрэчы з купальскім дзядком. Мабыць, толькі ён і ведае, каго так настойліва цмокі шукаюць, чаго так пранізліва ўглядаюцца долу, якая неспатольная прага імі ўладае… Толькі ён не баіцца іх страшнага позірку…

Маўчала казка і пра тое, як прыйшоў купальскі дзядок на белую гару. Не спаліла яго сонца, утомленае дзённымі клопатамі. Адно спытала, ступаючы праменнем па гарачым пясочку:

— Навошта ты вярнуўся?

І адказаў той, каго ведала сонца:

— Не я вярнуўся, чарадзей вернецца. Свет мовіў сваё слова. Я толькі пачалавечы спадзяюся, што не давядзецца шкадаваць пра гэта.

І тады адказала сонца:

— Раскрыйся, гара. Адпусці яго, вялікі Зніч. Вярніся, мудры і змрочны.

…А там, куды ніколі не сягае гарачы сонечны промень, цміў самотны Зніч. Гарэла сіняе полымя, і ляцелі яго іскрынкамі жорсткія словы…

— Ты хацеў чараў, а з імі — веднасці, а з ёю — магутнасці і славы. Ты прагнуў раней неспазнанага. І ты назваў іх, у каго цаляе сваімі стрэламі грозны Пярун, сваімі братамі. І ты здрадзіў ім, сваім братам, якія цяпер навечна праклятыя шукаць цябе сярод людзей. Ты здраднік, чарадзей, вялікі здраднік, які няварты болей веры… Літасцівы да цябе Сварог, але ад мяне не чакай ні спагады, ні літасці.

— Я не чакаю, вялікі Зніч. Я толькі спадзяюся, што калі-небудзь ты стомішся мяне караць… Ты, старэйшы за самага Сварога, павінен ведаць…

— О, я ведаю ўсё, — узвіваецца сінеча несмяротнага гневу. — Я ведаю, што думкі твае няспынна нясуцца да адной даліны, самотнейшай за маё падземнае валадарства. А там глыбокі зацішны яр. Хто плача над ім? Зусім не ты, чарадзей… Не ты, здраднік…

— Там плача Каліна… — пакаянна прамаўляе той, хто названы чарадзеем і здраднікам.

— Так, Каліна. Каліна і Явар, — не змаўкае пякучае вогнішча. — А ці памятаеш, ад чаго? Прыгожая дзяўчына і яе каханы ператварыліся ў маўклівыя дрэвы. Не ісці ім поруч, не ўсміхацца, не быць радаснымі. Адно вечна цягнуцца галінамі-рукамі… Вечна жаліцца свету. Гэта жорстка, чарадзей. Жорстка ператвараць іх у дрэвы толькі за тое, што яна выбрала не цябе.

— Я здрадзіў, Зніч. Здрадзіў старым багам. Ім, каго ты называеш маімі братамі. Я толькі хацеў застацца з ёю, Калінай. Назаўсёды быць разам…

— О так, яшчэ як здрадзіў. Цэлы свет не бачыў большай здрады. Ты, атрымаўшы такія магутныя чары ад старых багоў, вырашыў пайсці да новых. А калі дазнаўся, што не ты яе абраннік, то ўспомніў, ад чаго адрокся. І паклікаў старадаўнія чары, каб сталіся хлопец з дзяўчынаю Яварам ды Калінаю, каб ніколі не займелі шчасця. І пакараў цябе за гэта Сварог.

— Я хацеў застацца з ёю…

— Ты хацеў чараў, ты хацеў быць над светам. Ты хацеў сабе вялікіх братоў, якія не сумняваюцца ў табе, якія заўсёды з табою. І ты забыўся пра тое, што папросіць ад цябе свет… Нельга, назваўшы кагосьці братам, пра гэта забыцца. Пра брата свайго забыцца. Ты хацеў, каб яна, пабачыўшы тваю чарадзейную сілу, пайшла за табою. А яна таго не зрабіла. Нельга за гэта помсціць…

— Я не помсціў за гэта, Зніч. Я толькі не схацеў, каб прыйшоў канец нашаму каханню… Некалі сконччыцца тваё валадарства нада мною, і вярнуся я ў свет. І тады адвернуцца мае чары, стане яна зноў дзяўчынаю. Спадзяюся, мы будзем разам. Каму як не табе ведаць, што такое кахаць і спадзявацца…

— Кахаць, спадзявацца, верыць, — глухім пошчакам ляціць у падзямеллі здзеклівы Znічаў смех. — Канешне ж, кахаць… У яе быў час падумаць, што значыць не адказаць на каханне веднага чарадзея. У яе было многа часу, пакуль мяняліся зімы і леты… Супакойся, чарадзей, за справы свае ты ніколі адсюль не выйдзеш. Ты, не памерлы і не жывы, цэлую вечнасць будзеш у маім валадарстве. І кожнае імгненне будзеш памятаць пра тых, каго пакінуў. Будзеш памятаць пра яе.

— Выйду, Зніч. Вечнасць хутка скончыцца. Я вярнуся ў вялікі свет.

І тады над светам праляцелі кароткія словы:

— Раскрыйся, гара. Адпусці яго, вялікі Зніч. Вярніся, мудры і змрочны.

Прагучалі словы і скончылася вечнасць. Не запыніў болей шляху гняўлівы Зніч.

Гарачыя промні хаваліся ў азёрных хвалях, што плылі вакол белай гары ціхім карагодам, нібы баяліся парушыць яе ўзнёслы спакой. Ля крутога ўзножжа ў светлых азёрных кроплях мігцелі белымі агніцамі лілеі, углядаліся адкрытымі вачыма ў бязважкую сінечу неба, што з прыцемкам усё ніжэй і ніжэй нахілялася да зямлі.

Як быццам бы і няма, і не было ніколі ў свеце цяжкіх далёкіх шляхоў, змагання і смерці… Быццам бы ніколі не нараджаліся маладыя багі, не сыходзіліся ў бязлітасным змаганні за гэты свет з ягонымі першатворцамі… Быццам бы ніколі не было яго, цёмнага чарадзея, смяротнага, якому было суджана вырашаць вялікі лёс… Нібы не тварыў ён чараў, не змагаўся і не паміраў…

Ноччу затрымцелі азёрныя хвалі. Гэта прыплылі русалкі да белай гары, заблукалі ў зорных водбліскаў і сталі шаптаць: «Мёртвы ды не мёртвы, жывы ды не жывы, ад цемры, ад святла, ад Агню, ад Вады клічу цябе, пачуй мае чары. Вярніся да сонца, да зорак, да дню, да начы. Абудзіся да радасці і да гора. Дзеля сяброў сваіх, дзеля ворагаў сваіх. Прачніся ад чараў пачатку і канца дзеля свайго вялікага выбару. Дзеля ворагаў сваіх, дзеля сяброў сваіх. Абудзіся да гора і да радасці. Вярніся да начы, да дня, да зорак, да сонца. Пачуй мае чары, клічу цябе ад Вады, ад Агню, ад святла, ад цемры, жывы ды не жывы, мёртвы ды не мёртвы», — гучалі словы самай моцнай веры.

— Кім я быў вечнасць назад? — спытаў чарадзей у русалак.

— Ты быў тым, хто мог дараваць і мог спадзявацца, — адказалі чарадзею русалкі. — Ты кахаў, чалавек… І ў твайго кахання была цэлая вечнасць.

Свяцілі вячыстыя зоры, самотна ўсміхаліся далёкай і мілай зямлі. Толькі не было сярод іх месіка-маладзічка. Падалі зорныя адбіткі ў ваду, маўчала зямля, нічога не прамаўляў свет. І тады падалося чарадзею, што гэтак маўкліва просяць зоркі і просіць зямля, каб вярнуў ён месік… Не, ён ніколі не верне месіка, бо цэлую вечнасць спадзяваўся на вызваленне.

— Мы вызвалілі цябе, — мовілі чарадзею русалкі. — Мы скралі месік, каб вярнуў цябе вялікі Сварог у гэты свет. Мы зрабілі так, як ты прасіў, і цяпер хочам той узнагароды, якую ты нам абяцаў.

А пакуль гаварылася так, паляцела над светам вялікае Сварогава слова: «Знайдзі маладзік, змрочны чарадзей. Знайдзі і вярні яго да нязгасных зорак. Шмат учыніў ты на зямлі, але толькі ты такое адужаеш. Ідзі ж, чарадзей, свет чакае вяртання месіка».

Свет чакаў вяртання месіка, а Явар з Калінаю шапталіся ў самотнай даліне. Цягнуліся галінамі-рукамі. Жаліліся свету, і мінула вечнасць… Як тады, вечнасць назад, сказала яму, чарадзею, тая, без якой не будзе прыгожым свет: «Няхай знікне месік, калі скончыцца наша каханне…» Спадзяешся, што будзе яно, пакуль будзе вечны спадарожнік зор-агнісак. Прыгожая, ведала б ты, што сказала. І тады ён паўтарыў, творачы цёмныя чары: «Няхай знікне месік, калі… калі скончыцца наша каханне».

Плачуць русалкі, просяць аддаць ім абяцаны дарунак. Співаюць, што хочуць здабыць чалавечы лёс і пайсці ў свет. Не плачце болей, Явар з Калінаю. Чары сэрца свайго абуджаю. Вярніцеся, станьце людзьмі…

…Паплылі-паляцелі чары. Цёмныя, магутныя, старажытныя. І пацягнуліся галінамі тонкая Каліна і гонкі Явар. Пацягнуліся і зноўку сталі людзьмі. Як былі, маладымі ды прыгожымі.

Толькі не пабег той, хто быў Яварам, да сваёй Каліны. Не сказаў, што рады яе бачыць. Нават не паглядзеў на яе. А хутчэй заспяшаўся туды, дзе сустрэў некалі белага купальскага дзядка.

…Калісьці, цэлую вечнасць назад, белы стары спытаў у яго, чаго той жадае. І папасіў тады хлопец не доўгага і шчаслівага веку: «Няма ў мяне чараў, няма ў мяне магутнасці і славы, ніколі не буду я чарадзеем, не стану роўным яму. Дык няхай жа ніколі не будуць яны разам. Цябе, уладара свету, вялікага Сварога, пра такі дарунак пакорліва прашу. Навошта твайму свету цёмны чарадзей? Не варты ён ані міласці, ані спагады. Пакарай яго. Хай будзе слабым, уладаючы чарамі, хай, слаўны ў свеце, будзе няшчасным і забытым».

— Чаму ты пра такое просіш? — холадна глянуў у вочы хлопца той, хто быў названы Сварогам.

— Таму што яна выбрала яго. Яго, а не мяне.

— Як ты дазнаўся пра тое, што я Сварог, смяротны без чараў і гонару?

— Ён сам сказаў. Чарадзей. Мовіў, што ходзіш па свеце чалавекам, бо любіш і беражэш гэты свет. І што лепшы ты за яго цёмных братоў, якім не вядома дабрыня і спагада. З-за таго не будзе ён болей з імі, будзе з табою. А пра ўсё гэта мне расказала яна… калі назаўсёды развітвалася са мною.

І цяпер, не змірыўшыся з тым выбарам, зноў шукаў белага дзядка. Вялікага Сварога ў зямным абліччы.

Не сустрэў белага дзядка… Але трэба ж здарыцца такому, што на ростанях дарог выкацілася насустрач вялізнае агнёвае кола. Глянула ў вочы, і заплакаў той, каго называлі Яварам.

— Не хачу шукаць чараў, не хачу тварыць чарадзействы, не хачу ісці ў вялікі свет. За што вы так са мною?

І адказала агнёвае кола:

— Гэта ты хацеў быць падобным да нашага брата, які пра нас забыўся. Мы падаруем табе вялікую сілу, ты станеш магутнейшым за яго.

— Я не хачу быць цёмным…

— Ідзі, чалавеча. Шукай чараў, і адшукаеш сцяжыну да нас, цёмных братоў. Гэта вы, Сварогавы дзеці, называеце нас цёмнымі. Толькі самую жахлівую ноч зацьміць тваё сэрца…

— Няўжо я хутка стану такім жа… такім жа, як і ён?

— Ніводны з нас, першых, не пазбудзецца сваёй веры, сваёй літасці да вялікага свету. Як спраўджваецца тое, што кожнага новага дня з'яўляецца сонца, так спраўдзіцца і тое, што заўтра прыйдзе лепшы чарадзей, чым ёсць сёння.

Тады мовіў свайму цёмнаму брату Явар:

— Вы не памыліліся ў сваіх думках пра мяне. Я стану лепшым, чым ён.

Плачуць самотныя русалкі, коцяцца іх палыновыя слёзы. Просяць аддаць абяцанае каханне, бо хочуць таксама кахаць, ціхія, чалавечныя. Толькі не аддам ім таго, ад чаго мне так балюча… Як жа так сталася, Каліна?.. Не адмовіць мне тых чараў, не выпрасіць у цябе прабачэння…

— Навошта ты замовіў нас? Навошта, калі я ішла да цябе… Думала, што, здрадзіўшы цёмным братам, станеш і ты светлым ды харошым. А ты не харошы, не светлы. Ты быў і застанешся цёмным, колькі б вечнасцей не мінула…

Плачуць самотныя. І тады мне здаецца, што ёсць у іх чалавечая спагада ды спачуванне, што не трэба ім падараваныя пачуцці, бо тыя не зробяць іх лепшымі. Русаліцы, даўно забытыя, без надзеі і радасці. Чаму ты такі жорсткі, вялікі свет…

І хочацца бачыць маіх цёмных братоў, як бачыў іх калісьці. Яны, спадарожнікі часу, яны, празарліўцы вечнасці, даўно-даўно казалі мне:

— Не праклінай нас, брат. Ніколі не станеш ты цёмным, але і ніколі не выйдзеш на святло…

І казаў мне пранiклівы Сварог, які таксама зведаў людскія сэрцы:

— Выйдзі на святло, чарадзей. Выбірай паміж маім светам і цёмнымі братамі. Выбірай паміж сваім каханнем і вечнай скрухай. Часу мала, дык выбірай жа…

Чаму я не паслухаў вас, цёмныя браты… Плачуць самотныя русалкі, шкадуюць пра скрадзены месік-маладзічок. Маўчаць мае цёмныя чары. Не адгукнуцца мае цёмныя браты, вечнымі агнёвымі коламі лунаюць над светам Сварога. Сталася так па Сварогавай волі, але не здзейсніцца ёй, калі б не мая вялікая здрада. І чаму, калі так самотна і адзінока, хочацца стацца светлым…

І чаму мрояцца даўнія словы маіх цёмных братоў… Прадказанне з тых часоў, калі яшчэ мы былі братамі:

— Людзі баяцца чараў. Баяцца, але і прагнуць іх, невядомых, неспазнаных. Не дзеля іншых, дзеля сябе. Але толькі той сапраўдны чарадзей, які думае пра іншых. Толькі тады адкрываецца магутнасць чарадзейнай сілы…

І тады паўсталі Явар з Калінаю над адным глыбокім ярам… Паўсталі маёй воляй. Я не пачуў вас, мае браты. Я толькі хацеў прасіць у Сварога дарунак, каб змяніў бацька свету лёс і час, дзе ты не будзеш баяцца чараў, Каліна. Дзе я буду чалавекам…

Прыхаваны месік у непраглядных лясных нетрах. Маладзічок, блізкі, мілы. Свяціў, але сам быў нябачны… Свяціў, як спадзяваўся знайсці ў цёмных лясах іскрыстыя зоркі. Як жа так сталася, што не азвалася табе зямное святло з адвечных русалчыных лясоў…

— Вярні мяне ў нябёсы, чарадзей, — шэпча маладзічок. — Там мае зоркі-сёстры, там мой лёс, там мае нязведаныя далечы.

— Вярніся, ясны. Свяці, падказвай шлях уначы. Забяры мае чары. Не хачу болей крыўдзіць імі свет…

Засвяціў у высокім небе месік-маладзічок, засмяяліся-заіскрыліся ягоныя вечныя сёстры. І тады паклікаў мяне ўсёвідушчы Сварог, які адвеку клапаціўся пра гэты свет.

— Ты некалі быў чалавекам. Але цяпер не адмовіцца табе, чарадзей.

Глядзіць мне ў вочы мудры Сварог, пранізліва, пранiклiва. І адчуваю ягоны боль, вялікую стому і расчараванне ад белага свету. І бачу, бачу Сварогавымі вачыма…

…Красуецца мая Каліна. Пяе з русалкамі пра тое, што хоча закахацца, знайсці чалавечы лёс і пайсці разам у вялікі свет. Скончылі русалкі спяваць і мовяць ёй:

— Раскажы, што такое каханне. Вядома нам, што цябе кахаў слынны чарадзей…

— Кахаў. І мроіў мною кожны дзень, і лавіў маё слова, і ведаў мае думкі ды жаданні. Падабаліся мне чары, што пасылаў ён у свет. Толькі… казала я заўсёды, што баюся невядомага, баюся чараў. Казала, каб больш клапаціўся ён пра мяне. Называў маё імя сонцу і месіку, лясам і азёрам, усяму вялікаму свету. І не было нічога, чаго б ён ні зрабіў для мяне. І вырашыла я застацца з ім… А як было вырашыць іначай… Толькі пакараў мяне за маю няшчырасць свет. Цэлую вечнасць была я самотнай Калінай, якая стаяла над глыбокім ярам ды шапталася з вятрамі. Я ведала, што ён вернецца, што вызваліць…

— І што ты зрабіла, калі ён прыйшоў? — пыталіся русалкі, затойваючы дыханне.

— Я стамілася чакаць. Ён не вяртаўся надта доўга. У мяне было многа часу падумаць, чаго я сапраўды хачу…

— І што ж гэта, чаго ты хочаш?

— Я хачу сама валодаць чарамі, ствараць іх і пасылаць у свет. Я хачу стаць чарадзейкай, самотныя русалкі. Гэта тое, з-за чаго я прыйшла да вас… Падаруйце мне чары, і я раскажу вам усё…

…Я памятаю ўсё гэта, калі смяюцца высокія зоркі, глядзяцца ў росныя люстэркі. Любуюцца сваёй вечнай прыгажосцю. Густа засцілаюць росы зямлю, адбіваюць іскрыстыя зорныя промні. І робіцца прыгожым свет, такім, як ты, Каліна… Сумна пазірае з нябёс веташка, гаворыць мне, што русаліцы падаравалі чары, падаравалі табе… Памагай ёй, веташка, не пакінь прыгожую чарадзейку Росіцу. Прамаўляе свет імя тваё. Адно дзівіцца, чаму гэта празрыстыя росы такія халодныя. Сцюдзёныя-сцюдзёныя…

Свеціць мне ветах, і крочу я туды, дзе блізка да цябе, магутны Зніч. Не ходзіш ты па белым свеце, не варожыш на ягоны лёс, як прарочы Сварог, але так блізка ад яго тваё валадарства… Вітаю цябе, несмяротны.

Пераходзіць мне шлях чарадзей. Цёмны. Такі ж, як і я сам. Гаворыць мне:

— Цёмныя браты не пасылаюць табе свайго прывітання. Але яны не забыліся на цябе.

— Гэта не іх думкі, а твае, мой таксама брат. Яны не давяралі табе сваіх вяшчунстваў.

— Ты не ведаеш мяне. Ды і як табе ведаць… Ты ўвесь час быў заняты тым, што прымушаў свет верыць у твае мары. Што табе да адзінокага Явара, які ўсімі быў забытым, які цэлую вечнасць мусіў чуць Калініны праклёны… Я той, каму цёмныя браты падарылі чары, магутнейшыя за твае. Цяпер жа зраблю так, каб кожную хвіліну свайго чарадзейнага жыцця ты адчуваў боль і страты. І буду цешыцца гэтым.

— Ты не напалохаеш мяне пакараннем, Явар. Толькі не ты…

— Не чакай спакою, чарадзей, не чакай літасці…

Гаворыць ён так, аж адкрываецца зямля і выходзіць нязгасны Знічаў агонь… Шырокі белы свет. Мроіцца белая гара на ростанях шляхоў. Глядзяць яснае сонейка і задумлівы маладзічок, пасылаюць мне свае нябесныя ўсмешкі. Вогненнымі коламі коцяцца па небе мае цёмныя браты, гавораць, што нічога яшчэ не скончана, што не будзе мне спакою, пакуль яны будуць кружляць над маім лёсам. І здзекуецца з мяне несмяротны Зніч:

— Няварты здраднік, чарадзей, які паўстаў супраць тых, якія даравалі яму чары. Паўстаў супраць самога сябе. Што ведаеш ты пра вечнасць, пра пакуты, большыя, чым свет, пра тую горыч, калі яны, старэйшыя за Сварога, навечна

заклятыя быць прывіднымі агнёвымі коламі? Заклятыя шукаць аднаго смяротнага чарадзея. О, вечны здзек для іх, тых, каму не было мяжы… Заклятыя шукаць, шукаць і не знаходзіць…

І думаю я пра тое, чаму вы не сустрэлі мяне, цёмныя браты, на той вялікай сонцавай гары, чаму дазволілі пайсці ў свет за сваім каханнем мне, здрадніку, мне, нявартаму вялікага вашага даверу. Нявартаму літасці ад белага свету…

— Як зрабіў я такое, уладар смутку і памяці, што зніклі яны, цудоўныя і магутныя, што, самыя лепшыя, сталіся яны цёмнымі?

— І ты яшчэ пытаешся пра гэта… Запытайся ў сваіх вялікіх чалавечых пачуццяў, якія не шкадуюць іншых. Запытайся ў Каліны, запытайся ў Явара, запытайся ў іх, харошых братоў, вечных спадарожнікаў тваёй долі, якіх спляжыла тваё чарадзейнае сэрца. Я не прымаю цябе, чуеш, чарадзей. Ідзі, згубіся ў вялікім свеце.

…Я пайшоў і згубіўся ў вялікім свеце. Заблукаў у безлічы яго сцяжынак і дарог. Гневаўся магутны Сварог, шукаў мяне сваім усёвідушчым позіркам. А ты некалі быў добрым, творца лёсаў багоў і людзей. І магутным. Пасылаеш па мяне вятры і навальніцы, адно ні з чым вяртаюцца яны назад.

Пачалі русалкі перагуквацца ў гаях, гуляць у высокіх жытах. Сталі заваблівіаць да сябе маладых, нібы шукаючы назаўсёды страчанае. Перасталі людзі хадзіць жытнёвымі сцежкамі, доўга ўглядацца ў люстра вады, збаяліся цёмных лясоў, бо там цікавалі русаліцы неасцярожных. І толькі я адзін ведаў, ад чаго такое надарылася. Я некалі сам гэта пачаў, паабяцаўшы русалкам, што будуць яны кахаць і будуць каханымі. Ім, забытым і адзінокім, так хацелася кахання… А ты, Каліна, падаравала русалкам свае пачуцці, узяўшы іх чары. Прыгожая, як ты магла падараваць тое, чаго сама не мела… Плачуць русалкі, плачуць…

…І тады паляцела па-над светам не толькі людская, але і чарадзейная пагалоска. Нібыта, калі цягнулі русалкі маладзічок у лясныя нетры, адкалолася ад яго дробненькая іскрыначка. Доўга хавалі яе русалкі, але неяк да іх прыйшла тая, якая хацела стаць чараўніцай. Падаравалі ёй русалкі маладзіковую іскрыначку, і стала чараўніца рассцілаць над светам празрыстыя сцюдзёныя росы. І назвалі тую чараўніцу прыгожай Росіцай, бо сапраўды была яна вельмі прыгожая. А халодная маладзіковая іскрыначка назаўсёды схавалася ў яе сэрцы. Ад таго і сэрца той чараўніцы халоднае, як іскрыстая раса на золку.

Мне ніколі не холадна ад расы. Холад — цепліць… Мне няма адзіноты. Мне няма болю. Толькі не супакоіцца мне, пакуль ляціць над светам далёкая русалчына песня: «Хочам, хочам закахацца, чарадзействы сніць ды сніць, у палях, лясах гукацца ды свет чарамі спавіць».



Святлана КАЛЯДКА

# «ПАЭТ — УГОДНІК РЫФМАЎ І ПАКУТ...»



У такія далёкія і зусім яшчэ блізкія 1960-я гады Яўгенія Янішчыц птушкай упырхнула ў літаратуру. Лёгка і нязмушана, рамантычна і ўзнёсла прагучаў яе голас у паэзіі. Вобраз непрыручанай птушкі, які стаў увасабленнем існасці лірычнай гераіні, прымусіў мяне задумацца: а з якою птушкай беларускіх лясоў і садоў яе атаясамліваю? У процьме артыкулаў і даследаванняў я сустракала параўнанне гераіні з птушкай, але з якой? Салоўка, ластаўка, а можа, бусел? І так, і не. А можа, гэта будзе зборны вобраз, той самай жар-птушкі, да якой калісьці звярталася ў ранніх вершах паэтэса, птушкі казачнай і неймаверна прыгожай? Жар-птушкі, што сваім чароўным святлом дакранулася да кожнага, хто яе разглядзеў у паэзіі Я. Янішчыц, якая гэта святло дорыць і праз дзесяцігоддзі:

Хачу я ў царства нейкае чароўнае
Маленькаю жар-птушкай заляцець,
Дзе лебедзі ўзнімаюцца чародамі,
Каб хмаркамі ў небе белякцець…

*(***А жнівень косы мне
няшчадна выпаліў…)*

Рыхтуючы Збор твораў Яўгеніі Янішчыц у 5-ці тамах, старанна збіраючы ўсе матэрыялы, якія магчыма ўключыць у выданне, вывучаючы шматлікія даследаванні жыцця і творчасці паэтэсы, успаміны пра яе сяброў, знаёмых, калег, пісьменнікаў і г. д., я зрабіла для сябе высновы, што мы шмат чаго не ведаем пра яе, амаль народную паэтэсу. Я маю на ўвазе не асабістае жыццё і падрабязнасці асабістых дачыненняў (хаця гэта заўсёды выклікае павышаную ўвагу ў чытачоў), а як яна змагла сваімі шасцю кніжачкамі паэзіі, напісанымі на працягу 25 гадоў, так зачараваць чытача, як ёй удалося напоўніць кожны радок такімі жыццесцвярджальнымі пафасам і энергетыкай, што, быццам пёры жар-птушкі, пульсуюць і напаўняюць цяплом нашы душы і цяпер.

У 1990 годзе выйшла пастанова Савета Міністраў, у якой другім пунктам значылася выданне збору твораў Яўгеніі Янішчыц:

*«ПОСТАНОВЛЕНИЕ СОВЕТА МИНИСТРОВ БЕЛОРУССКОЙ ССР*
*6 сентября 1990 г. № 222*
*ОБ УВЕКОВЕЧЕНИИ ПАМЯТИ Е. И. ЯНИЩИЦ*

*В целях увековечения памяти известной белорусской поэтессы Евгении Иосифовны Янищиц Совет Министров Белорусской ССР*

*ПОСТАНОВЛЯЕТ:*

*1. Минскому горисполкому совместно с Министерством культуры БССР, Союзом писателей БССР и Союзом художников БССР установить в 1991 году на могиле Е. И. Янищиц надгробный памятник сметной стоимостью до 1,5 тыс. рублей.*

*Финансирование сооружения указанного памятника осуществляет Минский горисполком за счет доходов, дополнительно полученных при исполнении бюджета г. Минска.*

*2. Государственному комитету БССР по печати, Союзу писателей БССР подготовить и издать до 1993 года собрание произведений Е. И. Янищиц.*

*Заместитель Председателя Совета Министров*
*Белорусской ССР Н. Костиков*

*Управляющий Делами Совета Министров*
*Белорусской ССР Н. Кавко»*

Мала хто ведае, што самыя першыя вершы паэтэсы былі апублікаваны ў рэгіянальным друку ў 1961 годзе, як і самы першы празаічны твор (ва ўсіх энцыклапедычных крыніцах адлік творчага шляху пачынаецца з яе публікацый у рэспубліканскім друку, з 1964 года). З ліста да Генадзя Бураўкіна, датаванага 24.X.1965 г., даведваемся, што 17-гадовая Жэня мела ўжо сваю творчую гісторыю, ёй пашчасціла апублікавацца ў рэспубліканскім друку і на яе вершы ўжо была напісана песня (не кожны масціты аўтар можа гэтым пахваліцца!):

*«Вершы пачала пісаць у сёмым класе. А ў друку яны з’явіліся ў 1961 годзе ў нашай раённай газеце «Палеская праўда». Пазней гэтая газета зрабіла падборку маіх вершаў. А ў гэтым годзе вясной мае вершы ўбачылі свет на старонках «Чырвонай змены» і журнала* (так у арыгінале. — **С. Калядка**) *«Бярозка», а таксама з’явіліся ў эфіры радыёпраграмы «Арлянят». На адзін верш мне асабліва пашчаслівілася: Юры Семяняка на словы «Веры Харужай» напісаў музыку».*

У гэтым жа 1965 годзе 21 верасня ў газеце «Літаратура і мастацтва» з’яўляецца падборка вершаў Я. Янішчыц з прадмовай Г. Бураўкіна «Будзем знаёмы — Яўгенія Янішчыц»:

*«Вершы Яўгеніі Янішчыц мне спадабаліся адразу. Ды яны і не маглі не спадабацца — столькі ў іх было паэтычнасці і святла, захаплення жыццём і сваёй маладосцю. Я чытаў іх адзін за другім — і радаваўся той свежасці і непасрэднасці, з якой гаварыла са мной пачынаючая паэтэса...*

*Захацелася даведацца, хто ж гэтая дзяўчына з Піншчыны, ці не выпадковыя раптам яе ўдачы? І вось перада мной яе ліст і дзесятак новых вершаў.*

*Жэні Янішчыц семнаццаць год. Жыве яна ў вёсцы Рудка Пінскага раёна, ходзіць за пяць кіламетраў у Парэцкую сярэднюю школу, у 11-ы клас.*

*І — вершы. Паэтычныя, па-дзявочы шчырыя і непасрэдныя... Не, удачы былі не выпадковыя. Жэня Янішчыц, безумоўна, мае паэтычныя здольна-*

*сці, родная наша зямля беларуская кінула ў яе душу «іскру боскую». Толькі трэба не загубіць гэтую «іскру», не патушыць яе на нялёгкай дарозе ў літаратуру. Трэба — як гэта ні банальна гучыць — шмат працаваць. Каб пазбавіцца той літаратуршчыны, якая даволі часта гаспадарыць нават у добрых вершах. Каб набыць большай глыбіні роздуму і шырыні жыццёвых назіранняў. Каб празмерна не захапляцца сваёй маладосцю — яна ў рэшце рэшт, як гэта ні сумна, пройдзе. Каб кожны радок рабіць і звонкім, і важкім...*

*Адным словам, у Жэні Янішчыц наперадзе шмат — і, акрамя ўсяго іншага, шмат працы. Дык хай гэтая праца прыносіць радасны і шчодры плён! Хай дужэюць у маладой песні крылы, бо — хочацца верыць — палёт у яе будзе высокім!..»*

Не ў кожнага прызнанага пісьменніка маецца такая шчаслівая гісторыя ўваходжання ў «прафесію». Творы Я. Янішчыц прэзентаваў сам Генадзь Бураўкін, рэцэнзіі на першы зборнік «Снежныя грамніцы» ў 1971 годзе напісалі такія вядомыя пісьменнікі і літаратуразнаўцы, як Ніл Гілевіч, Алесь Асіпенка, Анатоль Грачанікаў, Дзмітрый Бугаёў, Рыгор Бярозкін і інш. Пазней выступілі ў друку з водгукамі на яе вершы Рыгор Семашкевіч і Варлен Бечык. Можна сказаць, што цвет літаратуразнаўства прымаў удзел у фарміраванні індывідуальнасці маладой паэтэсы, кожны з пералічаных даследчыкаў лічыў патрэбным выказаць захапленне яе творчасцю, не забываючыся і пра парады на будучыню.

Увогуле, Д. Бугаёў і Р. Бярозкін мелі супрацьлегла антаганістычны ўплыў на творчасць Я. Янішчыц. Калі Д. Бугаёў сваімі ацэнкамі і развагамі акрыляў паэтэсу, даваў ёй веру ў сябе, то Р. Бярозкін, наадварот, увесь час вяртаў яе на зямлю. І ў абодвух шмат артыкулаў і раздзелаў у навуковых даследаваннях, прысвечаных Я. Янішчыц. Прафесійныя даследчыкі са звышадчуваннем тонкай матэрыі паэтычнага слова, яны змаглі разгледзець у маладой паэтэсы талент, які мае будучыню. Менавіта Р. Бярозкін рэдагаваў першы паэтычны зборнік «Снежныя грамніцы» і няшчадна крамсаў прапанавую маладым аўтарам кнігу, выкінуўшы з яе амаль палову тэкстаў, пра што згадвае паэтэса: «*...ладкуючы свой першы зборнік, я з усёй лірычнай апантанасцю ўключыла туды амаль усё, што вылецела з-пад юнай рукі. Адным словам, як кажуць на вёсцы, замяшала і сена, і салому... І вось гэтыя «сена і салому» давялося якраз разбіраць у закрытай рэцэнзіі на зборнік паважанаму і вельмі сур'ёзнаму Рыгору Саламонавічу! І калі з выдавецтва «Беларусь» паведамілі, што зборнік на рэцэнзію аддалі менавіта Бярозкіну, то адначасова і абрадавалася, і збянтэжылася <...> і — без усялякай цырымоніі прапанаваў зняць шмат «вершаў», якія адносіліся да «саломы». Гэтыя знятыя вершы (як цяпер помню) толькі па аднаму пераліку занялі дзве машынапісныя старонкі з закрытай рэцэнзіі*».

Ці апраўдана гэта зроблена? У пэўных выпадках — так, а ў іншых можна было дапрацаваць тэксты і ўсё ж такі ўключыць іх у кнігу. Аднак, як паказалі збор, апрацоўка і класіфікацыя вершаў Я. Янішчыц з архіваў, перыядычных выданняў, калектыўных зборнікаў, паэтэса не вярталася да няўдалага тэксту, не дапрацоўвала яго і не запазычвала ідэю няздзейсненага верша. Яны так і заставаліся ў архівах. Аўтарка ішла наперад са свежымі ідэямі, новымі вобразамі і не лічыла патрэбным вяртацца ва ўжо пражыты момант узрушэння і натхнення, падчас якога і пісаўся твор. Нельга перажыць двойчы той жа настрой, які кіраваў нараджэннем задумы.

У 1960-я гады лічылі за гонар апублікаваць вершы Я. Янішчыц газеты «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацтва», «Знамя юности», «Настаўніцкая газета», часопісы «Бярозка», «Маладосць», яе вершы ў перакладах ахвотна друкавалі расійскія выданні. Да прыкладу, амаль у кожнай падборцы, прысутнічаў верш «Беларусі» і быў апублікаваны ў 1960-я гады каля дзясятка разоў, аднак у першы зборнік ён не ўвайшоў. Думаецца, менавіта Рыгору Бярозкіну ён не спадабаўся тым, што быў прадстаўлены на старонках, «замыліў» вока і набіў аскоміну. Хоць ён і напісаны ў танальнасці вершаў першага зборніка, з юнацкай непасрэднасцю і аптымістычнымі акордамі:

**Беларусі**[1]

О Беларусь, азёрная старонка!
Пастаў мяне бярозкай у палях.
Хачу ліствой, мядзянаю і звонкай,
Услаць табе твой самы светлы шлях.
Хачу сяброўкай самай добрай, шчырай
Стаць юнаку, што ў роздуме панік,
Хачу, каб птушкі, што ляцяць у вырай,
Мне крыламі махалі з вышыні.
Зялёнай самай, самаю шумлівай
Хачу я ў спёку летнюю расці,
Каб падзяліцца шчасцем з нешчаслівым,
Каб падзяліцца сонцам у жыцці.
О, Беларусь! Мая зара над вёскай,
Мае сустрэчы, радасці, агні…
Хачу заўжды зялёнаю бярозкай
Шумець сярод тваіх азёр і ніў.

Але гэта толькі здагадкі. Факты мы атрымліваем з артыкула Я. Янішчыц «Праз трапяткое лісце год: Да 70-годдзя з дня нараджэння Р. Бярозкіна», апублікаванага ў сёмым нумары часопіса «Маладосць» за 1988 год, у апошні год жыцця паэтэсы. Гэты артыкул, напісаны ў форме ўспамінаў, нібы споведзь, пакаранне і апраўданне самой сябе. Вельмі патрабавальны Р. Бярозкін не хацеў бачыць ці ўспрымаць рамантычную настраёвасць многіх паэтычных твораў Я. Янішчыц, а ёй, аўтарцы з лірычным талентам, цяжка было пазбавіцца захопленага здзіўлення, радасці адкрыцця свету, шчырай любові да жыцця. Словы Р. Бярозкіна: «*Шкада, што рамантычны плашчык ніяк з сябе не можаце зняць. Глыбіні мала. Сапраўднага мала. Такога, каб прабівала навылёт, каб за сэрца брала. А ўвогуле, Жэня, не пішыце больш падобных вершаў. Можа, я сказаў Вам надта рэзка, але інакш пакрывіў бы перад ісцінай*» — можна ўспрымаць як загад змяніць падыход да літаратуры і жыцця. Але як стаць вопытным, сталым, відушчым, калі душа трымціць ад судакранання з прыродай, калі фантазіі вядуць у краіну, дзе «сіні вецер» і «сіні дзень», а каханне як прадчуванне, як праекцыя жыцця ў шчасці…

Уразлівая Жэня Янішчыц хутчэй за ўсё ўспрыняла словы Р. Бярозкіна як заклік да дзеяння. Можа, і не з’явілася б «выпакутаванасць», пра якую згадвае яна, у зборніках так рана, не ў адпаведнасці з узростам паэтэсы і яе жыццёвым вопытам. Можа, яшчэ другая і трэцяя кнігі радавалі б гэтай усеабдымнай любоўю аўтаркі, якая нас ахінула яшчэ ў першым зборніку, можа,

[1] Публікаваўся ў зб. «Натхненне: Вершы маладых паэтаў — студэнтаў БДУ імя У. І. Леніна». — Мінск: Беларусь, 1967.

услед за паэтэсай мы па-дзіцячы наіўна і ўсхвалявана адкрывалі б невядомае ў вядомым нам акаляючым свеце, жылі б у гарманічнай краіне яе цудоўных паэтычных фантазій, калі б не жорсткая просьба-загад — «зняць рамантычны плашчык».

«Крытычнае вока» Р. Бярозкіна заўважала ў паэзіі Я. Янішчыц тое, чаго не варта было чапаць, што павінна было і надалей жыць у ёй — рамантычную з'яднанасць з прыродай і людзьмі, і ўвогуле — з усім сусветам. Ці не атаясамліваў Р. Бярозкін «сантымент і сюсюканье», якіх заклікаў пазбягаць, з лірычным спевам Я. Янішчыц? Думаецца, што так. Сваімі крытычнымі заўвагамі ён усё больш і больш стрымліваў палёт паэтэсы-птушкі, не пускаў яе ў бяскрайнія прасторы вышыні, прымушаў вярнуцца на зямлю, якая жыла сваімі праблемамі. І птушка вымушана была «прызямляцца», наступаць на горла ўласнай песні.

Мне часам думаецца, што самаідэнтычнасць і ідэнтычнасць, якія навязваліся ёй крытыкай, не толькі не супадалі, але і надалі яе паэтычнаму слову тыя «трывожнасць», «выпакутаванасць» і драматызм, якіх не шукала і не разумела яе акрыленая душа. Безумоўна, пазней развод, ранняя смерць бацькі, цяжкія фізічныя траўмы пасля аварыі, крытычны стан сына падчас хваробы і многае іншае прымусілі Я. Янішчыц пасталець, дадалі яе паэзіі праўды жыцця, навучылі праводзіць «неміласэрную, пякельную працу са словам», і таму з'яўленне трагедыйнасці ў лірычных споведзях зборнікаў «На беразе пляча», «Пара любові і жалю», «Каліна зімы» выклікана перажытым, выпакутавана лёсам. Але сацыяльная залежнасць пісьменніка ад часу, праекцый літаратурнага руху, умоўнасцей пазалітаратурнага жыцця і шмат чаго іншага прымушае праводзіць самаідэнтыфікацыю з сацыяльна правільным, з прымаемым крытыкай, з умоўна азначаным як «узорнае».

Не хочацца думаць пра тое, што набылі б і чаго пазбавіліся чытачы, калі б паэтэса прыслухоўвалася толькі да поклічаў душы. На жаль, перыяд росквіту сацрэалізму ў літаратуры паўдзейнічаў на «адкарэкціроўку» многіх талентаў, тым больш калі яны былі далучнымі да афіцыйнага літаратурнага жыцця. Але цудоўна, што сёння ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі мы можам звярнуцца да перыядычных выданняў 1960-х гадоў і знайсці там вершы паэтэсы, якія кімсьці калісьці не былі прыняты, якія былі ацэнены «крытычным вокам» як не адпаведныя шаблону «сапраўднага», якія па незразумелых прычынах паэтэса пакінула ў архіве і да іх больш не звярталася. Безумоўна, ёсць сярод іх і слабыя, і «хуткаспечаныя», і тыя, што не раскрываюць цалкам задуму, са стылістычнымі агрэхамі і г. д.

У гэтай падборцы мы прадставім вершы пэўнага перыяду — напісаныя ў 1960-я гады, і недатаваныя, што захоўваюцца ў сямейным архіве. Вершы розныя — і вартыя ўвагі чытача і апраўдана забытыя — каб за імі можна было разглядзець яшчэ больш уважліва, больш дэталёва, чым жыла паэтэса, што чапляла яе за жывое і прымушала пісаць. І гэта толькі маленькая частка яе творчай гісторыі.

Па выніках праробленай працы над стварэннем Збору твораў Я. Янішчыц можна сцвярджаць, што ў другім томе чытач убачыць сотні новых вершаў, сярод якіх тыя, якія з 1961 па 1988 публікаваліся ў беларускіх газетах і часопісах, калектыўных зборніках і таму для многіх яны паўстануць як новыя, і тыя, якія захоўваліся ў архівах горада і сямейным архіве і таму сапраўды стануць адкрыццём для аматараў творчасці Я. Янішчыц. Некаторыя з іх у гэтай публікацыі.

## Вершы Яўгеніі Янішчыц, якія друкаваліся ў перыядычных выданнях і калектыўных зборніках у 1960-я гады

### НА РАЦЭ[1]

Нас, смешна мокрых, прабіраюць дрыжыкі,
І мы яшчэ на беразе дрыжым.
Каб сонца косы прасушыла рыжыя —
Давай да сініх плёсаў пабяжым.
[Хай нам услед кідаюць штосьці горкае,
Хай пляскаюць уладкі гарлачы…
А мы бяжым, шчаслівыя і гордыя:
[Нам словы ў двухкоссях] І кпіны нам з табою — ніпачым!]

[Глядзіш,] І наша лодка вырвецца з-пад берага,
І паімчыць за трыдзевяць зямель.
І ў нейкім царстве вольны вецер беражна
Нас высадзіць,
узрушаны,
на мель…

### ЗОЛУШКА[2]

Будзе восень з ранкамі золкімі,
Будзе ціхі асенні дождж.
Да цябе я казачнай Золушкай
Пад акно прыйду басанож.

І пакуль цішыня над вёскаю,
[Покуль ціха] блукаюць сны,
Я табе раскажу, як восенню
Можна хутка прыждаць вясны.

Не пужайся, што ночы золкія,
Што замёрзнуць [нядоўга мне] ногі мае.
Вугалькі запалю з вясёлкамі, —
[Будуць] Кветкі ўспыхнуць на зло зіме.

Таямнічаю чараўніцаю
Я прайду ля тваіх акон.
Ты назаўтра прачнешся рыцарам,
Будзеш думаць пра дзіўны сон…

---

[1] Публікаваўся ў газ. «Літаратура і мастацтва» ў 1965 годзе за 21 верасня, С. 3. Тут падаецца аўтограф, які захоўваецца ў БДАМЛМ, ф. 12, воп. 1, спр. 1044. З пазнакай: змешчана ў № 76. З рэдактарскімі праўкамі. У квадратных дужках — закрэсліванні паэтэсы.

[2] Публікаваўся ў газ. «Літаратура і мастацтва» ў 1965 годзе за 21 верасня. Падаецца па аўтографе з праўкамі, які захоўваецца ў БДАМЛМ, ф. 12, воп. 1, спр. 1044.

* * *[1]

Я ведала прызнання
дзіўны ўзлёт.
Я верыла яму да слепаты.
І я жыла сярод сваіх
турбот,
Сярод турбот, якія ведаў ты.

Сплыла бялюткай песняю
зіма,
Другіх надзей успыхнулі агні.
Я ведаю, што больш цябе
няма.
Ды толькі рукі прагнуць
вышыні.

* * *[2]

Ад веку дадзена нам мова
Не за мядзяк, не на
павер.
І адкрывай яе нанова,
Як адкрываў яе Гамер.

Ты — валадар галосных,
зычных,
Што даў табе далёкі род.
Сярод спляцення слоў
музычных
Жыве музычны наш народ.

О, час далёкі пышных
баляў!
О, гусляры былых вякоў!
Я чую родныя цымбалы,
Іх гукі льюцца з-пад акоў.

Гуслярскі лёс князі рашылі,
Ды вось наказ жахлівых
дзён —
Ніводнай ноткі не сфальшывіць
І зберагчы агонь і звон.

Тых гукаў вецер не развеяў,
І я былое не кляну,
Калі паэт надзейна вельмі
Кране паэзіі струну.

[1] Публікаваўся ў часопісе «Маладосць» у 1968 годзе, № 7. С. 46—47.
[2] Публікаваўся ў часопісе «Маладосць» у 1968 годзе, № 7. С. 47.

* * *[1]

Я на тваё: «прыйду не скора»
Прыціхну і не адкажу…
Пайду у цемрадзь цераз
горад
Насустрач гулкаму дажджу.

А потым будзе моцны вецер
Шпурляць лістоту дзень пры дні.
Калі ты ёсць на гэтым свеце,
То не звані мне. Не звані.

* * *[2]

Я дзякую за тое, што было.
Не трэба хваляванца і журыцца.
Цябе залётным ветрам аднясло
І вір маіх вачэй не праясніцца.

Не трэба ў апраўданне важкіх слоў.
Ты можаш заўтра шумна весяліцца.
Я дзякую за тое, што прайшло
І што не можа болей паўтарыцца.

## Вершы, якія захоўваюцца ў сямейным архіве (у сына Андрэя)

* * *

Выбелены памяці палотны.
Шчотачка сцягі, як сенажаць.
Мне над песняй шчыраваць і лётаць.
А табе — чакаць.

Ёсць куток у сэрцы запаветны,
Дзе не падбіваюць і не лгуць.
Бачу, як над кручаю. І светам
Дзве дарогі босыя бягуць.

У абоіх — свята ёсць і страта.
Азарэнне ёсць. І ёсць дакор.
Ды галубіць нашы сцежкі мята,
Святаяннік, доннік і чабор.

[1] Публікаваўся ў часопісе «Маладосць» у 1968 годзе, № 7. С. 47.
[2] Публікаваўся ў газ. «Літаратура і мастацтва» ў 1969 годзе за 25 сакавіка. С. 3.

Як ісці, куды — відно мне, мама,
З вышыні пагоркаў і бяроз,
Покуль не ахоплен чорнай рамай
Твой і мой нястомны дзень і лёс.

## ВЯРТАННЕ СВЯТА

Да суцяшэння, да — непаўтарэння,
Дзе кожны міг нацяты, як кап'ё,
Палосачкай жытнёвага прамення
Было вяртанне гордае тваё.

Я сум вясны работаю тапіла,
Сціраўся са знаёмых дружбы грым.
Ніводнай рыскі я не разгубіла
Ва ўсім тваім абліччы дарагім.

Хай скажуць мне: «Яна зусім аслепла».
Хай скажуць: «Як забітая, маўчыць».
Ні нагаворы гнюсныя, ні пекла, —
Нішто з табой не можа разлучыць.

* * *

Там голас мой садзіўся і дрыжаў
І сэрца халадзела, што ільдзіна.
Цяпер смяюся я з пустых праяў,
Дзе і калі — каму? — не дагадзіла.

Мой дольны свет зацяты і раскут
Наколькі можа сэрца і прырода.
Паэт — угоднік рыфмаў і пакут,
З пакут і пут ягоная свабода.

Яшчэ растуць, яшчэ шляхі звіняць
Ад маразоў пякучых — да адлігі.
Дык што ж, нястомны прывід, прошу знаць:
Мая любоў жыве не для інтрыгі.

Здабытак творчы — тайнаю завецца
(Як ведама, яна не прадаецца).
І той, хто за сціло ўсур'ёз бярэцца,
Хай першым чынам... зайздрасці ўсміхнецца.

## ХЛОПЦУ НА СХІЛЕ ЖНІЎНЯ

Бяроз пажоўклых рабацінне
Ды пры дарозе — іван-чай,
І ты стаіш на пуцявіне,
Пракляўшы морак і адчай.

О гэты родны мне хлапчына,
(Дзе ў сэрцы — горад і сяло) —
З напаўтрагічнымі вачыма,
З якіх славяніцца святло!

Табе гадоў не так і многа,
Каб зоўны дух уберагчы.
Над чым імкне твая дарога:
Над сном ці пусткаю ўначы?

О як трывожна ў нашай хаце!
А думка круціцца ізноў:
Няўжо й твая надзея, браце,
Ляжыць праз могільнік сланоў?

Дабрыдзень, доля і свабода,
Якія нішчыў герастрат.
Тут боль і лёс твайго народа
Не анямеў яшчэ ад страт.

І ты стаіш, як вінаваты
За гэты люд, за родны край.
Адно: ці вернемся дахаты? —
Пытанню сціхнуць не давай!

## ЖАНОЧАЕ СЭРЦА

…І мітусня, і гнюсны пошапт,
І сарачыны пераплёт.
Ды — зноў! — зялёная раскоша
На скрыжаваннях ўсіх грымот.

І ўпасці хочацца у травы,
У шызы ранішні туман
Яму, што знала золь зняславы
І крывадушша, і падман.

За нейкіх два смяротных крокі
(Туды-сюды, сюды-туды!) —
Яно вісела буйнай кропляй
Над прорвай аспіднай жуды.

Залевай слалася навала
І на шматкі ляцеў санет.
Яно ж рыдала і спявала
Ізноў прабіўшыся на свет

І клікала ў адзінаверцы
Таго, хто б мог не спасаваць.
…Ты думаў, што жаночым сэрцам
Так лёгка можна кіраваць?

## БЫЛЬ 1944-ГА ГОДА

Ні гуку. Толькі хіба
Ідуць нацята дні.
Паўторны стук у шыбу:
— Марыя, адчыні!

Аціхла, нібы рыба
Ў падводнай глыбіні.
Грымотны стук у шыбу:
— Суседка, адчыні!
З трывогі — ні на волас
Прысыпу не было.
(І ўсё ж знаёмы голас:
Каго б та прынясло?)

Газнічку запаліла.
Зайшоў у хату госць.
— Я ад твайго Данілы,
Знясі яму, як ёсць
Адзежыну і сала,
Ён ранены ляжыць…

І покуль не ўсвітала,
Лагчынаю бяжыць
Трывожная жанчына
(Адно, адно б: паспець!)
І раптам прад вачыма:
— Куды цябе нясець?

— Ямелька, — ломіць рукі, —
Няўжо завёў у зман?

— Ты тут і здохнеш, сука.
Прывет ад партызан.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

[Вайна] Народ падлічыць страты,
Герояў назаве.
А [хіжы] смелы правакатар
Павесіцца ў хляве.

## ІРАНІЧНАЕ

Зноў паверу, нібы брату,
Хітрым выдумкам тваім.
Ды накрыю небам хату,
Ды сатку з расы кілім.

[Палічу
За давер прыму падман]

Блізка так пачуцці нашы —
Што ні стрэча — то урок.

Навару з лясіны кашы
З крапівы саўю вянок.

О, мой колішні, не злуйся.
Колькі ж лет прайшло і зім?
Пацяшайся, ці частуйся
Бедным [Шчырым] сэрцайкам маім!

[Не накрыю небам нрбр]

* * *

Я пад вечар цеста раскатаю,
Юшкі навару у чыгуне.
Ці смяешся многа, запытаю
І сумуеш многа, а ці не?

Цераз пень-калоду дроў наколеш,
Лужыну абыдзеш стараной.
Жыць з табой я не змагла б ніколі,
Як і ты, разумнік мой, са мной.

* * *

За маімі варотцамі
Ходзяць белыя зімы…
*З ненапісанага верша.*

Снег накрыў кляновыя вароты,
Запарушыў твой нядаўні след.
Засталася ціхая самота
Ды сівы распытлівы сусед.

Я яго, старэнькага, уважу:
Хлеба прынясу і малака,
Гляну, нават жэстам не заўважу,
Як трасецца бледная рука.

Апячэ, да слёз мяне, прыветна,
Адгукнецца, нібы з нематы:
«Ад чаго, душа мая, так светла,
Калі дзверы адчыняеш ты?»

Горы снегу. Жалю кіламетры.
Паўтару я словы сівіны:
Ад чаго ж, душа мая, так светла,
Што ні сну не знаеш, ні віны?

Беглы след, як росчырк самалёта,
Ланцужок дароны — без патрэб.
…Дык здароў, павечная работа,
Чорная, як наш надзённы хлеб!

* * *

Я гордая, да фальшу я — спіною.
Я гордая, мой дружа, не для ўсіх.
І перш, чым пазнаёміцца са мною
Адзін дзівак дапытваўся ў чужых…
Не знаю я, што пра мяне казалі
Яму. Але і ведаць не хачу.
Я гордая, о так, нібы скразная
Любоў і рана ў час, калі маўчу.

Я гордая, калі кранаю словы,
Нацятыя, нібыта цеціва.
Я слабая, дзе ў возеры размовы
Губляецца спакой і галава.

Ніжэй сумлення мне пытацца: хто ты,
Які — адзін і між людзей — які…
Хачу тваёй адзінае пяшчоты
І — як баюся дотыку рукі!

* * *

Меней — варожасці. Болей — сумлення.
Дыбіцца чорнае ярасці конь.
Ах, пакаленне! Як горку палення,
Па аднаму нас расцягне агонь.

[Молімся памяццю не на багоў —
Оды усё-ткі пяём чалавеку.
…Хлопчыкі, што ж Вы?! І я не для здзеку
Няньчу адзінага сына свайго.]

Молімся мёрзлым вякам. І [нрбр]
Молімся жыту, — пачатак адсюль!
Коні ліхія і сцежкі — ліхія
Ды не ўзбаяцца напыжаных куль!

* * *

Неакрэслена, ды ясна
Размывае берагі.
Столькі ведала я красак!
Столькі зведала тугі!

Досыць ужо, нібы на ліха,
Вывучаць мой горкі бег.
…Павярну ў прытулак ціхі,
Дзе ідзе глабальны снег.

## НЯЗВАНЫ

Жар, ці бяссонне з-пад павек?
Прыходзіць дзіўны чалавек,
Такі ж святы, як мы, і грэшны
Паміж нізрынутых багоў.
І ён стараецца усцешыць
Ярмо пакойчыка майго.

Я цень сачу і буйны град.
Злятаюць словы неўпапад.

Згушчаюцца ілба маршчыны,
А голас здзіўлена звініць:
Ён мне даводзіць, што мужчыны
Не ўмеюць хныкаць і хлусіць.

Я сон сачу і зарапад.
Сплываюць словы неўпапад.

Як быццам, госць нязваны — рады,
Але не знае аднаго:
Што ані ласкі, ні спагады
Я не жадаю ад яго!

## НЕ БАЧУ

Было: ён прывячаў маю удачу,
Каб потым патушыць, нібы свячу.
Ён добры? Але я яго не бачу,
Ці не таму, што бачыць не хачу?

## АСЕННІ АСТЭРБЭЙ

— Ну, як жыццё?
— О'кей!
Пазбыты смутку ноты.
Асенні Астэрбэй
Ва ўладзе пазалоты.

Вячыстыя ствалы
Цвітуць на даляглядзе.
…Гасцінныя сталы
Па-беларуску ладзім.

Яшчэ нам шлях вярстаць
У труднай перапалцы.
Ды бульбачка з кастра
Не апякае пальцы.

Ах будзе дзень вясёл,
Нібы праменьчык [шчыры] весні.
І ўдумлівы пасол
Адчыніцца праз песню.

Пры зорах, давідна,
Падобна восень дзіву.
А песня ў нас адна —
Малітва за Радзіму.

## РАССТАЙНАЕ

Не шкадуй мяне у час ад'езду
І не сей на вецер горкіх слоў.
Паміж намі — белы май і бездань,
Скрыжаванне гордае вятроў.

Непапраўна, з ласкай і адчаем,
Маючы свабодныя правы,
Час і нас ад клятвы адлучае,
Нібы Льва Талстога ад царквы.

Не гаруй, далёкі, сінявокі,
Заўтра сонца пусціцца ў падскокі.
Заўтра купіш новую пласцінку,
На якой пяе Мірэй Мацье.

…Ва ўнісон журбе, ці пуцявіне
Падпяю ў калючай цемнаце.

## ІМПРЭСІЯ З ЛІСТКОМ

Дагарае лісце на ляту.
Нудны дождж. І восеньскія хмары.
Я сваю адчую легкату
Пешкам
 на сталічным тратуары.

Сёння дзень такі — як я хачу!
І на твары — сонца залацінкі.
Вось ужо, як лісцік той лячу,
Вось ужо сама лягчэй лісцінкі.

Рух які гляджу! Які маштаб!
Што яшчэ плануецца ў праспекце?
Ды мяне не столькі мала,
каб
Знёс кудысьці першы стрэчны вецер!

## МАЛЕНЬКАЯ ФАНТАЗІЯ [ІМПРЭСІЯ]

Дагарыць узор кашулі.
Вып'юць засухі раку.
І праедзе конна шулер
На апошнім мужыку, —
(Гэтак страшна мне здаецца!..)
А тым часам на зямлі
Дождж ідзе, мужык смяецца,
Зацугляўшы «Жыгулі».

## НЕЗАБУДКІ

Ад бяссоння — да ранняй прабудкі.
Вецер, грузныя хмары развей!
Расцвітуць па вясне незабудкі —
І нічога не будзе мілей.

Мой паклон, гваздзікі і цюльпаны, —
Батанічных садоў стрыгункі.
Як завуць цябе, незакаханы?
…Незабудкі цвітуць ля ракі.

Не-за-будзь! Незабудкавы купал
Па-над памяццю ціхай раскрыль.
Ты, што ведаў мяне непадкупнай —
Адгукніся праз тысячу міль.

Дай вясноваму цуду здзівіцца,
Не адвесці — бязлітасна! — воч.
Гром гуркоча і сцежка дыміцца…
Незабудкамі ўсыпана ноч!

## БОЛЬ

З нявопыту, ах змаладу,
Нібыта соль на раны —
Я ёй пісала пра бяду,
Пра дзень неўладкаваны.

Ахрышчанай сівой вайной,
Глядзеўшай ў вочы смерці —
Я сум зялёны слала ёй
У пухленькім канверце.

Дзесь думка свеціцца ў акне.
Праз вечар свой жытнёвы
Пісьмо матуля піша мне —
І выбірае словы.

## РОДНАЕ

Як ільсніцца маладое лісце
І ў акно ірвецца пах травы!
А не маю веснічак, каб выйсці
Ды паслухаць хоць бы плач савы.

Чыста маё поле, луг мой недзе
І надзей зялёных астраўкі.
Гарадскія [мудрыя] суседзі
Абступілі, бы вартаўнікі.

За сцяжынку кожную крутую,
За чарэмхі кусцік трапяткі
Так жыву, нібы сябе вартую,
Прыкаваўшы голас да ракі.

Ды баіцца горасная маці,
Соль жыцця спазнаўшы змаладу,
Што без мужыка ў вясковай хаце,
Як былінка ў полі, прападу.

* * *

Раскол дарогі,
як пытанне
У паўнаводных берагоў.
І пішуць вершы пра каханне,
Даўно забыўшыя яго.

Душа пазбылася гаркоты:
Ёсць сыты кус. І ёсць віно.
І ёсць радкі, нібы для нотаў
Прыгатаваныя даўно.

Алегра будзе. Будзе скерца,
Дзе напалову — сум і фарс.
І толькі сэрца, струны сэрца
Адкажуць поўнасцю за нас.

# «ГЕЦЫКІ»[1] ПЯТРА КУШЫНА

*У жнівеньскім нумары часопіса «Москвитянин» за 1843 год яго галоўны рэдактар, вядомы расійскі гісторык і пісьменнік Міхаіл Пагодзін надрукаваў артыкул Пятра Кушына «Гецыкі», які выклікаў і да гэтага часу выклікае неадназначныя і ў асноўным негатыўныя адносіны. На яго часта спасылаюцца навукоўцы, і ў той жа час для сучаснага чытача гэты артыкул практычна недаступны. Я хачу выправіць падобнае становішча і даць уласны пераклад гэтага неардынарнага твора. Мяркую, артыкул таго заслугоўвае, бо ў ім адлюстраваны многія сацыяльныя, грамадскія і моўныя працэсы, што адбываліся на Беларусі ў сярэдзіне XIX стагоддзя.*

*Па-першае, «Гецыкі» — амаль першы надрукаваны твор, дзе ўсе дыялогі, песні, прымаўкі даюцца выключна па-беларуску, прычым аўтар стараўся пры напісанні перадаць усе арфаэпічныя асаблівасці вымаўлення. І гэта яму ўдалося. Нават зараз па дыялектных асаблівасцях можна вызначыць, што дзея адбываецца іменна на Віцебшчыне, а не ў якім-небудзь іншым месцы. І што яшчэ цікава: Кушыну не адмовіш у назіральнасці: па асаблівасцях вымаўлення кожнага персанажа лёгка вызначыць яго прафесію або сацыяльны статус. Так, спраўнік размаўляе па-руску, што адлюстроўвае пераход пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай усіх дзяржаўных і судовых устаноў на мову Расійскай імперыі. Напышлівы вучонасцю семінарыст перасыпае сваю гаворку схаластычнымі зваротамі і выразамі на латыні. Янка з сябрамі размаўляе па-беларуску са значнай колькасцю вульгарызмаў, прычым уважлівы даследчык разгледзіць у дыялогах такія моўныя асаблівасці, як «цоканне» і інш. Пан Громніцкі перасыпае сваю мову польскімі словамі, а мяккае «р» у маналогах асобных персанажаў можа ўказаць на іх прыналежнасць да стараабрадцаў. Усё гэта адлюстроўвае вельмі цікавую з'яву таго часу — шматмоўе. Беларускі селянін мог размаўляць па-беларуску, па-руска-польску, мець стасункі і з яўрэямі. Менавіта простыя сяляне захавалі ў сваім асяродку жывую крыніцу нашай роднай мовы…Але, як вядома, цягам часу шматмоўе ператварылася ў непрывабны моўны кактэйль пад назвай «трасянка», які больш за ўсё распаўсюджаны акурат на Віцебшчыне.*

*Па-другое, «Гецыкі» — скарбонка беларускіх народных песень, абрадаў і звычаяў, а грэбаваць такім багаццем, па меншай меры, неразумна. Праўда, пад пяром П. Кушына беларускае вяселле, якое па словах Адама Багдановіча больш за ўсё «падобна на рэлігійную містэрыю», ператвараецца ў звычайную папойку, а старажытнае свята пакланення продкам — Радаўніца — у выпіўку на могілках. Аднак многія сацыяльныя і грамадскія заганы жыцця беларусаў у сярэдзіне XIX стагоддзя Кушын раскрыў хаця крыху гіпербалізавана, але даволі рэалістычна, і наступствы гэтых заганаў мы адчуваем па сённяшні дзень…*

*Належны адказ «Гецыкам» даў у сваім артыкуле «Пісьмы пра Беларусь», надрукаваным у кастрычніку 1844 года ў «Тыгодніку пэтэрсбурскім»*

*(№ 79, 81, 82), Рамуальд Падбярэскі: «Я не буду ламаць коп’яў за напаўдзікіх панкоў, прыгнятаючых народ, за Шамбялянаў і маршалкаў, якія прайграюць у карты жончыны маёнткі, але навошта ж п. Кушын, спрабуючы намаляваць карціну беларускага быту, чапляецца да беднага селяніна і злой насмешкай праследуе невінаватую ў сваім прыніжэнні істоту, улазіць у яго ўбогую хаціну, высмейвае яго недахопы і простыя звычаі, усюды прымешваючы нявартую выхаванага сэрца іронію?»*

*Як пісаў мой старэйшы сябра і настаўнік Генадзь Кісялёў: «Падбярэскі выказваў у сваім артыкуле глыбокае разуменне беларускай мінуўшчыны, гістарычных умоў, якія зусім не спрыялі развіццю ўласнай культуры». Ён пісаў: «Гэтая зямля, парэзаная акопамі, дагэтуль пазначаная слядамі пераходаў Баторыя, калі ён ішоў пад Пскоў і Вялікія Лукі, — зямля, дзе сутыкаліся Літва, Русь, Польшча і рыцары-мечаносцы, — ці ж магла яна калі-небудзь ачуцца, каб перавесці дыханне, каб вылучыць з сябе пачаткі асветы, якія выпалі на долю шчаслівых народаў?» Як на праяву творчага генія беларускага народа Падбярэскі ўказваў на народныя песні, якія захоўваюць шмат непадробнай паэзіі.*

*А цяпер, паважаныя сябры, давайце пазнаёмімся з артыкулам «Гецыкі», бо ўласнае меркаванне можна мець толькі пасля прачытання арыгінала. Тэксты песень і дыялогаў прыводзяцца ў аўтарскім напісанні, акрамя ў нескладовага, якое даецца ў сучасным правапісе.*

***Аляксандр ВАШЧАНКА***

З тае пары, як знакаміты крытыкаю муж, надсмяўшыся над лунаючым у ружовых аблоках паэзіі месяцам, пасарамаціўшы легкадумную мару і аканфузіўшы сціплую панну, не здолеў забяспечыць вершапісцаў багацейшымі крыніцамі паэзіі, ім засталося разбіць ліру і прыняцца за празаічнае пяро... Лепш пісаць простыя аповеды, чым тужыць, шукаючы кветкі, якія хутка вянуць у дзікіх пустэльнях паэзіі; лепш раўнадушна казаць аб якіх-небудзь гецыках, чым выціскаць з сэрца матывы і выстаўляць перад людзьмі свае пакуты; лепш выводзіць на літаратурную ніву малавядомую і не зусім прыемную для слыху гаворку, чым пускаць у свет прыбраныя строфы.

Нарадзіўшыся і вырасшы ў Беларусі і добра ведаючы гэты край, я пачынаю распавядаць аб сваіх гецыках... Нас, беларусаў, жыхары вялікарасійскіх губерняў завуць гецыкамі за тое, што мы ўжываем замест слова это, *гéто*. Як бы то ні было — ці добрая, ці дрэнная гэтая назва, але яна належыць нам... І я пакорліва прымаюся за свайго першага гецыка — пана Шамбяляна Казіміра Бярнардавіча.

У Казіміра Бярнардавіча было калісьці трыста душ. Яго маёнтак Галалобава лічыўся лепшым у цэлым павеце. Не кажучы аб месцазнаходжанні, што мела сваю красу, аб садах і альтанках, у якіх Казімір Бярнардавіч баляваў са сваімі сябрамі, у гэтым маёнтку было пяць бровараў[1)], што прыносілі яму чысты прыбытак і за гэта спусташалі запасы яго хлебных крам. Казімір Бярнардавіч любіў жыць папанску: у яго было дванаццаць хартоў і гэтулькі ж ганчакоў, і ён не мог жыць без палявання. Да яго з’язджаліся з цэлага павета маршалкі[2)], маршалковічы, ксяндзы, падксяндзы, каморнікі[3)], падкаморнікі, харунжыя і іншыя. Усё гэтае панства носіць тытулы не па заслугах, а па багацці. Калі ж каму-небудзь з іх здаралася хаця б тыдзень быць правадыром дваранства, то ўжо бясспрэчным маршалкам ён заставаўся да самой смерці; нават дзеці яго будуць маршалковічы.

Казіміру Бярнардавічу, зразумела, як Шамбяляну, усе нізка кланяліся, ліслівілі, аб’ядалі і абпівалі яго. Ранкам ездзілі на паляванне, за абедам не было недахопу ў вінах і гатовых піць за здароўе Шамбяляна. Пасля абеду госці шпацыравалі ў садзе, гулялі ў бастон. Вясёлыя гульцы праседжвалі ночы, і ўсе былі задаволеныя гаспадаром.

Няма чаго казаць, Шамбялян жыў весела. Часам толькі находзіла на яго нуда, што незабыўная яго палова рана перайшла ў вечнасць, і адзіная дачка выхоўваецца ў сваёй цётачкі.... Але гэта здаралася вельмі рэдка. Казімір Бярнардавіч не меў часу аддавацца нудзе, ён быў заўсёды акружаны сябрамі.

Зрэшты, Шамбялян быў прыстойны чалавек. Адно толькі ў ім не было пахвальна: ён трываць не мог гаспадаркі. Яму не было справы да сваіх сялян, на тое быў эканом пан Шадзевіч, які акуратна атрымоўваў жалаванне, і іменна ён быў поўным гаспадаром. Скаргаў на строгія адносіны да сялян, даносаў на яго ліхаімства Казімір Бярнардавіч ніколі не прымаў і лічыў зневажальным для шамбялянскага гонару верыць нагаворам мужыка на шляхетную асобу Шадзевіча.

Калі бываюць патрэбны грошы, пан Шадзевіч пазычае іх на імя свайго даверніка; не вераць — трэба перазакласці маёнтак. І такім чынам Казімір Бярнардавіч аблытаўся даўгамі, але ніколі не жадаў змяніць звыклага ладу жыцця, пакуль ужо самому лёсу не ўздумалася пацешыцца над Шамбялянам.

У адну фатальную раніцу, калі Шамбялян яшчэ адпачываў у пасцелі, на двор прыскакала некалькі троек з бомамі. Выходзячы са спальні Казімір Бярнардавіч першым госцем сустрэў спраўніка[4)] з папераю ў руках, а за ім і іншых чыноўнікаў.

— Честь имею доложить пану Шамбяляну, — сказаў спраўнік, — что во исполнение Указа Губернского Правления должны мы ныне же приступить к описи всего движимого и недвижимого вашего имения за неплатеж казенных и частных долгов на сумму 75 000 рублей серебром, под опасением за противное со стороны нашей строжайшей ответственности по законам.

Выслухаўшы рэляцыю спраўніка, Шамбялян спакойна і стрымана адказаў: «Кали́ ге́та так, ниха́й бу́дзиць ге́дак! Ро́бце, панове, описаніе». Казімір Бярнардавіч тупнуў нагой, і чалавек прынёс некалькі бутэлек шампанскага. Шамбялян крыкнуў: «Паль!» — і корак паляцеў у столь... Ён задаў камісіі цудоўны баль, і, калі пасля Галалобава было прададзена з публічнага торгу, задаў яшчэ лепшы на славу цэламу павету, і спакойна выехаў на чацвярні ў калясцы ў маёнтак жончынай сястры. Як ён быў там прыняты — гэта сямейная тайна... Толькі летась я бачыў Казіміра Бярнардавіча. Ён пасяліўся ў вёсцы, па наследству перайшоўшай ад памерлай яго жонкі малалетняй дачцэ. Гэтая вёска складаецца з дзесяці душ і завецца Пачывалавам. Мне здарылася бачыць Казіміра Бярнардавіча за ламберным сталом: ён гуляў з семінарыстам у «дурня» і зваў гэтую гульню гульнёю ў шамбяляны. Чаму? Таму што ён, з пазбаўленнем Галалобава, звергнуты сябрамі ў харунжыя.

Гэта маленькі прыклад беларускага памешчыка, але самы дакладны. Там ёсць вельмі многа падобных на пачывалаўскага харунжага.

Зараз паглядзім на селяніна, аб якім падобныя харунжыя яшчэ меней клапоцяцца, чым аб сабе. З-за мноства броварняў там шмат корчмаў, і селянін, істота гультаяватая, заўсёды мае спосаб п'янстваваць, і хлеб абарачаць у віно. З лютага месяца ў селяніна няма хлеба. Чаму? Таму што ў яго вельмі часта не бывае каня і нават каровы. Натуральна — як ён апрацуе поле, заарэ і які атрымае плён? Вось мужычок Янка: жыве ён гаспадаром гадоў пятнаццаць, яму пад сорак ужо гадоў. Ёсць у яго жонка Салоха і чацвёра дзяцей. Вёска яго называецца Лянцяямі. На гэтым месцы дваццаць восем гадоў назад быў фальварак, пабудаваны нейкім нямецкім баронам, які валодаў тады маёнткам, да якога прыналежалі продкі Янкі. Пры гэтым фальварку была процьма неапрацаванай зямлі. Уладальнік, які набыў маёнтак, хацеў навесці ў ім парадак і заахвоціць сялян да працавітасці. Ён выдумаў мудрагелістую методу: калі заўважаў, што селянін закаснеў у ленасці і п'янстве, а між тым не меў хлеба, то гэты малойчык адсылаўся на фальварак, пад каманду злоснага свайго суайчынніка Радаміна, які карміў сялян ад пуза і з бізуном сачыў за іх работамі, будзіў іх разам з узыходам і адпускаў з поля разам з заходам сонца. Але гэтая мера не выправіла сялян, і ашчадны барон вырашыў за

лепшае прадаць маёнтак, які і купіў бацька Янкавага памешчыка, пан маршалак. Тады пайшлі іншыя парадкі, і гэты фальварак распаўся, а ўтварылася там вёска з пяці гаспадароў, у ліку якіх быў і Янкаў бацька. З-за гэтага выпадку вёска, дзе жыве Янка, завецца Лянцяямі.

У Янкі трохгадовы бычок працуе замест каня. Гэтая бедная жывёла, абы-як запрэжаная ў простыя сані, з усёй сілы цягне дровы ў бліжэйшы горад. Ля заставы Янку атачаюць жыды, а ўжо гэтыя дровы абавязкова купіць у яго Моўша або Гілька, які абдурыць і аблічыць яго на некалькі капеек. У горадзе Янка купляе калач і селядца, кладзецца ў сані, і, з прагнасцю ўплятаючы свой набытак, цягнецца да першай карчмы. Тут ён абавязкова знойдзе дзячка Сямёна, дзядзьку і дзядзіну, залвіцу і швагра і ўсю сваю радню.

— Добрыдзінь у хату, — кажа Янка, увайшоўшы, і яму адказваюць тым жа:

— Добрыдзінь!

— А што — з гóрода?

— З гóрода. Дрáвшики прадáв, да смярдзюк[2] пагáный обманив, капéишник скруцив[3].

— Ну, што, паню Янка, капéишник ницóх[4], купи цахóвку[5] гарéлки.

Янка згаджаецца, што капейка нічога не варта, прытым, паважаючы шаноўную кампанію, асабліва дзячка Сямёна, тупае нагой і звяртаецца да карчмара: «Рандáрь[5)], цаховку!» Рандар прыносіць бутэльку гарэлкі і ставіць яе на стол. Янка налівае і першую чарку падносіць Сямёну, а той, пагладжваючы сваю бараду клінам, пачынае распавядаць: «Як я читáв раз Салтырь, мярцвéц устáв, узяв мяне за грýдзи, да й давай биць у киршéнь[6]; дóбри, што я пирижигнáвся[7], — дак јóн пашóв і ліóх»...

— Дóсаць[8]! — сказаў, ківаючы галавой Янка, — нýдна[9] зрóбилась, аш мурашки па-за шкýрью пабегли... Рандарь! Яшцо цаховку, запяём валей[10] песню, — і пачэсная кампанія заводзіць сваю нацыянальную песеньку — гарэліцу:

*Горéлица[6)], горелица, да ты висялýха,*
*Брáла мяне цéриз усю ноцку сукруха[11].*
*Ці ліохкаж мне былó цярпéць цéриз усю ноцку:*
*Видзив я сабе ўвóсни парóзную боцку?*
*Пагляжу я на вýлицу — пáнава каляска...*
*Як папáлись мне ў рýки штóхвицык[7)] і хляшка.*
*Заюкаю, заюкаю дай запакликáю:*
*Хвáла Богу, што даждáвся, вот тут папивáю.*
*Ай пабéдная галовка, гдзе мне тут падзéцца?*
*Як давéдаицца жонка, с злосци апряжéцца[12]!*
*Як придý я в свою хáтку, тут жонцы вярёвка,*
*А вот с пáнам разбирáцца гета, виць ня ловка…*
*Пирид пáнам мужикý цым бýдзиць атвéциць?*
*Едыную мáю свинку, и тая палéциць…*
*— Ай, паноцык,— бýду казáць,— цяпéрь маé горя,*
*Сéна кáсив, сена грáбив цéлый дзень уцора...*
*А пан мяне паслухáиць и милась пакáжиць,*
*Яшцó хлопцу рýмку водкі паднéсь мне прикáжиць...*

З прычыны гэтай песні карчмар, не чакаючы загаду, сам прыносіць і ставіць на стол бутэльку. Такім парадкам Янка прапівае не толькі атрыманыя ім за дровы грошы, але яшчэ карчмар запіша за ім некалькі рысачак крэйдай на сцяне ў рахунак будучага дабрабыту. Янка ўжо хоча ісці, але яго спыняе займальны аповед. Юда са стрыжанай барадой разгаварыўся: «Вось акáзія[8)]: у тýю нядзéлю ў гетай сáмай рáндзи была бальшая акáзія: пришóв дзисятник[9)] Цимоха, Вавила-анхвалидный салдат, кума Текля спикла пирох, а я узяв цаховку гарелки. Сядзим на куцé сваим цынам, аш јон — брязгéль, брязгéль! — Я гляць у вакошка — ци ни спрáвный[10)], ци ня Цéцар, и дзисятник паглядзéв: аш не, ни спрáвный, ни Цéцар. Вайшóв у рáнду — затрóнав, залóнав: «Проц вы —

туды-сюды!..» А цагож нам баяцца? Мы уси своим цынам; дзисятника и бляха ў яго́ на свитцы[13]... Аш їон калып па мордзі дзисятника, аш їон брик пад ла́вку, а дзисятник заво́йкав, а салдат тольки ляпу разняв, аш їон яго калып па ляпи, а їон и балтых пад стол, а кума́ за пирох, да за паро́х, а я за хляшку, да за кумой. Пыта́имся ў ху́рмана: аж їон карчавина[14] з губернии, и бляху садрав и, ка́жуць, ке́пська будзиць дзисятніку. Вось аказія!»

Выслухаўшы гэтую аказію, Янка чэша патыліцу і выходзіць, кладзецца на свае дроўні, і бычок ледзь не ў поўнач прывязе яго дадому. Салоха сустракае яго самымі цяжкімі лаянкамі, а ён у надзеі аджартавацца, просіць у яе чаго-небудзь павячэраць.

— Трясцу! Хваро́бу! Ражо́н табе, няцысцик, — крычыць Салоха, а Янка адказвае:

— А гату́! Нашто ге́ты патра́вы[15]? Уряднику, уряднику, жонацка мая, бабка мая... їон пан, а я мужик, капу́стацкі мне ўпляхни.

Змякчэлая пакорай мужа, Салоха падае яму капусту і кавалак мякіннага хлеба. Янка есць з апетытам, а яна яму прыгаворвае: «Ишь он сїо́рбаиць як! Гарелкі, нябо́сь, натрескався, а есь на́да!»

Ранкам Янка не выйдзе з хаты, і цэлы дзень праляжыць на палацях. Праезджы праз Лянцяі выклікае Янку, каб паказаў дарогу за пяць вёрст да памешчыка, але там няма карчмы — і Янка не ведае дарогі.

Надыходзіць вясна, і гецыкі адпраўляюцца ў запасныя крамы, атрымліваюць па распараджэнні дабрадзейнага ўрада зберажоны там на сяўбу хлеб, і вялікай працы варта назіранне за хлебаробствам гецыкаў. Таго і глядзі, што Янка або сусед яго аднясе ў карчму атрыманы на насенне хлеб, а пасля знойдзе апраўданне, што ў яго няма каня.

Урэшце Янка падняўся. Ці таму, што ў яго траюрадны брат Хомка пасе коней у панскім двары, або таму, што Салохіна пляменніца Куліна прыслужніцаю ў панны Леакадзіі, маршалковіч купіў Янку за дваццаць рублёў асігнацыямі клячу. Увесь тыдзень Янка быў на панскай працы, а ў суботу прыняўся за сваю ніву. Пяць разоў ён прымаецца за саху і адпачывае. Нарэшце стомлены, быццам бы крывавай працай, прыходзіць дадому гнеўны і суровы.

Светлыя святы Уваскрэсення Хрыстова гецыкі сустракаюць як хрысціяне: увесь святы тыдзень праводзяць у гулянні... З хаты да хаты ходзяць валачобнікі і спяваюць розныя песні.

У суботу перад Фаміным тыднем Янкава сямейства адпраўляецца ў балота, і Салоха з дзецьмі ў велізарных мяшках прыносяць бабоўнік[11)]. Спачатку гэты бабоўнік сушаць, потым таўкуць, меляць, і з мукі пякуць хлеб і сочні[12)] да Радаўніцы. Гэты памінальны дзень пастаянна азначаецца ў аўторак на Фаміным тыдні. Гецыкі з усіх наваколляў збіраюцца да прыхадской царквы, і прычт[13)] адпявае над доламі продкаў кожнага сямейства паніхіды. Скончыўшы сваю справу, святар сыходзіць з могільніка, а дзячок Сямён застаецца баляваць з мужыкамі і памінаць нябожчыкаў.

На доле, дзе пахавана радня Янкі, сядзіць ён сам, каля яго дзячок Сямён і некалькі шаноўных мужоў са стрыжанымі барадамі, і жанчын асмуглых і худых. Перад імі стаіць бочачка гарэлкі, драўляны коўшык, і раскінуты сочні з бабоўніка. Усе п'юць і памінаюць нябожчыкаў. Толькі праходзяць міма: сын святара семінарыст, дыякан і пад'ячы, які служыць у Кансісторыі[14)]. Сямён, устаючы з месца і пагладжваючы бародку, кланяецца ім у пояс і просіць прыстаць да бяседы.

Напышлівы вучонасцю семінарыст звяртаецца да Сямёна: «О ты почтипопупочтеннейшій и многомалозначущій человек!» Сямён ківае мужыкам, а тыя забурчалі: «Вишь, як јон вилица́иць на́шаго Сяміона, — до́ка Сяміон!» Тады Сямён звяртаецца да пад'ячага: «Ян Во́сиповиц! Позво́льци утрудзиць Вас... Я написа́в репо́рциц у Канцисто́рию, працыта́йци и пакрыйци маю глу́пась Вашим ра́зумом и удвердзици стапы мои, да́бы я не упал».

— Добри, покáжь.

Сямён вымае з кішэні паперу і падае пад'ячаму, а ён чытае ўслых: «У збóрную нядзéлю пришóв я к панамóрьку[15)] с подобáющим смирéніем и ангелоподóбною кротостію, як вдруг встрецила мянé ў сенях пагáная панамариха, которая нацáла панасиць мяне разнымі хулéбными славáми, як то: «Вор! Ты мой мех на штанáх знасив!» Кали жа я став атрицáць сиé недостóйное хулéние, то онá, схвацив от пещи ухвáт, постáвила мне на лбу три знацытельных признаки, и кали я став...»

— Sat stulte[16)]! — перапыніў семінарыст чытаючага пад'ячага, а той, нахмурыўшы бровы, сказаў скрозь зубы: «Да, Сяміóн, гéта дзéла кáзусная!»

— И критическое, — дадаў семінарыст.

Айтец дыякан маўчаў.

Янка, наліўшы коўш, падносіць айцу дыякану...

— Не пью, братец, вот люди свецкіе, им подноси… — і семінарыст, узяўшы ў адну руку коўш, а другою паказваючы на яго, вымавіў:

— Содержание этого ковша есть вещь мира субъективнаго.

Пад'ячы быў сам не з ліку невукаў і разумеў, што значыць суб'ект і аб'ект, таму не вытрываў перад навукоўцам семінарыстам і запярэчыў: «Як жа, кали гета аб'ект, ци можна, штоб содзиржаніе ковшика былá мацерія міру суб'екцивнаго?»

— А вот как: мое «Я» обратит его в субъект, — з гэтым семінарыст выпівае, а пад'ячы дзівіцца яго высокаму розуму. Мужыкі падштурхоўваюць Сямёна, які лічыўся ў іх адзіным мудрацом. Сямён, пагладжваючы зазвычай сваю бараду і са зладзейскаю манераю, падміргнуўшы мужыкам, кланяецца семинарысту: «Пазвóльци, гаспадзин студзент, Андрýха Пархиравиц, утрудзиць Вас глупым вапрóсцам…»

— Изволь! Ежели буду в состояніи, решу твое сомненіе. Ну, что?

— А скажици: ци ядзинсцвинная, ци мнóжисцвинная?

Студэнт задумаўся: «Да, скажи, почтиполупочтеннейший, что ж это такое?»

Сямён кпліва: «Што гета? Куды нам? Мы людзи прóстыи, мы тольки дзяцки Сямїоны!»

Гучны смех раздаўся вакол і сканфужаны вучоны са сваімі прыяцелямі адышоў ад балюючых, ад душы лаючы дзячка Сямёна і яго бязглуздую прамудрасць… «Ах, вы Гецыки, Гецыки! Невольно вспомнишь басню, как попугай влетел в мужичью хату, и повторишь с одним из славных баснописцев: «Беда с умом попасть к невежде в дом».

— Ай да Сямїон! — крычаць мужыкі. — Ну да Сямїон. Вось як ссек лимилариста, — і дзячок, махаючы галавой, кажа з важнасцю: «Мы не гéдаких видáли и дáрам што салтырнікі[17)], а нам і благаслóв ни пападáйся».

— Вясцима! Ци мы цябе ня вéдаим?!.

— А што, Антроп, — сказаў Сямён сяляніну, які сядзеў побач з ім. — Ат цаго ты слиньки пусцив[16], як я намедни[17] піяв песню? Я, як кáжуць, кала Магілéва, бáчав, а по-нáшаму, — видзив, як ты рýмав[18)], нябóсь, жáласлива я пияв?

І не чакаючы адказу, дзячок зацягнуў сваю любімую песеньку, і ўсё яму падводзяць, адзін толькі Антроп, зажурыўшыся, уважліва слухае:

*Як душа, с целам разставáлася,*
*А, растáвшися, дýшухна ни пращцалася…*
*Спахвацилася душа, у канéц поля прайшла;*
*Спахвацившися, душа зварацилася...*
*Пращцай, цéла моё, цела белая моё!*
*Як яш-та душа многа сóгрешила:*
*И залóмушкі[19)], душа, я залáмывала*
*И корóвушак, душа, я закликавала[20)],*
*Бізканéцный грех сабе спалýцывала:*
*И свящéльницку, духóўницку ни кáилася...*
*Апілáся душа с зяліонага вина!..*
*Пахавáлі душу без папá, без дзьякá!..*

Закончыўшы спяваць, дзячок звярнуўся да Антропа: «А што, гета песня виць дужа жа́лабная?»

— Выбачай[18], Сяміонька, — адказаў Антроп, — песня ду́жа жалабная, да галасок твой горши: у мяне ў тое лета быв казялок, і яго ў ваччу[19] вавцу́га зарезав, и јон як рас таким галаском бліяв, як ты пяеш, Сяміонька, а вой я!.. — Антроп заплакаў.

— Дуринь ты, дуринь, — сказаў Янка.

Сямён як бы раззлаваўся, але Янка, чалавек дальнабачны і смяшлівы, даў Сямёну ў рукі коўш гарэлкі — і яго абражанае самалюбства супакоілася…

Гэтая гулянка працягваецца да паўночы, і вясковыя могілкі ледзь да ранку вызваляюцца ад сваіх наведвальнікаў.

Пасля Радаўніцы ў гецыкаў пачынаюцца забавы. Амаль кожны святочны дзень, пачынаючы ад дня Святога Георгія да глыбокай восені — сходбішчы, — і гэтыя сходбішчы завуцца кірмашамі. Ранкам гецыкі збіраюцца ў царкву, а пасля святой літургіі адпраўляюцца ў карчму, а тамака шум, таўханіна, папойка і рознага роду нявінныя забавы...

Трэба заўважыць, што гецыкі п’юць гарэлку без адрознення полу і ўзросту, любяць танчыць пад сваю любімую музыку — дуду. Гэты інструмент робіцца са скуры і драўлянай жулейкі. Скура надзімаецца і гудзіць, не змяняючы голасу, а на жулейцы выводзіцца танец. Звычайны ж іх танец — скокі, нешта накшталт рускай кругавой. Дзяўчаты, замужнія жанчыны і маладыя хлопцы ў некалькі пар танчаць з непараўнальнымі грымасамі. Тут з’яўляецца і лянцяеўскі Янка, даволі падпіўшы, і танчыць адзін з прыпевам сваёй дудкі:

*Ци ня дудка была, — ох я!*
*Висялу́шка была, — ох я!*
*Висялила меня, — ох я,*
*На цужой старане, — ох я!*
*Было́ в ба́цьки три сыны, — ох я!*
*Уси три Васили, — ох я!*
*Адзин ко́ній пасе́ць, — ох я!*
*Другій лапци пляцець, — ох я!*
*Трецій сядзиць на ка́мишку, — ох я!*
*Дзяржиць дуду на ре́мишку, — ох я!*

Пасля Янкі выходзіць Хомка Ахрымёнак, пастух пры панскім двары, дае дудару пяць капеек і скача з прыпевам каліты:

*«Калита́[21]), брат, калита́ друх!*
*Кали їосць у калице́,*
*Дак я в Па́на на куце!*
*Кали в калице́ ня многа,*
*Дак и стой зли парога.*
*Калита́, брат, калита́ друх!*
*Кали в калице́ брак,*
*Дак з разумных дай дурак!*
*А маят-та калита́*
*Уся капейкам налита́...*
*Калита́, брат, калита́ друх!»*

«Проц с калито́й!» — развесяліўшыся крычыць жанчына, дае дудару яйка, і, узяўшы рукі ў бокі, з рознымі грымасамі шчабеча і скача, як сарока.

*«Лида ду́ли, лида ду!*
*Дамо́юхны ни дайду!*
*Упила́ся на мяду,*
*Лида ду́ли, лида ду!*
*Іо́сь у мяне маладзе́ц*

*Дамо́юхны давядзе́ць,*
*Лида дули, лида ду,*
*Дамо́юхны давядзець!»*

— Вось Хо́вра!» — крычаць хлопцы, а яна, красуючыся, працягвае:

*«Лю̀дар, людар, людашѝ!*
*Прапив бацька лимяши[22).*
*А сын таго́ роду*
*Прапив скаваро́ду,*
*Дацка таго цыну,*
*Прапила́ авцыну!»*

— Вось Ховра! — ізноў крычаць хлопцы, і яна выходзіць з круга ў поўным задавальненні.

Рэдкі кірмаш праходзіць без бойкі. Часам толькі прысутнасць дзячка Сямёна пасяляла спакой паміж натоўпам, але, на жаль, Сямёна не было ў Палуянаўскай рандзе, калі вышаўшы ў адстаўку салдат цягаў за валасы балаку Юду і прыгаворваў: «Экой хам! Службы не знаешь, фухтелей[23) захотел!..»

На крык бацькі прыбег сын Юды — Мацюх, хлопец гадоў дваццаці чатырох:

— Хто майго тату́лю бив? Татуля мой, нихто у им упра́вы ни ма́иць, хто?

— А хоть бы я, — адказваў салдат.

— Нут-ка при мне!

Салдат даў аплявуху Юдзе.

— А яшчо́!

Салдат даў і другую.

— А яшчо́!

Салдат не пасаромеўся даць і трэцюю.

— Плюнь, тату́ля, з̀абье́ць! Пайдзе́м дамой, вишь, јон салдат азарнѝк, свет прайшов и назад варациѝвся. Пайдзе́м!

І Юда сыходзіць за сваім сынам, мармычучы: «Вось аказія!»

Так гецыкі праводзяць цэлае лета: усё кірмашы ды гулі. Земляробства — такая надакучлівая справа! На панскай ніве яшчэ канчук войта прымушае гецыка спрытней паварочвацца, а на сваёй ніхто не застрашыць Янку. Калі надаесць яму саха, ён бярэцца за касу; накосіць воз сена і вязе ў горад на сваёй клячы. Ізноў яго абдурыць жыд, і ён купляе калачоў, фунт ліставага тытуню, і калі Салоха — гэтая піла, як кажа Янка, добра напіліць яму шыю, то купіць бязмен, солі і вяртаецца дадому.

За грэх лічыць праехаць Палуянаўскую ранду. Як жа можна? А калі там Юда, Антроп, ці дзячок Сямён? Няўдача: Сямён на лузе. Трэба купіць цахоўкі дзве гарэлкі і паехаць да Сямёна. Ізноў радасная сустрэча — Янка і Сямён сядзяць на лузе пад адкрытым небам, над празрыстым возерам. Выпілі па каўшу, і Янка просіць Сямёна праспяваць жаласную песню аб тым, як душа з целам расставалася, але дзячок рашуча адказваў, што гэтай песні ён ніколі спяваць не будзе. І сапраўды, ад самой Радаўніцы Сямён ніколі не спяваў гэтай песні.

— Зро́б ла́ску, Сямїо́нька-лябе́дзька, спей жа́лобную песеньку, — просіць Янка, але Сямён заводзіць другую:

*Дзя̀цька сядзѝць, пѝпку ку̀рыць[24),*
*Пьецъ гарелку, во́цы жмурицъ,*
*А дзядзина ни вважаиць,*
*Цалко́м ця́рацку глата́иць...*
*Пилимо́н з Бариса шкелиць[25),*
*Пьець горѐлку, пирох ме́лиць,*
*Як расхадзѝвся Пракоп,*
*Да Минку па мо́рдзи тро́п!*
*Хвіодар за вглом казлы дзярець,*

*А Микита нóсам арéць...*
*Туш здарóвья пытáюць,*
*Бо хахлы литáюць...*

Ледзь Сямён скончыў сваю песню, як праходзячы міма балюючых, верагодна па навучэнню семінарыста, паповы работнікі закрычалі: «Сяміон, а Сяміон! Паглядзи, вось вавки зацýли тваю песню и выбегли з рослаго балота. Глядзи, штоб и табе таго ня здзéилась, што Антрóпову казлу!..»

Раззлаваўся Сямён, але Янка зноў здагадаўся, зноў яму ў рукі коўш — і ўсё полымя дзякава гневу як вадой заліло.

Паміж тым, як Янка балюе з дзячком, кляча, прывязаная да алешыны агладала вакол траву. Янка паспяшаўся б дадому і расстаўся з сябрам і настаўнікам, але тут як на зло чорт прынёс Юду Балаку. Янка паднёс яму коўш гарэлкі, а ён распавёў пра сходку:

— Авой Сямёнька і Янацка! Гета ў цéцвирих была акáзія: у Рудняньскам сяле была схáцка[26)]: уси мужи сидзяць… Хамыль, хамыль! Я гляць, аж іон, усéткрасняк[27)] пришоў, и — хоп на скамавьіо! Як выциниць жа рагавéнь[28)], ай што за рагавень! На три пáлцы щирым волавам аблит: трагéль аб скамаўю, трагель аб скамаўю. Як насарыпаў жа іон іось тот целый кулак — смаргéль у вадну наздрину, смаргель у другую: ай да цяцюн[29)], што за цяцюн, і слязу гоніць і храпу[30)] цысциць... И чхі! Уси кажуць — буць здаров! Вось аказія!»

Скончыўшы аповед, Юда выпіў яшчэ коўш гарэлкі. Цямнее... Янка развітваецца з сябрамі, адвязвае ад дрэва клячу, і кладучыся на калёсішкі, выязджае на дарогу і пакрыквае: «Гэй вы, жываты, без таты нажыты!» Прыехаўшы дадому, Янка атрымаў ад Салохі добры наганяй, але ён чалавек незадорны, аджартуецца або змаўчыць — і справа з канцом.

Пасля дня Святога Іллі гецыкі сыты: у іх ёсць хлеб, вырастаюць ужо бараны, паслужлівыя карчмары самі прывозяць да іх гарэлку, за якую атрымліваюць хлеб і квітаюцца за мінулыя наборы, і зараз наш Янка, як склаў пра яго балака Юда:

*Гета — сядзіць — як пан,*
*Наéвся, як барабáн...*
*А ноги як распярéць*[31),]
*Хуць калиосам праедзь!..*

Сам Сямён прыязджае да яго па каляду яшчэ да світанку, і Янка загадвае Салосе гатаваць для яго яечню, прыгаворваючы: «Никанéшня панý яешня, з’есь і дзяк». Маленькі сыночак, гледзячы ў акенца пішчыць: «Халáта, тáта, рандáрь на дваре…»

І вось уваходзіць у хату з велізарнымі вусамі палуянаўскі рандар з бочачкай пад пахай і з рознымі мерамі ў руках. Гэты рандар не просты чалавек, а шляхціц — пан Громніцкі. Нарадзіўся ён па выпадку ад кухаркі недалёка ад Полацка ў былым некалі Езуіцкім фальварку на самую грамніцу 23-га лютага, і таму-то айцы-езуіты, нарокшы яго пры Святым вадохрышчы Іасафатам, прыклалі і празваньне — Громніцкі, а там ужо, яму знаць, як ён патрапіў у шляхту. Хоць ён зараз і запісаны ў аднадворцы[32)], але ўсёткі яго завуць шляхціцам, і сынок яго Балтрусь восьмы год залічаны ў штат канцылярскіх службоўцаў у нейкім губернскім прысутным месцы.

— Кланям, паню Янка! — кажа рандар, — кланям, Салоха... А! Дзячэц! Маё шанаванье, пане клерык!

Усё кланяюцца Громніцкаму, а Салоха пытае: «Іекавá имась?»

— Хвала Пану Богу! Бавтрýсь пріéхав, такій царамонный!

Салоха: «Вось?»

— Зазéрив[20] сахý і кáжиць имóцси: «Паня матка, паня матка! Цó-то за рагáтка? А имась атгукнулась[21]: “Сынулінька! Ци ты забыв, як сам варувáв”[33)]?.. И Бавтрусь, як мыла з’ев...»

гісторыі. А вось апавяданне «Жоўты пясочак» (1995), якое па сведчанні вядучых даследчыкаў літаратуры «належыць да самых моцных быкаўскіх твораў» [14, с. 90], займае, думаецца, асобнае месца ў творчай спадчыне пісьменніка. Менавіта ў ім В. Быкаў зрабіў вельмі шырокае абагульненне — не толькі дакладна выявіў псіхалогію тыповых прадстаўнікоў розных сацыяльных груп ва ўмовах палітычнай дыктатуры 1930-х гадоў, але стварыў метафарычны вобраз самой таталітарнай дзяржавы.

«У крытай машыне не было вокнаў, не свяцілася нідзе нават маленькай шчыліны, і ні ўнутры, ні знадворку нічога не было відаць» [15, с. 135]. Гэтая машына, што вязе на расстрэл шасцярых зняволеных, закрыта ад усяго свету. Сярод «пасажыраў» — селянін-аднаасобнік Аўтух Казёл, які жыў на хутары і адмовіўся ўступаць у калгас. «Паглядзеў ён, як тыя разумныя гаспадарылі ў іхным калгасе. Нявыбраная бульбачка гніла ў зямлі да маразоў, убранае збожжа прападала нявысушанае ў арцельным гумне. Інвентар за два гады разваліўся дашчэнту, не было каму паправіць калёсы. Умелыя паўцякалі ў свет, разумных перасаджалі, а хто застаўся? Бабы ды нямоглыя дзяды. І, ведама, ягонае аднаасобніцтва сталася ім бяльмом у воку» [15, с. 156]. На гаспадара, які жыў з уласнае працы і мусіў карміць сям'ю, спрабавалі ўздзейнічаць па-featuring рознаму: абрэзалі пожні, ліквідавалі гумно, перааралі дарогу — да бальшака Аўтуху давялося хадзіць праз лес. І тады яго абвінавацілі ў шпіянажы — маўляў, праз лес ён ходзіць у Польшчу. Селянін нават перад смерцю думае пра «шнурок нявыбранай бульбы» ды пра сваю гаротную жонку, якая не ўправіцца з гаспадаркай без мужчынскай дапамогі. Лёс гэтага героя ў вялікай ступені тыповы для ўсяго беларускага сялянства, над спаконвечным ладам жыцця якога дзяржава ўчыніла сапраўдны гвалт. Прымусовая калектывізацыя, што па сваёй сутнасці зрабілася легітымным рабаваннем, раскулачванні, масавыя расправы, арышты і высылкі — усе гэтыя карныя меры былі накіраваны супраць самай бяскрыўднай і безабароннай катэгорыі насельніцтва краіны — супраць вясковых гаспадароў.

Паблізу з Аўтухам у крытай машыне сядзіць яго малады зямляк-аднавясковец Фэля з такім самым прозвішчам Казёл. Аднак гэты герой — прадстаўнік ужо іншай сацыяльнай катэгорыі. «Як навучыўся на настаўніка і пачаў пісаць вершы, дык змяніў тое нягеглае прозвішча на лепшае і падпісваўся пад вершамі, што часам друкаваліся ў газетах, Фелікс Гром» [15, с. 137]. Вясковы хлопец скончыў сталічны педагагічны тэхнікум, падрыхтаваў да друку свой першы паэтычны зборнік. «У час следства на допытах розныя следчыя наперамен цытавалі старонкі ягоных арыштаваных вершаў — чыталі, крэмзалі і падкрэслівалі рознымі алоўкамі, пільна шукаючы хітра замаскаванай крамолы. Бліскае раніца агністая на хмарах восені маёй… Што значаць гэтыя вашы хмары? Анічога, апроч таго, што значаць хмары наогул. Э, не, у паэзіі хмары — гэта нешта іншае, казалі літаратуразнаўцы з наганамі на баку. Гэта на небе хмары ёсць хмары, а тут штосьці іншае. Таемнае. Дык што такое гэтыя хмары? Што вы разумееце пад ранішнімі хмарамі? Ён нічога не хацеў разумець пад хмарамі, затое нешта разумелі яны, але яму не казалі. Ён павінен быў сам здагадацца пра іхныя думкі і падказаць ад сябе. Вось тое было б прызнанне, якога гэтак дамагаліся ад яго, і яму было б куды лепей. Але ён не здагадваўся і не прызнаваўся. Тады яго білі — палкай па нагах, ботам у грудзі, не давалі спаць трое сутак. А пасля пачалі шыць шпіянаж на карысць Польшчы» [15, с. 138—139]. Відавочна, што інтэлігент у першым калене Фелікс Гром падзяліў лёс соцень іншых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі краіны. Іх вынішчалі асабліва жорстка і мэтаскіравана, бо вядома, літаратура — гэта ідэалогія, а значыць, літаратары ўяляюць сабой вялікую небяспеку для дзяржаўнай улады.

Вобраз былога белагвардзейца Валяр'янава гэтаксама тыповы. У ім увасоблены лёс большасці «былых» — тых, каго рэвалюцыя пазбавіла ранейшых прывілей, «ён разумеў, што прысуд яму вынесены не пазаўчора, а мабыць, яшчэ ў семнаццатым» [15, с. 142]. Валяр'янаў, які страціў першую жонку-дваранку ды

ажаніўся з дворнікавай дачкой Дусяй, спадзяваўся, безумоўна, што ўратуецца ад праследу савецкай улады. Ён жыў непрыкметна — працаваў рахункаводам у Мінску, гадаваў дзвюх дачушак. Але неяк пад Вялікдзень атрымаў на пошце невялікую пасылку ад стрыечнай сястры з Кракава — падарункі яго дзяўчаткам на свята. «Ужо назаўтра тыя сукеначкі і панчошкі сталі на следстве рэчавымі доказамі ягоных шпіёнскіх сувязяў з польскай разведкай» [15, с. 141].

Па-свойму характэрным з’яўляецца вобраз партыйца-бальшавіка Шастака. «У турме за паўгода адсідкі ён не сказаць, каб надта і непакоіўся — там у яго былі свае абавязкі: дагадзіць следчым, запомніць і як мага дакладней перадаць ім, пра што гаварылі арыштанты. Ужо другі год Шастак быў членам ВКП(б) і разумеў перадавую ролю рабочага класу ды ейнага авангарду — партыі бальшавікоў. Ён няблага працаваў у дэпо, лічыўся ўдарнікам. Але калі ўжо здарылася такое, што ён апынуўся ў турме, дык і тут трэба паводзіць сябе, як бальшавік: памагаць органам выкрываць ворагаў» [15, с. 143]. Гаваркое прозвішча персанажа вельмі адпавядае той ролі, якую выконвае Шастак. Гэта і «шасцёрка» — паводле жаргона, паслугач і даносчык, і «шасцярэнька» — дробная, але неабходная дэталька ў механізме. Шастак шчыра перакана්ны, што робіць карысную і ганаровую працу — дапамагае дзяржаўным органам выкрываць ворагаў. Нягледзячы ні на што — ні на тое, што яго прымусілі падпісаць паперы, нібыта з’яўляецца ўдзельнікам групы шкоднікаў, ні на тое, што на судзе яму аб’явілі прысуд «да вышэйшай меры з канфіскацыяй маёмасці», ні на тое, што апынуўся разам з іншымі ў гэтай крытай машыне, — Шастак не можа паверыць у несправядлівасць дзяржавы. «І ён думаў, што галоўнае для яго цяпер, як і раней, — не раскрыцца, не зазлаваць, да канца выканаць свой сакрэтны абавязак. Тады ўсё будзе добра» [15, с. 145].

Яшчэ больш адданы дзяржаве і агульнай «пралетарскай справе» чэкіст Сурвіла. Па іроніі лёсу ён асуджаны да смяротнага пакарання менавіта з-за свайго празмернага старання. Сурвіла не аспрэчвае прысуду, ён лічыць яго справядлівым, але крыўда ўсё роўна даймае «сумленнага» чэкіста. «…Дапушчаў і перавышэнне, і незаконныя метады — і біў, і ламаў косці. <…> Але ж хіба ён адзін? У іхнай управе так працавалі ўсе, — стараліся, не спалі начэй, выбівалі ўсё, што можна было выбіць з арыштаваных. <…> Часам перабіраў, гэта праўда. Але ж на карысць справы, не для сябе» [15, с. 136—137]. На адным з допытаў Сурвіла перастараўся і «прымяніў зброю». Апроч таго, у біяграфіі гэтага салдата арміі Дзяржынскага маецца «пляма», з-за якой ён надзвычайна пакутуе. Калісьці Сурвілу давялося расстрэльваць асуджаных, сярод якіх была юная дзяўчына. «Але тады ён быў малады, а дзяўчына была дужа ўжо слаўная ў сваёй дзяўчачай прыгажосці — худзенькая такая, спрытная, з вялікімі здзіўленымі вачыма і вабным тварыкам, зірнуўшы на які, Сурвіла не наважыўся стрэліць» [15, с. 159]. Нягледзячы на тое, што ён стрэліў міма, дзяўчына ўсё роўна ўпала ў яму — відаць, проста знепрытомнела са страху. І хоць ніхто нічога не заўважыў, сам чэкіст не мог дараваць сабе гэтай слабасці. «…Ён памятаў свой ганебны ўчынак і, можа, менавіта таму стараўся. Тое старанне дало свой плён, і пасля, ужо ў следчым аддзеле ён паказаў найлепшыя вынікі — 127 чалавек, падведзеных да вышэйшай меры, — болей, чым у каго-небудзь іншага» [15, с. 159].

Вобразы Шастака і Сурвілы выразна дэманструюць, якім вычварным дэфармацыям падлягае чалавечая псіхіка пад магутным ідэалагічным уціскам, як масавая прапаганда маніпулюе грамадскай свядомасцю.

Сярод вязняў прыкметна вылучаецца Зайкоўскі — «звычайны маскоўскі грабежнік». «У Маскве за ім лічылі аж восем рабункаў, хоць, папраўдзе, грабянуў ён болей (ці не чатырнаццаць) і ўсё неяк выкручваўся, не даваўся ў рукі ні крымінальнаму вышуку, ні ДПУ, ні міліцыі. Аж покуль яго не выдала палюбоўніца Вандзя. <…> Тады ён успомніў, што ў Мінску некалі пражываў ягоны дзядзька, з якім ён не бачыўся ад самага нэпа. Прыехаўшы, доўга шукаў патрэбны яму нумар на нейкай Заслаўскай вуліцы, а як знайшоў, зразумеў, што даў маху: дзядзька

кудысьці вытрахнуўся, у зялёным, з садком дамку жылі іншыя людзі, якія пра дзядзьку і не чулі. <…> На вакзале яго і ўзялі. Проста гэтак, з усмешкай два мільтоны папрасілі прайсці. Во і прайшоў свой надта кароткі, блытаны шлях — ад вакзальнай лавы да лавы падсудных. І цяпер — вышэйшая мера» [15, с. 140]. Несумненна, вобраз Зайкоўскага атаясамлівае ўсіх крымінальнікаў — злодзеяў, рабаўнікоў, забойцаў, якія ёсць фактычна ў кожным грамадстве. Злачынца, які насамрэч пераступіў праз дзяржаўны закон, унутрана ўсведамляе правамернасць пакарання. Зайкоўскі паводзіць сябе разняволена, бо такі фінал не быў для яго нечаканым. Гэта істотна адрознівае яго ад астатніх вязняў, кожны з якіх разумее сваю бязвіннасць і мае кволую надзею на выратаванне. Менавіта гэтая надзея знявольвае, змушае да рахманасці ў паводзінах.

Суправаджае арыштантаў памочнік каменданта Косцікаў — па сведчанні старэйшага калегі Сурвілы, «хлопец талковы, сапраўдны чэкіст, не глядзі, што малады гадамі» [15, с. 146]. Менавіта Сурвіла калісьці апекаваўся Косцікавым, калі той адно пачынаў службу ў органах, — расказваў пра турэмныя парадкі, вучыў строгасці ў паводзінах са зняволенымі.

Такім чынам, у «крытай машыне» прадстаўлена фактычна ўся сацыяльная структура грамадства 1930-х гадоў. Усе — селянін і інтэлігент, рабочы і белагвардзеец, крымінальнік і чэкіст — зрабіліся закладнікамі дзяржаўнага механізма, усім наканаваны аднолькавы фінал. Гразкая ды разлезлая дарога, па якой машына ледзь паўзе, правальваючыся ў каляіны і лужыны, відавочна атаясамліваецца са шляхам развіцця пралетарскай дзяржавы.

Відавочна, што паводле фармальнай структуры і гуманістычнага, сацыяльна-крытычнага пафасу творы В. Аксёнава і В. Быкава ўшчыльную набліжаны да рамана Д. Стэйнбека. Але таксама відавочна, што ўсе гэтыя творы самабытныя, арыгінальныя па ідэйна-мастацкіх канцэпцыях і выяўленчых формах, праз якія крытыкуецца грамадства. Не толькі таму, што пісьменнікі адлюстравалі ключавыя праблемы розных культурна-гістарычных эпох і розных грамадстваў, але перадусім таму, што кожны з іх выкарыстаў індывідуальную стылёва-выяўленчую палітру. У творы В. Аксёнава задзейнічаны найвялікшы арсенал смехавай культуры — ад вытанчанай іроніі да з’едлівай сатыры, ад дасціпнага жарту да трапнага анекдота. Канцэнтраванасць камізму робіць «Затавараную бачкатару» па-свойму экзатычнай гісторыяй — ірэальнай і абсурднай. Драматызм герояў вынікае з іх карыкатурнай недарэчнасці і гратэскавай парадаксальнасці. Іронія В. Аксёнава — гэта, несумненна, форма пратэсту супраць ідыятызму жыцця ва ўмовах савецкай рэчаіснасці, гэта непрыманне рахманасці грамадства, зацкаванага ўладай, і выяўленне асабістай апазіцыйнасці пісьменніка да ўлады.

Стыль В. Быкава — строгі, стрыманы, аскетычны, пазбаўлены непатрэбных падрабязнасцей — максімальна дакладна адпавядае трагізму падзей і спецыфіцы часу, адлюстраваных у творы. Пісьменнік гранічна праўдзіва выявіў псіхалогію герояў, логіку іх учынкаў і агульных прычынна-выніковых сюжэтных сувязей і падзей. Ён пераканаўча давёў, што ўсім героям «Жоўтага пясочку» наканавана параза, што ніхто не ўратуецца ад рэпрэсіўнага механізму — ні вязні, ні іх канваіры. Аналітычнасць пісьма і філасафічнасць мастакоўскага мыслення В. Быкава, маральна-этычны пафас яго твора празрыста высвятляюць, як сёння прынята казаць, мэсідж апавядання: вызваленне толькі ў рэабілітацыі чалавечай асобы — як асноўнай каштоўнасці ў грамадстве; абсалютызацыя ж гвалту ва ўладкаванні жыцця спараджае трагічную і абсурдную безвыходнасць.

Напрыканцы варта заўважыць, што тыя «ваўчаняты», да якіх у свой час апеляваў Д. Стэйнбек, насамрэч сталі мацёрымі літаратурнымі ваўкамі. Не буду сцвярджаць, што В. Аксёнаў і В. Быкаў пераўзышлі нобелеўскага лаўрэата, але што яны да яго дараўняліся, гэта несумненна: найперш таму, што іх імёны атаясамліваюцца з лепшымі набыткамі рускай і беларускай літаратур другой паловы XX — пачатку XXI стагоддзяў.

## Літаратура:

1. Бугаёў, Д. Праўда і мужнасць таленту: Выбранае: Кніга пра Васіля Быкава. Артыкулы. Дыялог / Д. Бугаёў; прадм. І. Чыгрынава. — Мінск: Маст. літ., 1995. — 414 с.

2. Аксёнов, В. В поисках грустного беби. Две книги об Америке / В. Аксёнов. — Москва: Независимый альманах «Конец века», 1992. — 480 с.

3. Стейнбек, Дж. Э. Заблудившийся автобус / Дж. Э. Стейнбек. — пер. с англ. — СПб: Полисет, 1993. — 463 с.

4. Иванько, С. Джон Стейнбек (1902 — 1968) / С. Иванько // Дж. Стейнбек. Собр. соч. в 6 т. — Т. 1. — Москва: Правда, 1989. — С. 3—50.

5. Евтушенко, Е. Выдержанное вино из «Гроздьев гнева» / Е. Евтушенко // Огонек. — 2002. — № 32. — С. 50—53.

6. Аксёнов, В. Круглые сутки non-stop / В. Аксёнов // В поисках грустного беби. Две книги об Америке / В. Аксёнов. — Москва: Независимый альманах «Конец века», 1992. — С. 7—134.

7. У нас в гостях Джон Стейнбек // Юность. — 1963. — № 12. — С. 100.

8. Кройчик, Л. Е. Повесть В. Аксенова «Затоваренная бочкотара»: реальность абсурда или абсурд реальности? / Л. Е. Кройчик // Литература «третьей волны» русской эмиграции. Сб. науч. статей. — Самара: Издательство «Самарский университет», 1996. — С. 215—227.

9. Аксенов, В. Затоваренная бочкотара / В. Аксенов // Поиски жанра. Затоваренная бочкотара. Рандеву. Стальная птица (Повести). Рассказы / В. Аксёнов. — Москва: Издательский Дом «Юность», 1995. — С. 139—206.

10. Быкаў, В. Доўгая дарога дадому. Кніга ўспамінаў / В. Быкаў. — Мінск: ГА БТ «Кніга», 2003. — 544 с.

11. Лявонава, Е. Вопыт амерыканскіх пісьменнікаў у літаратурна-публіцыстычнай рэцэпцыі Васіля Быкава / Е. Лявонава // Да 80-годдзя народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава: Зб. навук. Артыкулаў / Рэдкал.: Л. В. Алейнік, З. І. Бадзевіч, У. В. Рагойша; пад аг. рэд. Л. Д. Сіньковай. — Мінск: БДУ, 2005.

12. Тычына, М. Васіль Быкаў і мы / М. Тычына // Полымя. — 1999. — № 6. — С. 209—215.

13. Быкаў, В. Праўдай адзінай: Літ. крытыка, публіцыстыка, інтэрв'ю / В. Быкаў. — Мінск: Маст. літ., 1984. — 262 с.

14. Бугаёў, Дз. Несуцяшальны дыягназ / Дз. Бугаёў // Спавядальнае слова: Літаратурная крытыка, успаміны / Дз. Бугаёў. — Мінск: Маст. літ., 2001. — С. 84—94.

15. Быкаў, В. Жоўты пясочак / В. Быкаў // Поўны збор твораў. У 14 т. Т. І. Аповесці, апавяданні і прыпавесці 90-х і 2000-х гадоў / Прадм. А. Пашкевіча. — Мінск, Саюз беларускіх пісьменнікаў; Масква, ТАА «Выдавецтва «Время», 2005. — С. 135—166.



# ПЯЦЬ ЛІСТОЎ «ДАРАГОМУ СЯБРУ»

## Фрагмент перапіскі Васіля Быкава і Ігара Дабралюбава

*Першы ліст народнага пісьменніка БССР Васіля Быкава рэжысёру, народнаму артысту БССР Ігару Дабралюбаву датаваны 15 кастрычніка 1964 г., апошні — 15 лютага 1973 г. У кожным усяго некалькі, здавалася б, агульных фраз. Аднак за імі ўгадваецца не толькі характар адносін адрасатаў, але і драма мастака ў канкрэтны гістарычны перыяд.*

*Васьмігадовая перапіска тычыцца аповесці «Сотнікаў» і спроб экранізаваць яе на кінастудыі «Беларусьфільм». Экранізацыя аповесці ў рэшце рэшт адбылася і стала лепшай сярод усіх кінаўвасабленняў твораў Васіля Быкава. Толькі адбылося гэта, на жаль, не ў нас, а на «Мосфильме». Пры тым, што менавіта наша кінастудыя часцей за іншыя супрацоўнічала з пісьменнікам (з 24 экранізацый тут знята пятнаццаць:10 поўнаметражных і 5 кароткаметражных).*

*1960-я гады — перыяд узлёту ўсяго савецкага кіно, час актыўных творчых пошукаў і эксперыментаў, прарыву да новага ўзроўню праўды на экране. Нядзіўна, што бескампрамісна рэалістычныя і псіхалагічна дакладныя творы Васіля Быкава прыцягвалі ўвагу многіх кінематаграфістаў яшчэ на ўзроўні задумы. Паміж першымі публікацыямі шэрагу аповесцей і прэм'ерамі іх экранізацый праходзілі лічаныя гады, як гэта было, у прыватнасці, з фільмамі «Трэцяя ракета» (1963) і «Альпійская балада» (1966).*

*Сярод беларускіх кінематаграфістаў пад абаянне прозы Васіля Быкава трапіў і Ігар Дабралюбаў — нядаўні выпускнік Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі, вучань знакамітага М. Рома. Ім яшчэ не знятыя кінааповесць «Іван Макаравіч» (1968), а тым больш народная камедыя «Белыя Росы» (1983), г.зн. у маладога рэжысёра няма вартай фільмаграфіі, але пісьменнік, уражаны энергіяй і мэтанакіраванасцю «чэмпіёна свету па колькасці выпітай кавы» на кухні гродзенскай кватэры, уключае яго ў лік сваіх патэнцыяльных суаўтараў.*

*Невядома, ці падзяляў Васіль Быкаў намер Ігара Дабралюбава даручыць ролі Сотнікава і Рыбака акцёрам-легендам Аляксею Баталаву і Інакенцію Смактуноўскаму. Цяжка сказаць, змог бы экранны «Сотнікаў» Ігара Дабралюбава дасягнуць узроўню кінатрагедыі «Узыходжанне» (1975) у пастаноўцы Ларысы Шапіцькі — трыумфатара Берлінскага МКФ, якая ў 1977 г. атрымала там «Залатога мядзведзя» і яшчэ два прызы, і мела аглушальны міжнародны поспех. Ды і досвед працы Васіля Быкава ў беларускім кіно (вядомы па апублікаванай раней перапісцы з Алесем Адамовічам), верагодна, не пакідаў яму асаблівых ілюзій: «...загадзя ведаеш, што нічога добрага ў выніку не будзе — адна марока». І тым не менш, пісьменнік трымаў слова, захоўваючы правы на экранізацыю аповесці «Сотнікаў» за Ігарам Дабралюбавым да самага апошняга «не» з «высокіх*

*кабінетаў», калі кінасцэнар быў (як піша рэжысёр у сваіх мемуарах «Асколкі памяці») канчаткова адхілены «як твор не аб Вялікай Айчыннай вайне, а аб грамадзянскай у перыяд Айчыннай»...*

*Пяць лістоў «дарагому сябру» (дарэчы, публікуюцца ўпершыню), — частка асабістага архіва кінарэжысёра, які восенню 2013 г. яго ўдава Нэлі Іванаўна Дабралюбава ласкава перадала ў фонды Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь.*

***Ігар АЎДЗЕЕЎ, загадчык філіяла «Музей гісторыі беларускага кіно».***
***Фота прадастаўлена Музеем гісторыі беларускага кіно.***

## Лісты Васіля Быкава да Ігара Дабралюбава

* * *


*Ігар Дабралюбаў і Васіль Быкаў.*

Игорь, дорогой дружище,

я благодарю тебя за столь хорошее письмо, не скрою, польщён твоим предложением относительно моей новой повести. Готов ответить сразу: не возражаю. Это несмотря на то, что у тебя нет за плечами списка картин и пр., я несколько знаю тебя, чтобы доверять. Но вот беда: повесть ещё в чернильнице, коечто написано, но ещё больше предстоит написать, движется она у меня медленно, трудоёмкость её во много раз превосходит предыдущие мои повести. Конечно, это вовсе не значит, что она будет во столько же их лучше. Может получиться как раз наоборот. И ещё, самое главное — я сильно озабочен проблемой её публикации, не говоря уже об экранизации. Ни в издательствах, ни в киноглавках мои вещи в этом смысле популярностью не пользуются. Скорее наоборот. Под всякими предлогами их затирают, и если издают, то там не остаётся камня на камне. К тому же я не знаю, насколько она получится кинематографично, действия в ней до чёрта, людей тоже, драматизма в избытке, в книге все это кое-как вошло, но в фильме трудно себе представляю.

Вот такие мои соображения.

А в остальном, что ж!.. Поживём — увидим.

Желаю тебе всех киноблаг и первую — отстоять Володин сценарий. Жму руку, ВАСИЛИЙ.

13/X-64.

* * *

Здравствуй, Игорь!

Случилось так, что я несколько задержался с ответом, которого ты, наверно, ждёшь. Но дело в том, что я ничем не мог удовлетворить тебя (впрочем, как и теперь) — русского экземпляра рукописи у меня нет. Есть очень грязный чер-

новик, который мало пригоден для чтения. Я, признаться, не предвидел этой надобности, машинистка напечатала всего 2 экз. т.к. было очень плохо с копиркой и оба экземпляра в Москве — один в «Новом мире», другой в издательстве. Мне самому кабы ещё кое-что сделать с текстом и я за неимением более чистого экз. вынужден перемарывать черновик. Так что придётся, видимо, несколько повременить. Всё прочее, о чём ты пишешь и спрашиваешь, остаётся по-прежнему.

Желаю тебе успешного завершения картины.

С приветом — Василий.

5/XII-65 г.

* * *

Дорогой Игорь,

спасибо за память и письмо, надеюсь тебе там спокойно и благостно на лоне северной осенней природы. У меня новостей, увы! ни одной, рецензии ты, наверное, видел, больше не было. Я никаких шагов не предпринимал, да мне и негоже, вот приедешь, тогда попробуй постучаться в высокие двери. Авось отверзнется. Наш договор-разговор в Гродно, разумеется, остаётся в силе. Все же остальное зависит от тебя и от Бога, восседающего за высоким письменным столом.

На этом обнимаю,

твой Василий.

4.10.70.

* * *

Привет, Игорь!

Я писал тебе в Дом творчества, но, очевидно, моё письмо тебя уже не застало там. Потом был в Москве на пленуме СП. Особенных новостей на интересующую нас тему нет. Правда, в Москве действительно было одно режиссерское предложение относительно Сотникова, но я поставил его в зависимость от исхода на «Беларусьфильме». Так что всё зависит от тебя и начальства.

Время от времени черкни пару слов. О делах и проч.

Обнимаю В. Б.

16.11.70.

* * *

Дорогой Игорь,

получил твоё невесёлое сообщение — что делать? Всё в порядке вещей, я, по правде говоря, готов был к такому исходу давно. Будет разве что ещё одним уроком. По крайней мере теперь в кино меня не заманишь никакими коржиками. Хватит! Впрочем, в театр тоже.

Спасибо тебе, тем не менее. Я знаю, что ты старался из наилучших побуждений, но что поделаешь… Желаю тебе более удачливых авторов.

На днях еду в Москву — на несколько дней по делам издательским.

Будь здоров и счастлив.

Обнимаю,

твой незадачливый автор

В. Быков.

15/II-73 г.

**Ганад ЧАРКАЗЯН**

# ПА ПРАВЕ ПАМЯЦІ

Мінск, вуліца Танка, дом дзесяць, кватэра 132. Амаль нічога не змянілася. Той жа самы чырвоны доўгі дом, які хтосьці жартам назваў «крэпасцю» (і прыжылося), той жа самы доўгі двор… Хіба што назва вуліцы страціла некалькі літар, набыла імя яшчэ аднаго знакамітага класіка. Была — Танкавай, стала — Максіма Танка. Перахрысцілі дзеля зручнасці ці як?

Учора быў у Ірыны Міхайлаўны, удавы Васіля Быкава. І тут усё як некалі… Тыя ж самыя дзверы, якія ставіў я сам, тая ж самая табурэтка на кухні. «Ваша!» — нагадала Ірына Міхайлаўна. Тая ж канапа ў гасцінай, той жа столік, за якім мы часта сядзелі з гаспадаром. Той самы кабінет, у якім усё засталося, як і пры жыцці Васіля Уладзіміравіча. Разгорнутая кніга на стале, недапісаны ліст, ручка… Нібыта гаспадар выйшаў на хвіліну і зараз вернецца.

Васіль Быкаў пакінуў сваё рабочае месца яшчэ ў 1997 годзе. Не ўдалося выдатнаму творцу ўтрымаць «дыстанцыю ад палітыкі», ад якой сам жа перасцерагаў мастацтва. Тады і пачалася для Васіля Уладзіміравіча пара непрыкаяных блуканняў па Еўропе. Мала было падобным яно на ўцёкі Льва Талстога з Яснай Паляны, хоць трагічнасцю сваёй дзесьці і пераклікалася. Вярнуўся на радзіму толькі за месяц да зыходу ў іншы свет. І ўжо не да пісьмовага стала ў сваім рабочым кабінеце, а на бальнічны ложак у Бараўлянах.

Засумаваў пісьмовы стол па сваім гаспадары. Адзіны, хто не верыць у сумнае развітанне, а ўсё чакае, што вось, нарэшце, з'явіцца ён, задумлівы і пахмуры, пакладзе чысты і некрануты аркуш, тут жа ўключыць усе лямпы і прысядзе. Тады яны ўжо не будуць кожны па сабе, а зліюцца ў адно цэлае. І толькі ён, стол, будзе ведаць пра ўсе сакрэты гаспадара, і толькі ён будзе сведкам, як нараджаецца радок, як падганяе яго вялікая думка.

Пісьменніцкі стол у адрозненне ад чыноўнага не перадаецца з рук у рукі, ён належыць толькі аднаму гаспадару і з адыходам таго сам застаецца сіратой, нават калі яго бярэ пад сваю апеку музейная цішыня. Не разумее ўсё яшчэ і стол Васіля Быкава, што ён назаўсёды асірацеў. Урэшце — як не разумее гэтага і наша літаратура. А калі і разумее, то не можа з гэтым змірыцца.

Калі згадваю нашу першую сустрэчу з Васілём Уладзіміравічам Быкавым, то міжволі паўстаюць перад вачыма падзеі і людзі, што так ці інакш падрыхтоўвалі яе. Усё часцей і часцей пераконваюся ў тым, што многае ў жыцці залежыць ад простых, зусім нечаканых выпадковасцей. Але як часта яны выплятаюцца паміж сабой у нейкі адчувальны ланцужок існага, нібыта раней спланаванага і задуманага. Першай такой шматабяцаючай выпадковасцю стаўся ў маім жыцці нечакана напісаны верш, які да таго ж і нечакана надрукавалі. Без друкавання ён проста застаўся б адным з вершаў, якія ў пэўным узросце пішуць ці не ўсе, ва ўсялякім выпадку — многія. Але першая, хай сабе школьная ці дамашняя слава, ды яшчэ падтрыманая ганарарам, памятаецца ўсё жыццё. А часта адразу выплятаецца ў строгі ланцужок жыццёвай неабходнасці. Хоць, калі задумацца, дык самай першай і самай галоўнай жыццёвай выпадковасцю, якая сталася неабходнасцю, была сустрэча майго бацькі з маёй маці.

Усе мы ведаем, што не ўсялякая выпадковасць вядзе за сабой неабходнасць. Нейкія з іх адразу забываюцца, трапляюць у лік проста выпадковасцей. І такія пераважаюць. Жыццё прапануе нам поўны набор магчымага. І любую выпадковасць мы можам ператварыць у неабходнасць. Але так не бывае: у залежнасці ад сваіх установак мы падсвядома робім адбор з мноства гэтых выпадковасцей, а яны множацца, потым рушацца і цягнуць за сабою нас.

Выпадковай была і мая сустрэча з цудоўным чалавекам, народным паэтам Беларусі Петрусём Броўкам, калі я яшчэ толькі абжываўся на беларускай зямлі. Думаю, што толькі дзякуючы гэтай сустрэчы і адбылося маё ўваходжанне ў літаратуру. Але калі б гэта выпадковасць не была падмацавана сустрэчай з Валерыем Ліпневічам, маім першым перакладчыкам, то ўваходзіны тыя, напэўна б, расцягнуліся ў часе, а можа б і зусім не адбыліся.

Я люблю свае выпадковасці, хай і не заўсёды яны бываюць тымі, якія б з лёгкасцю прымала душа, але яны мае, адрасаваныя толькі майму лёсу. А ў кожнага з нас свой лёс і свае выпадковасці.

Знаёмства з Петрусём Броўкам, а потым і сяброўства з гэтым выдатным, чалавекам, стала вызначальным на маім шляху ў літаратуру. І ўжо зусім невыпадковай здаецца сустрэча з Рыгорам Іванавічам Барадуліным, земляком Петруся Усцінавіча, паэтам ад Бога. Не сустрэцца было немагчыма — ён працаваў у выдавецтве. А вось размінуцца мы маглі. Ды тут зноў пашанцавала — не размінуўся і нават пасябраваў. Калі старэйшы Пятрусь Броўка саграваў мяне заўсёды цяплом сапраўднай чалавечай дабрыні, дык маладзейшы Рыгор Барадулін стаў эталонам сумленнага літаратурнага супрацоўніцтва. Самыя галоўныя мае вершы загучалі на беларускай мове дзякуючы бездакорным перакладам Рыгора Барадуліна. Больш за тое, Рыгор Іванавіч натхніў мяне на прозу, за якую я і не думаў брацца.

У жыцці маім, а яно і не такое малое, было шмат адметнага, выпадковага ці невыпадковага, але вартага чалавечай увагі. І калі часам я распавядаў новаму знаёмаму пра штосьці сваё, пражытае, ён уважліва слухаў, а потым казаў:

— Нікому больш не расказвай, а садзіся і пішы. Гэта — гатовы твор!

Так я і рабіў. Потым ён, які ніколі не перакладаў прозы, перакладаў на беларускую мову ўсе мае апавяданні. Ён укладваў у іх усю душу і сэрца. Я ўдзячны лёсу, што мне пашанцавала сустрэць у жыцці такога выдатнага перакладчыка. А найперш удзячны яму самому. Наогул з перакладчыкамі, як заўважыў адзін крытык, мне заўсёды шанцавала.

Дык вось пасля сустрэчы з Рыгорам Барадуліным і выпадковая сустрэча з Васілём Уладзіміравічам Быкавым ужо здаецца мне зусім невыпадковай. Тым больш усе трое блізкія землякі, усе ўшацкія. Дарога на Ушачы стала для мяне назаўсёды самай блізкай. Неяк напісалася:

Веснавы пагодны дзень,
Загайдала нас дарога.
Сам сабе матор гудзе,
Нам не кажучы нічога.

Рассцілае свой кілім
Дзьмухаўцовы поплаў дзесьці
— Ну, здаецца, уцяклі
З пекла горада нарэшце,—

Блісне позіркам Рыгор.—
Бачыш мілую карцінку:
Побач Броўкі родны двор,
Далей — Быкава хацінка.

Як жа пачыналася наша знаёмства з Васілём Быкавым? Шчыра скажу — не зусім звычайна.



*Васіль Быкаў і Ганад Чарказян.*

Калісьці пры Міністэрстве камунальнай гаспадаркі існаваў так званы камплектацыйны цэнтр. А кіраваў ім Эрнест Мікітавіч Сідараў. Унікальная асоба. Ён славіўся не толькі таленавітым кіраўніком, якіх на свеце не так і мала, але яшчэ і зацікаўленым чытачом, што ведае ўсе літаратурныя навінкі. На любой, нават самай важнай нарадзе, ён заўсёды мог да месца працытаваць нейкія вершы, і гэта нават нікога не здзіўляла. Напачатку здзіўляла толькі мяне. Але потым прывык. А вось з другой адметнасцю майго старэйшага таварыша, а потым і сябра, я так і не звыкся. Мацюкаўся ён так — з прычыны і без яе — што вушы вялі. Гэта нягледзячы на тое, што я працаваў не першы год на будоўлі, дзе маты гнулі шматпавярховыя. Праўда, пры мне, як здалося, ён спрабаваў сябе стрымліваць, але само па сабе моўнае шматквецце ўсё ж прарывалася. «Прабач,— казаў ён,— не магу без моцнага слова!» За творчасцю Васіля Быкава Эрнест Мікітавіч таксама сачыў. Чытаў усе яго аповесці, якія называў раманамі. Часта ў імправізаваных застоллях за пляшкай каньяку ён раскрываўся зусім з нечаканага боку. Гэты славаблудца і сэрцаед даваў такія ацэнкі прачытанаму, што пазайздросціў бы любы крытык. Ён з лёгкасцю вылучаў самае галоўнае, што хацеў сказаць пісьменнік у сваім творы, нават добра бачыў тое, што магло хавацца ў падтэксце. Прычым усё прачытанае таго ж Быкава, ён успрымаў вельмі эмацыянальна, і доўгі час пасля знаёмства з чарговай кнігай хадзіў узбуджаны, нібыта ён сам пісаў яе і толькі што паставіў кропку. Характэрна, што будучы ў такім незвычайным стане, ён зусім забываўся пра сілу ўласнага моцнага слова. І калі на працягу паўгадзіны не змушаў мяне чырванець, то я адразу пытаўся, што такое ён на гэты раз прачытаў. Сідараў смяяўся, доўга кашляў, зацягваўся цыгаркай, і пачынаўся яго звычны маналог.

— Ты разумееш, Ганад (біп-біп), гэта ж ўсё тое трэба было прапусціць праз сябе (біп-біп), але спачатку выжыць (біп-біп). Зноў і зноў ісці ў атаку (біп-біп), і там змагацца, і тут…(біп-біп). І невядома яшчэ, якую атаку цяжэй вытрымаць, — ці тую ці гэту, разумееш (біп-біп). Здаецца, што вось-вось герой страціць усе свае сілы, зломіцца, рухне… (біп-біп). Але герой вытрымлівае ўсё, што ні пасылае бог вайны… (біп-біп). Разам з героем заўсёды перамагае і чытач (біп-біп). Думаю, што раманы Васіля Быкава — гэта школа мужнасці (біп-біп).

І тут адразу — просьбітнае «прабачыць» за тыя самыя «біп-біп».

Даражэй за ўсё мне была думка Сідарава, праца якога сягала так далёка ад літаратуры. Так думалі тады многія людзі, у якіх былі зусім іншыя, не літаратурныя клопаты. Яны чыталі, дзесьці ў нейкіх закутках спрачаліся, і гэтым самым працягвалі працэс пазнання чалавека праз акно літаратуры. Вокны, як вядома, не толькі занавешваюць, але і разнасцежваюць. Калі прагнуць чыстага паветра.

У гэтай зацікаўленай размове, якая тычылася толькі Васіля Быкава, мы неяк адразу пераходзілі і да самай перамогі. Так ці інакш, але даводзілася звяртацца да самога Быкава: «Як нялёгка далася яна нам — наша перамога, аб тым яшчэ не сказалі ўсяго ні гісторыя, ні мастацтва! Відаць, яшчэ не прыйшоў мастак, які

здолеў бы ўзняць з глыбіні мінулага ўсю агромністасць людскіх выпрабаванняў. Часам я думаю, што і чалавецтва яшчэ не да канца ўсвядоміла, чаго яно пазбылася ў мінулай вайне, што набыло і колькі каштавалі тыя набыткі».

Гэтыя словы, думаю, можна будзе паўтарыць і праз дваццаць і праз болей гадоў, — і яны будуць гучаць актуальна. На гэтым мы і пагадзіліся з Сідаравым.

Хай не хвалюецца мой дарагі чытач, я ўсё бліжэй і бліжэй падводжу яго да нашай сустрэчы з самім Васілём Быкавым. Неяк я заехаў да Сідарава на новай машыне, якую мне выдзелілі для службовых паездак у Слонім, дзе месцілася наша вытворчая база.

— Тэрмінова трэба абмыць! — засвяціўся яркай усмешкай Сідараў і тут жа аднекуль выцягнуў бутэльку армянскага каньяку. — Калі не абмыем, машына доўга не паездзіць!

Я адпіў з напоўненага кілішка, а Эрнест Мікітавіч, не выпускаючы пляшкі і быццам дырыжыруючы ёй, пачаў чытаць сваім пракураным голасам нібыта знаёмыя мне радкі. Шчыра кажучы, у той момант мне было не да вершаў. Турбавалі зусім іншыя будзённыя рэчы. Але… знаёмыя словы. Ды не можа такога быць! Эрнест Мікітавіч Сідараў, начальнік важнай рэспубліканскай арганізацыі, чытае на памяць мае вершы. Ён выпіў чарку, хітравата і ўсмешліва зірнуў на мяне і выгукнуў:

— Добра пісаў, сукін сын. Не рускі, але як напісаў!

Так, я неяк падпісаў яму сваю першую кнігу, але тое, што ён яе прачытае і нават штосьці запомніць, мне і ў галаву такое не магло прыйсці.

— Эрнест Мікітавіч, вы таксама быццам не рускі, але разумны…

Да гэтага часу ў вушах звініць яго шчыры рогат, змешаны з катастрафічным кашлем. Гэтыя даверлівыя сяброўскія адносіны мы захавалі да таго самага дня, калі яго не стала.

А тады, адкашляўшыся, ён прамовіў даволі сур’ёзна:

— Трэба тэрмінова заехаць да Батуры. Там штосьці здарылася. Давай туды з раніцы.

Было зразумела, што Сідараву вядома, з якой нагоды выклікае вышэйшы начальнік, але ён робіць выгляд, што нічога не ведае. Прыём зразумелы — чалавек не павінен расслабляцца. Дарэчы, Барыс Батура тады працаваў першым намеснікам міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі краіны. А міністэрства ўзначальваў Міхаіл Мясніковіч, сённяшні прэм’ер-міністр.

Батура вельмі канкрэтна растлумачыў сутнасць справы:

— Спадзяюся, вы ведаеце, хто такі Васіль Быкаў?

— Ведаю, — адказаў я.

— Ну і цудоўна. Атрымалася неразбяруха, калі так можна сказаць… Запаролі вокны і дзверы для дачы пісьменніка. Заказ афармілі, зыходзячы з параметраў праекта. І ўсё, што зроблена, не падыходзіць… А ён грошы заплаціў. Трэба знайсці нейкі выхад з гэтай сітуацыі. Таму едзь тэрмінова туды, зрабі сам замеры, папрасі прабачэння. І наогул будзь ветлівым. Сам разумееш — імя. Тым больш дэпутат Вярхоўнага Савета. Ведаеш, чым гэта пахне?!

Ён не жартаваў. Што мне заставалася? Чакаць чалавека з мэблевай фабрыкі ў Слоніме, каб той зрабіў замеры, ужо не было часу. Усё было, як кажуць, наэлектрызавана. Ды і заказчык не абы-які, а знакамітасць. А тое, што звярнуліся да мяне, не было нейкай там выпадковасцю. Ужо неаднойчы я ўладжваў самыя розныя канфліктныя сітуацыі. Даводзілася нават уласнымі рукамі папраўляць недаробкі нашых гора-работнікаў.

Цяпер усё залежала ад мяне. Мне толькі заставалася папрасіць належнай начальніцкай падтрымкі ва ўсім. І мне яе паабяцалі.

Вечарам я з хваляваннем набіраў тэлефон Васіля Уладзіміравіча. Добра, што ён быў заняты. Я крыху супакоіўся і пачаў зноў набіраць тыя самыя лічбы. Нарэшце з таго боку провада паплылі доўгія гудкі. Голас пісьменніка

быў спакойны, але калі я сказаў, з якой нагоды яго турбую, у ім пачулася раздражненне.

— Дарэмна я звязаўся з гэтай шарашкінай канторай, — абураўся Васіль Уладзіміравіч. — Трэба было шукаць іншую кантору…

Потым ён мне прызнаўся, што параметры і акон, і дзвярэй ён выпісаў з праекта сам. Што, вядома, з яго боку было вялікай наіўнасцю. Пры той якасці выканання работ, якое існавала ў нас, памеры неабходна было здымаць не з праекта, а з гатовых ужо праёмаў.

Незадаволены быў Васіль Быкаў і тэрмінамі выканання заказу, хоць для яго яны былі значна скарочаны. Але ж домік ужо даўно стаяў пад дахам, а сталярка ўсё марудзіла. Папрасіў я ў пісьменніка прабачэння, быццам ва ўсім быў і сам вінаваты, але паабяцаў, што ўсё будзе зроблена як належыць і як найхутчэй, ну і, вядома, якасна. Гэта я, на сваю рызыку, нават гарантаваў.

Васіль Уладзіміравіч крыху памякчэў, але ўсё яшчэ сумняваўся ў хуткім і якасным завяршэнні будоўлі. А ў яго на пісьмовым стале новая аповесць. Трэба было неяк развеяць пісьменніцкія сумненні, і цяпер усё залежала ад мяне.

Назаўтра раніцай я ўжо быў на будоўлі. Уважліва агледзеўшы сціплы домік, знайшоў у ім яшчэ сякія-такія недаробкі, у прысутнасці гаспадара занатаваў іх у свой блакнот і сам сабе падумаў, што дубовыя рамы не толькі б упрыгожылі новую пабудову, але б і былі нават нядрэнным прэзентам ад нашай шарашкінай канторы. Успомніў я і пажаданне Батуры любым чынам улагодзіць паважанага заказчыка. Я тут і выклаў сваю ідэю наконт дубовых рам Быкаву. Адразу заўважыў, як ажывіўся яго твар. Так, пацвердзіў я, і вокны, і дзверы, уся сталярка — з самага сапраўднага дубу. Усё гэта не адаб’ецца на тэрмінах. Я быў упэўнены, што на Слонімскай фабрыцы, куды я паеду з ганаровым заказам, праблем ніякіх з яго выкананнем не ўзнікне. Адразу адчуў, як мая ўпэўненасць перадалася гаспадару.

— Ну, калі так, я згодзен нават пачакаць, — сказаў ён. З дубу — гэта цудоўна. А стол таксама можна заказаць?

— Няма праблем, — абнадзеіў я. — Давайце запішам і памеры.

Мы прайшлі ў пакой, дзе павінен стаяць стол і я хутка запісаў усе неабходныя лічбы.

Развітваючыся, Васіль Уладзіміравіч моцна пацiснуў руку і нават усміхнуўся. Дасюль ён быў пахмурым. Было зразумела, што скаргаў ніякіх пісаць ён не будзе. А іх якраз і баялася начальства.

На наступны дзень у Слоніме я ўручыў свайму дырэктару Астапу Сцяпанавічу Вырвічу заказ Быкава і сказаў, што паправіць памылку — звычайная справа, а вось зрабіць дабро вядомаму чалавеку — гэта зусім іншая рэч. А таму вартае ўсялякай удзячнасці. Пры колішніх магутнасцях фабрыкі сума замены сасны на дуб аказалася зусім капеечнай. Заказ выканалі нават раней, чым абяцалі. Як кажуць, могуць, калі захочуць. За два тыдні ўсё было гатова. Стол — таксама. Усё найлепшым чынам упісалася на свае месцы і глядзелася нават шыкоўна, аж радавала вока.

Потым Васіль Уладзіміравіч прызнаваўся, што нічога добрага ад маёй прапановы ён не чакаў, толькі шкадаваў, што тэрміны будаўніцтва яшчэ больш зацягнуцца. Калі ўсё было скончана, Васіль Уладзіміравіч усё ж напісаў Міхаілу Мясніковічу. Але не скаргу, а ліст удзячнасці. Я перадаў яго Батуру. Інцыдэнт быў вычарпаны. Батура нават абяцаў напісаць пісьмо майму дырэктару, каб той аддзячыў мяне прэміяй. Але, відаць, забыў пра сваё абяцанне. Прэміі я не дачакаўся. Але самай вялікай узнагародай для мяне сталася знаёмства з Васілём Быкавым, якое потым перарасло ў шчырае сяброўства. Памяць пра яго і дасюль грэе маю душу. Тое, што Быкаў застаўся задаволеным, усхвалявала і Эрнеста Мікітавіча. Калі пасля гэтага мы з ім сустрэліся, ён прызнаўся:

— Шчыра кажучы, мне самому карцела пайсці з табой да Быкава. Я даўно марыў пазнаёміцца з гэтым таленавітым чалавекам. Але ў такой сітуацыі мой

візіт мог толькі нашкодзіць. Я не хацеў у яго вачах застацца ў якасці нейкага няўдачлівага чыноўніка. Лепш застануся яго ўдзячным чытачом. Так, ён вялікі чалавек нашай эпохі, яго трэба берагчы. Што ж, табе пашанцавала…

І я з гэтым згадзіўся. Так, выпадковасці бываюць і шчаслівымі.

Аднойчы Васіль Уладзіміравіч запрасіў мяне на дачу, як ён сказаў, «каб пракансультавацца». Толькі што ўнутраныя сцены дома абшылі вагонкай і трэба было вызначыцца, чым яе пакрыць, акультурыць. Я ўжо меў добры вопыт работы з мэблевай вытворчасцю і параіў пацягнуць вагонку бясколерным мэблевым лакам. Тады драўніна захоўвае і колер, і структуру. Васіль Уладзіміравіч выслухаў мяне і сказаў, што згаджаецца з маёй думкай. Але ўмяшаўся хтосьці іншы і параіў пакрыць вагонку пакостам. Потым Васіль Быкаў шкадаваў, што не прыслухаўся да маёй парады. Унутранае пакрыццё пакостам нічога добрага не зычыла гаспадарам. Ды і я, калі шчыра, крыху пакрыўдзіўся на пісьменніка.

Паскардзіўся неяк Васіль Уладзіміравіч, што ў цагляным доме яму не вельмі ўтульна, нават летам халаднавата, часам непрыемна садзіцца за пісьмовы стол. Часта згадваецца і тое, калі даводзілася мерзнуць у прадзьмутых акопах, дзе ён і зарабіў усе сённяшнія свае балячкі. Усё ж пры нашым клімаце найлепш мець драўляны дом. Я доўга думаў, як можна дапамагчы знакамітаму творцу. І лепшага нічога не прыдумаў, як узвесці цёплы і ўтульны пакой над гаражом. Неяк патэлефанаваў яму і паведаміў пра свой варыянт.

Ідэя мая Васілю Уладзіміравічу спадабалася. Зноў жа — даймалі яго самыя розныя сумненні. Колькі часу забярэ пошук будматэрыялу, блуканне па інстанцыях, пераадоленне розных бюракратычных бар’ераў, якіх на той час хапала, не — на гэта яго не хопіць.

— Быццам і грошы нейкія маю, а што толку, — казаў ён. — Не, пакінем гэту мару. А было б, вядома, здорава.

Я адказаў на гэтыя словы маўчаннем, але ад сваёй прапановы і задумы не адмовіўся. Нічога не кажучы яму, пачаў употайкі збіраць матэрыялы на сваім рабочым участку. Складваў іх у адно месца. А праз нейкі час зноў патэлефанаваў Васілю Уладзіміравічу і сказаў, што заўтра на дачу прыедзе аўтамашына з сакрэтным грузам. Ад яго патрабуецца аўтограф — і грошы — я назваў суму.

Магчыма, усё гэта ён прыняў за жарт, але калі на дачным участку з’явілася машына, быў нават ашаломлены. Не, ён ніяк такога не чакаў і потым яшчэ доўга любаваўся складзенымі ля гаража брускамі, дошкамі, вагонкай. І тут жа пажартаваў:

— А нас не пасадзяць?

— Пасадзяць. Калі захочуць, — адказаў я жартам.

А потым усё было проста. Я папрасіў свайго сябра Аляксандра Гламбоцкага дапамагчы мне ў будаўніцтве. Той вельмі паважаў пісьменніка, чытаў і перачытваў усе яго аповесці, аднак збіраўся з жонкай на адпачынак у Крым. Тым не менш у такой важнай справе адмовіць не мог.

Нам спатрэбілася ўсяго дзесяць дзён, толькі нязначны кавалачак сябравага адпачынку, каб над гаражом узнікла акуратная надбудова. У Крым Саша таксама паспеў.

Нядаўна я перагортваў свой даўні дзённік-занатоўнік. Калі верыць яму, на будоўлю Васіль Уладзіміравіч прыязджаў пяць разоў, гэта значыць праз дзень. Любіў ён нешта рабіць, майстраваць уласнымі рукамі. Ды і пакой жа будаваўся яму самому, а таму не хацелася пачувацца нейкім пабочным назіральнікам, гэткім самазадаволеным панком. Ён і не хаваў свае рукі ў кішэні, а ўвесь час парываўся нешта падаць, паднесці, падсабіць. У прынцыпе, ён сам прафесійна валодаў сякерай і нажоўкай, з аднаго разу забіваў цвік, лёгка вадзіў гэблем. Але ж яму быў дарагі час. І мы не хацелі яго забіраць у пісьменніка.

— Я б вам, вядома, паказаў, як трэба будаваць. Ды зноў трэба спяшацца, — усміхаўся Васіль Уладзіміравіч і выцягваў аднекуль чарговую пляшку канья-

ку. — Ды, калі папраўдзе, кожны павінен рабіць тое, што ў яго выходзіць лепш за ўсё. Быць майстрам на ўсе рукі — немагчыма. Хоць кажуць Леў Мікалаевіч мог пашыць выдатныя боты. Але ён жа граф, а мы простыя смяротныя, нам хацяб за што адно ўхапіцца і да ладу давесці. А вось шашлык я вам абяцаю. Убачыце, якіх вышынь майстэрства дасягнуў я ў гэтай няпростай справе.

І ён зноў садзіўся ў сваю «Волгу» і знікаў за блізкім лесам. Побач стаяла такая ж самая машына майго сябра, якую яму пашанцавала выйграць у латарэю. Быкаў здзіўляўся, што Саша ганяе на ёй па цвікі, руберойд, нават дошкі.

— Вы патэлефануйце мне — і я сам ўсё прывязу,— казаў ён звычайна.

Але хіба мы будзем забіраць у паважанага пісьменніка яго дарагі час?! Прывязём самі. Здзіўляўся і калі прымаў «пад ключ» гатовы пакой. Не верыў, што ў нашай шарашкінай канторы могуць так хутка і якасна нешта рабіць. Мы вярталі давер нашай не вельмі праслаўленай установе.

Калі завяршалі будаўніцтва, у нас сабралася пяць пляшак каньяку. Не варта прытварацца, што мы такія ўжо градусаненавіснікі. Проста — і Саша Гламбоцкі, і Быкаў заўсёды былі пры рулі, пры шафёрскім абавязку, а мне аднаму мой унутраны бог не дазваляў прыкладвацца да чаркі. Бутэлькі мы хавалі ў доме гаспадара, у тумбачцы, чым потым вельмі здзівілі Быкава. Але яшчэ больш ён здзівіўся, калі мы адмовіліся ад платы за работу. Можна было падумаць, што гэта наогул нейкая незямная кантора. Тут не толькі не п'юць, але яшчэ і працуюць без грошай. «У іх што там — камунізм?! Напэўна і мне, як Талстому, трэба адмовіцца ад ганарараў?» — казаў Быкаў.

Цягам двух месяцаў Васіль Уладзіміравіч, падключыўшы цяжкую артылерыю ў асобе Рыгора Барадуліна, спрабаваў пахістаць наша рашэнне. Але і Барадулін не ўгаварыў. У нас было сваё перакананне: мы працавалі з такім натхненнем, нібыта стваралі нейкую важную паэму, і браць за гэту асалоду яшчэ і грошы, было б проста недаравальна. Затое на шашлык да Васіля Уладзіміравіча мы з'явіліся. І ён змусіў нас паверыць, што з шашлыкамі ўпраўляецца гэтак жа чароўна, як і са сваімі творамі. Вось тады і каньяк згадзіўся.

Да гэтага часу на дачы займае сваё месца мэбля, зробленая пад заказ на нашай фабрыцы. А цяжкое драўлянае крэсла мы жартам называлі тронам імператара Быкава. Існуе і наш надбудаваны пакой над гаражом, які мы стваралі разам са сваім сябрам. Гэта самы цёплы пакой на дачы, які вельмі падабаўся Быкаву і, як згадвае Ірына Міхайлаўна, ён называў яго творам Ганада. Прыемна было пачуць гэтыя словы. А я ж чуў тое самае і раней ад самога гаспадара.

Неўзабаве пасля нашай будаўнічай эпапеі Васіль Уладзіміравіч падараваў мне металічную рулетку — прывёз, як казаў, яе з Германіі. Дорачы, не забыў пажадаць:

— Хай усё ў вашым жыцці вымяраецца з нямецкай дакладнасцю і без памылак!

Але калі б так усё мералася, то я ніколі б не пазнаёміўся з Васілём Быкавым. Ці не гэтак адказаў я тады. Часам і памылкі выконваюць сваю лёсаносную ролю.

У наступны раз мяне чакаў іншы падарунак. Ён уручыў мне трохмерную нямецкую біклажку і сказаў:

— Хай яна стане напамінам пра тыя дні, калі мы маглі напоўніць усе тры адсекі і па чарзе асушыць іх.

Часам я бяру яе ў рукі — і тады ўспамінамі вяртаюцца да мяне тыя, такія імгненныя часы.

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» рыхтавалася да друку кніга маіх вершаў «Апаленыя жаўранкі». Перакладалі яе на рускую мову В. Тарас, Ф. Яфімаў, В. Ліпневіч, Б. Крывялевіч і Г. Артханаў. Я з нецярпеннем чакаў яе выхаду, бо гэта было своеасаблівае выбранае, дапоўненае новымі вершамі. Неяк вечарам патэлефанаваў Р. Барадулін і паведаміў, што кніга ўжо здадзена ў набор, а ў Васі-

ля Быкава па праве старой дружбы ёсць для мяне сюрпрыз. Калі я пачаў настойліва дапытвацца, што ды як, ён загадкава рассмяяўся: маўляў, які ж гэта будзе сюрпрыз, калі ты наперад пра ўсё даведаешся.

Гэты «сюрпрыз ад Быкава» мучыў мяне яшчэ месяцы чатыры — да самага з'яўлення кнігі. З вялікім хваляваннем браў яе потым у рукі, а калі адгарнуў першую старонку, дык адразу ахнуў — прадмова самога Васіля Быкава! Шчыра кажучы, я і не марыў, што да маёй сціплай паэтычнай кніжкі прадмову напіша лепшы празаік часу. А ён не проста абмежаваўся добрымі словамі на адрас маловядомага аўтара, а зрабіў грунтоўны аналітычны разгляд усёй маёй паэзіі, падкрэсліўшы самае галоўнае, характэрнае толькі мне. А потым, калі я падпісваў яму тую кнігу, ён пахваліў мне пераклады Валерыя Ліпневіча.

— У яго,— казаў Васіль Уладзіміравіч, — вельмі натуральна ўсё гучыць, нават не адчуваецца, што гэта пераклады, ды і падобныя яны неяк на цябе самога.
Я некалькі слоў сказаў яму пра перакладчыка:

— Валера мой равеснік, цудоўны паэт. Ён цалкам пераклаў маю першую кнігу. Праўда, зараз атабарыўся ў Маскве, але радзіму не забывае. У яго дзедаўскі дом пад Мінскам.

— Добры перакладчык — гэта суаўтар на мове арыгінала, — заўважыў Быкаў. — Мне з гэтым не пашанцавала. Вось і вымушаны перакладаць сябе сам. Можна сказаць, што працую ў суаўтарстве з самім сабою.

Пра водгук Быкава згадваю ўпершыню. Можа, варта было і раней паведаміць пра тое Валерыю Ліпневічу. Але лепш позна, чым ніколі. Заўсёды, калі доўга збіраешся зрабіць нешта добрае, яно знікае ў патоку іншага, дробязнага. Радуе тое, што Валера як перакладаў мяне, так і перакладае. Цяпер мы з ім трымаем сувязь праз інтэрнэт.

Неяк Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч і аўтар гэтых радкоў гасцявалі ў народнага мастака Беларусі Георгія Паплаўскага. У яго майстэрні. І я ўпершыню пабачыў, як паводзіць сябе Васіль Быкаў у нефармальных стасунках, у коле сяброў. Гэта быў узор культуры паводзін і сапраўднай непаказной сціпласці, ні аднаго намёку на сваю вялікасць, вядомасць і афіцыйныя заслугі. Ва ўсім амаль сялянская простасць, нават ціхасць. У гэтым і ўся прыцягальнасць асобы. Згадаліся мне яго словы з аднаго тэлеінтэрв'ю: «Я не інтэлігент, я пісьменнік!» Але, як мне здаецца, ён адзін з нямногіх беларускіх пісьменнікаў, хто і ўнутрана, і вонкава быў сапраўдным інтэлігентам.

Тады, у гасцях у Паплаўскага, я, саромеючыся і хвалюючыся, па просьбе Васіля Уладзіміравіча, прачытаў адзін з вершаў. Васіль Быкаў, паклаўшы руку мне на плячо, супакоіў:

— Хваляванне — гэта знак унутранага стану душы. Не варта за гэта перажываць. Тое ўласціва ўсім, хто не ўмее прытварацца. Я таксама на публіцы губляюся.

Маё хваляванне сапраўды заўсёды выдавала мяне. Нават калі ўжо быў добра знаёмы з ім. Заплятаўся язык, з першага разу не мог разборліва вымавіць яго імя і імя па бацьку. Хваля чырвані залівала твар. Збоку, магчыма, камусьці здавалася, што п'яны. Але так мог меркаваць той, хто мяне не ведаў. Я і да гэтага часу схільны думаць, што сустрэча, якая не выклікае ў табе ўнутранай буры, магчыма, і не надта патрэбная. Яна і забудзецца адразу, калі чалавек знікне з поля твайго зроку.

А сустрэчы з Васілём Быкавым, хоць і здараліся не так часта, як хацелася б, усе застаюцца ў маёй памяці. Памяць і дае мне права згадваць усё маё ў дачыненні з ім у межах яе самой, а значыць — праўды. Таму звярнуся да яшчэ адной згадкі.

Памятаю, у год, калі ўсе дачныя клопаты скончыліся, і яго дом вытрымаў выпрабаванні зімой, Васіль Уладзіміравіч запрасіў мяне і Рыгора Барадуліна на шашлыкі. Мы спыніліся на пачатку Ракаўскай шашы, каб купіць мінералку

Рыгору Іванавічу. Я вылузаўся з машыны і стаў у чаргу. Тады ўсюды былі чэргі. Падышоў Васіль Уладзіміравіч. Ён стаў побач і з уласцівай яму манерай папярэдзіў, што плаціць будзе ён, бо багацейшы за мяне. Я не згадзіўся:

— Вы памыляецеся, Васіль Уладзіміравіч! Багацейшы я.

Ён здзіўлена паглядзеў на мяне:

— Як гэта?

— На Усходзе кажуць, Васіль Уладзіміравіч: «Багацце майго сябра — гэта маё багацце». А ў выніку маё багацце плюс ваша — маё атрымаецца большым.

— Логіка жалезная, — заўсміхаўся ён. — Пайду Рыгору раскажу.

Потым гэту гісторыю з мінералкай пісьменнік згадваў часта, нават на маім юбілеі.

Мне заўсёды было цікава назіраць іх разам — Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна. Яны звярталіся адзін да аднаго толькі па імені. Увесь час жартавалі і нешта згадвалі. Было бачна, што гэта шчырае і не толькі зямляцкае сяброўства. Такому сяброўству можна было толькі пазайздросціць.

Але пісьменніку патрэбна адзінота, дзе ён не замыкаецца сам у сабе, а застаецца разам са сваімі героямі. Думаю, адзіным месцам, дзе працавалася яму асабліва плённа — гэта быў яго рабочы кабінет, там, на Танкавай. У ім і да сённяшняга дня захоўваецца асаблівая аўра. Ён любіў цяпло і святло, якіх не хапала яму цёмнымі зімовымі вечарамі там, у акопах вайны. Першае, што мяне калісьці ўразіла ў яго рабочых творчых сценах — амаль сонечнае ззянне. Люстра, бра, настольныя лямпы — і ў кожнай стоватныя яркія лямпачкі. Між іншым згадаліся далёкія словы Гётэ перад зыходам: «Mehr Licht» (больш святла!). Па сутнасці гэта магло быць дэвізам і самога Быкава. Усё, што ён пісаў, было азорана гэтым святлом. Яно высвечвала нашым вачам новае і раней незаўважанае ў суцемках будзённасці. Некаторым не хацелася бачыць тое, што пісьменнік умеў разгледзець у свеце і чалавеку. Але так было спрадвеку: тыя, хто нёс святло, быў пракляты тымі, хто прагнуў цемры. У цемры лягчэй за ўсё тварыць і цёмныя справы.

Вядома, за гады свайго жыцця Васіль Быкаў пабачыў усялякага: мог лёгка адрозніць добрае ад злога. Ад відушчых і таго, і іншага не схаваеш. Быў час, калі — думаецца, не без удзелу і падказкі калег, у прэсе з'яўляліся розныя небыліцы і злосная разносная крытыка. Неяк з выпадку адной з такіх публікацый у нас з пісьменнікам адбылася размова. Я па сваёй маладой наіўнасці супакойваў яго:

— Васіль Уладзіміравіч, гэтыя публікацыі, як камарыныя ўкусы. Не звяртайце на іх увагі.

Ён памаўчаў, нібыта падбіраў словы для адказу і, крыху хвалюючыся, сказаў:

— Разумееш, яно, можа, і так. Але калі б ты ведаў, як часам баліць ад гэтых, як ты кажаш, камарыных укусаў.

Хто-хто, а ён ведаў, што такое боль. Калі баліць нясцерпна мёртвым, што ўжо казаць пра жывых?! Аб тым, як перажываў ён незаслужаную крытыку, я даведаўся значна пазней. Ён усё нёс у сабе. Так, як і яго героі — абапіраючыся на ўнутраныя рэзервы псіхікі, сялянскую вытрымку і яснае разуменне сітуацыі.

У кнізе «Званы Хатыні», выдадзенай у Маскве у 1987 годзе, Васіль Быкаў піша:

«Зразумела, было нялёгка. Град безапеляцыйных крытычных прысудаў не пакідаў сумнення ў паўнейшым краху, пачуцці сораму і крыўды выклікалі жаданне схавацца ў сябе, замкнуцца, адасобіцца ад людзей — перажыць няўдачу цярпліва і моўчкі. Абставіны падбухторвалі да перагляду ўласных творчых магчымасцей, падмывала ўсумніцца ў самім жыццёвым вопыце, які саслужыў такую здрайную службу аўтару. І без таго незайздроснае становішча ўдвааялася яшчэ і тым, што добрая палова крытычных залпаў адрасавалася часопісу, які з вядомай рызыкай надрукаваў няўдзячны твор і выдаў вядомы аванс даверу таму, хто зараз

так падвёў усіх. І вось у такія хвіліны самотнага роздуму, якраз напярэдадні майскіх свят, атрымаў з Масквы невялікі канверт… — звычайнае рэдакцыйнае віншаванне аўтару са святам, некалькі надрукаваных на машынцы радкоў з прывітаннем, ніжэй якіх характэрным вуглаватым почыркам было дапісана: «Усё мінецца, а праўда застанецца. А. Твардоўскі». Для Васіля Быкава гэтага было дастаткова, каб не зламацца, не згінуць у мутным патоку нянавісці, хлусні, зайздрасці, несправядлівасці. І хоць сёння тых, хто нясе святло, не спальваюць на агні, не аддаюць анафеме, не мораць у лагерах, усё ж шлях сумленнага мастака ніколі не бывае ўсыпаны ружамі.

У часопісе «Сімург Арый» (№ 2, 2001 г.) было надрукавана апавяданне-прытча Васіля Быкава «Камень». На рускую мову яго пераклала Марына Наталіч. Па маёй просьбе (а я тады ўзначальваў непрыкметнае будаўніча-архітэктурнае выданне) мастак Каміл Камал праілюстраваў публікацыю. Потым я даведаўся ад Р. Барадуліна, што яна вельмі спадабалася Васілю Уладзіміравічу. Аб гэтым ён паведамляў са свайго замежжа і быў мне ўдзячны.

Пішучы гэтыя нататкі, я доўга перачытваў свае дзённікавыя запісы, якія вяду яшчэ з гадоў юнацтва. Там пра нашы ўзаемадачыненні напісана шмат і падрабязна. Аднак усё як след узважыўшы, вырашыў усё ж абысціся без іх. Хай пачакаюць свайго часу.

Але затое з вялікай прыемнасцю перачытаў трынаццаць аповесцей вялікага пісьменніка, каб разам з ім яшчэ раз прайсці нялёгкі шлях яго жыцця. Яшчэ раз усплылі ў памяці яго мудрыя, асэнсаваныя ўсім жыццёвым вопытам словы: «Ці даравальна мастаку забываць, што талент — гэта труба, вечавы звон, барабан, але не жалейка і не свісцёлка. Што ён з'яўляецца на свет не для таго, каб усыпляць элегіямі, а каб гучаць як сігнал трывогі, які будзіць людзей для барацьбы за лепшую будучыню». Верыцца, што разам са сваёй творчасцю Васіль Быкаў назаўсёды застанецца ў гісторыі народа, а значыць і чалавецтва наогул, як барацьбіт за справу справядлівасці і гонару. А чалавек і чалавецтва бессмяротныя, пакуль справядлівасць і гонар нешта значаць для іх.

***Пераклад з курдскай***
***Казіміра КАМЕЙШЫ.***



**Аляксандр ГУЖАЛОЎСКІ**

# ПАРНАС ПАД ЦЭНЗУРНЫМ НАГЛЯДАМ

## У час адлігі

Перыяд «адлігі» ў беларускай літаратуры меў супярэчлівы характар. З аднаго боку ішлі працэсы дэмакратызацыі, рэабілітацыі незаконна рэпрэсіраваных пісьменнікаў, аслаблення партыйнага ўціску на творчы працэс. 31 кастрычніка 1956 г. на партыйным сходзе ў Саюзе пісьменнікаў БССР з боку П. Пестрака і А. Бачылы гучала адкрытая крытыка партыйнага кіраўніцтва рэспублікі за «прыніжэнне беларускай мовы і культуры, адарванасць ад народа, бюракратызм». Дасталося адказнаму сакратару праўлення СП БССР П. Кавалёву і дырэктару Дзяржаўнага выдавецтва БССР З. Матузаву. Вялікі рэзананс у жыцці савецкага грамадства атрымалі сустрэчы кіраўнікоў дзяржавы з дзеячамі культуры ў 1957, 1962, 1963 гг. Заклік зрабіць літаратурную творчасць вольнай, у тым ліку і ад цэнзуры, у 1966 г. прагучаў на V з'ездзе пісьменнікаў БССР у прамовах В. Быкава, А. Карпюка, І. Чыгрынава, Г. Бураўкіна і інш.

З іншага боку таталітарная сутнасць грамадства ўвесь час нагадвала пра сябе звужэннем сферы выкарыстання нацыянальных моў і барацьбой з «фармальнымі ўплывамі» ў літаратуры. 27 ліпеня 1956 г. з'явілася запіска аддзела культуры ЦК КПСС «Аб некаторых пытаннях развіцця сучаснай савецкай літаратуры», якая сведчыла пра тое, што сутнасць таталітарнай мадэлі мастацкай культуры ў савецкім грамадстве застаецца без змен. У 1957 г. быў асуджаны на 7 гадоў зняволення за крытыку нацыянальнай палітыкі ў БССР выкладчык Гродзенскага педінстытута, літаратуразнаўца і педагог Б. Ржэўскі. У 1963 г. у антыпартыйнай прапагандзе абвінавацілі Н. Тарас, І. Чыгрынава, В. Каваленку, А. Кулакоўскага.

У 1955 г. у Беларусь пачалі вяртацца рэабілітаваныя пісьменнікі. Першымі ўбачылі радзіму паэт А. Александровіч і празаік Я. Скрыган. У 1956 г. рэабілітавалі С. Шушкевіча, С. Грахоўскага, Л. Геніюш, М. Хведаровіча. Тады ж у Мінск з сібірскай ссылкі вярнуўся літаратурны крытык Р. Бярозкін. У 1957 г. вызвалілі Ул. Дубоўку.

У гады «адлігі» савецкая цэнзурная машына ў цэлым крыху запаволіла абароты, што дазволіла з'явіцца ў друку творам, якія некалькі гадоў таму каштавалі б аўтарам не толькі права быць пачутым, але асабістай свабоды. У 1956 г. «ЛіМ» надрукаваў верш П. Панчанкі «Прыстасаванцы», нягледзячы на тое, што ён вельмі не спадабаўся прадстаўнікам «агіднага ордэну», супраць якіх быў накіраваны выкрывальніцкі пафас аўтара. У 1959 г. амаль без праблем праз Галоўліт БССР прайшоў раман А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі», у якім падаваўся адрозны ад афіцыйнага аўтарскі погляд на падзеі мінулай вайны. Г. Бураўкін у 1963 г. у вершы «Паклёпнікі» здзекліва намаляваў даносчыкаў сталінскіх часоў. Яго знакаміты верш «Пустыя п'едэсталы» заўважылі нават за мяжой. Праз сем гадоў пасля вяртання ў 1963 г. з мардоўскіх лагераў Л. Геніюш, друкуюцца яе першыя вершы, а ў 1967 г. дзякуючы М. Танку пад рэдакцыяй Ул. Караткевіча — пабачыў свет зборнік твораў «Невадам з Нёмана», праўда, з шэрагам купюр.

Час ад часу цэнзурная машына нават давала збоі. Прыкладам таму можа быць гісторыя аповесці А. Кулакоўскага «Дабрасельцы», змешчанай у 1958 г. у «Маладосці». У гэтым творы паказана беларуская правінцыя, якая, нягледзячы на новыя часы, цалкам скавана вялікім страхам сталінскай эпохі. Пад ціскам яго ўсе — ад самазваных мясцовых князькоў да калгаснага пастуха. Галоўліт БССР прапусціў гэты твор, чаму, канешне, паспрыяў не толькі адносна ліберальны час, але і пасада галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць», якую займаў А. Кулакоўскі.

Памылку Галоўліта хутка заўважылі партыйныя ідэолагі. Аповесць адразу ж узялі пад абстрэл. У крытыцы, бадай, не знайшлося адкрытых прыхільнікаў. Асабліва вызначыўся адзін з класікаў вульгарызатарска-ачарніцельскай крытыкі Я. Герцовіч. Неўзабаве на сумесным пасяджэнні ЦК ЛКСМБ і Саюза пісьменнікаў БССР «Дабрасельцы», галоўны герой аповесці старшыня калгаса — «дэмагог і п’яніца», абвясцілі «памылковай», а яе аўтара знялі з пасады.

Дадатковыя праблемы цэнзарам у другой палове 1950-х — першай палове 1960-х гг. стварылі новыя літаратурна-мастацкія часопісы, зборнікі і альманахі — «Маладосць», «Нёман», «Дзвіна», «Нарач», «Брэст», якія спрабавалі надрукаваць матэрыялы «ў абыход дырэктыўных органаў». Яшчэ адной прыкметай ліберальнага часу сталі нешматлікія спробы беларускай творчай інтэлігенцыі наладжвання непадцэнзурных выданняў[1].

Хоць у гады хрушчоўскай адлігі назіралася некаторая лібералізацыя дзейнасці цэнзурнага ведамства, яго асноўныя задачы і метады работы заставаліся ранейшыя. І Галоўліт БССР у асобах яго найбольш артадаксальных цэнзараў па-ранейшаму імкнуўся спыніць творы найбольш арыгінальных і смелых пісьменнікаў. Сваю асноўную ўвагу цэнзура звяртала на літаратурныя творы, у якіх паказвалася тагачасная рэчаіснасць, што афіцыйна вызначалася як «пабудова камуністычнага грамадства».

У 1956 г. неўзабаве пасля пропуску ў друк «Прыстасаванцаў» былі забаронены для публікацыі ў часопісе «Беларусь» тры вершы П. Панчанкі.

У 1957 г. з апавядання І. Мележа «Дом пад сонцам» прыбралі месцы, дзе «…у перакручаным выглядзе была пададзена наша рэчаіснасць». З рамана Ул. Карпава «За годам год» знялі такія рэплікі герояў: «На могілках, напэўна, і тое прыпадае больш метраў на чалавека, чым у нас», «А колькі ў радзільным доме вашых будаўніц незамужніх?», «У каго раней у вёсцы больш за ўсіх дзетак было? У самых бедных, жабракоў беспрытульных». З апавядання Г. Халілецкага «Слухайце ўсе» знік сказ, дзе згадвалася аб праслухоўванні прыватных тэлефонных размоў. У апавяданні А. Кулакоўскага «Дэпутатка» апусцілі сказ «Падаткі, штрафы, абкладанні, апісванні — хай яно згарыць усё гэта».

У 1958 г. забаранілі друкаваць апавяданне Я. Брыля «Фамут», у якім шафёр нейкага міністэрскага начальніка з’едліва расказваў пра яго глупства і фанабэрыстасць. Тады ж з чацвёртага нумара часопіса «Советская Отчизна» знялі яго апавяданне «Пра белага бычка», дзе няслушна паказвалася палітыка партыі ў галіне літаратуры. У тым жа годзе з адзінаццатага нумара часопіса «Полымя» знікла апавяданне М. Пянкрата «Васіль Баршчэўскі» з-за таго, што ў ім паказана варожае стаўленне заходнебеларускіх сялян да калектывізацыі.

Рукапіс рамана Т. Хадкевіча «Даль палявая», дасланы ў Галоўліт у жніўні 1958 г., выклікаў спецыяльны ліст Л. Садоўскага сакратару ЦК КПБ Ц. Гарбунову. Начальнік Галоўліта, у прыватнасці, пісаў: «Беларускаму народу, які на працягу ўсёй сваёй гісторыі праяўляў мужнасць і адвагу ў барацьбе з ворагамі вуснамі аднаго з герояў прыпісваецца пасіўнасць, прытым, як характэрная рыса

[1] Напрыклад, у 1963—1964 гг. выйшлі чатыры нумары рукапіснага часопіса «Падснежнік», падрыхтаваныя М. Ермаловічам.

беларуса: «Баюся, мы крыху перабольшваем, калі гаворым аб партызанах. Бадай што ўсё насельніцтва Беларусі трапіла пад пяту акупантаў у пачатку вайны. А калі па-сапраўднаму разгарэлася партызанская барацьба? Тады, калі мы на фронце нанеслі рад моцных удараў па ворагу. Значыць, многія і многія з беларусаў, церпячы здзекі захопнікаў, сядзелі ў чаканні. Ці не праявілася ў гэтым рыса пасіўнасці ў характары беларуса? Акрамя таго, Л. Садоўскі быў супраць вобраза першага сакратара райкама партыі — пасіўнага чалавека, які з аднаго боку абараняе рознага кшталту махінатараў, а з другога ставіцца абыякава да праблем сумленных людзей.

За саркастычны паказ рэчаіснасці ў зборніку твораў А. Васілевіч «Адвечная тэма» ў 1957 г. забаранілі апавяданне «Выбоіны». У 1960 г. вярнулі для перапрацоўкі кнігу яе апавяданняў «Падслухала сэрца». Асабліва цэнзара раззлавалі апавяданні «Дзядзька Іван», у якім паказвалася абыякавасць тагачаснага грамадства да праблем пенсіянераў, і «У дарозе», прысвечаным цяжкаму жыццю калгаснікаў.

З часопіса «Вожык» (1959, № 21) у апошні момант знікла байка Э. Валасевіча «Вол і шчанюк», у якой пісьменнік параўноўваўся з першым персанажам, а крытык — з другім: «…пісьменнік працаваў, крытык цяўкаў з падваротні».

Некаторыя творы цэнзары бракавалі адразу ж пасля прачытання іх назвы, не паглыбляючыся ў змест. Так, напрыклад, адбылося з аповесцю «Расчараванне» Я. Брыля, вымушана перайменаванай у «Апошнюю сустрэчу». З кнігі апавяданняў А. Шашкова «Сонца тушыць зоркі» знікла характарыстыка аўтарам кіраўнікоў сельскай гаспадаркай рэспублікі як «наменклатурных работнікаў, што завалілі справу ў горадзе».

5 красавіка 1961 г. Л. Садоўскі накіраваў сакратару ЦК КПБ па ідэалогіі В. Шауру дакладную запіску пра апавяданне Б. Сачанкі «Міцька», змешчанае ў прадстаўленым на кантроль часопісе «Полымя» (1961, № 4). Л. Садоўскі, у прыватнасці, пісаў: «У гэтым апавяданні аўтар хацеў паказаць бяздушныя і чэрствыя адносіны жонкі калгаснага пастуха да сына яго першай памёрлай жонкі. Але абвінавачваючы гэтую злую жанчыну, […] аўтар міжволі абвінавачвае і людзей, акаляючых гэтага небараку, закінутага хлопчыка. Ніхто не цікавіцца жыццём Міцькі, хоць жыве ён у наш савецкі час… Прачытаўшы гэтае апавяданне, кожны міжволі ўзгадае чэхаўскага Ваньку Жукава. Лічу, што гэтае апавяданне павінна быць карэнным чынам перапрацавана».

Цэнзура сустракала ў штыкі ўсе, нават сціплыя спробы мастацкага асэнсавання феномена сталінізму. З часопіса «Беларусь» (1956, № 12) па палітычных матывах быў зняты верш А. Зарыцкага «Цяжка гояцца ў сэрцы раны», у якім «…аўтар надрыўна-хваравіта аплакваў сябра, які быў несправядліва абвінавачаны ў варожай дзейнасці і загінуў у ссылцы». У 1960 г. у рукапісе кнігі ўспамінаў М. Хведаровіча «Памятныя сустрэчы» правяралася прозвішча кожнага пісьменніка, які трапіў пад нож сталінскіх рэпрэсій. У тым жа годзе Галоўліт БССР двойчы вяртаў у выдавецтва для перапрацоўкі рукапіс кнігі твораў Аркадзя Марціновіча «Надзея». Галоўнай прычынай падобнай увагі цэнзуры стаў сюжэт аповесці «Споведзь», у цэнтры якога незайздросны лёс дачкі раскулачаных бацькоў.

3 снежня 1961 г. Л. Садоўскі зноў накіраваў дакладную сакратару ЦК КПБ В. Шауру, на гэты раз пра кнігу вершаў І. Шклярэўскага «Я иду». Л. Садоўскі хваляваўся: «Зусім не зразумела думка, якую аўтар выказвае ў вершы «Дорога к жизни». Цяжка зразумець, пра каго ідзе гаворка: пра будаўнікоў альбо зняволеных. Будаўніцтва дарогі аўтар паказвае як катаржную працу:

Там люди за солнцем тянули дорогу.  
А первые ливни пробили по жести…  
А люди как трупы на койки валились.  
Им снилась свобода, им женщины снились.

Гэты верш цэнзар прапанаваў выключыць са зборніка, некаторыя іншыя — перапрацаваць.

Няпростыя адносіны з цэнзурай складаліся ў тых, хто прапаноўваў уласнае мастацкае бачанне беларускай гісторыі. Пасля паспяховых дэбютных твораў, у 1958 г. мясцовы аблліт зняў шэраг «небяспечных месцаў» з аповесці гродзенскага пісьменніка А. Карпюка «Маладыя гады», падрыхтаванай да публікацыі ў альманаху «Неман» (№ 2). У прыватнасці, знікла апісанне парада польскіх войск у Вільні ў 1938 г.: «Відовішча было захапляючае. Я пазіраў на абвучаных салдат, падцягнутых афіцэраў, новыя мундзіры, зайздросціў ворагам і сябе пацяшаў: — Нічога, і мы будзем некалі такімі, нават лепшымі». У 1960 г. з рукапісу аповесці А. Карпюка «Данута» зніклі месцы, якія «…ідэалізавалі зацятага фашыста Пілсудскага», у прыватнасці факт яго знаходжання ў адной рэвалюцыйнай арганізацыі са старэйшым братам Леніна — А. Ульянавым. Не падабаліся цэнзару і тыя месцы рукапісу, дзе аўтар апісваў, як немцы падрывалі пакінутыя Чырвонай Арміяй снарады, рэзалі аўтагенамі бранятэхніку савецкай вытворчасці, вялі доўгія калоны палонных чырвонаармейцаў.

Гродзенскага цэнзара не задавальняла не толькі тое, як А. Карпюк разумеў гісторыю, але як бачыў тагачасную рэчаіснасць. Са зборніка «У дапамогу мастацкай самадзейнасці» (1958, № 1) прыбралі яго апавяданне «Скарга мужа», дзе «…інтарэсы простых савецкіх людзей дробязныя, размовы грубыя, паводзіны некультурныя».

Галоўліт вярнуў у выдавецтва на дапрацоўку кнігу філолага і пісьменніка У. Калесніка «Паэзія змагання (Максім Танк і заходнебеларуская літаратура)» (1959). Па сцвярджэнні цэнзара, аўтар паказаў у ёй М. Танка ледзь не арганізатарам усяго рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, які ўжо за партай быў свядомым рэвалюцыянерам. Акрамя таго, у рукапісе кнігі даваўся матэрыял пра творчасць Н. Арсенневай без адпаведнай яе крытыкі.

У 1960 г. двойчы затрымлівалася выданне кнігі «Надзея» (Белдзяржвыд) з-за аповесці Аркадзя Марціновіча «Споведзь». У ёй, на думку цэнзара, Саюз кампазітараў рэспублікі паказаны як купка людзей, якія ўвесь час спрачаюцца і не знаходзяць ісціны. Саюз расколаты на дзве групы, адна з якіх прызнае народнасць і нацыянальныя карані ў музыцы, а другая трымаецца выключна класікі. Галоўліт палічыў, што гэтага не можа быць, бо «…па пытаннях музычнай культуры ёсць грунтоўныя ўказанні ЦК КПСС і яны выконваюцца нашымі кампазітарамі».

Першае сур'ёзнае сутыкненне У. Караткевіча з цэнзурай адбылося ў красавіку 1961 г., калі на кантроль у Галоўліт БССР прыйшлі гранкі часопіса «Полымя» (№ 4). У іх была адна з першых ягоных гістарычных аповесцей — «Сівая легенда» (першапачатковая назва — «Раман Ракута»). Неўзабаве Л. Садоўскі накіраваў В. Шауру дакладную, прысвечаную гэтаму твору: «У легендзе Уладзімір Караткевіч не раскрывае сутнасці сялянскага паўстання, амаль нічога не кажа пра жыццё сялян таго часу. Для чытача незразумелы прычыны, што падштурхнулі сялянскія масы выступіць супраціў панства… У той жа час аўтар надае шмат увагі кіраўніку паўстання нобілю Раману Ракуце. Ён яго ідэалізуе, а разам з ім і тую частку магнацтва, да якой ён належыць. Больш за тое, у легендзе прама гаворыцца, што «нобілі — самыя знакамітыя і самыя паважаныя народам людзі на гэтай зямлі… Народ акаляе гэтых людзей асаблівай увагай і ласкай». Такая пастаноўка пытання, безумоўна, выклікае ў чытача законнае здзіўленне. Тым больш, што гістарычна гэта няслушна… У легендзе ідэалізуюцца і некаторыя прадстаўнікі судовых органаў таго часу, якія, па сцвярджэнню аўтара, не пазбаўлены пачуцця справядлівасці. Жыхароў горада Магілёва, дзе разгортваюцца заключныя падзеі легенды, аўтар паказвае як бязвольных п'яніц. Час, калі выбухнула паўстанне, высветліць цяжка. Патрэбна перапрацоўка».

У ліпені 1961 г. цэнзарам Цэлуеўскім па палітычных меркаваннях выкінуты цэлыя дыялогі з кнігі апавяданняў У. Караткевіча «Блакіт і золата дня». Праз два гады, 16 красавіка 1963 г. В. Шаура атрымаў дакладную ўжо новага начальніка Галоўліта БССР А. Маркевіча, цалкам прысвечаную кніжнай версіі рамана У. Караткевіча «Нельга забыць» (першапачатковая назва — «Леаніды не вернуцца да зямлі»), рэдактарам якога быў В. Сёмуха. А. Маркевіч пісаў:

«У свой час гэты раман, надрукаваны ў часопісу «Полымя» пад назвай «Нельга забыць»[1] быў крытыкаваны за тое, што яго героі паказваюцца ў адрыве ад жыцця, яго грамадскіх інтарэсаў. Аднак, пры падрыхтоўцы рамана для апублікавання яго асобным выданнем[2] гэтыя недахопы не толькі не выпраўлены, але значна пашыраны і паглыблены. Герой рамана — малады пісьменнік, які займаецца на літаратурных курсах у Маскве. Ад яго імя вядзецца аповяд пра незвычайнае каханне, якое бывае раз у стагоддзе, пра нейкія асаблівыя адносіны, якіх пакуль што не існуе на зямлі. На старонках рамана паказаны чалавек у роспачы ад барацьбы… Лейтматыў рамана — адчай, песімізм, індывідуалізм: «Ці варта жыць?».

…Пра недалёкае мінулае герой рамана разважае з тугою, а пра нашу рэчаіснасць, пра людзей з якімі ён сустракаецца — са злой іроніяй і скептыцызмам. Яго замілоўваюць фрэскі на фасадах цэркваў, абразы, гукі званоў (дарэчы, уся вучоба на літаратурных курсах уяўляецца як бясконцыя экскурсіі ў храмы), пра нашых жа людзей, пра рэчаіснасць ён мяркуе па-іншаму. Сакратар універсітэта: «палена нястругане, баязлівец, падлюга і алілуйшчык». Прыехаўшы на канікулы ў вёску, піша пра яе: «Сухадол быў прыдатны хутчэй да таго, каб дажываць, чым жыць». І далей: «Цяжка стала друкавацца. Нейкі разлад паміж пакаленнямі». Кажучы аб сваім духоўным сталенні, ён падкрэслівае, што «за жыццё прайшоў тры прыступкі: артадаксальны патрыятызм, абражаны нацыянальны гонар… А цяпер я і не ведаю, чаму нягоднік-беларус [падкрэслена Маркевічам. — **А. Г.**] павінен быць мне бліжэй за высакароднага негра». І далей: «На радзіме куча ворагаў, найлепшы друг — латыш».

Расчараваны ў жыцці не толькі галоўны герой, расчараваныя і ўсе персанажы рамана. Размовы герояў аб мастацтве, якое нібыта з'яўляецца другой лініяй рамана, цалкам накіраваны ў мінулае. Аб мастацтве сённяшняга дня яны мяркуюць у духу набалелай праблемы «бацькоў і дзяцей». Асяроддзе сучасных мастакоў, паэтаў і пісьменнікаў, у якое ўводзіць чытача аўтар, пакідае цяжкое ўражанне, нагадвае нейкую багему. Усе яны выглядаюць адарванымі ад жыцця, без пэўных ідэй і поглядаў, увесь час знаходзяцца ў стане бяздзейнасці.

Недазваляльныя змешчаныя ў рамане грубыя і крыўдныя выказванні ў адрас жанчыны: «Евіна племя, яно, брат, таксама не ўсё з сабачага хваста». Незразумела, што хацеў выразіць аўтар, перафразуючы вядомую песню наступным чынам: «Жыць нам стала лепей, стала весялей. Шыя стала тонкая, але ж — даўжэй». Варта звярнуць увагу і на тую частку рамана, у якой вядзецца размова аб кульце асобы Сталіна.

І, нарэшце, у заканчэнні герой рамана, у адчаі ад усяго, блукае ўначы па Маскве, разважаючы: «Леаніды больш не вернуцца да зямлі». Суцяшэнне ён зноў знаходзіць у царкве, у нейкага «круціцкага церамка». У гэтай сувязі выклікае сумнеў і сама назва рамана. Мяркуючы па развагах аўтара, ён хацеў сказаць аб тым, што «Леаніды» не вернуцца на зямлю да тых пор, пакуль тут будуць заста-

---

[1] Раман з'явіўся ў пятым і шостым нумарах часопіса за 1962 г. Пралог рамана друкаваўся як апавяданне «Паром на бурнай рацэ».

[2] Планавалася выдаць раман асобнай кнігай разам з аповесцю «Дзікае паляванне караля Стаха».

вацца дрэнныя людзі. У фармулёцы ж аўтара назва гучыць як сцвярджэнне, што «Леаніды» ўвогуле не вярнуцца на зямлю, гэта значыць мы ніколі не пазбавімся ад дрэнных людзей.

Фармалістычныя, адарваныя ад жыцця і вершы галоўнага героя, якія друкуюцца ў рамане».

Падобны жорсткі прысуд раману, вынесены А. Маркевічам, разам з рэцэнзіямі Я. Герцовіча ў Мінску і В. Чалмаева ў Маскве, паўплываў на яго далейшы лёс. Неўзабаве Ул. Караткевіч быў абвінавачаны ў «абстрактным гуманізме», а набор яго кнігі рассыпаны[1].

Няпросты шлях твораў У. Караткевіча да чытача быў абумоўлены таксама прэвентыўнай рэдактарскай цэнзурай. Рэцэнзіі многіх літаратурных рэдактараў і крытыкаў, з якімі аўтар адмаўляўся ісці на кампраміс, мелі заказны, палітычны, далёкі ад літаратурнай творчасці характар. Прыклад — цяжкая гісторыя асобнага выдання першай кнігі рамана «Каласы пад сярпом тваім», якая ў скарочаным выглядзе пабачыла свет у часопісе «Полымя» (1965, № 2—6). Мала чым адрознівалася па тоне і змесце ад галоўлітаўскай рэцэнзія, напісаная Я. Герцовічам у верасні 1965 г. На працягу 1965—1967 гг. на рукапіс твора, які ляжаў у выдавецтве «Беларусь», было напісана яшчэ дзве рэцэнзіі — М. Лужаніна (пазаштатнага рэдактара выдавецтва) і Л. Салаўя (штатнага рэдактара), якія значна зацягнулі яго выданне і адбілі ахвоту ў аўтара працягваць працу над раманам. Злавесную ролю ў гісторыі выдання «Каласоў...» адыграў дырэктар выдавецтва З. Матузаў, асноўны вытворчы прынцып якога гучаў так: «Нас ніколі не білі за тое, што мы выкінулі, б’юць за тое, што пакідаем».

Значна сапсаваны рэдактарскімі праўкамі быў і рукапіс (1964 г.) аповесці У. Караткевіча «Ладдзя роспачы». На яго дваццаці трох старонках зроблена 296 правак. Рэдактары-цэнзары крэслілі словы «Беларусь», «беларус», упэўнена пісалі «Ладдзя» з маленькай літары.

Напрыканцы хрушчоўскай адлігі У. Караткевіч, як адзін з найбольш небяспечных парушальнікаў спакою на беларускім Парнасе, прыцягнуў да сябе ўвагу вышэйшага рэспубліканскага партыйнага кіраўніцтва ў асобе сакратара ЦК па ідэалогіі С. Пілатовіча. Гэта было вельмі небяспечна для Караткевіча-творцы, калі ўлічыць, што С. Пілатовіч па сваёй пасадзе з 1965 па 1971 гг. з’яўляўся куратарам Галоўліта БССР. Вядома, што партыйны ідэолаг выступаў супраць асобнага выдання «Каласоў...». Па яго загадзе крытыкавалі ў друку эсэ «Званы ў прадоннях азёр». Прозвішча Караткевіча ўзгадвалася на разнастайных ідэалагічных нарадах як сімвал заганнасці.

Сігналам заканчэння ліберальнага часу і пераходу ідэалагічнага кіраўніцтва да новага курсу стала маштабная кампанія дыскрэдытацыі аповесці В. Быкава «Мёртвым не баліць». Да яе выхаду пісьменнік ужо не раз сутыкаўся з прэвентыўнай рэдактарскай і галоўлітаўскай цэнзурай. Напрыклад, у 1957 г. у аповесці «Апошні баец» рэдактары-цэнзары сумеснымі намаганнямі зрабілі больш за сто купюр, прычым, найвялікшая з іх склала дзесяць кніжных старонак. У 1965 г., адразу ж пасля публікацыі гэтага глыбокага і смелага твора ў «Новом мире» і «Маладосці», В. Быкаў трапіў пад крытыку маскоўскага партыйнага ідэалагічнага кіраўніцтва ў асобе аспіранта Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС У. Сеўрука. Натуральна паўстала пытанне: хто прапусціў «шкодны літаратурны твор» у друк? 24 сакавіка 1966 г. Маркевіч мусіў апраўдвацца перад начальнікам Галоўнага ўпраўлення Камітэта па друку пры СМ СССР А. Ахотнікавым, што «...у чэрвені—ліпені 1965 г. у часо-

[1] Асобным кніжным выданнем раман У. Караткевіча пад назвай «Нельга забыць» выйшаў толькі ў 1982 г. спачатку ў Чэхаславакіі, а потым, пад націскам літаратурнай грамадскасці, і ў БССР.

пісе «Маладосць» у № 6—7 была надрукавана аповесць В. Быкава «Мёртвым не баліць»… Аб нашых заўвагах было паведамлена рэдакцыі (нам. рэдактара т. Асіпенка). Аднак рэдакцыя адхіліла ўсе нашыя заўвагі. Тав. Асіпенка паведаміў нам пра тое, што яны гэтую аповесць абмяркоўвалі на пашыраным пасяджэнні рэдкалегіі часопіса ў прысутнасці члена рэдкалегіі сакратара ЦК ЛКСМБ т. Ваніцкага. Пры абмеркавані аповесці было зроблена шмат крытычных заўваг, у прыватнасці з боку сакратара т. Ваніцкага. Пасля такога шырокага абмеркавання гэтая аповесць была падвергнута вялікай праўцы. Рэдакцыя часопіса катэгарычна адмовілася яшчэ раз працаваць над аповесцю. Пасля гэтых паведамленняў мы падпісалі часопісы з гэтай аповесцю да друку».

Гэтая інтэрпрэтацыя інцыдэнту з большага задаволіла важнага маскоўскага чыноўніка. Галоўліт БССР указаў на недахопы твора. Тое самае зрабіў камсамольскі важак. Але рэдакцыя катэгарычна адмовілася прыслухацца да заўваг. Таму яна была адна і вартая пакарання. У выніку быў зняты галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» П. Панчанка, які на гэтай пасадзе ў 1958—1966 гг. паспрыяў публікацыі многіх таленавітых, смелых твораў.

Як сведчыў цэнзар Салодзін, які спецыялізаваўся на літаратурнай «прадукцыі», пасля публікацыі «Мёртвым не баліць», у якой паказаны асабіст з украінскім прозвішчам Сахно, цэнзура адсочвала ў прозе В. Быкава суадносіны станоўчых і адмоўных персанажаў па нацыянальнай прыкмеце — колькі і якіх было рускіх, украінцаў, беларусаў.

Падобным чынам беларуская цэнзура «праглядзела» аповесць В. Быкава «Праклятая вышыня», якая з'явілася ў 1968 г. таксама ў часопісе «Маладосць». Пасля яе перадруку пад назвай «Атака сходу» ў «Новом мире» за яе ўзяліся ідэолагі ЦК КПСС, галоўнае палітупраўленне Савецкай Арміі, узнялася хваля маральнага знішчэння аўтара.



**Серафім АНДРАЮК**

# ЯГО РАДКІ — ЯГО ЖЫЦЦЁ

«Радкі і жыццё»... Так называецца кніга «старонак дзённіка» Варлена Бечыка. Укладанне Ларысы Лявонцьеўны Кароткай — маці крытыка. Напэўна, назва кнігі таксама яе. Назва шматзначная. Назва, у якой выяўлены не толькі змест і сэнс гэтай кнігі, але і наогул усёй творчасці крытыка. Бо якраз вось гэтая кніга дзённікавых запісаў яскрава паказвае, наколькі арганічна, непадзельна звязаны крытычная творчасць Бечыка і яго жыццё. Усё жыццё: вылучаць тут якіясьці моманты — асабісты, грамадскі, працоўны, сямейны — немагчыма. Ёсць яго жыццё. Жыццё, гранічна шчыра выяўленае ў дзённіках. І ёсць яго творчасць, народжаная гэтым жыццём.

Далучанасць маці, Л. Кароткай, жанчыны драматычнага жыццёвага лёсу, шчырага, сумленнага, дабрэйшай душы чалавека, да з'яўлення кнігі пад назвай «Радкі і жыццё» — неаспрэчнае сведчанне яе (кнігі гэтай) жыццёвай і літаратурнай праўдзівасці. Адносіны ж самога Варлена да маці былі самыя шчырыя, самыя душэўныя і светлыя. Пра гэта ёсць у дзённіках.

Вось запісы: «Мне 29. Ці было дзяцінства? Не стала і юнацтва. І ўсё скончана, а нібы толькі пачынаецца.

У дні нараджэння — толькі мама...»

Пазнейшы запіс: «Учора вечарам у мамы. Глыток чыстага паветра...»

І яшчэ: «А людзей такой спайкі з іншымі, як мама, не ведаю я — па цярплівасці, зычлівасці, спагадзе».

Зноў жа ўсё гэта не проста прыродныя высокія чалавечыя якасці. За імі складанае драматычнае жыццё ў драматычны час, час найсуровейшых выпрабаванняў.

Пра гэта: «Маці — як дрэва, якому ўвесь час зацiскалі карэнне, мянялі зямлю і насупраць усякай логіцы крэслілі тапорна-нажовыя меткі».

Лёс маці — гэта і лёс яе дзіцяці, яе сына. Такі ж складаны, драматычны, напоўнены аж да краёў драматызмам жыцця, яго супярэчнасцямі і нечаканасцямі.

Запіс пра смерць і пахаванне блізкага сям'і, роднага для самога Варлена чалавека Веры Фамінішны:

«Сам я В. Ф. нёс, сам закопваў. Кідаў капейкі ў магілку — сказалі так трэба».

І далей: «Дома позна гаварылі з мамаю. В. Ф. выратавала мяне і маму: "Калі б яна не ўзяла цябе (сама прапанавала!), не ўцячы б мне ад паліцыі... расстралялі б нас разам, сынок". Маці два гады была ў партызанах: дамоў вярнулася ў 1944 годзе».

З болем піша Бечык пра гэта ў сваіх «Сакавіцкіх пісьмах», у першым пісьме: «Помніцца, у час вайны, за доўгія гады адзіноты і голаду, я зусім адвык ад слова мама. Яго забралі фашысты, арыштаваўшы цябе. Я не помню, як ты адыходзіла тады — успамін губляецца ў тумане маленства. Затое помню, ты вярнулася з партызан і як стала адразу неяк весялей і цяплей. Толькі я не мог адразу асвоіцца і зваў спачатку па імені — так называла цябе жанчына, якая ў час вайны прытуліла мяне».

Варлен Бечык належаў да пакалення дзяцей вайны — па ўзросце, па творчым лёсе, па духоўным вопыце. Яго жыццёвы і творчы лёс — тыповы жыццёвы і творчы лёс прадстаўніка гэтага пакалення. Такім ён выяўлены ў дзённіках, такім ён бачыцца — праз лёс іншых — у крытычнай творчасці.

Нарадзіўся 25 чэрвеня 1939 года. Вайна, знявечанае ёю дзяцінства. Школа ў пасляваенныя гады, універсітэт, два гады выкладчыцкай працы ў сярэдняй школе, аспірантура (1962—1966), з 1966 па 1971 гг. — літсупрацоўнік рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» і часопіса «Нёман», з 1972 г. — навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук, з 1981 г. і да апошніх дзён — намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Памёр 13.11.1985 г.

За скупымі радкамі энцыклапедычнай даведкі выключна драматычны і далёка не просты чалавечы лёс.

У 1984 годзе, 9 снежня, крыху менш чым за год да такой заўчаснай недарэчнай смерці, як бы спрачаючыся з некім невядомым, Варлен Бечык запісвае, можа, самыя балючыя радкі ў сваім дзённіку.

«І што мой смутак? Смутак чалавека, які не ведаў сапраўднага гора?

*Прабачце.* Я галадаў і мёрз, я не меў дзяцінства, я дзічэў у адзіноце 43—44-га года, я быў інвалідам другой групы, я не буду мець уласных дзяцей і наўрад ці прыдзе хто на маю магілу.

У некаторых людзей — не параўнаеш з маім. Але ці можаце вы сказаць, што я ўжо зусім не ведаю гора? Каб сцвярджаць гэта, вам трэба ведаць хоць трохі больш.

Брытва лёсу некалькі разоў была каля самага майго горла».

Сказана з болем, з крыўдай. Бо тое ўсё, пра што сказана, яно ж было. У асабістым жыццёвым лёсе Бечыка, асабліва ваенных гадах, як многа бачыцца таго, што перажыло, выцерпела ў нягодах яго пакаленне. І калі ён піша пра каго з іх, піша, асабіста ведаючы гэта, перажыўшы блізкае штосьці сам.

Піша крытык пра Я. Сіпакова: «Маленькі хлапчук бачыў, як апошні раз яго бацька “аглядаў хату, нібы назаўсёды хацеў запомніць яе”, запомніў, як пазней, услед за бацькам “паліцаі з п’янымі песнямі павезлі маці туды, адкуль яна ўжо ніколі-ніколі не ўбачыла такой жаданай дарогі дадому, па якой бы яна, здаецца, бегла, бегла і бегла...”»

Потым былі голад, нішчымніца, пасляваенная галеча і дачасны дарослы клопат.

«Свая» вайна дала магчымасць Бечыку ўбачыць, у кожным канкрэтным выпадку асабіста адчуць вайну, што так драматычна-балюча абрынулася на ўсё літаратурнае пакаленне былых дзяцей вайны, так непасрэдна адкрыта выявілася ў творчасці, па сутнасці, вызначыла характар іх творчасці.

Так крытык звязвае з мінулай вайной творчасць Анатоля Вярцінскага. Піша: «Для станаўлення таленту, фарміравання светапогляду Анатоля Вярцінскага выключнае значэнне мела Вялікая Айчынная вайна, з якою супала дзяцінства паэта. Бацька Ілья Арцёмавіч быў на фронце, а маці Аляксандра Рыгораўна з дзецьмі — у роднай вёсцы Дзямешкава ў Лепельскім раёне, на акупіраванай ворагам тэрыторыі. Для гераічнай, шматпакутнай Віцебшчыны, дзе партызанскі рух набыў вялікі размах і таму асабліва лютавалі карнікі, дзе ў час вайны загінуў кожны трэці жыхар... вайна стала штодзённай барацьбою і пакутамі, якія не абыходзілі нікога і якія не забудуць усе, хто астаўся жывымі.

Дзеці вайны зведалі ўсе яе жахі, зведалі на поўную меру. Гэта пакінула незабыўны след і шмат што вызначыла ў творчасці Анатоля Вярцінскага і паэтаў яго пакалення». І не толькі паэтаў.

С. Гаўрусёў і Н. Гілевіч, І. Пташнікаў і Р. Барадулін, А. Вярцінскі і Я. Сіпакоў, А. Кудравец і В. Зуёнак, В. Каваленка і М. Капыловіч... Пра кожнага з іх піша В. Бечык з павышанай увагай, з глыбокім унутраным разуменнем і асаблівай тактоўнасцю і ашчаднасцю. І зразумела ж, што тая асаблівая ўвага ў крытыка да творчасці пісьменнікаў свайго пакалення грунтуецца на асабістай памяці, асабістай перажытасці агульнай бяды, агульнага гора ды і агульнай радасці перамогі.

Шукаючы, вызначаючы вытокі і змест пэўнай мастацкай з'явы, ніколі пры гэтым, дарэчы, не забываючы, што з'ява менавіта мастацкая, Бечык неяк заўсёды імкнуўся яе аб'ектыўную рэальную аснову падключыць да свайго асабістага жыццёвага вопыту, набытага ў жыццёвых нягодах, даволі часта — пакутных.

Яго творчасць з'яўляецца красамоўным сведчаннем таго, што пісьменнік дасягае найбольш адчувальнага поспеху тады, калі з'явы, факты аб'ектыўнай рэчаіснасці, пра якія ён піша, якія ўзнаўляе, аплоднены асабістым, суб'ектыўным духоўным і душэўным вопытам аўтара, спраецыраваны на гэты вопыт. Бо якраз у арганічнасці, натуральнасці такога ўзаемапранікнення бачыў ён вызначальную якасць сапраўднай літаратуры. Прачытаўшы аповесць В. Астаф'ева «Пастух і пастушка», запісвае ў сваім дзённіку: «Гэтая, зноў мільгануўшая думка: калі чытаеш сапраўдны твор, яднаюцца два розныя адчуванні — быццам усё гэта ты даўно ведаў і адчуваў, яно было ў табе, і быццам толькі цяпер, зараз усё гэта адчуў, зразумеў і па-сапраўднаму перажыў. І тое, што ты гэта ведаў і разумеў, — толькі цяпер і зразумеў, зведаў».

Бечык не баяўся гаварыць пра творчасць паэта, пра кнігу вершаў ці нават пра адзін верш як пра сваё асабістае. Так ім успрынятае, адчутае і зразуметае. Гэтую вось асабістасць у паэтычным узнаўленні бясконцага рэальнага свету заўсёды імкнуўся знайсці і знаходзіў, калі пісаў пра з'явы паэтычныя. Высока цаніў яе як адну з вышэйшых адзнак літаратуры, асабліва слова паэтычнага.

У шырока вядомым трактаце Л. Талстога «Што такое мастацтва?» ёсць такое вызначэнне сутнасці мастацтва: «Мастацтва ёсць дзейнасць чалавечая, якая заключаецца ў тым, што адзін чалавек свядома вядомымі знешнімі знакамі перадае іншым пачуцці, зведаныя ім, а іншыя людзі зараджаюцца гэтымі пачуццямі і перажываюць іх» (Толстой, Л. Н. Собр. соч. В 22 т. Т. 15. М., 1983. С. 80).

Бечыкава разуменне літаратуры, мастацтва не запазычанае. Яно сваё, выпрацаванае работай розуму і душы. Пацверджанае яго творчасцю як крытыка, яго творчасцю як чытача, яго чалавечым лёсам. Перачытваючы артыкулы Бечыка, перажываючы (інакш іх чытаць нельга) дзённікавыя запісы з кнігі «Радкі і жыццё», мы, па сутнасці, не бачым адрознення ў яго адносінах да рэчаіснасці і да літаратуры, у тоне і стылі маўлення, у ступені праўдзівасці і шчырасці: з сабою ён гаварыў таксама адказна, як і з іншымі; з чытачом быў такі ж адкрыты і шчыры, як і з самім сабою. У творах пазнейшых узровень эмацыянальнай напоўненасці, ступень шчырасці ўзмацняюцца. І тут зусім не стыхійнасць, а свядомая, прадуманая мэта, для аўтара разам з тым арганічная, натуральная.

Вось Варлен Бечык піша пра пакаленне тагачасных пяцідзесяцігадовых, пра сваё пакаленне: «Памяць пра вайну дала маладым паэтам моцны штуршок для паглыбленага паказу жыцця. А творча сталелі яны, прымаючы ўдзел у вялікіх справах свайго часу». І далей: «Адчуванне патрабаванняў часу, выяўленне духоўнага зместу сучаснасці набылі ў іх творах свае рысы народнасці і гістарызму, свае суадпаведнасці жыццёвага і паэтычнага. Незвычайная чуласць да сацыяльна-светапоглядных пачаткаў, да прынцыпаў, ідэй, заканамернасцяў жыцця атрымлівае ў іх асаблівае эмацыянальнае выяўленне, праецыруецца на ўласны лёс, на народную памяць і на грамадскі вопыт».

У поўнай меры словы гэтыя адносяца і да самога Варлена Бечыка — крытыка, навукоўца, чалавека. Чытаючы каторы раз яго дзённікавыя запісы (сабраныя ў кнізе «Радкі і жыццё»), зробленыя ж, вядома, асабіста для сябе, перачытваючы яго крытычныя кнігі, артыкулы, рэцэнзіі, згадваючы яго выступленні ў Саюзе пісьменнікаў і Інстытуце літаратуры, добра бачыш і разумееш, у якой ступені (вядома ж, самай высокай) крытыка, дакладней крытычная дзейнасць, была яго нармальным ладам жыцця, арганічным станам душы. Ладам жыцця і станам душы, падпарадкаваным высокай духоўнай і эстэтычнай мэце.

Ад прыроды Бечык быў надзелены бездакорным мастацкім густам. У прадмове да кнігі «Радкі і жыццё» выдатна сказаў пра гэта Пімен Панчанка. Вось яго словы: «Ёсць людзі, якія валодаюць абсалютным музыкальным слыхам. Іх сэрцы

поўняцца радасцю, калі яны чуюць бліскучае выкананне сімфоній, арый, песняў, яны чуйна ўлоўліваюць кожную недакладнасць, а тым больш фальшывую ноту, фальш.

Вось такім абсалютным паэтычным слыхам валодаў выдатны крытык Варлен Леанідавіч Бечык, які заўчасна пакінуў нас. Так рана і так горка...»

Гэты мастацкі густ, высокі паэтычны слых духоўна насычаўся, сацыяльна ўзбагачаўся ў тых найсуровейшых, найскладанейшых умовах, у якіх прайшло яго дзяцінства і юнацтва, у якіх адбывалася выспяванне чалавечай асобы. Гэта не былі ўмовы толькі для яго, выключныя. То былі ўмовы агульныя, для ўсіх. Такім было тагачаснае жыццё. Яно кожнага далучала да іншых, асабістыя радасці і засмучэнні суадносіла з радасцямі і засмучэннямі іншых. Увогуле асабісты свет жыцця ўводзіла ў свет жыцця многіх людзей, у свет жыцця народнага. Больш за тое — у свет жыцця навакольнага наогул.

Бечык пастаянна адчуваў сябе ў глыбокай суладнасці з навакольным светам прыроды. Прырода яго ўнутрана сілкуе, надзяляе прыгажосцю, радасцю, узнімае ў неба. Пейзажныя малюнкі сапраўды мастацкія. У іх жыве прырода, жыве крытык-мастак.

Вось запіс 1.V.1967 года:

«А вечарам, у гадзін сем, я пайшоў гуляць і быў па-новаму запалонены вясною, як паэзіяй.

Цеплынь вярнулася і суцішыла ветры. Парасклейваліся першыя лісточкі. Бярозавыя яшчэ ліпкія — я іх мацаў. Я хадзіў у мясцінах найпрыгажэйшага роднага краявіду — там, мурожная трава ляжала светлай зелянінай на леташняй жоўці, дзе стаяла рэчка з ціхай зялёнай вадою, дзе было незвычайна хараша бачыць сонца праз дрэвы, дзе абрасталі зелянінай стаўкі. Здалёк і адусюды ішоў птушыны шчэбет. Яго перабівала адна там нейкая маленькая сінічнага выгляду “пічужка”. Я хадзіў там, дзе дзіўна, непрывычна сустрэць другога чалавека. Па-свойму нават абразліва: а што ён тут робіць?

Выйшаў ад узлеску ў лагчыну, да рэчкі, на луг. Ішоў мяккаю падатліваю сцежкай і дзівіўся, круцячы шыю: даўно не ведала душа мая такой радаснай, простай і адкрытай прыгажосці, якую адкрывала вока ў маленькай крапіўцы, у дробным яшчэ конскім шчаўі, у сухім лапушынні».

Уся кніга дзённікаў Бечыка багата насычана пейзажнымі малюнкамі. Яркімі, выразнымі, дакладнымі, глыбока паэтычнымі. У іх добра бачыцца чалавек, яго глыбокая натура, бачыцца крытык. Яго тонкае разуменне, адчуванне прыроды мастацкага слова, індывідуальнай адметнасці эстэтычнага характару творчасці асобнага паэта, выключае імкненне да праўды ў жыцці, у творчасці. І яшчэ на адзін істотны момант у гэтай сувязі хочацца звярнуць увагу. Усе пейзажныя малюнкі падаюцца неаддзельныя ад чалавека, часам невідочнымі ніцямі звязаныя з вялікім светам жыцця, як часцінкі гэтага свету. Па-свойму гэты момант адбіўся ў крытычнай творчасці. Звычайна пэўная літаратурная з’ява, падзея, асоба разглядаецца не ізалявана, а арганічна ў літаратурным кантэксце, больш таго, у суаднесенасці з часам, з гісторыяй.

Артыкул пра аповесць Івана Пташнікава называецца «Збалелая памяць». Пачынаецца з даведкі БелСЭ пра страты Беларусі ў ваенныя жахлівыя гады, з размовы пра нарыс (толькі што апублікаваны ў часопісе «Маладосць») Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Уладзіміра Калесніка «Памяць» (частка будучай кнігі «Я з вогненнай вёскі…»). Крытык як бы вывяраў вартасць мастацкага твора фактамі рэальнага жыцця, і твор гэтую праверку вытрымліваў. Больш таго, набываў асаблівую, не ўласцівую, можа, нават факту рэальнаму, эмацыянальна-духапад’ёмную сілу.

В. Бечык зазначае: «Можна смела сцвярджаць, што аповесць “Тартак” з’яўляецца тым красамоўным прыкладам узаемаадносін літаратуры з жыццёвай праўдай, які пераконвае нас у жыццядзейнай сіле і вялікай духапад’ёмнасці мастацкага слова, яго здольнасці разгортваць факты сапраўднага жыцця ў неабсяжны свет, які жыве потым у душы з такой адчувальнай сілай, як і самі факты».

Увогуле творчасць тых, чый лёс так ці інакш звязаны з вайною, асабліва тых, хто ваяваў і загінуў, чый лёс, жыццёвы і творчы, і сёння, семдзясят гадоў пасля вызвалення Беларусі, нясе ў сабе боль тагачасных страт, пакут і перажыванняў, абвостранае пачуццё праўды і справядлівасці, найглыбейшую веру ў духоўныя магчымасці чалавека, — іх творчасць неяк па-асабліваму была блізкая В. Бечыку, душэўна зразумелая, адносіны да яе былі надзвычайна паважлівыя.

Пра іх творчасць крытык пісаў з вялікай ашчаднасцю і любоўю. У іх творчасці яго проста ўражвалі шчырасць і непадробнасць чалавечых перажыванняў, чысціня высокіх памкненняў, непасрэдная адпаведнасць высокага паэтычнага слова суровай, драматычнай праўдзе чалавечага жыцця. Якраз у такой паэзіі бачыў крытык сапраўднае пісьменнікава служэнне народу і свайму часу, канкрэтную жывую, гістарычную і ёй сучасную, рэальную аснову, якая адзіная робіць любы твор патрэбным жыццю і чалавеку. І не так ужо важна было ў дадзеным выпадку, што той ці іншы твор таго ці іншага паэта не дабіраў дзесьці ў мастацкіх адносінах, не вылучаўся стылёва-паэтычнай вытанчанасцю, рытміка-інтанацыйнай вынаходлівасцю. Паэтычнай мовай гаварыла жыццё, гаварыла праўда. Жыццё высокага драматычнага напаўнення, праўда жорсткая і бескампрамісная.

Прыгадваецца, В. Бечык не дужа з радасцю ўзяўся за выкананне тэмы, прысвечанай паэзіі Вялікай Айчыннай вайны. А менавіта гэтая тэма была яму ў свой час даручана ў Інстытуце літаратуры. І гэта зразумела, бо да гэтага як крытык, як літаратар жыў ён толькі сучаснасцю. У тагачаснай (1960—1970 гг.) беларускай, а таксама рускай, украінскай паэзіі адчуваў ён сябе свабодна, упэўнена — як рыба ў вадзе: то была яго стыхія. Праз нейкі час ён ужо, пераконваючы сябе і іншых, даводзіў, што вытокі сучасных (тагачасных) набыткаў паэзіі, а таксама і прозы, асабліва прозы ваеннай, напэўна ж, трэба шукаць не толькі ў тым часе, але і ў той літаратуры, найперш у паэзіі. Паэзія тагачасная (ваенных гадоў) несла ў сабе эмацыянальную праўду драматычных падзей і высокіх узлётаў чалавечага духу.

Пазней, унікнуўшы глыбока ў паэзію тых векапомных і шматпакутных дзён, глыбока ўведаўшы няпростыя жыццёвыя лёсы тых, хто і пяром, і штыком заваёўваў перамогу, крытык убачыў паэзію высокай эмацыянальнай праўды і шчырасці, паэзію глыбока драматычнага і гераічнага зместу.

Усенародны ўздым часоў Айчыннай вайны, невымернае народнае гора не дазвалялі пісаць пра штосьці дробнае, малазначнае, вымагалі паэтычнага маўлення адкрытага і шчырага. Такое ўбачыў крытык у тагачаснай паэзіі наогул, у творчасці кожнага паэта ў прыватнасці.

Ва ўступе да кнігі «Песні змагання» Варлен Бечык пісаў: «У “пару вялікага выпрабавання, смутку, упартасці, непахіснасці і непакорнасці” (Кузьма Чорны) высока ўзнялося паэтычнае слова, выключнай валодала сілай, бязмерна многа ўзяло ад народа і як ніколі многа яму дало, стала прыналежным да самага галоўнага і неабходным для ўсіх і кожнага.

Роднае, святое, незабыўнае, балючае…»

Пры сённяшніх, праз 70 гадоў ад тых векапомных дзён, адносінах да роднага слова не трэба было б забываць і пра гэта.

Далей крыху крытык працягвае: «Мы ведаем: яно было сапраўдным, праўдзівым і шчырым, суадпаведным суроваму і гераічнаму часу. Было патрыятычна страсным і змабілізаваным. У ім пранізліва адчувалася асаблівая каштоўнасць усяго дарагога і роднага, за што ішло змаганне. Яно клікала да бітвы і вяло ў бой, убірала ў сябе і гераічны парыў, і плач, і стогн, і боль, грэла ўспамінамі і давала надзею, мацавала мужнасць, выказвала запаветныя пачуцці і думкі».

Вершы, змешчаныя ў гэтай кнізе, укладальнікам якой быў Бечык, пераканаўча пацвярджаюць гэта. Узнікае думка: што, сённяшняму жыццю непатрэбнае такое слова? Чаму яно яго цураецца?

Напярэдадні 40-годдзя Перамогі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», дзе тады працаваў і В. Бечык, і я, абмяркоўваўся, складаўся план юбілейных выданняў, вызначаўся іх характар, прынцыпы складання. І вось тут Варлен Бечык праявіў асаблівую, я сказаў бы — сыноўскую зацікаўленасць. Наогул трэба сказаць,

што ў яго не было фармальных адносін да любой справы, да любога задання ці даручэння. Усё рабіў ён з поўнай адказнасцю, прафесійна, сумленна. Але тут было іншае — вышэйшая адказнасць, душэўны абавязак.

Па ініцыятыве Бечыка выдавецтва пачало выпускаць серыю кніг пісьменнікаў, што загінулі на франтах Айчыннай вайны, у партызанскіх атрадах ці падполлі. Кнігі гэтыя павінны былі ўключаць у сябе мастацкія творы, успаміны, лісты. Тады ж чытач змог атрымаць у гэтай серыі кнігі Х. Шынклера, М. Сурначова, Г. Шведзіка…

Звычайна, калі мы хочам пахваліць нейкі мастацкі твор, то гаворым, што ў ім відаць сама сутнасць творчасці пісьменніка. І не толькі: у ім чуецца дыханне народнага жыцця.

Такой паэзіяй для В. Бечыка была паэзія гадоў Айчыннай вайны. Такою ён яе прадставіў і ў зборніку «Песні змагання», куды ўключаны вершы сарака аднаго беларускага паэта — удзельніка тых векапомных дзён.

Больш за ўсё і вышэй за ўсё Варлен Бечык цаніў у літаратуры наогул, у паэзіі — асабліва, праўду. А праўда літаратуры — гэта праўда жыцця, па-мастацку глыбока і ярка — праўдзіва — узноўленая. Яна ў рэальнай узноўленасці пафасу, шчырасці аўтаравага голасу, арганічнасці выказвання, натуральнасці гучання паэтычнага слова.

Тое ж стаўленне было і да крытыкі. Да сваёй і да сябе таксама. У дзённіку за 1970 год зазначае: «Толькі не маніць і ў прынцыпах не хістацца! — вось што важнае мяне зараз турбуе». У 1979-м: «Аб звужэнні сферы крытыкі —“спецыялізацыя”. А ўвесці ў размову само жыццё, яго працэсы, з’явы, з тым, пра што думаюць і ад чаго гаруюць людзі, а пасля — і кнігі, што вядуць у гэта жыццё». І тут жа: «Патрэбна крытыка высокіх крытэрыяў (гэта адно) і крытыка высокіх ідэалаў (дакладней, каб не было стылявой блытаніны): крытыка з высокімі ідэаламі, з шырынёй не толькі літаратурна-эстэтычнай сферы, але пранікнення ў жыццёвае і ахопу жыццёвага».

У Бечыка-крытыка было выключна развітае пачуццё праўдзівасці. Любы фальш у літаратуры, у творы адчуваў адразу. Бо літаратура ў часы застойныя навучылася падаваць праўду з такой колькасцю «але», што яна ў канчатковым выніку губляла сваю сутнасць, так гэтую праўду прыгладжваць, прычэсваць, што і пазнаць яе нельга было.

«Пропаведзі сумлення і шчырасці ў нас — у літаратуры, крытыцы — часта не хапае іменна сумлення і шчырасці. Яны як быццам і ёсць, але побач — маленькія хітрасці, дробныя падтасоўкі і вось ужо — няшчырая шчырасць, шчырая няшчырасць».

Крытык востра адчуваў небяспеку для літаратуры паўпраўды, «шчырай няшчырасці, бо разлічаны яны заўсёды на падман, разлічаны не на рэальнасць (няхай і эстэтычную), а на гульню, гульню ў паддаўкі з рэчаіснасцю. Такая паўпраўда і няшчырая шчырасць або шчырая няшчырасць намнога горш адкрытай няпраўды і няшчырасці».

Калі паспрабаваць вызначыць галоўныя апорныя катэгорыі, на якіх грунтуецца ўся сістэма эстэтычных каардынат крытыка, то, безумоўна, найперш давядзецца гаварыць пра шчырасць і праўдзівасць. Чытаючы яго крытычныя кнігі «Свет жывы і блізкі» (1974), «Беларуская савецкая лірыка» (1979, сумесна з М. Ярошам), «Шлях да акіяна» (1981), «Прад высокаю красою…» (1984), яго шматлікія артыкулы і рэцэнзіі, лёгка заўважаеш, што не толькі ацэнка паэтаў, іх творчасці, асобных твораў падпарадкаваны менавіта ідэі праўдзівасці і шчырасці. Ідэя гэтая складае асноўны пафас творчасці самога В. Бечыка. Ды не толькі творчасці, але і яго жыццёвых паводзін.

Праўдзівасць — гэта жыццёвасць.

7 сакавіка 1983 года Бечык запісвае ў дзённіку: «Напісаць калі-небудзь артыкул “Жыццёвасць”. Некалі Блок пісаў: “…нигде не жизненна литература так, как у нас в России”. Паэты пайшлі ў вытанчанасць, абразкі, эцюды, імпрэсіі — па-за абставінамі, дачыненнямі, рэаліямі жыцця. Няма кантактаў са штодзённасцю.

Прыхільнікі Алеся Разанава (вечар у Доме мастацтваў) паляць свечкі, гавораць пра моц і свята інтэлекту (няхай), крычаць: "Слава Разанаву!" (гэта недарэчна); але ж не рабіць усю паэзію інтэлектуальным шаманствам — хадзіце па зямлі, бачце жывых людзей, чуйце пахі і гукі, не забывайце пра хлеб, станок, карову і авечку…»

Можа здацца, што Бечык зусім не прымае паэзію Разанава. Але гэта не так. Ён толькі супраць усялякай гульні ў паэзіі і з паэзіяй. Гэтага не дараваў нікому. Не адзін раз даводзілася чуць яго спрэчкі ў размове пра паэзію Я. Еўтушэнкі ці то А. Вазнясенскага. Да іх творчасці і да іх саміх у яго не было апалагетычных адносін. Шмат бачыў ён тут самалюбавання, рэкламнасці, клопату пра форму.

Вось адзін запіс у дзённіку: «"Прорабы духа" А. Вазнясенскага. Чытаць, вядома, цікава. Аднак занятасць сабой, самарэклама, снабізм» (21 студзеня 1985 г.).

Адразу ж і другі запіс: «У № 11 "Октября" за 1984 г. артыкул А. Адамовіча "Делайте сверхлитературу!.." Усё ж, асмельваюся думаць, рабіць трэба літаратуру, толькі сапраўдную…»

Гэтыя крытычныя заўвагі датычаць пэўных канкрэтных фактаў. Творчасць жа гэтых аўтараў Бечык цаніў высока. Так, напрыклад, у пасляслоўі да, магчыма, найбольш складанай на той час кнігі А. Разанава «Шлях-360» пісаў: «Драматычная, актыўна жыццесцвярджальная пазіцыя Алеся Разанава па-свойму пранікае ў свет сучаснасці. І лепшыя творы паэта ўваходзяць у душу, становяцца сапраўднай — чалавечай і змястоўнай — паэзіяй».

Пераважная большасць цытат, як відаць тут, узята з дзённікавых запісаў. І цытаты гэтыя з'яўляюцца яшчэ адным (няхай сабе і не галоўным) сведчаннем вернасці крытыка прынцыпам праўдзівасці і шчырасці. Думкі, запісаныя для сябе, у творчасці — кнігах, артыкулах, рэцэнзіях — сталі вызначальнымі крытычнымі ідэямі.

У адным з позніх артыкулаў «У чаканні галоўнага (слова ў дыскусіі пра сучасную паэзію)» (1983) Варлен Бечык паглыбляе думку пра жыццёвасць, паняцце жыццёвасці звязвае з маральнасцю, а маральнасць, у сваю чаргу, з мастацкасцю. Піша ўсхвалявана: «А занятасць сабою, мітусня, зніжэнне крытэрыяў, адсутнасць самакантролю прыводзяць да адчувальных маральных страт. У паэзіі амаральна "чырыкаць", бяздумна пырхаць ад галінкі да галінкі, ад ручайка да ручайка. Амаральна не бачыць галоўнага. Амаральна шукаць лёгкіх шляхоў. Амаральна не чуць людскога гора, быць самаўлюбёным, няўважлівым». Думка працягваецца: «Мне заўсёды здавалася, што маральнае пачуццё павінна быць бездакорным у паэта, пісьменніка. Ні драбінкі фальшу, ні адцення няпраўды! Яшчэ не сказаў, а ўжо адчуў: нельга! не так!»

І гэта не проста гучныя словы, голая дэкларацыя. Крытык іх слушнасць даводзіць шматлікімі прыкладамі з тагачаснай беларускай паэзіі, наогул літаратуры. Тут дастаткова прачытаць артыкул «Толькі без "сю-сю"…» А з якой неабвержанай сілай пацвярджаюць гэта дзённікавыя запісы, так багата насычаныя паэтычнымі тэкстамі.

Варлен Бечык надзелены быў шырокаю і чулаю душою, добрым, спагадлівым сэрцам, быў чалавек лагодны і памяркоўны. І ён дзесьці ўвесь час свядома непакоіўся, нават нібы баяўся, каб яго чалавечая добрасць і лагоднасць не сталі крытычнай (ды і чалавечай) бесхарактарнасцю, якая роўная беспрынцыповасці.

Непакой суб'ектыўна зразумелы. Але здарыцца такое не магло. Не магло не толькі таму, што Бечык не хацеў гэтага. Ён проста не мог гэтага зрабіць. Не мог, бо яго маральныя прынцыпы — крыштальная сумленнасць і праўдзівасць, яго творчая пазіцыя, выверанасць эстэтычных крытэрыяў не дазвалялі яму так зрабіць. І як чалавеку, і як крытыку.

Мне шмат гадоў давялося з Варленам Бечыкам працаваць: спачатку ў Інстытуце літаратуры, пазней, ужо ў апошнія гады, — у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Згадваецца праца ў інстытуце. Абмеркаванне завершаных тэм і раздзелаў. Што гаварыць? Для яго тут не было пытанняў. Ён схопліваў і моцныя, і слабыя бакі

любой працы. Часта пра іх ён мог сказаць яшчэ да чытання, бо добра ведаў чалавека (аўтара), бо чытаў усё, што той дагэтуль напісаў. Чытаў усё, што пісалі нашы крытыкі наогул, — уважліва, прыдзірліва. Любіў асабліва крытыку эсэістычную — адкрыта эмацыянальную, зацікаўленую рэальным жыццём і чалавекам.

Што ж да абмеркавання літаратуразнаўчых прац, то для яго самым складаным, а часам і пакутлівым, было — як гаварыць. І не ў тым сэнсе, каб давесці сваю думку, каб яе правільна зразумелі: Бечык умеў гаварыць глыбока, дакладна і нераўнадушна. Але гаварыў ён не толькі аўтару-навукоўцу, але і чалавеку. Чалавеку (і аўтару), які часта толькі ўступаў на творчую дарогу, рабіў на ёй першыя крокі. І як важна было заўважыць адметнасць гэтых крокаў, звярнуць увагу, падказаць. І гэта ён рабіў у першую чаргу, імкнуўся знайсці штосьці адметнае, сваё для аўтара, хоць і не заўсёды было гэта проста зрабіць. Разам з тым выказваў і крытычныя заўвагі, пажаданні — тактоўна, з агаворкамі. Ды і тут не ўсё было проста і лёгка. Нярэдка сам Бечык сваімі выступленнямі быў незадаволены, перажываў, пакутліва моршчыўся. Тыя ж, пра каго ён гаварыў, чыя праца абмяркоўвалася, відаць, ніколі не адчувалі сябе пакрыўджанымі ці нават асабліва незадаволенымі. З імі гаварылі сур'ёзна, як з роўнымі; гэта абнадзейвала, натхняла. А колькі пасля афіцыйнага абмеркавання даводзілася яму яшчэ гутарыць з тым ці іншым навукоўцам.

І я цвёрда перакананы, што такія таварыскія гутаркі не для аднаго з іх сталі ўрокам высокага служэння літаратуры, сапраўды прафесійных адносін да мастацкага слова.

Асабліва такія гутаркі прыйшлося бачыць і чуць у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

9.IV.1981 г. Бечык запісвае ў дзённіку: «Урэшце, услед за Серафімам Андраюком, які ідзе на пасаду галоўнага рэдактара, М. Ф. Дубянецкі (дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура». — **С. А.**) прапанаваў і мне пераходзіць у выдавецтва — намеснікам галоўнага».

А ўжо 9.Х. занатоўвае: «Валынданне з кнігай Алы Церахавай. Разбіраўся сам старшыня камітэта Міхаіл Іванавіч Дзялец». Тут жа: «Нагарэла за Бартохаву…»

У галоўнай рэдакцыі Варлен Леанідавіч вёў паэзію. Было ўсяго: кантроль з боку вышэйшых інстанцый быў даволі строгі. Гэта была сістэма. Але не гэта істотна… Бечык працаваў адказна, патрабавальна, але спакойна, немітусліва. З самымі рознымі аўтарамі ў размове ён умеў знайсці належны тон, спакойны, разважлівы. Колькі паэтаў-пачаткоўцаў, маладых і ўжо даволі вопытных — заходзілі да яго, каб пагутарыць, так, пагутарыць, а не выслухаць заўвагі пра свой чарговы рукапіс. Гутаркі гэтыя былі працяглыя, прафесійныя, тактоўна-ўдумлівыя, поўныя павагі да творцы і разам з тым паслядоўна прынцыповыя. Адны выходзілі ад яго ўзрушана-натхнёныя, іншыя паглыблена-задуменныя, а той-сёй і не без злосці. Праўда, апошніх было вельмі і вельмі мала. Але былі. Бечык не мог іх зразумець, моцна перажываў, вінавата неяк цёр рукой вочы, пазіраў неяк быццам крыху вінавата-разгублена. Асабліва, калі хто-небудзь у яго прынцыповай паэзіі імкнуўся знайсці пазалітаратурныя матывы. Хоць, зразумела, штосьці падобнае ў дадзеным выпадку выключалася абсалютна. З гэтым напэўна пагодзіцца кожны, хто хоць трохі ведаў гэтага сумленнейшага чалавека і пісьменніка.

Ва ўсякім разе для мяне асабіста тут не было ніякіх пытанняў. Ды і не магло быць. Магу ўпэўнена сказаць, што я добра ведаў гэтага чалавека і крытыка. У 1972 г. Бечык стаў супрацоўнікам аддзела беларускай савецкай літаратуры акадэмічнага Інстытута літаратуры. Сядзелі ў адным пакоі. Пазней — выдавецтва. Тут нашы ўзаемаадносіны, агульныя па працы, па нашай прафесійнай дзейнасці, сталі больш даверлівыя і шчырыя і непасрэдныя ў чалавечым плане. Нярэдка мы падоўгу гутарылі на самыя розныя тэмы. Бечык жыў вельмі актыўным духоўным і эмацыянальным жыццём. Яго ўсё непасрэдна закранала — палітыка, прырода, грамадскае жыццё, праца, літаратура (і не толькі беларуская). Да ўсяго ў яго былі свае адносіны. З'явілася поўная ўпэўненасць, што ўсё тое, пра што ён гаворыць, пра што мы разважаем, спрачаемся — усё гэта шчыра, адкрыта, праўдзіва.

Пройдуць гады. У 1993 г. выходзіць кніга яго старонак дзённіка «Радкі і жыццё». І вось у вялікім запісе, прысвечаным самым розным падзеям, з'явам жыццёвым і літаратурным, пазначаным 21.І.1985 г., чытаю: «Што цешыць, што саграваe душу ў густым бязладдзі і тлуме — гэта ўзаемаразуменне з Серафімам Андраюком. Імпануе ўсё: і яго бездакорная сумленнасць, і прынцыповасць, і адданасць справе, творчая і адміністрацыйная таленавітасць. Адчуваю ў ім не проста аднадумца — сапраўднага друга. Наогул тут, у выдавецтве, адчуваю прыязнасць многіх і не горшых — людзей».

Прачытаў з прыемнасцю. І не толькі таму, што словы гэтыя цешаць самалюбства. Хоць ёсць і гэта: усе мы не бязгрэшныя. Ён давяраў, верыў мне. Усё, што гаварылася, абмяркоўвалася, аб чым спрачалася — усё гэта праўдзіва, шчыра, адкрыта. Творчасць крытычная, творчасць для сябе (дзённікі, запісныя кніжкі), праца, узаемаадносіны з таварышамі — усюды Варлен Бечык застаецца сам сабою — уважлівым, памяркоўным, з моцнай верай у жыццё, сумленным. Ён хацеў такім быць, імкнуўся.

Яшчэ дзесьці на пачатку творчага шляху (20.VI.1967) у дзённіку запісвае: «Хачу жыцця поўнага, чыстага, святога, а сяджу ў драбязе, лухце, мітусні. У жыцці кіравацца толькі лепшымі пачуццямі».

Трохі пазней (ужо 4.IX.1970 г.): «Толькі не маніць і ў прынцыпах не хістацца! — вось што важнае мяне зараз турбуе».

6.VII.1979. — «Хочацца жыць толькі шчырасцю і працай — а без гэтага не можа быць шчасця».

Усе гэтыя выказванні ў асноўным адносяцца да чалавека, а не да крытыка. Але ж Бечык — крытык паходзіць адсюль, тут яго выток.

Па-свойму гэтая заканамернасць — залежнасць творчасці пісьменніка ад яго чалавечай сутнасці — адбілася, выявілася ў крытычнай дзейнасці Варлена Бечыка.

У кнізе «Радкі і жыццё» ёсць такі запіс: «Паводле слоў Гётэ, каб лепш спасцігнуць сэнс твора, мала ведаць яго змест, трэба прасачыць, як ён ствараўся» (24.IX.1984). А гэта ў найбольшай ступені магчыма пры добрым веданні жыцця (і не толькі літаратурнага) аўтара, чый твор разглядаецца, аналізуецца.

Так найбольш глыбокія, эстэтычна дакладныя, пераканаўчыя падаюцца тыя літаратурныя даследаванні, крытычныя артыкулы, рэцэнзіі, з аўтарамі якіх крытык сябраваў у свой час, таварышаваў, кантактаваў. Іх прысутнасць у крытыцы адчуваецца, відаць, нават тады, калі іх непасрэдна няма там, яны адсутнічаюць. Гэта адчуваецца ў самой духоўна-эмацыянальнай атмасферы. Дзённікавыя запісы ў кнізе «Радкі і жыццё» пацвярджаюць гэта.

Вось запісы 1972 года. Пра яго тады якраз Бечык пісаў.

1.IV.: «Учора — больш за тры гадзіны размовы з Арк. Куляшовым у яго дома. Тыдзень раней я выступаў з "дакладам" пра яго ў Купалаўскім музеі. Патрапіў некалькі істотных момантаў».

27. V.: «Учора запрасілі мяне да А. К. і была з ім доўгая размова. Я чытаў яго новую рэч — "Варшаўскі шлях", напружаную і духоўную».

25. VI.: «21-га зноў быў у Арк. Алякс-ча Куляшова. Гаварылі аб сумленнасці, аб "благім" у паэце (наводзіў я)».

І як вывад у артыкуле «Урокі Куляшова» (1978): «Сама мера чалавечай вартасці і каштоўнасцей жыцця ў творчасці Куляшова абапіралася на ўвесь жыццёвы, духоўны вопыт паэта, не дапускала прыблізнасці і спрашчэння, улічвала складанасць і драматызм жыцця».

Вось гэтая ідэя сузалежнасці лёсу паэтычнага і лёсу жыццёвага, абумоўленасць характару паэтычнай творчасці ўсёй біяграфіяй творцы для Бечыка была вызначальнай.

Яшчэ раней у кнізе «Свет жывы і блізкі» (1974) у артыкуле пра творчасць Куляшова, адзначаючы спалучэнне ў ёй інтэлектуалізму, рацыянальнага пачатку і эмацыянальнай насычанасці, пачуццёвасці, Бечык падкрэсліваў: «Яны (творы. — **С. А.**) пeражыты ўсёй істотай, усім вопытам і вынесены з душы "напаверх" так,

быццам самі вынікалі з нейкай жыццёва-прасторавай сітуацыі і знайшлі сябе, склаўшыся ў самы мэтазгодны і паэтычна-паслядоўны, жывы і арганічна цэласны выклад яе...»

Паэзія А. Куляшова ў крытыка карысталася асаблівай любоўю і пастаяннай увагай. Як вядома, у 1981 г. Бечык выдаў кнігу пра яго паэзію «Шлях да акіяна». Падрыхтаваў вялікі том вершаў і паэм паэта для «Библиотеки поэта» (вялікай серыі). Зрабіў усё гэта на самым высокім літаратурна-тэксталагічным узроўні. Прызнаваўся, што пісаць пра паэзію Аркадзя Куляшова яму было заўсёды «лёгка і радасна». Але зазначае далей: «Вядома, я адчуваў пры гэтым і вялікую адказнасць і цяжкасць задачы. Але ўсё роўна — станавілася неяк па-асабліваму светла і панаваў святочны настрой. Хацелася гаварыць незвычайна, нават урачыста. Акрыляла адчуванне вялікіх прастораў, духоўнай сілы і мастацкай велічы куляшоўскай паэзіі». У паэзіі Куляшова прываблівала яе філасафічнасць, жыццёвая, чалавечая, канкрэтная змястоўнасць, захапляла багаццем чалавечых пачуццяў, выяўленых ярка, натуральна, даступна. Наогул крытыку ўласціва арганічна-цэласнае, глыбокае бачанне і адчуванне творчасці асобнага паэта. Ён дакладна адчуваў і перадаваў стан паэзіі, яе рух, рух паэтычнай дзейнасці і паэтычнага слова.

Найбольш шчырай асабістай любоўю і ўвагай карысталася паэзія, пазначаная высокай прастатой, глыбокай шчырасцю і праўдзівасцю. Таму, відаць, ніколькі нас не павінна здзіўляць асаблівая Бечыкава любоў, пастаянная ўвага да паэзіі Аркадзя Куляшова.

Прыкладам асабліва яркім, асабліва пераканальным сапраўднай высокай паэзіі для крытыка была паэзія А. Твардоўскага, з кім доўгія гады звязвалі Куляшова цесныя сяброўскія ўзаемаадносіны. Творчасць слыннага паэта, яго грамадзянская пазіцыя ў апошнія гады жыцця і дзейнасці заўсёды выклікалі гонар і захапленне. Праўда паэзіі Твардоўскага, яе глыбіня, натуральнасць і зразумеласць былі самым важным аргументам у спрэчках, што не раз горача вяліся вакол пытання прызначэння паэзіі, прызначэння мастацтва наогул.

Бывала, хто-небудзь з суразмоўцаў пачынае ўпэўнена даказваць ідэйна-змястоўную неабходнасць ускладненай формы, напрыклад, у таго ж А. Вазнясенскага. Ледзь не як адзінамагчымае. Бечык слухаў, маўчаў. Потым пытаў: «А Твардоўскі? А ў Твардоўскага, што, менш значныя ідэі, змест не глыбокі?»

І цытаваў верш ці страфу.

А мог ён бясконца цытаваць на памяць самых розных паэтаў — вершы, страфы, радкі.

Зразумела, нельга ні ў якой ступені думаць, быццам Бечыка-крытыка цікавіла толькі паэзія простая, шчыра-адкрытая і зразумелая. Зусім не. Мастацкі пошук, эксперымент ніколі ім не адмаўляўся. Дастаткова прачытаць яго артыкулы, яго «запісныя кніжкі», каб пераканацца, што ў полі яго творчай цікавасці знаходзілася ўся паэзія, паэзія наогул. І не толькі, зразумела, беларуская. Ды і не толькі паэзія.

І пры ўсім пры тым было ў яго ўсведамленне, вынашанае асабіста, выверанае жыццём, пацверджанае жыццём і часам, што раку нацыянальнай паэзіі жывяць крыніцы, якія выцякаюць з глыбіняў маці-зямлі, што такая паэзія, як і сцюдзёная крынічная вада, патрэбна ўсім і кожнаму.

Аналізуючы па-грамадзянску мужную і страсную паэзію Пімена Панчанкі, захапляючыся ёю, сцвярджаў, што «паэт заўсёды адчувае сябе сярод людзей, у гушчы іх штодзённага жыцця і звычайных спраў. Пачуцці паэта не адрываюцца ад таго, чым штодня жывуць людзі. Лірычная асоба выяўляецца ў ролі суседа, бацькі, дзеда, сына, вернага друга, радавога пасажыра і пакупніка — “проста” чалавека, які знаецца з іншымі людзьмі будзённа, проста, па-свойску».

Так пісаць пра паэта, яго творчасць можна толькі тады, калі добра ведаеш яго як чалавека, адчуў саму атмасферу яго ўзаемаадносін з іншымі людзьмі, атмасферу штодзённага жыцця. Такое крытык змог уведаць у 80-я гады, калі яму пашчасціла не адзін раз сустракацца са слынным паэтам, пабываць у яго дома.

25.І.1980 г. запісвае: «У Панчанкі дома. Неяк проста і добра, хоць я і саромеўся. Спачатку ў кабінеце. Пакрытая байкавай коўдрай канапа. Завалены газетамі стол».

Зразумела, асабліва цесныя сяброўскія, таварыскія ўзаемаадносіны ў В. Бечыка былі з пісьменнікамі пакалення дзяцей вайны, сваімі аднагодкамі, крыху маладзейшымі (А. Вярцінскі, Р. Барадулін, Я. Сіпакоў, І. Пташнікаў, А. Кудравец, Я. Янішчыц). Пра кожнага з іх не адзін раз згадваецца цёпла ў дзённікавых запісах. Артыкулы пра іх творчасць вылучаюцца асаблівай чалавечай цеплынёй, добразычлівасцю, што ніколькі не выключае дакладны эстэтычны аналіз, слушнасць ацэнак і вывадаў. Багата згадак у дзённіках пра Барадуліна, Вярцінскага, Янішчыц... Пра Пташнікава менш. Хаця адна заўвага мяне асабіста (а я шмат пісаў пра творчасць гэтага пісьменніка) закранула.

28.X.1980 г. запісана сярод іншага і такое: «Даклад Адамовіча на семінары — тое ж, што і ў СП пра Чорнага. Як заўсёды ў яго — змястоўна, але з суб’ектыўнымі дамешкамі — ігнараваннем Пташнікава...»

Тут жа прыгадалася мне нядаўняе. Пісаў артыкул пра Д. Бугаёва. І вось у артыкуле пра Алеся Адамовіча крытык згадвае такі эпізод. Бугаёва аспірантка напісала кандыдацкую дысертацыю па творчасці І. Пташнікава. Бугаёў папрасіў Адамовіча выступіць на абароне першым апанентам. Адамовіч «катэгарычна» адмовіўся, падкрэсліў, што ўвогуле не жадае гаварыць пра Пташнікава, а на абароне гэта непазбежна прыйшлося б рабіць. А яшчэ патлумачыў: «Пісьменнік ён магутны, а чалавек... Таму я прынцыпова не хачу звязвацца з ім».

Далей разважанні самога Бугаёва:

«Што ж бывае і такое. Напэўна гэта можна назваць несумяшчальнасцю характараў, а хутчэй — жыццёвых пазіцый і маральных прынцыпаў, якія для Адамовіча заўсёды былі вельмі важнымі».

А як у Пташнікава? Ці можна пісаць творы такой мастацкай сілы, не валодаючы высокімі маральнымі прынцыпамі? І пачуццямі?

У Бечыка запіс (5.VI.1972): «Размова з Пташнікавым па тэлефоне (пішу пасляслоўе да яго кнігі). Ён кажа, што часам нават плакаў над рэц-яй аб “Тартаку”».

У гэтай сувязі хочацца згадаць вось пра што. У адказе на пытанне адной анкеты: «Класічная “ваенная” літаратура для вас — гэта (аўтары, творы)» — Янка Брыль даў такі адказ: «Нашай класікай у “ваеннай” літаратуры мне бачацца ў паэзіі лепшыя вершы Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Аляксея Пысіна, а ў прозе — Васіль Быкаў, Іван Пташнікаў».

Дарэчы, Бечык у сваім дзённіку за 1968 год (30. V.) робіць такі запіс: «Маю — канец. У маіх бязлюдных днях сёння густа. Гаворка з найразумнымі і найсумленнымі людзьмі — Брылём і Панчанкам».

Пра творчасць І. Пташнікава (узяўшы за аснову аповесць «Тартак») крытык напісаў адзін з самых глыбокіх і дасканалых артыкулаў — «Збалелая памяць». Увогуле ж пра творы прозы пісаў мала — В. Быкаў, А. Кудравец...

Пра каго б ні пісаў Варлен Бечык: Янку Купалу ці Максіма Багдановіча, Аркадзя Куляшова ці Пімена Панчанку, Алеся Дудара ці Уладзіміра Хадыку, пра паэтаў ваеннага пакалення ці тых, чыё дзяцінства было апалена тымі ваеннымі гадамі, пра маладзейшых Я. Янішчыц, А. Разанава, А. Сербантовіча, — ён заўсёды дакладна вызначаў месца кожнага ў нацыянальнай паэтычнай плыні, выяўляў і акрэсліваў рэальныя — грамадскія і асабістыя — вышыні паэтычнай адметнасці, паказваў жыццёвую патрэбу паэзіі кожнага.

Звычайна калі мы хочам пахваліць нейкі мастацкі твор, то гаворым, што ў ім адчуваецца, відаць увесь пісьменнік, яго творчасць. І не толькі: у ім чуецца дыханне народнага жыцця, адчуваецца твая, чытацкая, асабістая далучанасць да гэтага жыцця.

А як жа ў крытыцы? Ды, напэўна, таксама. Апроч таго, што аб’ектам крытычнага даследавання і асэнсавання найперш з’яўляецца рэчаіснасць, узноўленая ў мастацкім слове, — літаратура. А ўжо гэтая рэчаіснасць — мастацкая — вывяра-

ецца непасрэдна жыццём. Дык вось і ў крытычным творы, сапраўдным крытычным творы, заўсёды адчуваецца і бачыцца і творчасць пісьменніка, і літаратура пэўнага напрамку, жанру, нарэшце, пэўнага часу, бачыцца і час гэты.

Чытаючы артыкулы абагульняльнага характару «У чаканні галоўнага», «Толькі без “сю-сю”», «Ці адстае паэзія», «Набыццё вышыні» і інш., па-добраму зайздросціш, здзіўляешся і багаццю ўключанага паэтычнага матэрыялу, і ўменню праз гэты матэрыял (паэтычныя з’явы і факты), дзякуючы яму, высока гаварыць пра жыццё і пра чалавека, захапляешся той душэўнай адкрытасцю і шчырасцю, што надае крытычнаму слову свабоду і арганічнасць. Бечыкавы артыкулы заўсёды нясуць багатую інфармацыю, напоўненыя глыбокімі актуальнымі і значнымі жыццёвымі і эстэтычнымі праблемамі, моцна насычаны шчырым чалавечым хваляваннем, адкрытай радасцю, стрыманым болем. Яго манера пісьма свабодная ад усялякага схематызму і зададзенасці, эмацыянальна адкрытая і шчырая. Разам з тым унутрана падпарадкаваная пэўнай ідэі-страсці. Яго артыкулы канцэптуальныя кожны паасобку. Разам жа выяўляюць даволі цэласную ў сваіх асноватворных эстэтычных і этычных ідэях сістэму. Цэласную не ў сэнсе завершанасці, усебаковай выверанасці і аргументаванасці, а ў сэнсе адзінства нязменнай вернасці асноватворным ідэйна-эстэтычным крытэрыям. Крытэрыям, якія народжаны, паглыблены і акрэслены самім жыццём крытыка, аплоднены многімі лепшымі здабыткамі нацыянальнай (і не толькі) крытычнай і літаратурна мастацкай практыкі, рэалізаваны і замацаваны ўсёй творчасцю крытыка. Крытэрыі гэтыя — праўдзівасць, шчырасць, маральнасць, народнасць, чалавечнасць...

І вось тое, што ўсе артыкулы — вялікія і малыя (пра рэцэнзіі як штосьці менш значнае, крытычны жанр менш змястоўны гаварыць не даводзіцца) — успрымаюцца як старонкі адной усхваляванай, эстэтычна выверанай кнігі, з’яўляецца самым важкім доказам таго, у якой ступені крытычная творчасць была для Варлена Бечыка натуральным станам жыццядзейнасці. Такія артыкулы, як, напрыклад, «Таварыш, народ, Радзіма», «Правам салдата і сейбіта», «Збалелая памяць», «З душы адкрытай», прысвечаныя канкрэтным творам адпаведна Васіля Быкава, Аляксея Пысіна, Івана Пташнікава, Еўдакіі Лось, носяць выразна выяўлены манаграфічны характар. Кніга, твор разглядаецца, аналізуецца крытыкам не самі па сабе, не ідэйна і эстэтычна абмежавана і замкнёна, а як вынік усёй папярэдняй творчасці пісьменніка, як выяўленне яе характару і сутнасці і, магчыма, галоўнае — яе жыццёвай своеасаблівасці. Прычым не бачыцца тут ніякай канцэптуальнай зададзенасці, нідзе не праступаюць абрысы першапачатковай ідэйнай задумы. Перад намі — жывая, свабодная размова пра пісьменніка, пра літаратуру (найчасцей паэзію), пра народ. Размова чалавека, глыбока адданага мастацкаму слову, чалавека, які ў свеце літаратуры заўсёды быў свой — свой па таленце, прызванні, сумленні...

Апошняя прыжыццёвая кніга Варлена Бечыка мела назву «Прад высокаю красою...» (1984). У якасці эпіграфа да аднаго раздзела крытык узяў радкі Максіма Багдановіча:

І прад высокаю красою,
Увесь зачараваны ёй,
Скланіўся я душой маёй,
Натхнёнай, радаснай такою,
А ў сэрцы хораша было,
Там запалілася цяпло.

І эпіграф, і назва кнігі зусім не выпадковыя. Яны ўнутрана вельмі блізкія крытыку, асабліва адпавядаюць яго творчай пазіцыі. Ды і чалавечай сутнасці. Высокай красою была надзелена для Бечыка мастацкая літаратура, найперш — паэзія. І перад усім — родная беларуская паэзія. Паэзіі ён быў адданы асабліва, жыў паэзіяй. У свеце паэзіі, у стыхіі паэтычнага слова, якая была для яго надзвычай блізкаю, пачуваў ён сябе вельмі свабодна, арганічна, Разам з тым і ўнутрана засяроджана, у вышэйшай ступені адказна. Як крытык, як чалавек.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

# КРАЯЗНАЎЧАЯ ПРАБЛЕМАТЫКА Ў СУЧАСНЫХ СРОДКАХ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ (на прыкладзе газет «Звязда» і «Літаратура і мастацтва»)

Што такое краязнаўства? Па-першае, — эканамічнае, палітычнае, гістарычнае і культурнае развіццё мікрараёна, вёскі, горада, гэта — «комплекс навуковых дысцыплін, якія адрозныя па змесце і прыватных метадах даследавання, але ў сваёй сукупнасці вядуць да навуковага і ўсебаковага пазнання края» [1, с. 80], а па-другое, гэта — «усебаковае вывучэнне … нейкай пэўнай тэрыторыі, якое праводзіцца на навуковай аснове, пры гэтым аб’ектамі даследавання з’яўляюцца: сацыяльнае аблічча раёна, вобласці, прыродныя ўмовы і г. д.» [2, с. 3—4]. Сродкі масавай інфармацыі, перш-наперш перыядычны друк, з’яўляюцца адной з важнейшых крыніц краязнаўчай інфармацыі. У свой час літаратуразнаўца М. Піксанаў заяўляў, што органы друку «ўтрымліваюць шмат дакладных дадзеных пра мясцовае культурнае жыццё» [3, с. 64].

Выразнае месца сярод дысцыплін, якія адкрываюць гісторыю краю, займае літаратурнае краязнаўства — «тая ж гісторыя літаратуры, але якая адрозніваецца асаблівым падборам матэрыялу, асаблівым аспектам яго разгляду» [4, с. 162]. Дз. Ліхачоў адзначаў: «...зразумець літаратуру, не ведаючы мясцін, дзе яна нарадзілася, не меней цяжка, чым зразумець чужую думку, не ведаючы мовы, на якой яна выкладзена. Ні паэзія, ні літаратура не існуюць самі па сабе: яны вырастаюць на роднай глебе і могуць быць зразумелымі толькі ў сувязі з сваёй роднай краінай» [5].

У сённяшняй інфармацыйнай прасторы гісторыка-краязнаўчай, літаратурна-краязнаўчай праблематыцы адведзена шмат месца. Гэта выяўляецца як у выданнях спецыяльнага накірунку (часопісы «Спадчына», «Беларуская мінуўшчына», «Беларускі гістарычны часопіс», «Роднае слова», «Краязнаўчая газета»), так і ў выданнях масавых, грамадска-палітычных, якія па сваіх задачах зарыентаваны на дастаткова шырокае кола чытачоў (газеты «СБ. Беларусь сегодня», «Звязда»).

Звернемся спачатку да публікацый апошняга часу на старонках урадавай і парламенцкай штодзённай газеты «Звязда». Асноўнае месца ў абсягах гісторыка-краязнаўчай праблематыкі займаюць артыкулы, карэспандэнцыі, гутаркі, інтэрв’ю, рэпартажы, інфармацыйныя паведамленні, змешчаныя ў спецыяльным выпуску «Ігуменскі тракт». І хаця рубрыка пад такою назвай мае даўнюю гісторыю на старонках «Звязды», усё ж спецыяльным выпускам «Ігуменскі тракт» зрабіўся літаральна ў апошні час, пачынаючы з 2011 года. А сённяшнюю штотыднёвую перыядычнасць набыў зусім нядаўна — у другой палове 2013 г.

Давайце паспрабуем паразважаць, чым кіраваліся ў рэдакцыі газеты «Звязда», выбіраючы менавіта такую назву для гісторыка-асветніцкага, краязнаўчага праекта. У свой час існаваў на тэрыторыі Мінскай губерні Ігуменскі павет. Назву насіў па назве горада Ігумен (сучасны Чэрвень, адзін з райцэнтраў сённяшняй Мінскай вобласці). А ў губернскім Мінску сярод іншых гарадскіх тапонімаў быў і такі — Ігуменскі тракт. І зараз у сталіцы Беларусі ёсць вуліца Ігуменскі тракт. У Ленінскім раёне Мінска ў жылым раёне Лошыца, перасякаецца з вуліцай Янкі Лучыны. Бярэ свой пачатак ад вуліцы Маякоўскага і заканчваецца скрыжаваннем з Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогай. Перасякаецца Ігуменскі тракт

з вуліцамі, якія таксама носяць адметныя гістарычныя назвы, — імя Чыжэўскіх, Паўла Шпілеўскага, Іосіфа Гашкевіча, Янкі Лучыны, Прушынскіх. Брэнд Ігуменскага тракту і падаўся ў рэдакцыі старэйшай грамадска-палітычнай газеты Рэспублікі Беларусь даволі лагічным у дачыненні да адлюстравання гісторыка-краязнаўчай тэматыкі.

Якія ж тэматычныя абсягі засвойваюць журналісты і пазаштатныя аўтары ў межах тэматычнай старонкі «Ігуменскі тракт»? Па-першае, варта зазначыць, што падрыхтоўка спецыяльнага выпуску адбываецца ў межах работы аддзела культуры рэдакцыі. Журналістка Ніна Шчарбачэвіч, нядаўняя выпускніца Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, з'яўляецца вядучай старонкі, адказвае за падбор і апрацоўку матэрыялаў і сама актыўна працуе ў дадзенай тэматыцы як аўтар арыгінальных матэрыялаў. Істотная акалічнасць рэдакцыйнай палітыкі, што распрацоўка краязнаўчай праблематыкі цесна ўвязана з культуралагічным складнікам на старонках «Звязды». Краязнаўства не з'яўляецца другасным кірункам у беларускамоўнай нацыянальнай газеце, якая дэкларуе свае пазіцыі ўжо ў «шапцы» кожнага нумара, дзе поруч з назвай «Звязда» чытач знаходзіць наступныя словы: «Родная газета на роднай мове». «Краязнаўства — выразны складнік культуры і асветніцтва, жывы погляд на беларускую рэчаіснасць на працягу многіх стагоддзяў фарміравання народа Беларусі, фарміравання дзяржаўнасці ў нашай Айчыне». Да такой высновы падышлі ўдзельнікі размовы за «круглым сталом» «Краязнаўчы арсенал айчыннай публіцыстыкі» ў канферэнц-зале Выдавецкага дома «Звязда» ў кастрычніку 2013 года. Па-другое, аўтарскую прастору «Ігуменскага тракту» пачалі перш-наперш фарміраваць тыя гісторыкі, этнографы, фалькларысты, краязнаўцы, якія і раней, у папярэднія гады (а часам — і на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў) выступалі з самымі актуальнымі артыкуламі на старонках газеты «Звязда».

Значнае месца ў краязнаўчай старонцы займаюць матэрыялы, якія расказваюць пра сённяшні стан гістарычных мясцін Беларусі. Гэта датычыцца не толькі сядзіб, старадаўніх паркаў, але — і саміх паселішч, часам не вельмі вядомых у маштабе ўсёй краіны.

Асобна вылучаюцца артыкулы і карэспандэнцыі, прысвечаныя непасрэдна арганізацыі краязнаўчай работы, грамадскім музеям, даследаванням настаўнікаў і школьнікаў, сельскіх бібліятэкараў, якія па крупінках збіраюць звесткі пра родны край, яго ўраджэнцаў. З нядаўніх публікацый на гэтую тэму — карэспандэнцыя Алены Стэльмах «Маленькія хронікі Вялікага Сяла»: «Вясковая школа заўсёды верна служыць адной высакароднай мэце: сее «разумнае, добрае, вечнае». Ва ўсе часы яна — цэнтр духоўнасці і беларускасці. Менавіта такой з'яўляецца і школа ў вёсцы Вялікае Сяло, што знаходзіцца за сямнаццаць кіламетраў ад Дзяржынска. Непадалёку цячэ Малая рачулка. Яна ўпадае ў рэчку Пярэкуль, якая «перакульваецца» сабе з каменьчыка на каменьчык ужо не адно стагоддзе… Вось такая гармонія робіць надзвычай прывабнымі гэтыя мясціны для пакаленняў вялікасельцаў, мацуе ў іх вялікі гонар за сваю малую радзіму» [6].

Журналістка з Дзяржынска расказала пра тое, як у невялікай вясковай школе ўшаноўваюць гісторыю. У Вялікім Сяле працуе адмысловы музей «Азбука роднай гісторыі і прыроды». А мастак Наталля Ермаловіч і майстар Андрэй Мартынюк у двух экзэмплярах зрабілі кнігу з апісаннем гісторыі Вялікага Сяла і блізкіх ваколіц. У верасні 2013 г. «Ігуменскі тракт» змясціў карэспандэнцыю Ніны Шчарбачэвіч «Радня з чатырох стагоддзяў». У падзагалоўку — наступнае ўдакладненне: «У пошуках сэнсу жыцця ўраджэнец Ашмян стварае радавод усяго раёна». «Васіль Юраша стварыў радавод сваёй сям'і: дакапаўся аж да 1650-х гадоў. Усё змясціў у сямейнай «Фамільнай кнізе», якая выйшла невялікім тыражом: на ёй напісана, што прызначаецца родным і ўсім аматарам гісторыі. Працягваючы працу над уласным радаводам, стаў вывучаць і лёсы многіх суседзяў — так і атрымалася, што Юрша даследуе генеалогію многіх родаў былога Ашмянскага

павета… Ён прызнаўся, што гісторыя — гэта адзін з двух кітоў, на якіх трымаецца яго жыццё, хоць па адукацыі ён інжынер-сістэматэхнік…» [7].

Адной з задач газеты і «Ігуменскага тракту», у прыватнасці, і з'яўляецца выяўленне людзей апантаных, духоўна багатых, дзеяздольных. Дзеля гэтага, пачынаючы з 2013 года, «Звязда» заснавала конкурс «Мясціны, знітаваныя з душой», запрасіўшы да ўдзелу ў ім пазаштатных аўтараў. Настаўнікі, мясцовыя журналісты, студэнты і нават школьнікі сталі ўдзельнікамі гэтага грамадскага праекта. Дарэчы, да арганізацыі конкурсу спрычынілася і выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Па выніках, якія былі падведзены напярэдадні Дня беларускага пісьменства ў 2013 годзе, пераможцам конкурсу — аўтарам лепшых матэрыялаў былі ўручаны ў якасці ўзнагарод кнігі «Беларускай Энцыклапедыі».

Вельмі важная тэматычная дзялянка ў «Ігуменскім тракце» — асвятленне традыцый і абрадаў. З карэспандэнцыямі, артыкуламі і рэпартажамі на гэтую тэму выступаюць як навукоўцы, так і аўтары з месцаў. Газета праз рубрыкі кшталту такой, як «Традыцыі», імкнецца да стварэння ўсенароднай энцыклапедыі этнаграфічнай памяці нашай Айчыны.

Краязнаўства — занятак не толькі жыхароў малых паселішчаў, раённых цэнтраў. У апошні час у «Ігуменскім тракце» часта друкуюцца матэрыялы Дзіяны Серадзюк — пад рубрыкай «Гарадскія паданні». Журналістка расказвае пра гісторыю Мінска, вылучае найболей цікавыя архітэктурныя аб'екты, вядзе чытача па самых глухіх закутках нашай сталіцы. Выкарыстоўваючы багаты досвед вядомых экскурсаводаў, і сама Дзіяна Серадзюк становіцца добрым гідам па Мінску.

Пэўны час «Звязда» прадастаўляла нямала газетнай плошчы лаканічным публікацыям мастака і даследчыка айчыннай геральдыкі Уладзіміра Крукоўскага, якія расказаў чытачам пра прыватнаўласніцкія гербы. Дарэчы, пасля артыкулаў у «Звяздзе» гэтыя матэрыялы былі сабраны і выдадзены асобнай кнігай.

Гісторыю знакамітых прозвішчаў доўгі час у выпусках «Ігуменскага тракту» прыадкрываў мовазнаўца Ігар Капылоў. Пісьменнік і краязнаўца Аляксандр Вашчанка прапанаваў увазе чытачоў каля дваццаці артыкулаў, заснаваных на сучасным прачытанні грунтоўнага этнаграфічнага нарыса даследчыка XIX стагоддзя М. Нікіфароўскага «Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности». Першую частку гэтай працы можна назваць кулінарнай энцыклапедыяй. Вось А. Вашчанка і паглядзеў на гісторыю тых ці іншых страў, рэцэпты, апісанне якіх даў М. Нікіфароўскі, акрэсліў сучаснае бытаванне гэтых страў, выклікаў да размовы чытача «Звязды». Нікіфароўскі стаў своеасаблівым святлом, ліхтаром у даўніну, а краязнаўца А. Вашчанка справакаваў новы зрэз цікаўнасці да даўно забытага ці вядомага толькі спецыялістам даследавання. Тым самым аўтар «Ігуменскага тракту» вырашыў кардынальную задачу — задачу паяднання сучаснасці і гістарычнай памяці.

Аўтарскі склад «Ігуменскага тракту» даволі шырокі. Поруч з прафесійнымі журналістамі-«звяздоўцамі» Нінай Шчарбачэвіч, Ларысай Цімошык, Дзіянай Серадзюк тэматыку старонкі фарміруюць этнографы, фалькларысты, гісторыкі, літаратуразнаўцы, культуролагі — Янка Крук, Аксана Катовіч, Адам Мальдзіс, Анатоль Цітоў, Ігар Капылоў, Уладзімір Агіевіч і інш. Удзел дасведчаных навукоўцаў, спецыялістаў таго ці іншага накірунку ў вывучэнні гісторыі нашай Бацькаўшчыны надае «Ігуменскаму тракту» сур'ёзную вагу, пашырае чытацкую прастору.

Краязнаўчая старонка «Ігуменскі тракт» выразна прадстаўляе цэлы шэраг інфармацыйных, аналітычных і мастацка-публіцыстычных жанраў. У тэматычным выпуску ёсць узоры карэспандэнцыі, рэпартажа, артыкула, нататкі, гутаркі, нарыса, эсэ, рэцэнзіі, анатацыі. Нельга не адзначыць, што пэўную пячатку адметнасцей на характар жанраў накладвае тэматыка старонкі. Нават нататка ў «Ігуменскім тракце» адрозніваецца ад публікацый дадзенага жанру на іншых

газетных старонках. Поруч з традыцыйнай інфармацыяй друкуюцца пашыраныя інфармацыйныя паведамленні. Следам за выкананнем задачы па аператыўным інфармаванні нататка на старонцы «Ігуменскі тракт» носіць характар удакладнення, насычана падрабязнасцямі. Тым самым набліжаецца да карэспандэнцыі. Рэпартажы цесна спалучаны з выкладаннем ілюстрацыйнага матэрыялу. У прыватнасці, варта адзначыць публікацыі таленавітага фотажурналіста Анатоля Клешчука, які, здаецца, аглядае ўсю сучасную этнаграфічную, сакральную Беларусь. Дарэчы, часцей яго матэрыялы друкуюцца за «межамі» старонкі «Ігуменскі тракт», на іншых газетных палосах.

Уважлівае знаёмства з «Ігуменскім трактам» на працягу некалькіх гадоў дазваляе зрабіць выснову пра грамадскую, асветніцкую пазіцыю «Звязды» ў дачыненні да краязнаўства як шырокай з’явы. Відавочна, што газета падштурхоўвае чытача да актыўнай работы не толькі па вывучэнні гісторыі Радзімы, але і нагадвае пра неабходнасць зберажэння, захавання гістарычнай памяці, матэрыяльнай культуры народа Беларусі, здабытай нашымі папярэднікамі. Вопыт газеты па раскрыцці краязнаўчай праблематыкі ў друку мог бы стаць тэмай спецыяльнай канферэнцыі, краязнаўчых чытанняў з удзелам у першую чаргу педагагічнай грамадскасці краіны. І не толькі з мэтай больш пільнай увагі да ўжо надрукаванага. Але — і з разлікам на пашырэнне аўтарскага актыву, на аб’яднанне вакол газеты новых дасведчаных краязнаўцаў-настаўнікаў. Сёння развіццё важкасці інфармацыйнага складніка магчымае толькі пры ўмове актыўнага ўдзелу грамады, так званых фрылансераў, а ў дадзеным выпадку — актывістаў краязнаўчай работы, якія імкнуцца зрабіць свой досвед шырока вядомым.

Перыядычныя выданні, асабліва спецыялізаваныя, вельмі ўважлівыя і да праяў літаратурнага жыцця, праяў самой мастацкай літаратуры як шырокай культурнай з’явы. І праз гады пасля з’яўлення тых ці іншых твораў паэзіі, прозы, мастацкай публіцыстыкі не абысціся без звароту да крыніц іх першых публікацый, крыніц першых згадак пра гэтыя творы. У шэрагу выданняў, якія найболей адказваюць на такія запыты гісторыі літаратуры, асаблівае месца належыць літаратурным ці літаратурна-мастацкім газетам і часопісам. Вялікую культурную значнасць для прэзентацыі нацыянальнай культуры заўсёды меў штотыднёвік «Літаратура і мастацтва». Немагчыма ствараць партрэт жыцця і творчасці класіка беларускай літаратуры альбо проста вядомага пісьменніка, не карыстаючыся гэтай газетай. Выданне, якое прыходзіць да чытачоў Беларусі з 1932 года, сёння з’яўляецца газетай творчай інтэлігенцыі краіны. Заснавальнікамі газеты выступаюць Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюз пісьменнікаў Беларусі і РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Многія публікацыі газеты адказваюць на пытанні, звязаныя з акалічнасцямі фарміравання мастацкага таленту тых ці іншых творцаў, акрэслена вылучаюць умовы, у якіх нараджаліся паэтычныя і празаічныя радкі. Краязнаўчы аспект шэрагу публікацый развівае ў чытачоў большую цікавасць да мастацкіх твораў, прымушае зазірнуць у творчую лабараторыю пісьменнікаў. Яркі прыклад такіх падыходаў, такога раскрыцця тэмы — у нарысе Галіны Дашкевіч «Ён — Палессе абраннік», прысвечаным паэту Уладзіміру Верамейчыку [8]. Прадставіўшы чытачу пісьменніка-земляка, аўтар расказвае пра апошнія месяцы жыцця творцы. «Восенню 1999 года Уладзімір Міхайлавіч зноў трапіў у бальніцу. Ляжаў ужо не ў хірургіі, а ў кардыялагічным аддзяленні, — піша Г. Дашкевіч. — Мы з Тамарай Пятроўнай наведалі яго, не маглі нагаварыцца з ім. Аб чым толькі ні гутарыў Уладзімір Міхайлавіч! Успамінаў сваіх сяброў па пяры: Рыгора Барадуліна, Еўдакію Лось, Генадзя Бураўкіна, многіх іншых. Ён праводзіў нас. Ішоў па доўгім бальнічным калідоры — высокі, прыгожы, упэўнены ў тым, што пераможа хваробу. На развітанне пацалаваў нас у шчокі далікатна, па-джэнтльменску, памахаў рукой. Гэта было наша апошняе развітанне з песняром Прыпяці, Палесся.

Пасля бальніцы Уладзімір Міхайлавіч патэлефанаваў, гаварыў, што цукар значна панізіўся і што вырашыў усур'ёз заняцца здароўем. Але не суджана было і памерці ў Мазыры. Памёр Уладзімір Верамейчык у Рэчыцы ў бальніцы 26 снежня 1999 года…» [8]. А далей ідзе расповяд пра апошнюю кнігу паэзіі У. Верамейчыка «Ліхаўня», пра аднайменную паэму, прысвечаную светлай памяці маці паэта — Соф'і Данілаўны Збароўскай, ураджэнкі вёскі Ліхаўня Нараўлянскага раёна. Так, той вёскі, якая знікла з твару зямлі ў выніку Чарнобыльскай катастрофы. «Я ў зоне ляжу: / галава на пяску / каля Брагіна, / Каля Хойнікаў сэрца / ў засені хворых дубоў, / Пад Нароўляю ногі / ў Прыпяць бяссільна / апушчаны / Ужо восем гадоў, / ужо восем страшэнных гадоў…» [8] — нельга без хвалявання чытаць такія адкрытыя, пранізлівыя паэтычныя радкі Уладзіміра Верамейчыка.

Але ж звернемся да імёнаў болей гучных, да жыцця і творчасці класікаў беларускай літаратуры. Наколькі складанню іх творчых партрэтаў спрыяе літаратурна-краязнаўчая праблематыка на старонках газеты «Літаратура і мастацтва»? І ўвогуле, ці можна з дапамогай газетных выступленняў набыць больш шырокае ўяўленне пра беларускую літаратуру? Ці газеты і часопісы — у лепшым выпадку толькі зварот да сучаснага літаратурнага працэсу?

Многія літаратурна-краязнаўчыя публікацыі ў газеце самым цесным чынам спалучаны са школьнай праграмай, служаць сапраўднай крыніцай для вывучэння беларускай літаратуры ў межах школьнай праграмы.

Яркай праявай увагі да класічнай літаратуры з'яўляецца нумар «Літаратуры і мастацтва» за 2 лістапада 2012 года, які пабачыў свет акурат у пярэдадзень 120-годдзя з дня нараджэння народнага песняра Беларусі. З 81-й публікацыі, размешчанай на 24 газетных старонках фармату А3, каля паловы прысвечана Якубу Коласу. Адкрываецца нумар словамі народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава: «Дарагі Колас! Я не бачыў цябе ніколі пры жыцці, але ты запаліў ва мне агеньчык характа, і вечнае за гэта дзякуй!

Дзякуй табе за маё кніжнае дзяцінства і за твой народны і вельмі чалавечы талент» [9].

У нумары раскрываюцца многія літаратуразнаўчыя і гісторыка-літаратурныя пытанні. Прыцягваюць увагу грунтоўныя артыкулы Т. Голуб, П. Васючэнкі, А. Трафімчыка, А. Лапіцкай і інш. Выдатнай падказкай аднаго адраса коласаўскіх мясцін у Беларусі з'яўляецца карэспандэнцыя В. Рагойшы «Яшчэ адзін любімы кут». «Толькі што я вярнуўся з майстэрні вядомага скульптара, народнага мастака Беларусі Івана Міско, — піша Вячаслаў Пятровіч. — Ён закончыў мемарыяльную шыльду Якубу Коласу, якая ў юбілейныя дні будзе ўсталявана ў Вільнюсе. Цяпер жа даводзіць да ладу другую — ужо не з бронзы, а з граніту — памятную дошку Песняру, са словамі: «У гэтым доме ў 1953—1956 гг. неаднаразова спыняўся народны паэт Беларусі Якуб Колас. Шыльда павінна з'явіцца на сцяне адной з хат у невялікай вёсцы Палачанка Валожынскага раёна…» [10].

І далей: «Як жа трапіў у ПалачанкуЯкуб Колас? Аўтара «Новай зямлі» даволі часта бачылі на Ракаўшчыне з пачатку 1950-х гг. і да самай яго смерці ў жніўні 1956 г.» [10]. Даследчык расказвае пра гісторыі з паездак Якуба Коласа на Ракаўшчыну, у Палачанку і Бузуны, знаёмства паэта з кавалём Букіным і яго сям'ёй. В. Рагойшу ўдалося расшукаць сведку прыездаў, жыцця народнага песняра, пагутарыць са старым млынаром Фёдарам Мікалаевічам Юрынкам. «Да яго сюды прыязджалі пісьменнікі. Помню Лужаніна, Калачынскага… Аднойчы застаўся на тыдні два. Тады яго тут наведаў Уладзімір Дубоўка — высокі, шыракаплечы, з доўгай барадой. Папрасіў у канцы майго агарода, каля рэчкі, паставіць палатку… атабарыўся ў ёй на ўвесь час, пакуль тут Колас быў. З Коласам яны хадзілі і гаварылі цэлымі днямі, пра што — не скажу, не чуў. А мне Дубоўка расказваў, што сын яго на вайне загінуў, што сам быў рэпрэсіраваны, вывезены ў Сібір больш як на дваццаць гадоў…» [10].

У школьнай праграме за IX клас творчасці Я. Коласа адведзена 6 гадзін. Разглядаюцца вершы «Не бядуй!», «Беларусам», «Родныя вобразы», «Першы гром», паэма «Новая зямля» (раздзелы на выбар настаўніка), трылогія «На ростанях». Чаму б не падумаць, не паразважаць на тэму, што падштурхнула да сустрэчы ўжо па тым часе, лічы, класіка і паэта-пакутніка, які толькі што вярнуўся з сталінскага лагера? Газетная публікацыя падштурхоўвае да гэтага настаўніка, прымушае весці інтэлектуальны пошук. А для тых вучняў, якія жывуць на Ракаўшчыне, Валожыншчыне, гэтая карэспандэнцыя — яшчэ і для працягу краязнаўчага росшуку. Арыентуе ж праграма ў частцы «Асноўных патрабаванняў да ведаў, уменняў і літаратурнага развіцця вучняў IX класа» на падрыхтоўку дакладаў ці рэфератаў з выкарыстаннем літаратуразнаўчых крыніц. А тут — жывая краязнаўчая інфармацыя!.. Чаму б не выправіцца ў літаратурна-краязнаўчую экскурсію?!. Яе ўдзельнікам і кіраўніком мог бы стаць і сам доктар філалагічных навук В. Рагойша. На крайні выпадак — віртуальна. І не толькі ў звязку з карэспандэнцыяй у «Літаратуры і мастацтве», але і з падказкамі адмысловай краязнаўчай газеты «Ракаўскі шлях», якую ўжо на працягу некалькіх гадоў саматужна выдае вучоны.

У праграме за X клас на вывучэнне беларускай літаратуры адведзена 53 гадзіны. Беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя займае 17 гадзін. Беларуская літаратура перыяду Вялікай Айчыннай вайны — 13. Беларуская літаратура пасляваеннага часу (да сярэдзіны 1960-х гадоў) — 19 гадзін. Істотнае месца адведзена творчасці Уладзіміра Караткевіча (1930 — 1984). Чытаем у праграме: «**Уладзімір Караткевіч**. Аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» або «Чазенія»; раман «Каласы пад сярпом тваім» (кніга першая «Выйсце крыніц»; з другой кнігі «Сякера пры дрэве» — разделы I, II, VII, XII, XVII (6 гадзін).

«Дзікае паляванне караля Стаха». Канкрэтна-гістарычная аснова твора. Каларыт, атмасфера мінулай эпохі (80-я гады XIX ст.). Зварот пісьменніка да легенды пра караля Стаха Горскага (пач. XVII ст.), рамантычнае яе асэнсаванне. Асуджэнне сацыяльнага прыгнёту і ўціску. Роздум аб прызначэнні чалавека на зямлі, лёсе беларускага народа, узаемасувязі розных гістарычных эпох. Праблемы дабра і зла, кахання, мужнасці і гераізму. Вобразы Андрэя Беларэцкага, Андрэя Свеціловіча і Надзеі Яноўскай. Асаблівасці кампазіцыі твора.

«Чазенія». Праблематыка аповесці. Вобразы Севярына Будрыса і Гражыны. Выяўленне характараў герояў у неардынарных абставінах. Мастацкая роля прыроды ў творы. Сэнс назвы аповесці. Жанр і кампазіцыя твора.

Раман «Каласы пад сярпом тваім». Гістарычная аснова рамана. Рэальныя гістарычныя асобы ў творы: Каліноўскі, Шаўчэнка, Серакоўскі, Манюшка, Дунін-Марцінкевіч. Паказ станаўлення характару будучага кіраўніка сялянскага паўстання Кастуся Каліноўскага. Духоўны воблік галоўнага героя рамана Алеся Загорскага. Прадстаўнікі дваранства ў рамане (Даніла Вежа-Загорскі, Хаданскія, Кроер). Дзеячы шляхецкага руху Яраслаў Раўбіч і Багдан Война. Стыхійны характар антыпрыгонніцкай барацьбы сялян. Паказ супярэчнасцей паміж дваранскімі рэвалюцыянерамі і кіраўніком сялянскага паўстання Корчакам. Грунтоўнасць гістарычнага мыслення аўтара. Праўдзівасць адлюстравання чалавечых характараў. Хараство кахання Алеся Загорскага і Майкі Раўбіч. Своеасаблівасць мастацкага стылю рамана. Дынамічнасць сюжэта. Сумяшчэнне рэалістычных і рамантычных мастацкіх абагульненняў, гістарычнага і гісторка-легендарнага ў творы. Месца і роля лірычных адступленняў і пейзажных малюнкаў. Вобразная сімволіка. Сувязь рамана з паэтыкай народных балад і легенд» [11].

Дастаткова шырокія і маштабныя задачы пастаўлены перад настаўнікам і вучнямі, калі мець на ўвазе, што засваенне ўсяго гэтага матэрыялу зойме толькі 6 гадзін. Магчыма, падказваючы вучню, што трэба прачытаць за час канікул у пярэдадзень навучальнага года, ёсць сэнс вылучыць і парады па знаёмстве з дадатковым літаратурна-краязнаўчым матэрыялам. На крайні выпадак — настаўніку самому варта звярнуць увагу на такія публікацыі, у прыватнасці, газеты «Літаратура і мастацтва».

Прыкладам цікавага гісторыка-літаратурнага і літаратурна-краязнаўчага пошуку з'яўляецца публікацыя артыкула А. Вераб'я «Спадчына», прысвечанага сяброўству У. Караткевіча і Ю. Гальперына. Чытаем: «Ураджэнец Расіі, Ю. Гальперын у 1949—1954 гады вучыўся ў Мінску на будаўнічым факультэце Беларускага політэхнічнага інстытута. З Уладзімірам Караткевічам, спачатку завочна, пазнаёміўся праз яго і сваіх сяброў Валянціна Краўца і Станіслава Карпенку, якія ў той час таксама вучыліся ў політэхнічным інстытуце…» [12]. І далей: «…думаецца, што У. Караткевіча і Ю. Гальперына ядналі глыбокая духоўнасць, высокая маральнасць і энцыклапедычныя веды. Лісты У. Караткевіча, адарасаваныя сябру, яскрава пра гэта сведчаць» [12]. У свой час якраз Ю. Гальперын бараніў пісьменніка ад нападак аршанскай газеты «Ленінскі прызыў», якая ў 1957 годзе цкавала паэта за вершы. Сябар У. Караткевіча даслаў тады ў «Полымя» свой артыкул, які, на жаль, не быў надрукаваны. Расказваючы гісторыю пошукаў лістоў сябра і актыўнага карэспандэнта пісьменніка, А. Верабей зазначае, што, дзякуючы гэтым росшукам, удалося і знайсці 18 дагэтуль невядомых караткевічаўскіх паэтычных твораў. Артыкул даследчыка — яшчэ і напамін пра вартасці пошукавай працы, узор старанняў па ўзнаўленні памяці пра класіка. «Літаратура і мастацтва» толькі ў 2008 годзе яшчэ не аднойчы вернецца да жыцця і творчасці Уладзіміра Караткевіча. Варта згадаць публікацыі Дзяніса Марціновіча «Перачытаем «Каласы…»?» у нумары за 19 красавіка 2008 г. і «Каханне ў выяўленні Уладзіміра Караткевіча» Ірыны Бажок у нумары ад 8 лютага 2008 г. Дарэчы, на працягу некалькіх нумароў у «Літаратуры і мастацтве» друкаваўся цыкл публікацыяй Дзяніса Марціновіча пад агульнай назвай «Рэканструкцыя адносін. Уладзімір Караткевіч і Ніна Молева» [13].

Аснову краязнаўчай тэматыкі на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» складаюць публікацыі, размешчаныя, як правіла, у тэматычным выпуску «Зямля пад белымі крыламі». Сімвалічна, што назвай такога развароту ў газеце сталі словы Уладзіміра Караткевіча, дакладней — назва яго нарыса, які спярша пабачыў свет асобным выданнем на ўкраінскай мове ў 1972 годзе, а пасля — па-беларуску ў 1977 годзе, у дапоўненым і дапрацаваным выглядзе. Павага да каштоўнасцей гістарычнай памяці, асэнсаванне месца народнай культуры ў патрыятычным выхаванні грамадства — асноўная тэматычная прастора, якую аглядаюць у сваіх матэрыялах журналісты «Літаратуры і мастацтва», яе пазаштатныя аўтары. З артыкуламі, карэспандэнцыямі, рэпартажамі, нарысамі ў раздзеле выдання «Зямля пад белымі крыламі», перыядычнасць якога складае 2 выпускі ў месяц — дзве паласы фармату А3, выступаюць Марына Весялуха, Раіса Марчук, Анатоль Валахановіч, Анатоль Цітоў, Адам Мальдзіс, Сяргей Чыгрын, Дзяніс Марціновіч, Ігар Пракаповіч і інш. Дасведчаныя краязнаўцы, гісторыкі, навукоўцы розных прафесій, спецыялісты ў галіне геральдыкі, тапанімікі, матэрыяльнай культуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — усе разам яны ствараюць атмасферу раскрыцця партрэта рэгіёнаў Беларусі з пунктаў гледжання гістарычнага, геаграфічнага, экалагічнага і ў значнай ступені літаратурнага краязнаўства. «Зямля пад белымі крыламі» — шырокая дзялянка, на якой разглядаецца спектр літаратурна-краязнаўчых тэм. Звернемся да назваў рубрык: «Культурная спадчына», «Чалавек і яго лёс», «Прызма часу», «Слова краязнаўцы», «Музейны унікат», «Памяць», «Праекты», «Пошукі і знаходкі», «Радзіннае», «Родны кут», «Імя ў гісторыі», «Далёкія і блізкія суродзічы», «Стасункі» і інш. Фактычная большасць з іх адап-тавана пад краязнаўчую праблематыку, носіць выразную тэматычную афарбоўку. Літаральна пад усімі са згаданых рубрык з'яўляюцца матэрыялы літаратурна-краязнаўчага характару. А ў невялікіх па памеры нататках пад рубрыкай «Слова краязнаўцы» выступалі ў розны час тыя даследчыкі, хто займаўся і займаецца літаратурнай гісторыяй свайго краю. Як прыклад — Уладзімір Дарагуж з Чэрвеня («… у былым маёнтку Капланцы ў 1886 годзе нарадзіўся Мікола Равінскі, які паклаў на музыку творы класікаў беларускай літаратуры: вершы Дубоўкі, Купалы, Дуніна-Марцінкевіча і Багдановіча»), Роза Шэрая з Вілейшчыны («У былым Вілейскім павеце нарадзіліся Янка Купала, Змітрок Бядуля, Леапольд Родзевіч, Уладзімір Дубоўка, Максім Танк. […] Другая сусветная вайна прызвала ў шэрагі

абаронцаў Айчыны паэтаў Алеся Дубровіча і Аркадзя Гейнэ, якія працавалі ў вілейскай газеце. Дзецьмі запомнілі ўсе жахі вайны ўраджэнцы раёна пісьменнікі Іван Лашутка, Уладзімір Папковіч, Уладзімір Дубовік»), А. Пяткевіч з Гродна, І. Ярашэвіч са Смілавіч Чэрвеньскага раёна і інш. Многія артыкулы — выразнае адлюстраванне ўласных літаратурна-краязнаўчых росшукаў таго ці іншага аўтара, а таксама — расповяд пра літаратурна-краязнаўчую работу ў школе. «Літаратура і мастацтва» 20 жніўня 2010 г. друкуе нарыс Ігара Пракаповіча «Пялёсткі з радзімы Уладзіміра Дубоўкі». Аўтар пачынае з таго, што існуюць розныя меркаванні наконт нараджэння паэта. У аўтабіяграфіі пісьменнік сцвярджае, што на свет Божы ён з'явіўся ў вёсцы Агароднікі. Старажылы з Пастаўшчыны сведчаць, што нарадзіўся творца ў Манькавічах. Краязнаўца ўносіць яснасць: месца нараджэння — Агароднікі, хата дзядулі і бабулі па бацькавай лініі. А сям'я паэта жыла ў Манькавічах, дзе бацька паэта працаваў на бровары. У якасці аргументаў І. Пракаповіч звяртаецца да ўспамінаў самога Уладзіміра Дубоўкі, цытуе яго творы, напісаныя на «манькаўскім» матэрыяле — у прыватнасці, апавяданні «Незапрошаныя візіцёры», «Пажар». Краязнаўца дадае да адкрытай інфармацыі сабраныя ім на Пастаўшчыне звесткі, расказвае пра гаспадароў маёнтка ў Манькавічах. 6 жніўня 2010 г. «Літаратура і мастацтва» расказвае пра літаратурны музей у школе ў вёсцы Дастоева — карэспандэнцыя С. Грышкевіча «Быць годнымі класіка». Мясцовы настаўнік А. Бурак сабраў нямала матэрыялаў пра радзіму прашчураў класіка рускай літаратуры Ф. Дастаеўскага, вядзе кантактаванне з спадчыннікамі пісьменніка, даследчыкамі яго творчасці. Гэтыя і шмат якія іншыя публікацыі, несумненна, маглі б стаць асновай спецыяльнага літаратурна-краязнаўчага гадавога альманаха. У свой час — на пачатку 1990-х гадоў — папулярнасцю сярод цікаўных да гісторыі чытачоў карыстаўся гадавік «Шляхам гадоў». Выйшла ўсяго чатыры кнігі гэтага ўнікальнага выдання. Многія старонкі альманаха ці проста зборніка насілі літаратурна-краязнаўчы, гісторыка-краязнаўчы характар. Такія кнігі, такія зборнікі маглі б «вырасці» і з тэматычнай старонкі «Літаратуры і мастацтва» «Зямля пад белымі крыламі».

Сённяшнія тыражы літаратурна-мастацкай перыёдыкі (газеты «Літаратура і мастацтва», часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Нёман»), а таксама «Краязнаўчай газеты» сведчаць, што хутчэй за ўсё літаратурнае краязнаўства на старонках гэтых выданняў застаецца па-за ўвагай шырокага кола настаўнікаў. Большасць публікацый, звязаных з жыццём і творчасцю класікаў, наўрад ці вядомыя таму чытачу, якому, здавалася б, перш-наперш павінны былі адрасавацца. У такім разе памкненні многіх краязнаўцаў і гісторыкаў літаратуры з'яўляюцца марнымі, не дасягаюць сваёй мэты ў выхаванні гарманічнага развітага чытача беларускай мастацкай літаратуры. Несумненна, любыя заклікі на гэтую тэму наўрад ці змогуць нешта зрушыць з месца. Патрэбна сістэматычна аглядаць літаратурна-краязнаўчыя публікацыі ў болей шырокім масавым друку, у прыватнасці, у «Звяздзе», «СБ. Беларусь сегодня», «Настаўніцкай газеце». Свайго развіцця ў цэлым у нашай краіне патрабуе і краязнаўчая бібліяграфія. Прыкладам маглі б служыць некаторыя рэгіёны Расійскай Федэрацыі, дзе традыцыйна краязнаўчая літаратурная бібліяграфія знаходзіцца на высокім узроўні. Спрыяла гэтаму ў свой час і ўзнікшая дзякуючы М. Піксанаву ў першай чвэрці ХХ стагоддзя тэорыя «абласных культурных гнёздаў». І ў нас ёсць усе падставы для стварэння краязнаўчай бібліяграфіі мастацкай літаратуры. Такія паказальнікі спрыялі б сістэматызацыі знойдзеных звестак, удакладненню характару і месца нараджэня тых ці іншых творчых задум. Хіба для гісторыі літаратуры і нацыянальнай культуры не важна, хто стаў прататыпам герояў раманаў Івана Мележа «Людзі на балоце» альбо «Плач перапёлкі» Івана Чыгрынава? Тым болей, што вопыт стварэння краязнаўчай бібліяграфіі ёсць, ён рэалізаваны лакальна — напрыклад, на інтэрнэт-сайтах раённых і абласных бібліятэк краіны. Калі ўжо зайшла размова пра стасункі краязнаўчай тэматыкі і інтэрнэт-рэсурсаў, то варта выкласці, як мне падаецца,

наступнае меркаванне. І «Зямля пад белымі крыламі» ў «Літаратуры і мастацтве», і «Ігуменскі тракт» у «Звяздзе» прачытваюцца дастаткова часта на электронных старонках выданняў на агульным партале Выдавецкага дома «Звязда». Адрас наступны — http://zviazda.by. У такім разе рэдакцыям выданняў варта было б арганізаваць публікацыю зваротнай сувязі, зрабіць агляды водгукаў на тыя ці іншыя краязнаўчыя выступленні ў «Звяздзе» і ў «Літаратуры і мастацтве». Тым болей, што вопыт творча-інавацыйнай апрацоўкі праблематыкі з «электроннага» пункту гледжання ў журналістаў «Звязды», у прыватнасці, ёсць. Як прыклад — выхад у інтэрнэт-прастору рубрыкі «Байкі кухмістра Верашчакі», у якой гісторык і кулінар Алесь Белы распавядае пра беларускую кухню мінулых часін. А на сайце «Звязды» расповяд носіць характар відэафільма, у якім аўтар расказвае і паказвае, як прыгатаваць цэпеліны, зразы ці іншыя стравы.

Літаратурна-краязнаўчая праблематыка «Літаратуры і мастацтва», як і іншых рэспубліканскіх газет і часопісаў, — унікальная магчымасць спалучэння мясцовага матэрыялу з выкладаннем мастацкай літаратуры ў агульнаадукацыйнай школе. Поруч з пісьменніцкай газетай найболей актыўна над асвятленнем літаратурнага краязнаўства працуюць такія выданні, як «Настаўніцкая газета», «Культура», «Краязнаўчая газета», часопісы «Маладосць», «Полымя». Знаёмства з іх старонкамі, збіранне архіва публікацый — выключны дапаможны матэрыял і для настаўніка, і для вучня. Між іншым, многія газетныя і часопісныя праекты маглі б прывесці да складання тэматычных краязнаўчых зборнікаў. Як у «Літаратуры і мастацтве» — «Зямля пад белымі крыламі», так па матэрыялах часопіса «Полымя» — «Наш край», газеты «Звязда» — «Ігуменскі тракт».

Чаго нестае літаратурна-краязнаўчай праблематыцы ў сучасным беларускім перыядычным друку? Найперш варта заўважыць, што распрацоўка многіх тэм магла б болей істотна суправаджацца зваротам да школьнай праграмы па беларускай літаратуры. Па-другое, часам рэдакцыі газет і часопісаў даюць месца публікацыям другаразрадным, напісаным без уліку шматбаковага раскрыцця той ці іншай тэмы. Аўтары літаратурна-краязнаўчых карэспандэнцый, нарысаў, публікацый іншых жанраў, як правіла, у нязначнай ступені выкарыстоўваюць архіўныя крыніцы, даюць волю творчай фантазіі, займаюцца не заўсёды дакументальна падмацаванным версіфікатарствам тых ці іншых падзей. Сам характар праблематыкі патрабуе большай публіцыстычнай і даследчыцкай адказнасці за напісанае, выкладзенае ў матэрыяле.

Знаёмства з краязнаўчай праблематыкай як у штодзённым парламенцкім і ўрадавым выданні «Звязда», так і ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», падштурхоўвае і да наступных разваг. Даследаванне «малой радзімы», пошук тэм, якія б насілі сапраўды краязнаўчы, рэгіёназнаўчы характар, уважлівае вывучэнне фактаграфічнага матэрыялу патрабуюць ад журналістаў адмысловых ведаў. Магчыма, ужо сёння варта вылучыць спецыялізацыю ў штатным раскладзе творчых аддзелаў рэдакцый. Практыка работы над уласнымі артыкуламі па краязнаўстве і падрыхтоўка выступленняў пазаштатных аўтараў прынясе свой плён, калі той ці іншы журналіст займее пэўны вопыт. А ў праграме навучання па спецыяльнасці «журналістыка» мэтазгодна ўвесці адпаведны спецкурс. Мо, напрыклад, з такой назвай — «Краязнаўства ў айчыннай газетнай і часопіснай публіцыстыцы». Альбо нават вылучыць асобныя накірункі — «Гістарычнае краязнаўства ў СМІ», «Літаратурнае краязнаўства ў СМІ», «Геаграфічнае краязнаўства ў СМІ».

## Спіс літаратуры:

1. Барков, А. Вопросы методики и истории географии / А. Барков. — М.: «Изд-во Академии педагог. наук РСФСР», 1961. — 264 с.

2. Историческое краеведение (основные источники изучения родного края) / Н. П. Милонов [и др.]; под общ. ред. Н. П. Милонова. — М., 1969. — 319 с.

3. Пиксанов, Н. К. Областные культурные гнезда / Н. К. Пиксанов. — М.—Л., 1928. — 148 с.

4. Травушкин, Н. С. Литературное краеведение в системе литературоведческих наук / Н. С. Травушкин // Научные доклады литературоведов Поволжья. — Астрахань, 1967. С. 162.

5. Лихачев, Д. С. Необходим справочник «Литературные места России» / Д. С. Лихачев // Литературная газета. — 1980. — 12 марта.

6. Стэльмах А. Маленькія хронікі вялікага сяла / А. Стэльмах // Звязда. — 2013. — 3 вер.

7. Шчэрбачэвіч, Н. Радня з чатырох стагоддзяў / Н. Шчэрбачэвіч // Звязда. — 2013. — 24 вер.

8. Дашкевіч Г. Ён — Палесся абраннік / Г. Дашкевіч // Літаратура і мастацтва. — 2008. — 4 студз.

9. Быкаў, В. Дарагі Колас! / В. Быкаў // Літаратура і мастацтва. — 2012. — 2 ліст.

10. Рагойша, В. Яшчэ адзін любімы кут… / В. Рагойша // Літаратура і мастацтва. — 2012. — 2 ліст.

11. Вучэбная праграма для ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання «Беларуская літаратура V—XI класы». Мінск, 2012. — С. 102—103.

12. Верабей, А. Спадчына / А. Верабей // Літаратура і мастацтва. — 2008. — 1 лют.

13. Марціновіч, Дз. Рэканструкцыя адносін. Уладзімір Караткевіч і Ніна Молева / Дз. Марціновіч // Літаратура і мастацтва. — 2011. — 11 лют.; 18 лют.; 25 лют.; 4 сак.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 19 мая 2014 года.

## Рэзюмэ

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

### Краязнаўчая праблематыка ў сучасных сродках масавай інфармацыі (на прыкладзе газет «Звязда» і «Літаратура і мастацтва»)

У артыкуле разглядаецца месца і роля краязнаўчай праблематыкі на старонках перыядычнага друку Беларусі (на прыкладзе газет «Звязда» і «Літаратура і мастацтва»), яе вартасці і недахопы. Аўтар адзначае сувязь фарміравання асобы пісьменніка з умовамі, у якіх нараджаліся творы. Асаблівая ўвага павінна надавацца краязнаўчым даследаванням у сучасным адукацыйным працэсе на Беларусі.

## Summary

**Alies KARLIUKIEVICH**

### Area Studies in Current Media («Zviazda» and «Literature and art» newspapers as a case in point)

Place and role of the area studies in current media («Zviazda» and «Literature and art» newspapers as a case in point) as well as its pros and cons are investigated in the article. The author accentuates the interconnection of the writer's individual formation and the conditions of his life and work. The special attention should be given to the area studies in the modern Belarusian educational process.

**Зінаіда КАМАРОЎСКАЯ**

# ГІСТОРЫЯ АДНОЙ СУСТРЭЧЫ

Ужо стала прыемнай заканамернасцю, што напярэдадні дня нараджэння Якуба Коласа, падчас навуковай канферэнцыі «Каласавіны», якую арганізоўвае літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа штогод, на працягу 28 гадоў, з'яўляюцца новыя дакументы, матэрыялы пра народнага песняра, раней невядомыя звесткі пра асобныя перыяды яго жыцця. Так і ў юбілейны 130-ты год з дня ягонага нараджэння пашчасціла набыць у дар ад абаяльнай, сардэчнай жанчыны Аляксандры Каліны лісты Коласа, адрасаваныя ёй незадоўга да яго скону. Як самую дарагую рэліквію захоўвала іх сям'я — муж, інвалід Вялікай Айчыннай вайны, у мінулым работнік райкама г. Чашнікі, двое сыноў і сама Аляксандра Сцяпанаўна. Зборнік вершаў у перакладзе на рускую мову з коласаўскім аўтографам стаў настольнай кнігай гэтай на рэдкасць інтэлігентнай сям'і.

У час сустрэчы ва ўтульнай кватэры ў Віцебску з такімі мілымі, добразычлівымі людзьмі — жонкай і мужам — я пачула згадкі пра незвычайную сустрэчу з Якубам Коласам, якую ў падрабязнасцях памятае Аляксандра Сцяпанаўна, пра пачуцці гонару і радасці зносін з ім, пра тое, як спачатку яна не магла паверыць, што гэты добры, просты чалавек, які першым з ёй загаварыў, і ёсць народны паэт Беларусі.

У адным з лістоў да сваёй знаёмай Якуб Колас пісаў: *«Очевидно, нужно какое-то удаление во времени и пространстве. Тогда, издали, всё кажется в совершенно других отношениях человека к человеку...»*

Сёлета ў жніўні споўніцца 58 гадоў, як сярод нас няма Якуба Коласа, мудрага Настаўніка, пранікнёнага мастака слова, знаўцы чалавечай душы, тонкага псіхолага.

Аднак, нягледзячы на тое, што прайшло так шмат часу, дзякуючы захаванай эпісталярнай спадчыне мы можам убачыць яго без арэолу забранзавеласці, а «*просто простым человеком, без хитрости...*», як пісаў ён пра сябе ў адным з лістоў да Аляксандры Кетлер.

Без перабольшання можна сказаць, што не ў многіх паэтаў ёсць ці была такая непарыўная зацікаўленая сувязь з людзьмі, з прыхільнікамі іхняй творчасці. Канстанцін Міхайлавіч заставаўся ўважлівы да кожнага, і хоць ён лічыў, што ў ім «жыве чалавек неспакойны, патрабавальны», у той жа час адзначаў: «*Я же так привыкаю, так привязываюсь к людям, так преисполнен по отношению к ним благожелательства, стремления сделать для них всё, чтобы доставить им хоть некоторую радость*» (з ліста да Кетлер).

Апошнія гады свайго жыцця пясняр вельмі часта хварэў. У лістах да знаёмых ён пісаў, што з 1946 года перанёс 26 запаленняў лёгкіх. У 1956 годзе пасля перанесенага грыпу моцна турбавалі болі ў руках, і з 2 па 29 сакавіка лячыўся ў лечкамісіі.

У гэты ж час Аляксандра Сцяпанаўна часта заходзіла туды, бо там знаходзіўся на лячэнні яе сын-школьнік. Маладая жанчына была прыемна здзіўленая чулай

спагадай, праяўленай да яе такім вядомым пісьменнікам. Падчас размоў з Якубам Коласам яна збянтэжана і шчыра прызналася, што не знаёмая з яго творчасцю, бо, прыехаўшы на радзіму мужа з Расіі, яшчэ не авалодала беларускай мовай. Кароткія размовы з паэтам у бальніцы, яго сардэчнае і па-бацькоўску добрае стаўленне вельмі кранулі яе. І колькі ж было падзякі і хвалявання, калі неўзабаве атрымала пасылку ад Канстанціна Міхайлавіча — яго кнігу з аўтографам.

Захаваліся 4 лісты песняра, два з іх былі перададзены А. Калінай у музей яшчэ ў 1964 годзе. Яны апублікаваныя ў 12-томным, а пасля ў 20-томным Зборы твораў Якуба Коласа. У час нашай сустрэчы Аляксандра Сцяпанаўна падарыла музею яшчэ два лісты пісьменніка, напісаныя адпаведна 19 мая і 1 чэрвеня 1956 года.

У фондах музея ёсць чатыры лісты А. Каліны, адрасаваныя Якубу Коласу. Так 14 мая 1956 года яна дзякавала за падарунак: *«Константин Михайлович, книгу Вашу с большим удовольствием перечитывает вся моя семья, даже и сын, который ходит ещё только во второй класс, тоже читает и благодарит Вас. Просим Вас, Константин Михайлович, если позволит Ваше здоровье, посетить наш район и нас. Будем все очень рады»*.

19 мая Якуб Колас, нягледзячы на стан здароўя, незлічоную колькасць спраў, адказаў Аляксандры Сцяпанаўне. Гэты ліст дагэтуль не апублікаваны, — яшчэ адно пацвярджэнне, як мала мы ведаем гэтага сапраўды вялікага чалавека.

Ён не пакідаў без адказу ні аднаго адрасата. І дзякуючы гэтым лістам мы бачым у ім чалавека няўрымслівага, клапатлівага, неабыякавага да ўсяго, што адбываецца на яго зямлі.

Вернемся ў 1956 год, апошні кароткі год яго жыцця.

Шэраг захворванняў, аслаблены арганізм, пачуццё адзіноты, думка аб хуткім сыходзе і ў той жа час не іскра, а полымя жыццялюбства гарыць у яго сэрцы і душы. Ён усюды спяшаецца паспець, ён бачыць і падымае тыя пытанні, якія нельга не вырашаць: і ачыстка палёў ад камянёў, і стан могілак не толькі ў роднай яму Мікалаеўшчыне, дзе спачываюць яго блізкія, але і па ўсёй Беларусі, і падтрымка і пажаданне маладому пакаленню пісьменнікаў, і стан мовы і культуры ў краіне (вядомы ліст у ЦК КПБ), і многае іншае.

Хвароба рук прагрэсіруе, але, нягледзячы на гэта, знаходзіць магчымасць і сілы пісаць лісты, па некалькі ў дзень. Нават у дзень смерці, 13 жніўня, адзін адрасаваны С. Гарадзецкаму, другі, недапісаны Я. Мазалькову, застаўся на стале, за якім пясняр і памёр.

Перада мной адзін з лістоў Якуба Коласа да А. Каліны (19.05.1956 г.). У сувязі з захворваннем рук трохі змяніўся почырк, але колькі ў гэтых радках цяпла, добразычлівасці, нават, можна сказаць, дзіцячай наіўнасці, якую ён пранёс праз гады свайго складанага, насычанага падзеямі жыцця.

У кожным лісце ён па-бацькоўску хвалюецца пра здароўе Аляксандры Сцяпанаўны, ледзь знаёмага яму чалавека: *«...Но о чём Вы не написали, так это о состоянии Вашего здоровья. Я очень мало видел Вас, но у меня сложилось впечатление, что Вы человек со слабым здоровьем, или, как говорят, болезненная. Дай бог, чтобы это не соответствовало правде»*. А далей гаворыць пра сябе:

*«Когда я оставлял стационар, я сказал своему врачу — Юзефе Гавриловне Батуро — я выхожу домой с волчьим билетом, т. е. с теми же больными руками. Все способы лечения, которые были мне доступны, перепробованы, но положительных результатов нет, поэтому я иногда говорю своим знакомым: мои руки излечит земля, в которую меня закопают. Погода неважная, она то и отражается на состоянии моего здоровья»*.

28 мая 1956 г. А. Каліна вельмі цёпла піша Коласу, дае парады па лячэнні рук, імкнецца яго падтрымаць:

*«...А главное, Константин Михайлович, бодритесь и крепитесь, это поможет Вам легче переносить болезнь, а еще и не мешало бы переменить климатические условия. Хотя и на небольшое время, быть может и это немного поможет Вам...»*

1 чэрвеня 1956 г. Якуб Колас адказвае Аляксандры Сцяпанаўне:

*«Вы написали мне такое человечное, хорошее письмо, что с моей стороны было бы преступлением перед человечеством не ответить сразу же на Ваше письмо. Давно я не слышал таких слов сочувствия. Вот почему я так благодарен Вам.*

*Лечить руки разогретой глиной я бросил: после таких лечений стало хуже. Вчера ходил в ЦК, просил исхлопотать мне путёвку в подмосковный санаторий Барвиха. Если удастся, в начале второй декады поеду туда с тем, чтобы 11 июля попасть на сессию Верховного Совета СССР в Москве. Таким образом Ваш совет переменить место может осуществиться. Если устроюсь в Барвихе, то непременно напишу Вам несколько слов. Самочувствие моё не из важных: трудно ходить по земле, трудно вообще и жить на свете. Но пока жив, надо «ратоваться», т. е. спасаться.*

*Погода, надо надеяться, наладится. Если весна была запоздалая, то, может быть, осень будет хорошая.*

*Желаю вам укрепить сердце, для чего нужно побольше отдыхать в гамаке в хорошем лесу на берегу озера. Будьте здоровы и счастливы.*

*Привет вашему дому.*

*Всего наилучшего. Якуб Колас».*

Адметнай рысай у характары Якуба Коласа было абавязковае выкананне абяцанняў. Прыбыўшы ў санаторый 19 чэрвеня, ён падрабязна апісвае А. Каліне гэта месца, называючы яго *«адным з лепшых санаторыяў у нашым Савецкім Саюзе»*, апісвае лячэнне, паведамляе пра здароўе, якое не зусім яго радуе: *«Ослаблен я, голова кружится — не от успехов, конечно. Уходят силы и здоровье. Это я очень хорошо чувствую — уже по моим прогулкам по территории санатория. Когда-то в дни моей юности, я помню, среди различных мыслей, проходивших в голове, была такая: вот я молод, здоров — проходящий путник в жизни. Всякому пути есть конец, и будет такое время, когда я ступлю на порог моего последнего земного пристанища на земле. Мне кажется, что этот порог и «последнее пристанище» уже совсем близки. Невесёлые мысли, но они логически вытекают из природы нашего бытия... В Барвихе рассчитываю пробыть до 9-го июля, отсюда поеду в Москву на сессию Верховного Совета СССР».*

Адгукнулася Аляксандра Сцяпанаўна 26 чэрвеня 1956 г.: *«От всего сердца желаю Вам вернуться в Минск здоровым и бодрым. А пока, Константин Михайлович, не огорчайтесь, надейтесь, что всё же Ваше состояние улучшится. И Вы ещё сумеете многому научить наше молодое поколение».* І тут жа радкі, прысвечаныя Якубу Коласу:

*Как один человек все мы с Вами, родной,*
*Все мы рядом и ночью, и днём.*

І апошні ліст песняра да А. Каліны ад 21 ліпеня 1956 года:

*«Милая Александра Степановна!*

*В последнем своём к Вам письме я обещал написать Вам из Минска.*

*Почти полную неделю (тыдзень) я нахожусь дома. Всё, что было приобретено в Барвихе, я успел уже растратить дома. Руки мои болели, болят и, по всей вероятности, будут болеть, и с больными руками сойду в могилу (а она не так уж далека). Может быть, я ещё раз залягу в леч. Комиссию под непосредственным наблюдением и лечением Сергея Иосифовича Лиоранцевича. Да что писать*

*о себе? Не лучше ли нам говорить о сборе боровиков? Ведь это очень интересно. Беда лишь моя в том, что я не могу проходить десятки вёрст во время одного из моих стандартных походов.*

*Завтра собираюсь поехать в мои излюбленные боровиковые места — 60—70 километров от Минска. Буду ходить по моим любимым местам и воспоминать моих милых — коротких и длительных друзей — что же остаётся делать человеку, который одной ногой стоит в могиле?*

*Как бы хотел я навестить Ваши Чашники, повидать Вас и Вашего мужа!*

*В половине сентября 1956 г. исполняется 50 лет моей литературной деятельности. Не забудьте. Желаю вам здоровья, счастья. Всего наилучшего. Якуб Колас».*

Аб 50-годдзі сваёй літаратурнай дзейнасці ён пісаў і ў апошніх лістах да С. Гарадзецкага, хоць у яго было прадчуванне, што не адзначыць гэтую дату. Аднак сабраў для выдання напісаныя ў 1907—1956 гг. «Казкі жыцця», якія, як адзначаў, *«…в России не знают, да и здесь, в Белоруссии, знает лишь несколько человек. Они же, на мой взгляд, заслуживают большего»* (13.05.1956, С. Гарадзецкаму).

На жаль, 13 жніўня 1956 года народнага песняра Беларусі не стала.

Да юбілейнай даты ягонай літаратурнай дзейнасці «Казкі жыцця» так і не былі выдадзеныя, а пабачылі свет толькі праз 14 гадоў, у 1960 годзе.

У літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа захоўваецца замалёўка-прызнанне, напісаная паэтам 2 красавіка 1956 года, пад назвай «Мой запавет». Упэўнена, што яна і з’яўляецца крэдам усяго жыцця народнага песняра: *«Я прыйшоў у жыццё не для сябе самога, я прыйшоў дзеля Вас. Калі Вам будзе добра, калі Вы (я тут разумею ўвесь комплекс жыцця) пойдзеце па праўдзівай дарозе жыцця, калі Вы будзеце мець на ўвазе не толькі сябе, але і народ, які Вас пусціў у жыццё, і калі Вы будзеце жыць народам дзеля народа, тады я скажу: Няхай жа будзе шчаслівая Ваша дарога! Так гаворыць у мінуты шчырасці мікалаеўскі чалавек Якуб Колас».*



**Станіслаў КРЭПСКІ**

# ПАДАРОЖЖА НА МАЛУЮ РАДЗІМУ*

На праводзіны яе снапоў збіралася амаль уся вёска. А калі грузавік знікаў за паваротам, Зоня садзілася на лаўку пры плоце, клала на калені свае шурпатыя, парэпаныя рукі і спявала з гэтай нагоды песню, дзякуючы Госпаду Богу за сонца, за дождж і нават за вецер у час калашэння жыта і, вядома, за багаты ўраджай.

І вось я прашу цётку праспяваць некалькі песень. Як шкада, што тады ў мяне не было дыктафона.

Зоня ўсміхнулася:

— Як жа я буду спяваць жніўную песню ў студзені. Гэта ж хто пачуе, скажа — здурнела Гуціха.

— А вы, цётачка, дыктуйце мне як верш.

— Не-е, я так не змагу, мне трэба спяваць.

— А вы ціхенька спявайце.

— Давай, дзіцятка, паспрабую.

Запісваць было надзвычай цяжка, галоўнае, калі я прасіў яе паўтарыць куплет, яна збівалася. І яшчэ, у яе меладычных песнях рытм быў, а рыфма праскоквала калі-нікалі, як сонечны праменьчык. А на слых успрымалася, што ўсё тут добра стасуецца: і рытм, і рыфма, і «склад і лад», і тэма раскрывалася. Адным словам, мне, з горам папалам, удалося запісаць песні чатыры. Тры з іх, добра падрэдагаваўшы, запісаў у сшытак для Ніла Сымонавіча, а адну пакінуў у чарнавіку, вось яна ў мяне і засталася, ды яшчэ жніўны жарцік, ці то песня.

Ведзьма па полі лятала,
У жыцейку кудлы вязала,
У жыцейку кудлы вязала
Бяду-гора наклікала.
Оё-ё-ёё-ё — о-о-ой!

Як я маладзіца
Востры серпейка вазьму.
Кудлы ведзьміны абыду,
Кудлы ведзьміны не зачаплю.
Оё-ё-ёё-ё — о-о-ой!

А як прыйдзе мой татка
Агнём кудлы спаліць
Бяду-ведзьму з поля згоніць.
Оё-ё-ёё-ё — о-о-ой!

Час праляцеў незаўважна, а тут у мяне так завурчала ў жываце, што цётка Зоня спытала.

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 4, 2014 г.

— Давай, можа я цябе пакармлю, бо я і сама ўжо есці захацела, гэта ж трэцяя гадзіна дня, хутка змяркацца будзе.

— Не, дзякуй, цётачка, пабягу дамоў — недалёка.

— А ты во яшчэ хуценька жарцік запішы.

Пайшла жында (жнейка) жыта жаць,
Серп узяла, хлеб забыла,
Хлеб узяла, серп забыла
Так увесь дзень прахадзіла.
Аа-а-яй-яй!

На другі дзень, дакладней, раніцу, кіруюся на вёску Грабаўё. Так, сапраўды, у лясах ля гэтага селішча расце многа грабаў. Але ёсць у даследчыкаў і іншае меркаванне. У XIX стагоддзі тут праходзілі войскі паўстанцаў Кастуся Каліноўскага пад камандаваннем Грабоўскага, якія пасля паражэння пасяліліся на гэтых землях. Не, гэта не так, прычына усё ж у грабах, з якіх мой дзед Антось Варатніцкі гнуў дугі для калгасных коней.

Часам людзі, каб даць назву новаму паселішчу, прывязваліся да прыродных ці штучных арыенціраў. Напрыклад, вёскі: Дубавое, Малінаўка, Вішнёўка, Рабінаўка, Ясень, Баравая, Барок, хутар Калінава — гэта ад дрэў, кустоў і лясоў. Зацітава Слабада — за ракой Цітаўкай, Пцічанская Слабада — за Пціччу. Мая вёска Раўчак — ручай. Вёска Французская Грэбля паходзіць ад той гаці праз балоты, якую пралажылі напалеонаўскія войскі ў 1812 годзе. Гэта ўсё Пухавіцкі раён. У сапраўднасці вёску Грабаўё заснавалі два знатныя і багатыя гаспадары Аўсянік і Няпомнік,— надта ж землі тут былі ўрадлівыя. Акрамя таго, паселішча знаходзілася на бойкім шляху з Мінска і на поўдзень Расійскай імперыі. Пад Мінскам гэты шлях праходзіў праз Чыжоўку і кіраваўся на вёску Новы Двор. Па шляху да Новага Двара яшчэ захаваліся сляды Кацярынінскай эпохі — каржакаватыя бярозы абапал дарогі. Не, гэта ўжо не тыя бярозы, а нашчадкі тых дрэў.

І сёння старыя жыхары скажуць, што гэта бярозы Кацярынінскага шляху. Далей шлях кіраваўся на Каралішчавічы, дзе ў 1803 годзе нарадзілася аўтарка ўнікальнага выдання «Літоўская гаспадыня» Ганна Цюндзявіцкая. Ёсць меркаванне, што яна была маці артылерыйскага прапаршчыка Міхала Цюндзявіцкага, расстралянага ў Мінску за ўдзел у паўстанні 1863 года.

Але вярнуся на малую радзіму. Шлях ішоў з Турына праз Пухавічы, а затым, як амаль і да гэтага, увесь час па правым беразе Свіслачы. Калі пад Мінскам яшчэ можна было перакінуць масткі праз нешырокую Свіслач, то пасля Турына, калі ў яе ўлівалася рака Волма, пабудова мастоў патрабавала непамерных выдаткаў, таму часцей карысталіся часовымі паромнымі пераправамі, ды чаўнамі.

Пасля Пухавічаў шлях прабіраўся праз невялікую раку Цітаўку, у самым яе вусці, калі яна ўпадала ў метрах дзесяці ў Свіслач, далей праз Заціtаву Слабаду і — на Грабаўё.

На гэтай урадлівай зямлі Аўсянік і Няпомнік хутка разбагацелі і запрасілі да сябе ў заробкі Райкаў. Вёска імкліва разрасталася, бо сем'і былі надзвычай вялікімі. Жанчыны нараджалі столькі дзяцей, колькі нараджалася. Тэкля Райчыха нарадзіла дзіцятка ў пяцьдзясят гадоў, хоць у яе ўжо былі дарослыя ўнукі, а адведаць парадзіху прыбеглі праўнукі, каб паглядзець на свайго будучага дзядулю. Акрамя таго ў багатых сем'ях Грабаўя працэнт дзіцячай смяротнасці быў нізкі і вылічваўся нулём цэлых.

Аўсянікі і Няпомнікі (ужо ў множным ліку) шанавалі сваіх работнікаў. Так, работнікаў, а не парабкаў. Пасля выкананай работы ў гэты ж дзень, гаспадар зваў сваіх памочнікаў і разлічваўся з кожным індывідуальна, паводле папярэдняй дамовы.

Запрошаны род Райкаў так разрося, што аж падзяліўся: на Райкаў Кузьмовых і Райкаў Тамашовых.

У пухавіцкай «Памяці» ўпамінаецца Райко Кузьма 1863 года нараджэння, асуджаны да высылкі 5.03.1930 года як селянін-аднаасобнік, значыць не хацеў уступаць у калгас, а гэта расцэньвалася не менш як выступленне супраць савецкай улады.

Дык вось Кузьмовы Райкі запісваліся як Райка, а Тамашовы — Райко.

Падзел яшчэ вызначаўся тым, што Кузьмовы Райкі былі значна багацейшыя. Таму, калі пасля 1917 года мода пайшла на беднасць, нястачу і галечу, Тамашовы Райкі з гонарам падкрэслівалі, што яны на «О».

Вядома, падчас калектывізацыі і рэпрэсій больш дасталося Райкам Кузьмовым, я ўжо не кажу пра Аўсянікаў і Няпомнікаў — выразалі пад корань. Праўда, многія Аўсянікі, атрымаўшы добрую адукацыю, аселі ў іншых мясцінах Ігуменшчыны, а ў час Першай і Другой сусветных войнаў пакінулі радзіму і аселі ў ЗША.

У Грабаўі былі самыя вялікія сады з разнастайнымі сартамі яблыкаў, груш, вішань і сліў, якія маглі сабе дазволіць толькі багатыя гаспадары. Па вішні, затым яблыкі і ігрушы прыязджалі купцы-аптавікі з Ігумена і Мінска. Я памятаю сам адзін раз лазіў па вішнях у Грабаўі, калі гаспадара ўжо не было, а сады засталіся, праўда, ужо не тыя, што раней.

На пачатку ХХ стагоддзя ў Грабаўі налічвалася больш за сорак двароў. Да Аўсянікаў, Няпомнікаў і Райкаў перасяліліся з розных месцаў да грабаўскіх дзяўчат у прымы Аскіркі, Ількевічы, пазней — Людвіг, Біруля, Віткоўскі Юзік, Гурыновіч, Кур'яновіч, у асноўным другой хваляй «перасяленцаў-прымакоў» былі хлопцы шляхцюкі.

Я ўжо ў хаце Алесі Віткоўскай з роду Райко Тамашавага. Тлумачу прычыну свайго прыходу.

— Калі цябе цікавяць грабаўскія былі, то яны ў нас ёсць. Праз нашу вёску ў 1812 годзе па старым шляху ішлі французскія войскі. Так шмат, што займалі ўсю шырыню шляху. Выгляд у іх быў неважнецкі. Вядома ж, пяхотай ішлі, толькі афіцэры — конна, з цяжкімі ранцамі за плячыма, ды з цяжкімі стрэльбамі. Асмяглі ў дарозе так, што, як ваўкі на падлу, накінуліся на дзве грабаўскія студні. Дык вычарпалі ўсю ваду да дна. А тут новыя войскі падышлі. І што ты думаеш? Апускалі ў студню на вяроўцы анучы, бо на дне вада пакрысе прыбывала, выціскалі іх і пілі. Іншыя ж забягалі ў дамы і выпівалі ўсё, што маглі: ваду, малако, сыроватку. Во як было! І гэта ж не казка, не выдумка, а быль, чыстая праўда.

«Грабоўскі і паўстанне тут не прычым, — падумалася мне. — Кастусь Каліноўскі і яго паплечнік Грабоўскі яшчэ не нарадзіліся, а Грабаўё і ў ім было аж два калодзежы».

— Бабуля, а што на вялікую вёску двух калодзежаў хапала, а як скаціну паіць?

— Перад балотам Кішкар ёсць копанка, туды і вадзілі паіць.

Прайшоў час, паміж Пухавічамі і Зацітавай Слабадой праз Свіслач перакінулі мост, пралажылі новы шлях, а стары закінулі. І ўжо рэдкі падарожны праязджаў праз Грабаўё. Вірлівае жыццё замірала. Але раптам (у XIX стагоддзі) прыехалі нейкія земляўпарадкавальнікі, інжынеры і сказалі, што праз Грабаўё па старым шляху пракладуць чыгунку. Таму трэба перанесці некалькі дамоў, але гэтыя расходы бярэ на сябе дзяржава. Каго не зносілі, абрадаваліся. Загарэлася зорка надзеі, што не будзем на задворках гісторыі. Ды, як загарэлася зорка, так і згасла. У 1863 годзе пачалося паўстанне Каліноўскага. А за вёскай Блонь на беразе Цітаўкі жыў у сваім палацы пан Крупскі, які падтрымаў паўстанне.

Царскія войскі задушылі яго, а Крупскага, здаецца, арыштавалі. Яго палац цар падараваў свайму міністру ўнутраных спраў. Дай бог памяць… Макаву. А гэты Макаў павярнуў чыгунку паўз ужо свой палац, нават прыпынак каля яго зрабіў. Вядома, за вялікія грошы. А што ж, яны ж рабавалі паўстанцаў, іх сем'і, не саромеючыся. Праўда, казалі гэты Макаў дабіўся велізарных субсідый на

будаўніцтва тэхнікума і велізарнага праваслаўнага сабора, хаця яны ўжо былі амаль пабудаваны за кошт ахвяраванняў багатых людзей. А гэтыя субсідыі проста прысвоіў. Але гэта выкрылася, і вялікі будаўнік застрэліўся. А чыгунку замест нашых узвышшаў ды грэбляў праз невялікія балотцы старога шляху пагналі па непралазных балотах. Так Грабаўё апынулася ў «свіным куце».

Ну што табе яшчэ пра Грабаўё расказаць? Сем'і былі вялікія, у адным доме жылі па дзе-тры сям'і дзяцей гаспадара. Праўда ж, і дамы былі немалыя — спелы лес кругом, было з чаго будаваць і каму дапамагаць.

Хатнія абавязкі размяркоўваліся паміж членамі вялікай сям'і. Напрыклад, Марфа прыбірала пакоі, Ганна гатавала страву, Болеся саліла сала, мяса і гародніну, яна ж адказвала за іх выдачу. Гэтак жа было і ў мужчын: хто араў, хто сеяў...

Аднойчы, падчас калектывізацыі, адбыўся смешны выпадак. У Райко Тамаша (з тамашовых) спыталіся:

— Колькі, пан гаспадар (а гаспадар ён быў слабаваты), у цябе дзяцей?

Задумаўся Тамаш, а тады і кажа:

— Зараз збегаю да жонкі, спытаюся.

А было іх у яго аж шаснаццаць душ.

— А што, бабуля Алеся, вы можаце цікавага расказаць пра калектывізацыю?

— Цікавага? Жудаснага! Як успомню — кроў стыне ў жылах. Не дай бог табе, унучак, на тваім вяку такое зведаць. Першая навала пачалася ў 1929 годзе, калі пачалі арыштоўваць тых, хто не хацеў запісвацца ў калгас. Другая ў 1933-м. Гэта быў «хапун». Хапалі людзей ноччу. Тады з калгаса «Ураджайны край»: Раўчак, Баравая, Наваполле — першая брыгада, Грабаўё — другая і Восава, Машчонава — трэцяя, арыштавалі сорак чалавек. З Грабаўя больш за ўсіх — дванаццаць, восем з іх расстралялі.

Вікенцій Няпомнік змог уцячы, выехаў у Сібір, там ажаніўся, меў сям'ю, настаўнічаў, ды напісаў у Грабаўё ліст з адваротным адрасам — арыштавалі. А аднаго з Аўсянікаў нават у Сярэдняй Азіі знайшлі.

А вось Сашку Райко — трактарысту калгаса «Ураджайны край», на высылцы пашчасціла. Яго забралі за «ўрадзіцельства», па сваім недаглядзе сапсаваў трактар. Асудзілі не толькі яго, а і ягоную напарніцу Гэльку Шчэрбу. Сашка апынуўся на канале «Масква—Волга», дзе зламаў нагу. Налажылі шыны з дошак, але зраслася няроўна і была крывой. Трапіў на кухню. Нейкі нкусавец пашкадаваў яго і дабіўся перадачы справы на перасуд. Сашку адправілі ў ссылку ў Асіповіцкі раён без права пражывання ў Пухавіцкім. Такім чынам, ён прабыў у лагеры тры гады. У час вайны вярнуўся дамоў, баяўся і сваіх, і немцаў. Пасля вайны яго ніхто ўжо не чапаў.

Іду на Раўчак, заснежаную дарогу прачысцілі «клінам» — прыстасаванне з цяжкіх бярвенняў у выглядзе трохкутніка, за востры вугал якога чапляецца трактар і, цягнучы за сабой, разгортвае снег па баках дарогі. Наперадзе ўзвышша, пакрытае лесам, Ёдкаўшчына. Раптам правей дарогі рэзка гыркнулі маторы, з лесу на поле выпаўзлі танкі, яны роўным строем ішлі па заснежанай цаліне, а затым як бабахнулі ў бок Грабаўя з трох ствалоў, дык у мяне перахапіла дыханне і скалануліся ўсе вантробы. Во, вар'яты, падумаў, гэта ж каровы перастануць даіцца і куры несціся. Але ж цяпер зіма: і куры не нясуцца, і каровы не дояцца. Звычайна каровы пачынаюць цяліцца напрадвесні. Але, як у каго. Так кругом Грабаўя ўсе палі адышлі вайскоўцам пад танкадром. Усе іх некалі араў мой бацька Янак на сваім ДТ-45 з бартавым нумарам 25, а затым на новенькім чырвонага колеру трактары «Беларус».

Напачатку грабаўцам казалі, што іх пераселяць куды хто хоча за дзяржаўны кошт. Але, як потым патлумачылі, у сувязі з карыбскім канфліктам, выдзеленыя ўжо грошы, спатрэбіліся на ўмацаванне міру ва ўсім свеце. У Грабаўё нават электрычнасць не правялі. Нейкі вайсковец тады сказаў: «Як пачнём пыліць танкамі, ды страляць — самі паўцякаюць». Так і адбылося...

Я азірнуўся па іншай прычыне: мне падалося, што Грабаўё ад жаху і бязвыходнасці прыціснулася да зямлі як да выратавання, а зямля наўкола чужая.

Толькі восем дамкоў засталося, а яшчэ перад вайной, казала бабуля Алеся, было дваццаць шэсць двароў. А пасля вайны — шаснаццаць, затым пачалася вярбоўка ў Карэлію — выехала мнагадзетная сям'я Карасікаў, Антось Райко ў Іркуцк. Патрабаваліся беларусы і для засялення Калінінградскай вобласці, у пяцідзясятыя гады пачалося асваенне цалінных і залежных зямель.

Пакуль я глядзеў на Грабаўё, дакладней, на тое, што ад яго засталося, танкі дайшлі да вёскі і рэзка павярнулі ўлева, у бок Зацітавай Слабады і хутка схаваліся за маладым бярэзнікам. І хто б мог падумаць, што роўна праз пяць гадоў, я, камандзір танкавага ўзвода, зімовым марозным ранкам павяду свой узвод па гэтым самым месцы, выкаціўшыся са схованкі ў лесе Ёдкаўшчыны. Перад выхадам трэба было выстраліць з 115-міліметровай гарматы. Мой танк аказаўся крайні справа, у прыбор я ўбачыў каня, запрэжанага ў сані. Зразумеў, што, калі я выстралю, то выбуховая хваля халастога зарада можа яго зачапіць, альбо спудзіць. Два мае танкі знаходзіліся лявей, з інтэрвалам па сто метраў, а я ж у метрах дваццаці ад дарогі. Не зрабіўшы стрэлу, я падаў каманду на атаку. Два танкі, грымнуўшы, пайшлі роўным строем разам са мной на Грабаўё. Я вылез на браню і ўбачыў у санях Антона Мецяжа, памахаў яму рукой, і ён мяне пазнаў, мы на хаду прывіталіся.

Потым камандзір роты ўедліва пытаўся, чаму я не стрэліў. Я яму сказаў, што не закрыўся клін затвора гарматы.

— А чаго ён не закрыўся?

— Бо зямляк ехаў на кані, а я блізка быў.

Але вернемся на Раўчак. Вечарам я ўжо быў у суседкі Надзеі Дубовік, павясковаму — Дубовічыхі.

— Бабуля Надзя, успомніце, калі ласка, усе прыказкі, якія ведаеце, а я запішу. Можа, сярод іх знайду якія-небудзь незвычайныя.

— Ну, давай пішы першую, а за ёй астатнія:

1. Добраму чалавечку добра і ў запечку, а благуце дрэнна і на куце.

2. Каб жа я ведаў, дзе пан абедаў?

3. Каб жа я ведаў што пан абедаў?

4. Касі, каса, пакуль раса. Раса далоў, каса дамоў.

5. Першы дзень госць — золата, другі — медзь, а на трэці — дамоў едзь.

6. Хітры гаспадар не тужыць, бо і з воўкам дружыць.

7. У чужой хаціне ўбачыў смяціну, а ў сваёй хаце смецця да палацяў.

8. Ва ўдавы суседкі смачныя і аб'едкі.

9. Дурны Юзік знайшоў драўляны гузік. У кішэню паклаў, каб ніхто не адабраў.

10. З самага рання палілася баня, без нагляду курэла, а к вечару згарэла.

11. Уцякла выдра, а лісу хвост выдаў.

12. Дурань у роспачы хадзіў, учарашні дзень згубіў.

13. У поўню вар'ят леташні снег прыпомніў.

14. Час пакажа, хто дзёгцем мажа.

15. Купіў Ян сабе кафтан і Язэп час не бавіў — кажух сабе справіў.

16. Паехаў Ян у сне за акіян, а як прачнуўся — дамоў вярнуўся.

17. Інтэрпрэтацыі на прымаўку: Гатуй калёсы зімой, а сані — летам.

а) Ладзіў Мікола ўсё лета колы, а ўдарылі маразы — рыхтуе палазы.

б) Ладзіў Янка ўсю зіму санкі, ды ў гэтым вазку не паедзем па пяску.

18. Панесла суседка суседу чарку ў поле, а суседцы бяду ў прыполе.

19. Красавік цёплы, халодны май, будзе хлеб і каравай.

20. Навошта лысаму расчоска, няма ў лысага прычоскі.

21 Хвалілася жаба, што вельмі ўдала, ды пад кола папала.

22. Летам Ганка гнула спінку, а зімою ела шынку.

23. І з капусты бабы тлусты, а каб муж быў маладзец — давай сала і яец.
24. П’е — сілай хваліцца, напіўся — з ног валіцца.
25. Стаў заглядваць часта ў чарку, а прагледзеў гаспадарку.
26. З табою, што ў лесе з бараною.
27. Лета шчыруй, потым як знойдзеш, калі ў камору зойдзеш.
28. На пацеху зрабіў дурань у мяшку прарэху.
29. Салавей — не сарока, бярэ нізка і высока.
30. Усяк у жыцці бывае, то жук мычыць, то карова лятае.
31. Дажджом косяць, а пагодаю ў копы носяць.
32. Каго летам цень халодзіць, той у зімку босы ходзіць.
33. Скончым жніво парою, будзе хлеба гарою.
34. Уклаў у ніўку ўсю сваю сілку, ноч агарнула — сілу вярнула.
35. Не той хлеб, што ў полі, а што ў стадоле.
36. З майго зяця нідзе не ўзяці.
37. І кот з мышшу гуляць хоча, толькі яна не ахвоча.
38. Таму і гладкі каток, што паеў, і — на бок.
39. Бяда не пытае, а і на гладкай дарозе спаткае.
40. Ліхому і ціха, дык ліха.
41. За такія грошы і гэты тавар харошы.
42. Маладога кроў грэе, а ў старога студзянее.
43. Хто сябе хваліць, таго і свінні паваляць.
44. П’янаму вуліца вузкая і дарога слізкая.
45. Табе добра, мамка, казаць, бо ты пайшла замуж за майго роднага татку, а мне ісці ў чужую хатку.
46. І каты спяшаюцца, ды кацяняты сляпымі нараджаюцца.
47. Воўк не ведае калі паабедае, а сабаку знаць, калі міску лізаць.
48. Зарабіў наш Янка ды на абаранкі.
49. Лепш даваць, чым прасіць, каб не прыйшлося галасіць.
50. Хоча жаніцца, ды дзевак баіцца.

— А, можа, прыпомніце, якія прымаўкі?

— Прыпомню, але прыйдзі заўтра.

Назаўтра я ў дзевяць гадзін ужо ў Дубовічыхі.

— Ну і ранні ж ты, я толькі што ўпынілася, ды ў хаце прыбрала. Садзіся, пішы.

1. Злітаваўся бусел над жабаю, не жуючы праглынуў.
2. Ад сварлівага ліха, а ад маўклівага два.
3. Кінь наперад, ззаду знойдзеш.
4. І ў нашай вёсцы вароты каўбасамі завязваюць.
5. Хоць не трэба — няхай будзе.
6. Паляўнічы за каўняром ганяецца, а сабака за мясам.
7. Пазычаў чужое, аддаваў сваё.
8. І мураш малы, ды працаўнік вялікі.
9. У ката і сабакі праца розная: кот голас падае, калі яго з печы голад гоніць, а сабака — калі гаспадароў дом бароніць.
10. І кот з мышшу гуляе, але ж потым з’есць.
11. Быў і я некалі конь, ды з’ездзіўся.
12. Злодзей узяў чужое, а гультай з’еў чужое.
13. Гультай паеў бы аладак, ды яны немачаныя.
14. Не так баіцца воўк сабакі, як не любіць звягі.
15. Усе дзеўкі харошыя, ды адкуль жонкі благія бяруцца?
16. Лазіць на ёлку за дулямі — толькі порткі рваць.
17. Паганае дрэва добрага плоду не дае.
18. Конны пешага не чакае.
19. Зладзіў кажух, ладзь і рукавіцы.
20. Здзівіўся дурань, што камізэлька без рукавоў.

21. Дай божа і нашаму цялятку воўка з'есці.

22. Качка куранят плаваць не навучыць.

23. І качка куранят выседзела, а яны ад яе да курэй збеглі.

24. Ваўка на цэп пасадзілі, ды брахаць не навучылі.

25. Воўк і на цэпе вые.

26. Загубілі Сіўку ды крутыя горкі.

27. Каб так было, то і певень бы яйкі нёс.

У дзве гадзіны дня я сабраўся ісці ў вёску Баравая да бабулі Калядзіхі. Матуля запярэчыла.

— Што ж гэта за канікулы, трэці дзень дома не стыкаешся. Табе трэба спісаць два сшыткі, а ты ужо, гляджу, пяты бярэш.

— Дык жа пішу размашыста, і не ўсё перанясу ў тыя два, якія аддам выкладчыку.

Недзе а палове на трэцюю сяджу ў Калядзіхі і прашу яе прыпомніць агітацыйныя прыказкі трыццатых—саракавых гадоў. Старая Калядзіха не магла спачатку зразумець, чаго я хачу. Але потым яе панесла, усё ўспомніла.

— Канечне помню гэтыя агіткі, гэта ж была мая гаротная маладосць, калі расстралялі майго мужа па даносе адной актывісткі калгаснага ладу з Раўчака, адабралі дом, а мяне выкінулі на вуліцу з дзецьмі. Дарэчы, на Раўчаку з нашага дома пабудавалі пачатковую школу. Праўда, не пабудавалі, а перанеслі са старога Раўчака ў новы. Памятаю, такія агіткі ў асноўным друкаваліся ў газетах, выдаваліся ў плакатах, але і перадаваліся ў вуснай форме. Прыязджаючыя агітатары выкарыстоўвалі іх у сваіх лекцыях.

— Ну, дык пачнём?

— Дай бог памяць, пачнём.

У прыведзеных прыказках знарок не мяняецца арфаграфія і вымаўленне асобных слоў.

1. Для савецкай страны тваё сабшчэнне будзе дарага, калі выкрыем ворага.

2. Ва ўсім моцна веру я Лаўрэнцію Паўлавічу Берыю.

3. Разбураць калгас кулакам годзе, камуністычным кулаком дадзім яму па мордзе.

4. Калгасны лад, пэўна сказаць можна,— непераможны.

5. Савецкі лад — уласць мільёнаў, беражы яе ад урадзіцеяў і шпіёнаў.

6. Бацька Сталін, мы з табою, беражы савецкі лад жалезнаю рукою.

7. Калгаснік няўласнік, яму дарага савецкая ўласць, ураджай збярэ, ўсё ёй аддасць.

8. У калгас уступіў — забудзь гора, бо хлеба будзе мора.

9. З савецкай уласцю ўсё зможам, і ворагаў пераможам.

10. Вырашылаў ворагаў і ўрадзіцеляў варушыць, Сталін калёным жалезам пячэ, а таварыш Берыя срокі адмервае.

11. У гаспадара ўкраў — у аднаго чалавека ўкраў, у калгасе ўкраў — усіх абабраў.

12. Савецкая ўласць у крыўду ні дасць.

13. У калгасе так вядзецца, тут злодзей не прыжывецца.

— Вой, як прагаварыла гэтыя агіткі, дык аж занудзіла. Гэта ж сапраўднае вар'яцтва, бо рэчаіснасць была іншай. Але ж даволі было і тых, хто па-халуйску ўставаў падчас лекцыі, каб яго бачылі, і пляскаў у ладкі, радаваўся пераменам і таму, што ён можа даць сігнал кампетэнтным органам. І ведаеш такіх заўважалі, іх ставілі брыгадзірамі, кладаўшчыкамі, загадчыкамі, рахункаводамі і гэтак далей. Вось такі сігнал дала і жанчына з Раўчака.

— Я ведаю гэта, дарэчы, я сёння зранку быў у яе, яна ж наша суседка праз вуліцу.

— Але ж.

— Дык яна ж бажылася, што гэта паклёп на яе.

— А ў справе яе прозвішча, майму мужу перад расстрэлам удалося перадаць запіску, я за яе добра заплаціла, праўда, почырк быў не яго.

— Ну, вось бачыце, можа, які нягоднік захацеў зарабіць?

— А ці былі прымаўкі іншага накірунку, якія перадаваліся толькі ў вуснай форме?

— Не, не хачу, хоць цяпер, слава богу, іншыя часы. Пасля арышту бацькі мы закрылі рот на гэтую мудрасць на векі вечныя.

Прыйшлося мне пазнаёміцца з гэтай разнавіднасцю фальклору малой радзімы, як адгалоскам 30-х гадоў мінулага стагоддзя, які адносіцца ў іншых людзей да разраду антысавецкага. Гэта і не дзіўна, у вёсках Баравая, Грабаўё і Раўчак пражывалі даволі заможныя гаспадары, якія падчас калектывізацыі не надта радаваліся пераменам, што адбываліся ў краіне. Землі былі надзвычай урадлівымі. Не здарма ж калгас назвалі «Ураджайны край». Жыхары Пухавічаў і Заціtавай Слабады нават быццам бы жартам казалі: «Дык у вас жа і дождж часцей ідзе». А ён і сапраўды часцей ішоў, я і сам потым гэта заўважаў. Мясцовыя казалі, што гэта ад суседства балота Казлоў Рог. Праўда, яго потым асушылі, а дождж усё роўна ішоў часцей, чым у тых жа Пухавічах. Пра тыя землі, якія раней належалі гаспадару Марціну Масілевічу, а затым былі выдзелены калгаснікам казалі: «У Масілевічаву зямлю кій уваткні — зацвіце».

З размовы з жыхарамі вёскі Раўчак, якія крытычна адносіліся да савецкай улады: «Пры бальшавіках людзі простыя таксама складалі частушкі, загадкі прыказкі і прымаўкі, якія нідзе, ясцесцвенна, не друкаваліся, а хто няўдала іх расказваў — жыццём паплаціўся, і многа хто… Забіралі нават тых, хто іх слухаў».

1. Дзякуй Сталіну-грузіну, што абуў нас у рызіну.
2. Серп і молат — смерць і голад.
3. Ад калектыўнай гаспадаркі не будзе ні скваркі, ні чаркі.
4. Дзе бальшавік — там куля і штык.
5. Ад калгасаў барані нас, Божа, бо крадуць усе, хто можа.
6. Хочаш есці хлеба ўволю, працуй спачатку дома, затым на калгасным полі.
7. Камуністы сцяг тачылі — у людской крыві мачылі.
8. Калгасны працадзень не пракорміць і дзень.
9. Казаў лайдак, каб не калгас, ды савецкая ўласць, то негдзе было б украсць.
10. Ад калгаснай працы ў гультаёў мазалі на срацы, ад іх калгаса не будзе ні хлеба, ні мяса.

Слова «калгас» раскладвалася на два словы: кал і газ.

Пасля сваіх паходаў па фальклор я сеў і сам успомніў некаторыя бытавыя прыкметы.

Дзіцячая прыкмета: у Калядны вечар даставала маці гаршчок з куццёю з сена, што ляжала пад абразамі на куце. Звычайна спачатку елі дарослыя, астатняе пакідалі дзецям, якія з'ядалі куццю дарэшты. Калі ў гаршку амаль нічога не заставалася, дзеці кідалі на стол лыжкі і разбягаліся. Лічылася, хто застаўся апошнім з лыжкай у гаршку, таго ў наступнае лета зловяць у гаросе. Надта смешная забаўка, усе гэта ведалі, але хто-небудзь завіхаючыся ля гаршка ўсё ж такі забываў. Калі дзяцей многа, то парой у гаршку з лыжкамі заставалася двое ці трое, звычайна, меншых дзяцей.

Была й такая прыкмета. Калі бацька альбо маці затрымліваліся ў дарозе, а на дварэ ноч, то дзеці адчынялі юшку і крычалі ў комін — звалі бацьку ці маці, затым прасілі Бога, каб лёгкай была дарога і жагналіся: У імя Айца і Сына, і Духа Святога. Амэн.

Існаваў даўні звычай, калі нехта знаходзіў першага баравіка, то павінен быў нешта пакласці на зрэзаны корань: хлеба скарыначку, скварку, або што з садавіны ці гародніны з мэтай задобрыць гаспадара лесу, альбо сам лес, каб пашанцавала назбіраць добрых грыбоў, менавіта баравікоў.

Казалі, што да вайны і нават пасля яе ў вёску нашага калгаса Багачанку прыязджаў у адпачынак да гаспадара Дзяткі Якуб Колас, ён вельмі любіў збіраць баравікі, і калі знаходзіў першага баравіка, то клаў на тое месца 100 рублёў.

Калі хто-небудзь збіраўся ехаць на базар, а запрэжаны конь накладваў кучу ў аглоблях, то, лічылася, што вельмі не пашанцуе.

Так адбылося аднойчы ў майго бацькі, калі ён сабраўся везці прадаваць на базар парасят. Маці настаяла, каб бацька памяняў каня і калёсы. Але і гэта не выратавала. З васьмі парасят дамоў прывезлі дзве свінкі.

На пахаладанне паказваў прылёт у вёску сініц, а калі ўжо прыляталі снегіры, то будзе люты мароз.

А калі разбіралі кабана, то глядзелі даўжыню селязёнкі, у нас яе называюць касой, дык калі каса доўгая, то і зіма будзе зацяжной.

Калі нешта хацелі рызыкоўнае зрабіць, пыталіся ў малога, да трох гадоў дзіцяці. Лічылася, што чым меншае дзіця, тым праўдзівей можа падказаць, што рабіць.

Успомніў і загадкі, большасць з іх вядомыя, таму я іх не ўнёс у сшытак.

1. Срэбны ражок узлез на стажок (маладзік).
2. Калі злосці поўныя косці, дык ён масты праз раку мосціць (мароз).
3. Ляціць без крылаў, раве без рыла (вецер).
4. Зверху неба, знізу неба, я па ім у чоўне еду (возера).
5. Ваду бачыць, а піць просіць (кнігаўка).
6. Прабег праз лес, мордай у торбу ўлез (конь есць авёс).
7. Сярдзіты Мірон пусціў у дрэва агонь (Пярун).
8. Хто ў ночы ў клубок звіўся, ды ў неба ўвіўся (дым)?
9. З барадой, дык не дзед, з рагамі, ды не карова (казёл).
10. Сядзіць Ігнат сярод град, кафтан чырвоны, хахол зялёны (бурак).
11. Хто на пасе чарпак косіць (журавель над калодзежам)?

Ёсць, праўда, фальклор і з ненарматыўнай лексікай, але гэта ў большасці непрыстойна-цынічныя чатырохрадкоўі, прыказкі і прымаўкі, якія адлюстроўваюць непрыстойныя адносіны паміж мужчынам і жанчынай, альбо крымінальнага характару. Але ёсць і жартаўліва-павучальныя.

Так нечакана адгукнулася мая малая радзіма сваімі песнямі, прыказкамі, ды прымаўкамі, цешачы ўспамінамі душу. Прыпомніліся тыя землякі, які падаравалі мне, можна без перабольшання сказаць, гэты каштоўны скарб.



Эмануіл ІОФЕ

# НЕЗАБЫЎНАЕ, ПАМЯТНАЕ...

***Василий Шарапов. Нас Время ставит на свои места.*** *Мн., Торгово-финансовый союз «БТФС», 2013.*

У апошні час узрасла цікавасць чытачоў да мемуараў партыйных і дзяржаўных дзеячаў Савецкай Беларусі. Перш за ўсё мы маем на ўвазе ўспаміны П. Панамарэнкі, М. Патолічава, К. Мазурава, В. Казлова, М. Дземянцея, А. Кавалёва, К. Кісялёва, В. Кебіча...

Між іншым, вельмі рэдка аўтарамі мемуараў становяцца міністры. У гэтым сэнсе прыемнай нечаканасцю сталі выхад у свет у снежні 2013 года (Минск, Торгово-финансовый союз «БТФС»— 351 с.) успамінаў былога міністра будаўніцтва і эксплуатацыі аўтамабільных дарог БССР Васіля Шарапава «Нас Время ставит на свои места». Шчыра кажучы, я даўно не меў такой цікавай і каштоўнай кнігі, шэраг старонак якой чытаюцца на адным дыханні.

У «Прадмове» Старшыня Савета Міністраў Беларусі ў 1990—1994 гадах В. Кебіч адзначае:

«Откровенно говоря, перебирая в памяти десятки руководителей разного ранга, с которыми приходилось сталкиваться в жизни, я затрудняюсь назвать ещё кого-нибудь, кто столь блестяще справлялся бы с возложенными на него обязанностями, окажись в аналогичных обстоятельствах.

В 1945 году капитан Василий Шарапов приехал в Минск после многомесячного лечения в госпиталях инвалидом второй группы… Василия Шарапова назначили инструктором Минского горкома ВКП(б), поручив курировать строительство Минского автомобильного завода — промышленного первенца в освобождённом Минске. Талантливого руководителя заметили. Спустя непродолжительное время он возглавил Сталинский райком, затем Минский горком Компартии Белоруссии, в течение тринадцати лет был председателем Минского горисполкома; (на самай справе, пасля пасады першага сакратара Сталінскага райкама партыі Шарапаў працаваў другім сакратаром Мінскага гаркама партыі, потым старшынёй Мінскага гарвыканкама, а з снежня 1967 года — першым сакратаром Мінскага гаркама партыі. — **Э. І.**), с 1972 года до выхода в 1989 году на заслуженный отдых — министр строительства и эксплуатации автомобильных дорог Белоруссии.

Мы обязаны Василию Шарапову многим: и тем, что Минск возродился из руин и является одним из красивейших и уютных городов на всём постсоветском пространстве, и тем, что дороги перестали быть лишь направлениями движения, приобрели пристойный вид. А ещё — высочайшими нравственными критериями отношения к порученному делу».

Адразу паўстае пытанне, чым успаміны В. Шарапава істотна адрозніваюцца ад пераважнай большасці мемуараў іншых былых партыйных і дзяржаўных дзеячаў Беларусі?

Па-першае, вялікім зарадам пазнавальнасці. Нават дасведчаны чытач знойдзе ў іх такое, што не адшукаем ні ў адной энцыклапедыі, ні ў адным даведніку. Маю на ўвазе невядомыя старонкі гісторыі не толькі Мінска, але і ўсёй Беларусі 1945—1989 гадоў.

У прыватнасці, разглядаючы гісторыю аднаўлення Мінска з кастрычніка 1945 года, Васіль Іванавіч заўважае:

«Отсутствие генерального плана тормозило ход восстановительных работ. Но концепция его была уже известна. И строители не бездействовали.

Едва ли не самым первым на Советской улице воздвигли здание ведомства, которое возглавлял ближайший сподвижник Лаврентия Берии — председатель (правільна — наркам. — **Э. І.**) НКГБ Белоруссии Лаврентий Цанава.

Об этом человеке известно гораздо меньше, чем о тёзке. Поэтому я вкратце остановлюсь на его биографии и на той зловещей роли, которую он сыграл в истории Белоруссии...

После войны Лаврентий Цанава вернулся в Минск на свою прежнюю должность. И репрессии продолжились. Хватали людей по малейшему подозрению, по доносу.

Главного врача 1-й клинической больницы Минска Алексея Шубу арестовали за то, что в начале войны он попал в плен. Не посмотрели ни на его довоенную жизнь, ни на обстоятельства пленения. Раз общался с фашистами — значит враг! О судьбе этого человека стоит сказать особо…

В конце декабря 1941 года вместе с группой патриотически настроенных земляков, захватив запас медикаментов и инструмента, Алексей Шуба ушёл в лес. Создал партизанский отряд, переросший в крупную бригаду имени Кирова. После освобождения Белоруссии работал заведующим отделом здравоохранения Минского горисполкома…

Жизнь Алексею Шубе спас арест Цанавы. Он был реабилитирован, продолжил руководить 1-й клинической больницей столицы, сделав её одним из лучших лечебных заведений СССР. Удостоен звания Герой Социалистического Труда. В 2010 году на здании больницы установлен его барельеф…

По приказу Лаврентия Цанавы здание НКГБ начали строить ещё весной 1945 года. Рассказывали, что утверждая проект, именно он настоял на том, чтобы правый верхний угол здания венчала башенка. Заместитель председателя (правільна — начальніка. — **Э. І.**) Управления по архитектуре БССР Владимир Король пытался возразить:

— Это невозможно, Лаврентий Фомич. Если уж строить, то две башенки: в архитектуре ведь всё подчиняется законам симметрии.

Цанава снисходительно посмотрел на него. В его взгляде читалось недоумение: какой-то архитекторишка позволил ему перечить?!

— Вот что, товарищ Король. В Белоруссии всё подчиняются одному закону — закону Цанавы. В архитектуре, возможно, ты и король, а здесь король я. И постарайся уж, чтобы башенка получилась красивой и понравилась мне.

Так и высится эта одинокая башенка на одном из красивейших зданий в центре Минска. Поднимаясь на неё, Лаврентий Цанава, по легенде, якобы любил наблюдать за ходом футбольных матчей на располагающемся неподалеку стадионе «Динамо».

Многіх чытачоў зацікавіць апісанне сустрэчы Шарапава з Лі Харлі Освальдам, якога амерыканскае правасуддзе па сённяшні дзень афіцыйна лічыць адзіным забойцам прэзідэнта ЗША Джона Кенэдзі, і абставіны атрымання ім кватэры ў бытнасць Васіля Іванавіча мэрам Мінска.

Па-другое, нельга не згадзіцца з наступнай думкай рэдактара кнігі Ігара Асінскага: «…его (Шарапава. — **Э. І.**) мемуары отличаются предельной откровенностью и принципиальностью. В них дана честная, непредвзятая оценка деятельности большинства руководителей Беларуси, с которыми он был знаком не шапочно, а прошёл через суровые испытания. Подчас его оценки бывают жёсткими. Но это позиция не судьи, а очевидца».

Так, характарызуючы Старшыню Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР у 1937—1948 гадах Нічыпара Наталевіча, Шарапаў акцэнтуе ўвагу на тое, што яго жонка змагла атрымаць на цэнтральнай базе ў 1945 годзе ў якасці гуманітарнай дапамогі 152 рэчы і

48 метраў сукна. Будучы слаба характарным, Наталевіч баяўся пярэчыць сваёй уладарнай палавіне, што, дарэчы, гэта было ахілесавай пятой многіх буйных кіраўнікоў Беларусі.

Ацэньваючы дзейнасць Мікалая Патолічава, аўтар кнігі звяртае ўвагу на тое, што будучы рускім па нацыянальнасці, ён шчыра і добрасумленна служыў беларускаму народу, адстойваючы на ўсіх узроўнях улады яго інтарэсы.

Пра Панцеляймона Панамарэнку Шарапаў выказваецца так:

«Сегодня об этом политике, оказавшем огромное влияние на развитие Белоруссии, высказывают противоположные мнения. Одни говорят о нём как человеке глубокого аналитического ума, отличавшемся исключительной честностью и ответственностью…

Другие, правда, большей частью те, кто никогда с Пономаренко не встречался, обвиняют его в антисемитизме, в насильственной русификации, в гонениях на творческую интеллигенцию и даже в непосредственном участии в репрессиях».

Што датычыцца Пятра Машэрава, то Шарапаў упэўнены, што, гэта быў, безумоўна, выдатны, па-сапраднаму таленавіты кіраўнік і ў той жа час чалавек, не пазбаўлены недахопаў, як і ўсе людзі. Не ўсё ў яго дзеяннях адназначна, а некаторыя рашэнні аказваліся не зусім прадуманымі.

А вось што піша Шарапаў пра Мікалая Мікітавіча Слюнькова:

«Этот политик всегда был для меня загадкой, хотя знаю его ещё почти с подросткового возраста…

И вот тут (пасля прызначэння дырэктарам Мінскага трактарнага завода. — **Э. І.**) начали проявляться в характере Слюнькова качества, которые отличают его от руководителей старшего поколения. Он старался готовить плацдармы для своего продвижения сам…

Уверен, что по своим деловым качествам Слюньков и без подталкивания добился бы того положения, которое, в конце концов, занял. Но ему хотелось быстрее! Может быть, в этом он опережал своё время…

Впрочем, для объективности хочу сказать: Николай Никитович Слюньков был далеко не худшим руководителем партийной организации Белоруссии, немало сделал для развития её экономики. Ему не мешало то, что партийная бюрократия за глаза называла его Директором Республики. Он был достаточно резок с теми руководителями, в том числе и партийными, которые, по его мнению, плохо владели ситуацией на вверенном участке работы, и был беспощаден к ним».

Па-трэцяе, мемуары В. Шарапава — гэта не проста ўспаміны аднаго з партыйных і дзяржаўных дзеячаў Беларусі, а вельмі блізкі да аб’ектыўнасці, своеасаблівы і цікавы летапіс гісторыі Беларусі 1945—1989 гадоў, напісаны добрай літаратурнай мовай. Адчуваеш, што гэта праўда, хоць у некаторых выпадках і горкая. У большасці выпадкаў верыш, што так і было, як напісана.

На мой погляд, для пастаянных чытачоў часопіса «Полымя» найбольш цікавымі будуць згадкі пра тое, як аўтар кнігі, будучы старшынёй Мінскага гарвыканкама, пазнаёміў народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна з архітэктарамі сталіцы.

Навошта Івану Пятровічу было гэта знаёмства і чаму ён звярнуўся менавіта да Шарапава?

Справа ў тым, што яны разам вучыліся ў Мінскай Вышэйшай партыйнай школе і падтрымлівалі сяброўскія адносіны. З дазволу Васіля Іванавіча Шамякін хадзіў на пасяджэнні савета па архітэктуры быццам на працу. Уладкоўваўся дзе-небудзь у кутку пакоя, уважліва слухаў, нешта запісваў у блакноце. А дзеля чаго гэта яму неабходна, так і не прызнаўся. Баяўся сурочыць. Усё стала вядома, калі быў напісаны раман «Атланты і карыятыды». Шарапаў піша: «…А в 1974 году позвонил однажды и спрашивает:

— Хотел бы заскочить к тебе. Найдёшь пару минут?

— В любое время! Зачем спрашиваешь?!

Через полчаса Шамякин уже был у

меня в кабинете. И вручил только что вышедшую в свет книгу «Атланты и кариатиды», написав тёплый автограф. Прочитал её вечером на одном дыхании. Считаю, что так глубоко ни до Шамякина, ни после него не писали о жизни архитекторов. В 1980 году Белорусское телевидение сняло по этому роману одноименный 8-серийный фильм…

Во время демонстрации жизнь в городе приостанавливалась. На моей памяти так было лишь тогда, когда показывали сериал «Семнадцать мгновений весны». Архитекторам, которые определяют облик Минска сегодня, я советовал бы прочитать или перечитать, если были знакомы с ним раньше, роман «Атланты и кариатиды». И взять пример с его главного героя Максима Карнача, главного архитектора Москвы. Поучиться у него, как надо отстаивать свои принципы»

Закрываеш апошнюю старонку кнігі і ўсведамляеш, што перад намі ўнікальны лёс чалавека, прыклад фенаменальнай памяці. Шарапаў, якому ідзе дзевяноста восьмы год, памятае не толькі падзеі і дзейнасць тых ці іншых людзей, але і асобныя дэталі, што некаторыя чытачы называюць «дробязямі». Але без такіх дробязей няма гісторыі, няма жыццёвай праўды.

Праўда, не абысціся без некаторых заўваг і пажаданняў.

На стар. 135—137 прыведзены спіс кіраўнікоў Кампартыі Беларусі з 1919-га па 1991-ы год, пачынаючы з Аляксандра Мяснікова і заканчваючы Анатолем Малафеевым. На жаль, адсутнічае Даніла Валковіч, які займаў пасаду першага сакратара ЦК КП(б)Б з 25 лютага па 14 сакавіка 1937 года.

Часам В. Шарапаў супярэчыць сам сабе. Так, на старонках 250—251, абараняючы пазіцыю партыйных органаў Мінска і Беларусі, якія многія дзесяцігоддзі не прызнавалі Машу Брускіну на здымку павешаных нацыстамі падпольшчыкаў Мінска 26 кастрычніка 1941 года, ён крытыкуе выснову аб скрытым антысемітызме, аб нежаданні ставіць яўрэйку ў адзін шэраг з патрыётамі-беларусамі.

Далей падкрэслівае:

«Подобного рода заявления могли делать либо люди, ненавидевшие Советскую власть, либо те, кто был далёк от политики, но доверял слухам, нашёптываемым западными радиостанциями. Я вырос в поселке, где преобладало еврейское население, среди моих коллег, в том числе и занимавших с моей подачи высокие посты, немало евреев. К ним я всегда относился с таким же уважением, как к белорусам, русским, а может даже и с большим, так как прежде всего ценил деловые качества».

У першым сказе гэтай цытаты аўтар кнігі адыходзіць ад прынцыпу аб'ектывізму і праўдзівасці. Яго пазіцыю ў другім сказе можна тлумачыць так:

«У маім пасёлку (маецца на ўвазе мястэчка Бобр Крупскага раёна Мінскай вобласці. — **Э. І.**) не было антысемітызму, як не было яго наогул у Беларусі».

І тут жа супярэчыць сам сабе. Усётакі ўласцівы яму аб'ектывізм, шчырасць і праўдзівасць перамагаюць. Шарапаў вымушаны прызнаць:

«Знаю, что в руководстве Белоруссии были некоторые люди, которые ошибочно понимали 5-ю графу. Сам сталкивался не раз с подобным отношением. Помню, после ухода Израиля Борисовича Каждана с поста заместителя председателя исполкома (Мінскага гарсавета. — **Э. І.**) предложил назначить на его место прекрасного человека и работника, заместителя директора МТЗ Юрия Израилевича Хейкера. Пришёл с этой кандидатурой к Киселёву (Старшыні Савета Міністраў БССР. — **Э. І.**). Тихон Яковлевич не преминул устроить мне очередной разнос.

— Что ты их всё время тянешь?! У нас что белорусов и русских уже в стране не осталось?

Я попытался было возражать:

— Но мы же не по анкете руководителей выбираем! Хейкер — прекрасный специалист, талантливый организатор, преданный партии человек.

— А ты ему в душу заглядывал. Сегодня он предан партии. А завтра наслушается «Голоса Америки» и поло-

жит партийный билет на стол. Мало ли таких случаев?

— Тихон Яковлевич, но нельзя всё же не доверять людям! Так ведь и обидеть можно.

— Доверять надо. Но и бдительность не повредит. Пусть твой Хейкер с тракторами возится. Так спокойнее!

И завернул кандидатуру. Да, были случаи, когда чьей-то карьере это помешало. Но повинны в этом не партия, не государство, а чиновники недалёкого ума. Убеждён, что политику нашей страны в национальном вопросе они не определяли…»

На мой погляд, Шарапаў памыляецца, зрабіўшы такую выснову. Сёння ўжо дакументальна даказана, што з сярэдзіны 1940-х да сярэдзіны 1980-х гадоў у БССР, як і ва ўсім СССР, праводзілася палітыка дзяржаўнага антысемітызму. Вельмі часта нацыянальную палітыку вызначалі вышэйшыя і сярэднія чыноўнікі, прычым не толькі «недалёкага розуму», якія атрымлівалі вусныя распараджэнні аб кадравых пытаннях ад свайго кіраўніцтва, свае распаджэнні давалі таксама вусна. Толькі адзін прыклад. Аўтар гэтых радкоў паступаў у аспірантуру на працягу 1963—1969 гадоў …10 разоў, у тым ліку 9 разоў у Мінску і адзін раз у Маскве. Паступіў у завочную аспірантуру Інстытута гісторыі АН БССР толькі з дзясятага заходу — пасля здачы экзаменаў кандыдацкага мінімуму. А абараніўшы кандыдацкую дысертацыю, працуючы настаўнікам, тры гады не мог уладкавацца на працу выкладчыкам ВНУ або супрацоўнікам Навукова-даследчага інстытута і зрабіў гэта толькі пасля візіту ў ЦК Кампартыі Беларусі.

На стар. 144 ёсць такая фраза «Героическая борьба Притыцкого с белопольскими панами». Але ж такія фразы, як «белапольскія паны» ў нашай літаратуры даўно ўжо не ўжываюцца.

У цэлым жа, паўтаруся, Шарапаў стварыў вельмі цікавую, патрэбную і пазнавальную кнігу, якая, безумоўна, знойдзе свайго чытача і пачэснае месца сярод мемуараў выдатных людзей нашай краіны. Гэта выданне ў нейкай ступені можа стаць прыкладам напісання ўспамінаў для тых, хто гэта збіраецца рабіць.



Юрась БАЗЫЛЮК

# НЕ КАЖЫ МАЛЕНСТВУ: «БЫВАЙ!»

***Таццяна Сівец. Самы лепшы падарунак.*** *Гісторыя адной дзяўчынкі. Мн.: Выдавецкі дом «Звязда». 2014.*

Надоечы напаткаў мудрае выказванне кітайскага паэта Сеа Аня, які жыў у III стагоддзі:

В мире все единой
связаны судьбой —
И ребенок малый,
и старик седой.

Хто пераўвасобіў гэтыя радкі паруску, на жаль, сказаць не магу, бо напаткаў іх у адной з кніг афарызмаў, а ў такіх выданнях перакладчыкі звычайна чамусьці не называюцца. Толькі ў дадзеным выпадку, думаецца, гэта не так і важна. Істотна іншае: па шчаслівай выпадковасці амаль у той жа дзень трапілася на вочы мне і кніга Таццяны Сівец «Самы лепшы падарунак». Засведчу адразу: кніга незвычайная і, што сімптаматычна, яна, кніга гэтая, па сутнасці, пацвярджае правільнасць і жыццёвасць згаданага выказвання Сеа Аня. Дый не толькі ў тым пераконвае, што на гэтай грэшнай зямлі ўсе мы і сапраўды павязаны адзіным лёсам. Відавочна і іншае: чалавек сталага ўзросту і нават той самы сівы стары, якога меў на ўвазе кітайскі паэт, гэта як бы адно цэлае.

Разумею, што падобная паралель у многім умоўная. Канечне, не прыцягнутая за вушы, тым не менш… Т. Сівец сваімі творамі акурат і пераконвае, што гэта менавіта так: мы, дарослыя, колькі б ні пражылі, застаемся ў нейкай ступені як бы часцінкай саміх сябе колішніх, пачынаючы яшчэ з зусім ранняга ўзросту. Іншая справа, што не ўсе з нас пра гэта здагадваюцца. Прычына, бадай, банальная. Многія не памятаюць сябе ранейшых, забыліся, якімі былі тады, калі мелі гадкоў пяць, шэсць… Аўтар жа кнігі «Самы лепшы падарунак» пра гэта не забывалася, а што ўсё і сапраўды адбывалася менавіта так, яна і пераконвае сваімі апавяданнямі, адрасаванымі найперш дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту.

Задумка гэтых твораў, а потым і напісанне іх нарадзіліся з усведамлення, што нічога не забываецца, асабліва калі яно звязана з такой шчаслівай часінай, назва якой Маленства: «Калі аўтарка гэтай кнігі была маленькая, яна любіла прыдумляць розныя неверагодныя гісторыі — пра сябе і сваіх сяброў. А калі навучылася чытаць, то часцяком разам з героямі любімых кніжак выпраўлялася ў новыя захапляльныя вандроўкі, трапляла ў загадкавыя прыгоды, а часам нават мяняла фіналы некаторых казак (бо ўсё ж павінна заканчвацца добра, праўда?). Танечка вырасла, яе сталі называць Таццянай Мікалаеўнай, і ўсё было б сумна-сумна, калі б яна забылася пра свае гісторыі… Але яна іх памятае, таму што ў кожным дарослым чалавеку жыве яго ўласная маленькая Танечка, або Кацечка, або Лёшачка ці Андрэйка… І часам гэтая малеча нагадвае пра самае важнае. Што? Можа, пра «сакрэт», схаваны за арэлямі ў двары, можа, пра малюнак, які мама па сёння хавае ў шуфлядзе, а можа, пра самы лепшы падарунак». Праўда, да месца і такое ўдакладненне: «Канечне, не ўсё,

што вы знойдзеце ў гэтай кнізе, адбывалася нпасамрэч. Але Танечка ўжо і сама не ведае, што яна прыдумала, а што было на яве. Адно бясспрэчна: усё абавязкова скончыцца добра!» Тым самым, відочна, што нешта ў гэтым творы і дадумана, але зусім не на шкоду мастацкай праўдзе.

Ды час знаёміцца і з самімі «гісторыямі адной дзяўчынкі». Зразумела, пачынаючы з першай гісторыі, з першага апавядання, названага вельмі ж нечакана — «Калі Танечка была дарослай». Само па сабе гэта, канечне, не можа не заінтрыгоўваць. Так і хочацца хутчэй даведацца, чаму ж гэта маленькая дзяўчынка нечакана стала дарослай. Толькі, як адразу, у самым пачатку твора высвятляецца, усё вельмі проста: «Не-не, я не памылілася, менавіта «была»! Танечка так і кажа ўсім, хто пагаджаецца яе слухаць: «Калі я была дарослай…» І распавядае чарговую гісторыю». У гэтым нічога дзіўнага: «калі б ведалі, як моцна Танечка марыць вырасці. Бо ўсім вядома, што дарослым можна ўсё! Амаль усё…»

«Амаль усё» — таксама сказана невыпадкова, бо і сярод дарослых, як упэўнілася Танечка, «знаходзяцца тыя, хто загадвае ўставаць ранкам, ісці на працу, набываць розныя рэчы…» Упэўнена дзяўчынка і ў тым, што сярод дарослых ёсць яшчэ і Галоўны Дарослы, а таму вельмі шкадуе, што ён «не загадвае бацькам Танечкі купіць ёй, да прыкладу, цукеркі ці марожанае. А можа, ён і загадваў, але ж бацькі ў Танечкі такія занятыя, што заўжды пра ўсё забываюцца». Бадай, па гэтай прычыне яны і не купілі ёй на дзень народзінаў вялікую ляльку, якую так хацелася мець дзяўчынцы, а прыдбалі «гэтую Энцы-цыкла… Эн-цыкла-педыю! Для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту!» Была б Танечка дарослай, сама купляла б сабе тое, чаго ёй хочацца.

Сюжэт апавядання, як быццам, просты, немудрагелісты, а калі разабрацца… Я не адмаўляю таго, наколькі цікавыя сучасным хлопчыкам і дзяўчынкам кнігі, герояў якіх чакаюць розныя, часам неверагодныя прыгоды. Заўсёды вітаў (дый па-ранейшаму вітаю!) з’яўленне твораў, што маюць фантастычную аснову, значыць, і персанажы іх, народжаныя шчодрай фантазіяй пісьменнікаў, на дзіва арыгінальныя, якіх, як паравіла, у іншых аўтараў больш не напаткаеш. Усё гэта, безумоўна, займальна, абуджае фантазію, цяпер ужо саміх дзяцей.

Бяда, аднак, у тым, што кніжак, у якіх расказваецца пра тое, чым жывуць хлопчыкі і дзяўчынкі штодня, вельмі мала. Асабліва бракуе падобных празаічных твораў, напісаных так, што ў героях малыя і юныя чытачы пазнаюць саміх сябе. Такую магчымасць дае апавяданне «Калі Танечка была дарослай». Хто з малечы, перад тым, як заснуць, не задумваўся над тым, што «будзе рабіць, калі вырасце… І трапіць, напрыклад, у Лялечнае Каралеўства!.. Хаця б на пяць хвілін!..» Танечка ж у такое каралеўства трапляе. Што адбываецца пасля гэтага і можна даведацца з апавядання…

Дый апавяданне «Рыцар для Люстранай Паненкі» напісана так захапляльна, што сам, знаёмячыся з ім, быццам пераносішся на некалькі дзясяткаў гадоў назад, вяртаешся ў шчаслівую пару свайго маленства, калі гэтаксама даверліва, з замілаваннем глядзеў на акаляючы свет, як глядзяць Танечка і яе сябры — хлопчык Валя і дзяўчынка Каця, пастулова ўсё больш адкрываючы яго для сябе. Дый, зноў жа, стараючыся быць падобным на дарослых. Вось і Танечка прапанавала Валю паглядзецца ў люстэрка. Аднак паразумення не знайшла:

«—Я што — дзяўчынка, каб у люстэрка глядзецца?! — абурыўся той.

— А варта было б часам! — упікнула яго Каця (так заўжды казала яе мама тату).

— Вось самі і ўзірайцеся! — Валька злосна чмыхнуў і пабег гуляць у футбол з іншымі хлапчукамі».

Дзяўчынкі задумваюцца, чаму ж іх сябра так паводзіць сябе. І тут Танечка выказвае нечаканае меркаванне: «Можа, ён баіцца Люстраную Паненку? […] Яна ж можа зачараваць таго,

хто пазірае ў люстэрка, калі ёй нешта не спадабаецца!» Захацелася Танечцы з Кацяй пасля гэтага вызваліць Люстраную Паненку, а гэта, як падалося дзяўчынцы, мог зрабіць рыцар. Толькі дзе яго знайсці?

Танечка — вялікая фантазёрка. У рэшце рэшт, як і кожны ў яе ўзросце. Гэта відаць і з апавядання «Капітан Танечка». Калі шмат вольнага часу, тым больш цягне на штосьці незвычайнае. Вольнага ж часу ў дзяўчынкі стала ўдосталь, калі яна захварэла. У бабулі, з якой яна засталася дома, свой клопат — уселася глядзець тэлевізар. Танечцы ж адной сумна, таму яна знайшла занятак у тым, каб пачаць маляваць: «Намалявала ўжо ўсё, што толькі можна: сябе, бацькоў, лепшых сяброў, бабулю разам з тэлевізарам, котку Шайбу, дзядзьку Мішу з яго сабакам, якія неяк прыходзілі ў госці (мама пасля тры гадзіны пыласосіла дыван у вітальні), садок намалявала, і выхавацельку, і таполю ў двары…» Калі ж склала ўсе малюнкі так, як навучыў яе тата, то атрымалася цэлая флатылія папяровых караблёў. Калі ж ёсць караблі, павінен быць і капітан. Ім і стала сама Танечка.

Аднак свет маленства, як вядома, колькі б радасці ён ні прыносіў, ніколі бясхмарным не бывае. Гаворка, зразумела, не толькі пра тыя засмучэнні, што напаткоўваюць часам дзетак. Сутыкаюцца яны нярэдка і з тым, у чым і дарослым цяжка разабрацца. Тым больш, ім, дзецям. Таму Т. Сівец не паказвае сваю гераіню ізаляванай ад свету і людзей. І правільна робіць. Дзякуючы менавіта такому падыходу вобраз Танечкі становіцца яшчэ больш праўдзівым, жыццёвым. Гэта відаць, напрыклад, па апавяданню «Разбіты кубак», пачатак якога на дзіва лаканічны, адразу ўводзіць у тое, што адбываецца:

«—Таццяна, хадзі сюды, калі ласка!

Танечка цудоўна ведае, што калі яе клічуць «Таццяна», значыць бацькі за штосьці злуюцца. Вось толькі што на гэты раз? Кубак татаў яна разбіла пазаўчора — і на яе ўжо за яго пасварыліся. Цацкі не прыбрала? Дык і ўчора не прыбірала, а мама нічога не сказала, нібы і не заўважыла».

Значыць, прычына ў іншым. У чым? Танечка пачынае здагадвацца: нешта не заладзілася ў іхняй сям'і, бацькі між сабой часта сварацца, пасля чаго мама заўсёды становіцца невясёлай. Дзяўчынка спадзяецца, што мама і тата ўсё ж памірацца, аднак…

«—Ёсць рэчы, якія не даруюць… — мама ўздыхае, але спахапіўшыся, спяшаецца дадаць: — Гэта дарослыя справы, Таня. Твой тата застанецца тваім татам. Проста ён больш не будзе жыць з намі, — мама імкнецца сказаць гэта бадзёра, нават весела, як пра нешта будзённае, нібы кажа, што яны разам пойдуць у парк на выхадных».

Падаецца Танечцы, што такі невясёлы настрой у мамы з-за разбітага кубка. Тата пакрыўдзіўся, таму і сышоў. Дзяўчынка гатова аддаць усе свае кубкі, цацкі, усё, што яе толькі ёсць, абы толькі вярнуўся блізкі і дарагі ёй чалавек.

Так ужо ў раннім маленстве гераіня кнігі сутыкаецца з жорсткасцю паўсядзённага жыцця, з суровай праўдай яго. Безумоўна, дзіцячая літаратура не павінна абмінаць і такія моманты. Галоўнае, каб пра гэта пісаць тактоўна, так, як і робіць гэта Т. Сівец. Дарэчы, як бы працягам гэтага твора ўспрымаецца апавяданне «Сунічная вечнасць», у якім Танечка даведваецца ад бабулі, што ўсе людзі калі-небудзь памруць. Калі мама прыйшла з працы, дзяўчынка «выбегла ёй насустрач.

— Мамачка, я не хачу паміраць. І каб вы — таксама не хачу! Давай мы будзем жыць заўсёды: і я, і ты, і бабуля, і тата, і Валя з Кацяй… Ну, калі ласка!»

Добрая душа ў Танечкі, настолькі чулая, што ёй усіх шкада. Нават хваробу, бо хвароба адна, а таму яна нікому непатрэбная («Адзінокая Хвароба»). Увогуле, што ні апавяданне, дык абавязкова дадае штосьці такое, што дазваляе лепш зразумець гераіню кнігі «Самы лепшы падарунак». Чатырнаццаць твораў, сабраных пад адной вокладкай, гэта сапраўды «гісторыя адной

дзяўчынкі», якая прасочваецца недзе ў межах аднаго года. Пра гэта прама, праўда, не гаворыцца, але сюжэтна вымалёўваецца менавіта такі прамежак часу. Дый завяршае кнігу апавяданне «Новы год», а гэта само па сабе ўжо сведчыць на карысць таго, што стары год заканчваецца. Калі ж надыходзіць Новы год, то ўсе, асабліва дзеці, загадваюць якое-небудзь жаданне. Ліст Дзядулю Марозу пасля таго, як паправілася, напісала і Танечка: «Гэтым разам яна папрасіла толькі пра адно… Не, шчанюка яна таксама не хоча». Але…

Пра сваё самае вялікае жаданне дзяўчынка не кажа нават маме. Заўважае, што тая амаль не ўсміхаецца апошнім часам. Што гэта за жаданне, становіцца вядома ў самым канцы твора, калі дзяўчынка стаіць разам з маці ля акна, назіраючы, «як людзі спяшаюцца дадому з прыгожымі пакункамі…»:

«— Ён прыйдзе, — шэпча Танечка маме. Я ведаю. Я загадала, калі задзьмувала свечкі на торце ў дзень народзінаў. І Дзядулю Мароза я папрашу… Ты толькі не плач, мамачка!.. Ён абавязкова прыйдзе!»

Няцяжка здагадацца, хто гэты Ён. Застанецца толькі верыць, што ў Танечкі ўсё будзе добра. Нават не добра, а цудоўна. Светлая, аптымістычная кніга «Самы лепшы падарунак» настройвае менавіта на такое ўспрыманне гэтай «гісторыі адной дзяўчынкі», якую завуць Танечкай. Дый на тое яшчэ настройвае, што, як сказана ў анатацыі, «гэтую кнігу лепш за ўсё чытаць разам з бацькамі». Дарэчы, гэта парада самой галоўнай гераіні. Што ж, да такой парады нельга не прыслухацца. Тым самым, будзе вернута даўняя традыцыя — сямейнае чытанне. Кніга «Самы лепшы падарунак» для гэтага вельмі падыходзіць. Ад яе будзе карысць не толькі дзецям, а і дарослым, бо напамінкам гучыць: «Не кажы маленству: «Бывай!»

